# Пятрусь Броўка

ЗБОР ТВОРАЎ У ДЗЕВЯЦІ ТАМАХ

9



ЭПІСТАЛЯРНАЯ СПАДЧЫНА (1933—1980)
ЛЕТАПІС ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ

Рэдактар тома
М. І. МУШЫНСКІ

Збор эпісталярнай спадчыны,
падрыхтоўка лістоў
і каментарыяў да іх —
А. І. ШАМЯКІНАЙ
Летапіс жыцця і творчасці —
С. В. ЗАБРОДСКАЙ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1992

## 1. П. Ф. ГЛЕБКУ

*6 лютага 1933, Ленінград*

6.II.33 г.

Добры дзень, Пеця!

А дзень табе сягоння, мабыць, сапраўды добры: выходны! Ляжыш сабе ў хаце, Нікачка рыхтуе сняданне і праз кожныя дваццаць хвілін цалуе пальчыкам. Потым устанеш, падыдзеш да століка, памакнеш пёрка, і пасыпяцца радкі.

А я, валацуга, толькі ўстаў. Ужо дванаццаць гадзін. Учора быў вялікі вечар на фабрыцы, сустракалі другую пяцігодку. Як хто мог, так і сустракаў. Я пайшоў дахаты вельмі рана, бо проста заблудзіўся ў тым палісадніку, які быў там. Пахадзілі ўдвох з Бобрыкам, і ён хоць ленінградскі жыхар, аднак знаёмства ў яго мала большае ад майго, так што разам ціха пасунуліся дахаты.

У Ленінградзе амаль таксама, як і пры табе, толькі зіма стала больш яснаю, учора была мятлюга такая, што я ледзь утрымаў газету ў руках, думаў, вырве вецер і паімчыць маскоўскія навіны праз Ісакі, баяўся нават за свой «нежный стан», мог вецер і мяне пераламіць як саломінку. Аднак я пэўна скакаў ад трубы да трубы і пераможна ўваліўся ў «Англетэр».

Мой харошанькі Барашачка, як ты і ведаеш, кінуў мяне тут і паімчаўся, бо «жена там по мужу скучает и плачут детишки гурьбой», а я застаўся адзін, змяніў нават свой традыцыйны ў стылі «Рокако» № 2 на меншы, халасцяцкі № 136, і жыву адзін без Барашачкі. Пакуль што не сумую, а нават больш працую.

Чуў, і мне вельмі падабаецца, што пленум 20-га. Праўда, лепш было б, каб 25-га, тады я сябе адчуваў бы вальней, але ўсё роўна працу скончу і на пленум думаю прыехаць абавязкова. Сцэнарый здам на мастацкую раду 16—17-га, а там некалькі дзён паправак, і я вольны!

Думаю гэтыя часы папоўзаць яшчэ па тэатрах. Многа раз дабіваўся паглядзець новую пастаноўку «Кармен» і ледзь дастаў білет на 12-га. Заўсёды поўна народу.

Што яшчэ новага ў мяне? Напісаў некалькі вершаў. Амаль падрыхтаваў сваю старонку ў «ЛіМ». Я думаю, што за гэты час з мяне досыць.

Думаў з'явіцца ў Менск «сверхчеловеком», але, аднак, ці выйдзе гэта, бо яго я тут не адшукаў і таму не знайшоў яго і ў самім сабе.

Як жызнечка ў Вас? Што гэта ты маўчыш і нічога не пішаш, як там Ніка, ці сустракаліся вы хоць раз добрай кампаніяй. Лёлі таксама не чуваць і не чуваць. Нічога, брат, не зробіш!

Прывет Ніне і Лёлі.

Пішы. *Пятрусь*

Ленінград,
канал Грибоедова 90/2
кинофабрика «Советская Беларусь».

## 2. П. Ф. ГЛЕБКУ

*13 лютага 1933, Ленінград*

13.II.33 г.

Дарагія сябры Пеця і Ніна!

Як маланка ўдарыла ў «Англетэр» навіна пра Міколу. Гэта ўжо апошні ўдар па маім стархолаўскім сэрцы. Як гэта можа быць, каб сам старшыня так «пашатнуўся», так перамуліў сваё сэрца? Ну, няхай ужо сакратар раней здрадзіў, гэта ўжо мы неяк разам са старшынёю перанеслі, а цяпер што мне рабіць, беднаму казначэю?

Не! Я ўпэўнены ў сваім сцягу, думаю, што яшчэ трымае яго Ліманоўскі, і мы будзем пакуль што не апошнімі ў калёнах стройных халасцякоў і адданых сваёй адзінокай, сумнай жызні.

Я пастараюся згрупаваць каля сябе ўсе маладыя кадры, якія падаюць надзеі, я папрашу ідэйнага натхнення тав. Трызны, хоць ён і далёка, бо на яго прыкладзе добра можна ўбачыць кожнаму, як карысна застацца старому халасцяку. Які здаровы арганізм складаецца к канцу жыцця, якая непадкупная яснота думак!

А па-другое, я яшчэ цешу сябе тым, што самы смачны стархолаўскі перыяд толькі пачынаецца ў мяне, бо для Беларусі я, можа, ужо і такі, а тут я бачыў, што самым ў модзе кавалерам — гэта ўжо з лысінкай і з ледзь прыкметнай зыбінкай у нагах. Ленінградскія дзяўчаты кажуць, што такі самы спрыт да танцаў, асабліва да фак-

стротаў, бо яму нават адменнай музыкі не трэба, усё роўна сам хістаецца.

Толькі баюся, што як прыеду ў Менск, дык адразу ўся мая тэорыя трэсне, бо дужа мне худа будзе глянуць на сябе, адзінокаму, на сваёй Шпітальнай. Так страшна, калі падумаеш цяпер. Прывычнае халасцяцкае кола рассыпалася, і я толькі, як адзінокая спіца, заваліўся ў Ленінградзе.

Думаю, сябры, што гэта пытанне даволі сур'ёзнае і падлягае суроваму абгаварэнню.

Ну, досыць пра гэта. Неяк будзе? Не пытаюся ў Вас пра вашу жызнечку, бо ўсё роўна не паспееце адказаць, як сам я прыеду ўбогі.

А што ў мяне? Сцэнарый як быццам напісаў, памучыўся досыць. Пакуль што чытаў чалавекам пяцём, кажуць, што добра, што філя павінна быць, і што наперакор майму перакананню стархолаўскія шэрагі будуць ад яе радзець. Выходзіць, што я наступіў на горла ўласнай песні.

17 лютага будзе абгаварэнне. Думаю, што прымуць. Канечне, могуць быць папраўкі і, можа, даволі сур'ёзныя, але гэта нічога перад тым, што зроблена.

Выязджаю я адсюль, як здаецца, 18 лютага, так што 19-га ўдзень мая нага ступіць на менскі брук і рыкашэтам памчыцца на Шпітальную.

Добра было б, каб вы, мае старыя сябры, пра каго я не менш думаў, як пра сцэнарый, прыехалі ўвечары да мяне. Вазьміце з сабой Лёву, калі яна захоча паехаць. Паседзімо, пагаворым. Мне ўжо дужа хочацца Вас бачыць. Можа, Лёва і ўзлавалася на мяне, бо я тут на хаду чыркануў вельмі наспех ёй пару слоў і не досыць уважна. Ну, неяк будзе. Я думаю, што яна павінна прыехаць, прынамсі, мне так хочацца.

Нічога не разумею тут пра справу Сымона, толькі адчуваю, што шум там вялікі.

Заўтра паеду шукаць табе кніжкі. Думаю, што знайду.

Так што, сябры, да хуткай сустрэчы, цалую Вас усіх няшчотна разоў. Жадаю сустрэць Вас вясёлымі і харошымі.

Ад шчырага сэрца ўклон Лёлі.

Застаюся ваш, з кінематаграфскім прывітаннем,

*стархол Пеця*

Ленінград
(пакуючы рэчы да ад'езду).

## 3. П. Ф. ГЛЕБКУ

*11 лютага 1935, Мінск*

Пятро!

Чаму ты на мяне набрахаў у «Звяздзе»? Слухай, я гавары́ў са «Звяздой» і з Клімковічам, і калі ты лічыш, што гэта выдумана карэспандэнтам, то напішы ліст у рэдакцыю.

11/II.35 г.

*Пятрусь*

## 4. П. Ф. ГЛЕБКУ

*26 жніўня 1939, Мінск*

Прывітанне Пётру Феодаравічу і Ніне Іларыёнаўне, а таксама ўсім сваім і знаёмым!

Мы прыехалі ў Мінск 25-га ноччу, і на гэты раз канчаткова. Юрка спаткаў горад як зусім новы, і нават электрычныя лямпачкі яго вельмі ўсхвалявалі. З гэтае прычыны, відаць, ён кажа, што ў Пуцілкавічы больш не паедзе. Прызнацца, я з ім згодзен. Мне там, аднаму, абрыдла парадкам.

Думаю, што хутка ўбачу Вас у сталіцы і раскажу пра свае апошнія прыгоды, аднак як паляўнічы мушу паведаміць, што «паляўнічае хрышчэнне» ўжо адбылося. Мной забіты качар (прашу не блытаць з «кучар»). Забіў бы болей, але качкі, чыстыя падлы, не чакаюць, пакуль я навяду кулю, і часта я заставаўся з наведзенай куляй удаль.

Што яшчэ пра сябе. Буду <у> Менску да 15—20 верасня, а тады паеду на курорт. Паеду туды, куды мяне пашле Мар'я Канстанцінаўна. Я ўвесь паклаўся на яе рукі.

Петрусёк! Павінен паведаміць табе непрыемную вестачку! Выдавецтва проста гвалт крычыць, што няма Шата Руставелі. Бярыся, браце, і цісні! Мушу табе сказаць, што я сваю частку скончыў, але ў мяне не хапае падстрочнікаў, так радкоў 450—500, каб было 2000 у маёй частцы. Паведамі, што мне рабіць? Ці ты напішы ў Тбілісі, каб хутчэй прыслалі, ці, калі ты збіраешся рабіць пераклад на курорце альбо пасля, дай мне з сваёй часціны 400—500 радкоў. Я хацеў бы скончыць поўнасцю сваю частку і здаць, бо я матэрыяльна цяпер цалкам залежу ад ДВБ.

Падумай, як зрабіць, і напішы мне. Наогул, было б добра, каб мы з Шата Руставелі з'ездзілі ў Грузію ў снежані-студзені.

Вось і ўсё пакуль. Нізка кланяюся ад сябе і ад сваёй сям'і Вам, абодвум! Яшчэ кланяюся ўсім Вашым! Застаюся тут.

26/VIII.39 г. *Пятрусь*

Да ведама!

Мною перакладзены: главы 21, 22, 23, 24, 25, 26, 27, 28, 29, 30, 44, 45, 46, 47, 48, 49, 51, 52, 57.

## 5. Я. КОЛАСУ

*1 верасня 1941, Масква*

1.IX.41 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Прыехаў я ў Маскву з Саратава, а Вас ужо няма. Горка мне было, ды нічога не зробіш. Хацелася Вас пабачыць. У Маскве сяджу тры тыдні. Не ведаў, куды ехаць. Учора прыехаў тав. Панамарэнка, і цяпер наша справа вырашаецца. Куды паеду — напішу.

Тут было пісьмо ад Юркі. Янка ўзяўся яго адправіць. Вы, напэўна, атрымалі. Чытаў у Янкі Вашу вестачку да яго. Вельмі прыемна было пачуць Ваша слова.

Лёля паехала да сваіх у Алма-Ату. Будзе там жыць і работаць, а каб паступіць на працу, ёй патрэбна даведка, бо дакументаў у яе няма. Можа, вы напісалі і заверылі ў Саюзе пісьменнікаў свой подпіс-даведку прыблізна такога зместу: «Удостоверяю, что гр. Бровка Елена Михайловна окончила педагогический институт им. Горького в г. Минске и работала мл. научным работником Института литературы и языка Белорусской академии наук. Вице-президент АН БССР, народный поэт Якуб Колас».

Калі гэта можна, зрабіце ласку і пашліце ёй па адрасе: гор. Алма-Ата, Кордонная 80-а, Николаю Григорьевичу Некрашевичу (для Лёли).

Янка ўсё яшчэ сядзіць у Маскве. Бушуе! Нарэшце дамогся сваіх грошай. Цяпер ён пан!

Прывітанне Вам ад Максіма Танка. Ён тут разам са мною. Часта ўспамінаем Вас добрым беларускім словам. Гарачае вітанне Марыі Дзімітраўне, Міхаську і Даніку.

Ад усяго сэрца жадаю Вам усім усяго найлепшага і хутчэйшай сустрэчы з Вамі.

*Ваш Пятрусь*

P. S. Калі паеду ў новае месца — абавязкова напішу.

*П.*

## 6. Я. КОЛАСУ

*30 верасня 1941, дзеючая армія*

30.IX.1941 г.

Любы наш дзядзька Якуб!

Шлю Вам, Мар'і Дзімітраўне, Даніку і Міхасю прывітанне ад усіх хлапцоў, якія кожны дзень у густым сасновым бары ўспамінаюць Вас.

Просім мы, каб Вы былі сталым супрацоўнікам нашай роднай газеты «За Савецкую Беларусь». Прысылайце нам усё, што можаце. Нашы сябры, якія дзень і ноч змагаюцца з ворагам на радзіме, прачытаюць і не раз успомняць Вас добрым словам. Ведаючы Вашу акуратнасць, мы спадзяёмся, што хутка атрымаем ад Вас усё, што можна. Напішыце і прозай зварот да беларускіх партызанаў.

Вось і ўсё. Мы ўжо надакучылі Вам сваёй просьбай. Шлём Вам у сонечны Ташкент з асенняга бору самыя найлепшыя пажаданні, а большае за ўсё — радасна сустрэцца на роднай зямлі.

*Пятрусь*

## 7. Я. КОЛАСУ

*10 лістапада 1941, дзеючая армія*

10.XI.41 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Вітаю Вас, Мар'ю Дзімітраўну, Даніка і Міхася, хоць і спознена, з вялікім святам. Жадаю ад сэрца бадзёра пражыць да радаснай сустрэчы ў роднай хаце.

Гэтае ж вітанне шлюць Вам усе нашы сябры: Лынькоў, Крапіва, Гурскі, Танк, Кучар, Барысенка.

Няма ў нас пакуль што нашага дарагога Ноніка. Як паехаў у шпіталь (ён быў захварэў крыху), дык хоць і паправіўся, але яшчэ не з'явіўся. Мелі тэлеграму, што хутка прыедзе.

Дзе цяпер Янка і цёця Уладзя, не ведаем. Калі ў Вас — перадайце ім гарачы прывет.

Бачылі тав. Панамарэнку. Ён вельмі цёпла гаварыў пра Вас. Увесь час гаворыць аб Беларусі.

Цалую ўсіх моцна-моцна

*Пятрусь*

P. S. Можа, Вы і пісалі каму з нас, але, на вялікі жаль, мы яшчэ нічога не атрымалі.

## 8. Я. КОЛАСУ

*28 лістапада 1941, дзеючая армія*

28.XI.41 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Так трапіла, што Вашае пісьмо атрымаў толькі сягоння. Вельмі яны доўга цяпер ходзяць. З гэтае прычыны, відаць, і мае пісьмы да Вас не дайшлі. Атрымаць ад Вас весточку вельмі радасна, вось і сягоння мы ўсе вельмі ўсцешаны: Міхал і я атрымалі лісты і вершы. Усё роўна як быццам пагаварылі з Вамі за добрым сталом пры «дзядзьку Карусю». Залатыя былі часы! А цяпер праз некалькі тысяч кіламетраў пачуць роднае слова так прыемна і радасна. Шчыра спачуваем Вам, што Вы перажылі такое няшчасце: хваробу Мар'і Дзімітраўны. Ад усяго сэрца жадаем ёй, нашай паважанай цётцы, добрай душы, перанесці ўсё і паправіцца як мага лепш, каб мы маглі ўсе сустрэцца неўзабаве, хай бедна, але ў добрым здароўі.

Што ў нас новага? Ды ўсё звычайна, па-армейску. Уцягнуўся ў вайсковае жыццё, як быццам я цывільным ніколі і не быў. Так і коціцца дзень за днём. Вас і Янку ўвялі ў рэдакцыйную калегію нашай газеты. Няхай нашы землякі знаюць, што Вы жывы і працуеце, ды чакаюць Вашага звароту.

Добра, што прыслалі вершы, яны пойдуць у бліжэйшым нумары. Дасылайце нам часцей.

Лёля ў Алма-Аце. Жыве як быццам няблага. Я ёй выслаў атэстат на 900 рублёў у месяц. Юрачка хварэў кор'ю, але папраўляецца. Даўно я іх не бачыў!

Ад Янкі ніякіх вясцін. Пісаў яму, але адказу не атрымаў. Куды ён паехаў, невядома. Кучар толькі што прыехаў з Масквы. Там яго няма.

Прачытаў яшчэ раз Ваша пісьмо і так захацелася дахаты: у Пухавічы, Тальку, Загібельку. Нават «ражок з пончыкам» стаў такім мілым і прывабным. Хутчэй бы туды, на бацькаўшчыну.

Горача вітаю Мар'ю Дзімітраўну, Даніка і Міхаська. Каб вы ведалі, як глыбока Вы ўсе ў нашым сэрцы і як часта мы Вас успамінаем.

Прывітанне ад Міхала, Кандрата, Барысенкі, Танка, Кучара.

Будзьце здаровы і бадзёры!

*Ваш Пятрусь*

## 9. П. Ф. ГЛЕБКУ

*26 снежня 1941, дзеючая армія*

26.XII.1941 г.

Добрый день, дорогой Ноничек!

Какая радость! Наконец ты нашелся. Вчера получили твои письма, к сожалению, только последние, где ты вопишь, что не получаешь ответа. А мы голову потеряли, рассуждая о твоей пропаже, и никаких твоих писем не видели.

Знаешь, старина! Разговоров у меня с тобой целый короб, да я думаю, что мы скоро встретимся. Михал тебя вытянет. Кстати, ты и не заикаешься, желаешь ли ты приезжать к нам. Приезжай, дружище, приезжай, гад печеный, твое место за тобой, живем мы все прекрасно, пусть твоя душа не скорбит о наших муках, никакой мороз нас не проймет. Здесь к старому коллективу прибавились: я, Танк и Кучар. Вот уже четвертый месяц, как работаем вместе.

Коротко тебе адреса:

Колас — Ташкент, улица Первого Мая, 20, Союз Советских Писателей.

Лёля и Юра: Алма-Ата, 12. Кордонная улица, дом № 80-а, кв. 6.

Купала где-то в Казани или в Куйбышеве.

Кузьма работает в белор. газете при ЦК КП(б)Б. Где, не знаю. О Нине, дорогой, ничего не слышно. Неужели она не вышла? Не могу поверить!

Жди нашего нового адреса.

## 10. Я. КОЛАСУ

*26 снежня 1941, дзеючая армія*

26.XII.1941 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Перад ад'ездам пішу Вам гэтую паштовачку. Хутка напішу падрабязнае пісьмо з новым адрасам.

Сумная навіна: памёр Змітрок Бядуля ў Уральску ад разрыву сэрца. Бядняга не дачакаўся звароту дахаты.

Толькі ўчора знайшоўся Пецця Глебка. Ён працуе ў гор. Саратаве ў рэдакцыі газеты «Чырвонаармеец». Думаю, што яго выклікаюць да нас, і мы будзем разам.

Па прапанове т. Панамарэнкі Вы ўведзены ў склад нашай рэдкалегіі. Друкуем Вашы вершы. Хутка Вам вышлем нумары.

Прывітанне Мар'і Дзімітраўне, Даніку і Міхаську.

Жадаю Вам усім здароўя і шчасця ў 1942 годзе і нашай сустрэчы ў роднай Беларусі.

*Пятрусь*

## 11. П. Ф. ГЛЕБКУ

*28 красавіка 1942, Масква*

Масква,
28 красавіка 1942 г.

Дарагі Пеця!

Гэтымі днямі атрымаў твой ліст. Што табе сказаць? Праўду-матку ты рэжаш без нажа. Прызнаю, што не толькі ачарсцвелі, але і зусім закажанелі. І не толькі мы з табою. Наогул наш бурны час у пачатку гэтага года пакінуў на сэрцы ў мяне шмат прыкрага. Але пра гэта потым. А сёння сумна без вас. Відаць, ужо такая натура чалавечая, што на вялікай адлегласці сапраўды адчуваеш горыч разлукі. Праз два дні — 1 Мая. Як бы мне хацелася цяпер бачыць і цябе, і Іллю, і Айзіка, і нават схадзіць з ім у невялічкую перапалку. Дарэчы, я на ўсе перапалкі гляджу вельмі проста, і хай Айзік не думае, што я хаваю што-небудзь у душы. Вось няма яго, з кім мы блукалі неразлучна з пачатку вайны, і мне ўсё здаецца, што некага не хапае.

Буду табе пісаць усё па парадку, як мы жылі пасля вашага ад'езду. Я толькі праз некалькі дзён усвядоміў, што Вас ужо няма і што, можа, не так скора мы і сустрэ-

немся. Зашыліся мы ў казарму, а Міхал з Кандратам у гасцініцу. Так і жылі, кожны дзень чакаючы змены. Змена прыйшла, але мы па-ранейшаму засталіся ў Маскве. Думаў я, думаў, сабраў крыху грошы, да і сам падаўся ў мебліраваныя нумары. Грошы ідуць, а чарка яшчэ спрытней, вось так і жыву. Тут невялічкае адступленне: хай не думае Ілья, што яго грошыкі ніколі яму не вернуцца. Тое, што запрацавана кроўным мазалём, ніколі не загіне. Па яго даручэнні атрымаў я ў Радыёкамітэце 275 рублёў. Не паспеў адаслаць, як іх ужо ў мяне не стала. Ясная справа, што ў Маскве я ім даў належны парадак. Толькі гэтаму прыйшоў ужо канец. Прыехаў Пімен, і я загубленыя мной Ілюшкавы грошыкі перашлю праз яго. Гэта будзе не раней 15 мая, бо Піменаў мітынг толькі 10 мая.

Што мы зрабілі? Выпусцілі толькі адзін нумар. Болей і выпускаць нам не даюць загаду. Чакаем, што будзе далей. Штат наш вам вядомы. Барысенка, Латышаў, Фейгінзон — у рэзерве, але таксама пры нас. Мабыць, скора выберамся з Масквы і возьмемся за работу.

У Ваенвыдаце нічога не выйшла. Гэта адны размовы. Мая кніжка ляжыць надрукаванай ужо трэці месяц. Наогул няма надзеі, што з беларускай літаратуры там штонебудзь хутка выйдзе. Тое ж самае і з другімі зборнікамі.

Што тычыцца мяне, дык за гэты час я напісаў некалькі вершаў, частка з іх была надрукавана ў друку, і больш нічога. Праўда, прыехаў Цікоцкі, і зноў пачалася старая гісторыя. Прызнацца табе — не люблю я працаваць над лібрэта, вельмі ўжо яно мне агоркла раней, але нічога не зробіш, трэба брацца і за гэтую справу. А так звычайна, як і ў Мінску — хаджу на выступленні, і жыццё падобна, толькі што няма каля мяне Лёлі з Юркам.

Вельмі табе дзякую, што напісаў ты ім, яны адчуваюць сябе там страшна адзінока. Як бы мне хацелася пабачыць іх, Нонік! На тваё імя я атрымаў тэлеграму і дакладна перадаю змест: «Вышли продовольственную посылку адрес Ленинград 15 п/я 276 Вере Барачовой-Саша». Я хацеў тут зрабіць што-небудзь праз Саюз, але гэта мне не ўдалося.

Колас паехаў у Ташкент. За апошні час ён так разгарнуўся, што нам не было спакою. «Будзь здароў!» было вельмі часта. Вельмі сумна па старыку, ды і крыўдна, што «лаўрэпам» ён не стаў. Хоць вялікая радасць ёсць і для яго. Нортман знайшоў Юрку. Ён у Калузе. Ты пытаешся пра яго адрас: Ташкент, ул. Первого Мая, 20. Союз советских писателей Узбекистана.

Некалькі дзён назад прыехалі Дорскі з Ільінскім. Высмакталі аж «шэсць паўбебаў». Яны прывязлі з сабой. Даў ім твой адрас. Яны хочуць, каб ты напісаў ім п'есу. Ускалыхніся, старык! Напішы ім п'есу альбо лібрэта.

Вельмі ж нам было ўсім смешна, калі Пімен расказаў пра вашыя вусы, а з другога боку мы і задаволены, што вы самі сябе парабілі старымі, а мы яшчэ ходзім у «маладзёнах», відаць, у нас падставы большыя.

Заўтра пачынаем святочны разгон і, прызнацца папраўдзе, не пашкадавалі б вам нашых зарыхтовак. Што б там ні было, а мы з вамі добрыя сябры. А ты, Нонік, не сярдуй, бо і сам у такой жа ступені вінаваты, як і я, пішы мне часцей. Наогул ростань з табой, павер мне, была вельмі цяжкою. Пішы!

Нізка кланяюся дарагім сябрам і за кожнага з вас падыму ў свята ў поўнай меры.

Не забывайцеся, гады!

Ваш *Пятрусь*

Нонік! Я думаю, што, калі ты напішаш Купалу на адрас Казані (Союз писателей), пісьмо дойдзе.

Другога адраса і я не знаю.

Будь здароў, браце! Жадаю табе ўсяго найлепшага і чакаю нашай хуткай сустрэчы.

*Пятрусь*

P. S. Сардэчнае прывітанне ад усіх хлапцоў.

## 12. Я. КОЛАСУ

*5 мая 1942, Масква*

5.V.42 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Учора прынёс Вашу першую паштовачку Міхалу. Да гэтага ніхто з нас нічога не атрымаў.

Вам мы паслалі тэлеграфам радасную навіну: Юрка знайшоўся. Ён у Калузе ў запасным палку. Пра гэта нам гаварыў Нортман. Мы паслалі тэлеграму ваенкому яго часці, каб ён прыслаў нам № яго палявой пошты.

Сёння быў зноўку ў мяне Нортман і казаў, што едзе ў Калугу. Мы ўмовіліся, што ён перадасць яму Ваш адрас, а нам прывязе яго. Тады мы Вам адразу адаб'ём тэлеграмку.

Вось Вам і самая радасная навіна. А так мы жывём

звычайна, а як, Вы самі добра знаеце. Хутка збіраемся выязджаць.

Прывітанне Марыі Дзімітраўне, Даніку і Міхаську.

Ваш *Пятрусь*

## 13. Я. КОЛАСУ

*12 мая 1942, Масква*

12.V.1942 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Спазніўся я тады прыбегчы на вакзал. Так і не пабачыў Вас у цягніку. Затое я пастараюся прыбегчы раней усіх на вакзал у Мінск к Вашаму прыезду. Не можа быць, каб у гэта лета мы не сабіралі грыбоў у Беразянцы.

Што ў нас новага? Ды нічога і не змянілася пасля Вашага ад'езду. У № 1044 я стаў старажылам, і ён мне парадкам абрыд. Але засталося чакаць нямнога. Яшчэ 5—7 дзён, і выязджаем на дачу.

Ваеніздат пераехаў на Орлікаў пер. Пайду шукаць. Бяда толькі ў тым, што Аршаруні многа гаворыць, а мала робіць. Наколькі я ведаю, яны і дагэтуль нічога не выпусцілі. Сёння ж пайду праверу і паведамлю Вам.

Чакаем ад Вас адказу пра Юрку. Шчырае прывітанне ўсім.

Ваш *Пятрусь*

## 14. П. Ф. ГЛЕБКУ

*26 мая 1942, Масква*

26.V.42 г.

Дарагі Нонік!

Больш месяца таму, як паслаў я табе вялізнае пісьмо, а адказу ўсё няма. Вось бачыш, не адзін я грэшны.

Пра ўсе нашы прыгоды расказаў табе, напэўна, Пімен. Усяго і змен, што выпаўз я з гасцініцы «Масква» зноў у старое логава. Ёсць чуткі, што скора выедзем і пачнём нешта рабіць.

Чытаю амаль кожны нумар В/газеты і «Дубінкі». І тое, і тое — мне вельмі падабаецца. Я і ўяўляю, што такі характар выданняў патрэбен для нашых сяброў там.

Што ў мяне новага асабіста? Знайшоў меншага брата — Косцю. Ён ранены. Ляжыць у тбіліскім шпіталі.

Пакуль што маю з ім тэлеграфную сувязь. Чакаю ліста і тады буду ведаць усе падрабязнасці. Гаварыў з Лёляй па тэлефоне. Вельмі добра было чутно. Сумуе дзеўчына! А з творчага боку вось якія навіны: скончыў нарэшце падрабязны план лібрэта. Сягоння-заўтра буду зацвярджаць, а тады сяду за тэкст. Напісаў некалькі вершаў. У Ваенвыдаце ў нікога нічога не выйшла і, як мне здаецца, не выйдзе.

Прабач, што не прыслаў табе вершы. Па-першае, я не ведаю, якія табе патрэбны, па-другое — вельмі нудна іх перапісваць. Будзь здароў.

*Пятрусь*

Кланяюся нізка Іллю Данілавічу, а яшчэ ніжэй таму, што грошыкі яго я ўсё ж такі адашлю. Паклон ігумену Пімену і схімніку Айзіку.

*П.*

## 15. Я. КОЛАСУ

*16 чэрвеня 1942, Масква*

16.VI.42 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Хадзіў я да Чагіна. Абяцаў выслаць Вам грошы. Аршаруні так нічога і не зрабіў. Калі ў яго выйдзе кніжка — невядома. Вельмі ўжо марудна ён працуе. Схаджу да яго яшчэ раз.

Што з намі? Прыехаў Панамарэнка і паставіў пытанне аб перадачы нас пад загад ЦК. Чакаем вырашэння. Ад гэтага залежыць наш цяперашні лёс. Я жыву ў казарме, бо кішэня мая ніяк не можа задаволіць гасцініцу. Лынькоў і Крапіва ў «Маскве» па-ранейшаму і ў тых жа самых нумарах.

Ганялі мы Нортмана. Ён клянецца, што бачыў Юрку. Папрасілі дакладна ўстанавіць. Я таксама баюся, ці не наблытаў ён. Хацелася б, каб ён бачыў Юрку сапраўды.

Ёсць чуткі, што Янук едзе ў Маскву. Вось ужо дасць дыхту. Яшчэ добра, калі без Уладкі.

Прывітанне Марыі Дзімітраўне, Даніку і Міхаську.

Моцна цалую.

*Пятрусь*

P. S. Нонік — гад, адпусціў вусы, як сом. А пісаць нікому не хоча.

*П.*

## 16. Я. КОЛАСУ

*Ліпень 1942, Масква*

Дарагі дзядзька Якуб!

Смерць Янкі так <выбіла з> раўнавагі, што літарал<ьна> не мог узяцца за пяро. <Які не> дарэчны выпадак! Да гэтага яшчэ псавалі настрой і зводкі.

Учора гаварылі з Міхалам па вашых справах. Кажуць, што пенсію і дэпутацкія будуць высылаць Вам акуратна. Канечне, што ў Ташкенце вельмі не разгонішся з заробкамі, а грошы бягуць як вада. Пайду яшчэ раз да Чагіна і запытаю, ці пераслаў Вам грошы.

Што ў нас новага? Прыехала Купаліха. Будзе жыць у Маскве ці пад Масквой, да Кузьмы прыехала жонка з дачкой. Ёсць меркаванне — нас усіх вайскавікоў перадаць пад загад ЦК. Вось сядзім і чакаем рашэння. Калі яно будзе? А ад гэтага залежыць мой прыезд да Лёлі, і мяне гэта вельмі непакоіць.

Віцьбіч падвізаецца ў Віцебску. Шчыглоў, Арсеннева ў Мінску. Паганыя людзі!

Прывітанне Марыі Дзімітраўне, Даніку, Міхаську!

Жадаю Вам здароўя і сіл, а таксама хутчэйшай сустрэчы з Вамі ў больш радасны час.

Ваш *Пятрусь*

## 17. Я. КОЛАСУ

*4 верасня 1942, Алма-Ата*

4.IX.1942 г.
Алма-Ата

Дарагі дзядзька Якуб!

Выпала так, што толькі цяпер пасылаю я Вам ліст. Многа было на тое прычын, а галоўная тая, што, прыехаўшы ў А.Ату, пад напорам розных гаспадарчых непаладак неяк абязволеў, размяк. Цэлы месяц хадзіў я па розных справах з установы да ўстановы і прыходзіў дахаты зусім разбіты. Праслухоўваў зводку і кідаўся спаць. Таго-сяго для сваіх хатніх я дамогся: Лёлю прыладзіў на работу ў Каз. выдавецтва, а Юрку паслаў у дзіцячы сад. Гэта многа ўладзіць у маіх сямейных справах. Доўга поўзаў, пакуль набыў за 300 рублёў электрычную плітку, бо не было на чым прыгатаваць нават чай. З яшчэ большымі цяжкасця-

мі купіў $1\frac{1}{2}$ тоны саксаулу за 1200 рублёў. Вось усім гэтым я і лічу, што свой абавязак перад сям'ёй у А.Аце выканаў.

Міхал мне адтэрмінаваў час выезду да 7 верасня, так што я толькі праз два дні выязджаю адсюль. Вельмі хацелася б мне заехаць да Вас, але калі палічыў я свой вольны час, дык яго засталося мала, а яшчэ меней грошай на паездку, бо бульба тут таксама, як і ў Ташкенце, занадта дарагая.

Выбачайце, што я не стрымаў свайго слова, але я шчыра кажу, што ехаць у Ташкент мне ніяк не выпадае.

Затрымаўся я з лістом яшчэ і таму, што чакаў ад'езду ў Ташкент Клумава, бо ручна праз яго хацеў перадаць Вам пісьмо. Сёння-заўтра ён выязджае.

У Алма-Аце ў мяне ніякіх асаблівых навін. Адпачыць я не адпачыў, а яшчэ больш замардаваўся. Спякота тут не такая, як у Ташкенце, намнога лягчэй, але ўсё роўна клімат не па мне. Гудзіць галава, ламае косці, апухла нага і цяпер яшчэ не прайшла.

У Саюзе пісьменнікаў адносіны, відаць, аднолькавыя, як і ў Вас у Ташкенце. Мяне здзіўляюць гэтыя чорствыя, абыякавыя людзі. І ўсё больш успамінаюцца нашы хлапцы.

А зводка ўсё благая і благая. Чакаў я, чакаў другога фронту, і ноччу ўсхопліваўся, бег да радыё, і зняверыўся. Калі ж гэта, нарэшце, нашы саюзнікі надумаюць па-сапраўднаму біць Гітлера. Пара ўжо! Але чамусьці ў мяне цвёрдая надзея, што ўсё скончыцца добра, быць не можа, каб запанавала тупарылая, нямецкая свіння. Са светлай надзеяй збіраюся і ў Маскву. Добра было б, каб спаткаліся мы там неўзабаве і ў больш вясёлы час!

А сапраўды, дзядзька Якуб! Падрыхтуйце зборнічак, напішыце аповесць ды прыязджайце да нас. Пажывём там разам які месяц. Дарога цяпер не такая ўжо цяжкая.

Калі Крупеня не быў у Вас і яшчэ нічога не зроблена з пайком, я пагавару там аб гэтым. Пагавару і аб В/зборніках. Думаю, што ўсё наладзіцца.

Пра Мінск, седзячы тут, нічога не знаю. Толькі з пісьма Кучара Маўру даведаўся, што Туранкоў прадаўся немцам. Сабіраецца ў іх, відаць, там капэла.

Страшна баліць сэрца, як успомню пра сваю маці. Чамусьці яна стала мне сніцца з ночы ў ноч. А як прыгадаю родныя мясціны, проста не знаходжу сабе месца. Я ўжо даходжу часамі да містыкі. Вось вазьму ды сабе загадаю: калі вялізны камень (ёсць у нас такі на краі дарогі ля ся-

ла) ляжыць цяпер на месцы, значыць, і я вярнуся дахаты. Да чаго толькі не дадумаешся!

Дарагі мой дзядзька Якуб! Будзем верыць, што яшчэ доўга паходзім па роднай зямлі. Вельмі ж цяжка без яе.

Што вам яшчэ напісаць? Ну, хіба пра алма-ацінскія цэны. Мука пшанічная 35—45 руб. кгр., масла 300—350 р. кгр., яйкі 50—60 руб., памідоры 7—8 руб., часнок 60 руб. кгр., мяса 80—100 руб. кгр., малако 15 р. літр.

За ўвесь месяц я напісаў 1 главу паэмкі і 2 песні для кіно. Вось і ўся мая работа. Думаю напісаць у Маскве. А там відаць будзе!

Шчырае прывітанне ад мяне, Лёлі і Юркі Мар'і Дзімітраўне, Даніку і Міхаську.

Жадаю Вам усім здароўя і лепшых зводак.

Ваш *Пятрусь Броўка*

P. S. Клумаў просіць, каб Вы яму дапамаглі з лібрэта. Можа, Вы можаце паўплываць на С. М., каб ён яму дапамог?

*П. Б.*

## 18. П. Ф. ГЛЕБКУ

*5 кастрычніка 1942, Масква*

5.X.1942 г.

Дарагі Нонік!

Сёння атрымаў тваё пісьмо з Алма-Аты. Дзякую вам і за картку, дарагія хлопцы! Шкода, што не маю нічога паслаць вам, так непамысна, што і здымацца не хочацца. Нічога, можа, дасць бог, сабярэмся мы самі. Якуб так дае гэтаму паганцу — Гітлеру, што ад яго хутка застанецца толькі пыл. А і сапраўды, вялікая ў мяне надзея, што ён зломіць шыю пад Сталінградам.

Прабыў я, браце, месяц у Алма-Аце і яшчэ больш параніў сваё сэрца. Блага жывуць мае малыя. І гэта нягледзячы на ўсе мае дапамогі. Проста нават не хочацца пісаць аб іх пакутах, то яшчэ цяжэй робіцца.

Толькі што прыйшоў мастак з вашай рэдакцыі. Гавару з ім пра ваша жыццё. Перапыняю пісьмо да заўтра.

*П.*

6.X.1942 г.

Прыехаў з Алма-Аты Цвірка, прывёз мне яшчэ два пісьмы. А ўсё не лягчэй. Жыць там, канечне, цяжка, а да

таго Лёля зусім непрыстасаваная да сучасных умоў, баюся, што загінуць яны абое.

Быў я ў Ташкенце. Колас засмучаны смерцю Янкі, страшэнна распякае сябе, што часамі спрачаўся з ім, балюча пераносіць адсутнасць вестак пра Юрку, а таксама падзеі на фронце. Вечна сядзіць каля рупара радыё. Пацягнулі мы там сёе-тое, паплакалі, паўспаміналі ўсіх сваіх блізкіх. Я пераканаўся, што жыць у другім месцы, апрача Беларусі, стары Якуб не можа і ён чахне па Беразянцы і баравіках.

У Ташкенце бачыў яшчэ Эдзю, Модэлька і Кацовіча. Лепш з іх жыве Эдзя, Мадэлёк, хоць і працуе намеснікам дырэктара рускага драматычнага тэатра — пакутуе. Стаў ён цяпер такім ваяўнічым, што проста рвецца ў бой, але як слабасільнага нікуды не пускаюць.

Эдзіна матка замест Амерыкі трапіла ў амерыканку. Вось дурная баба, што ёй яшчэ трэба было? Мабыць, наважыла, што талент дачкі перарос рамкі Еўропы і што яму патрэбна разгарненне на амерыканскім кантыненце.

У Ташкенце быў я ўсяго чатыры дні. Гарачыня там такая, што я баяўся высахнуць на шчэпку. Там ідзеш па вуліцы і, здаецца, бачыш, як чалавек тае на вачах, усе сокі вылятаюць з яго парай. Не люблю гарачыні. Прыехаў у Алма-Ату, уратаваўся ад спёкі, там не такая гарачыня, дык нарваўся на другое. Мясцовасць, высокая над узроўнем мора, цяжка адбіваецца на хворых сэрцам. Як высветлілася, яно ў мяне неважнецкае, бо адразу пачалі ў мяне пухнуць ногі, і стаў хадзіць я па Алма-Аце кульгаючы. Цэлы месяц бегаў па ўстановах, дамагаўся прыладзіць Юрку ў дзіцячы сад, а Лёлю на работу. Дамогся гэтага, а, як цяпер высветлілася, гэта мала ёй дапамагае. Уся справа там, аказваецца, у тым, што «сваячкі» яе — паганыя людзі. Яны без душы і, замест таго каб дапамагчы ёй — наваліваюцца на яе без прычыны.

Вось ты і бачыш, што я зноў вярнуўся да сваіх балючых дум. Але ладна, буду спадзявацца, што перажывуць мае малыя ўсе нягоды, перажывём і мы, і што спаткаемся яшчэ пад бацькоўскай страхою.

Што я зрабіў за гэты час? У Алма-Аце напісаў дзве песенькі для беларускага кіназборніка, і ўсё. Прыехаўшы ў Маскву, скончыў паэму пра Смалячкова. Яна невялікая — 600 радкоў. Сам не знаю, добрая яна ці благая? Пройдзе некаторы час — адчую. Тыя, каму чытаў, кажуць, што добра. Цяпер сяджу над трэцім актам лібрэта, хачу скон-

чыць у гэтым месяцы. Дарэчы, прыходзіў да мяне Залатароў. Ён быў з Цікоцкім. Ці не напісаў бы ты яму лібрэта? Няўжо ты не можаш выбраць на гэта часу? Ажгірэй хоча, каб ты гэта зрабіў.

Наша рэдакцыя чэзне і чэзне. Забралі ад нас Васю Барысенку, Латышава, Фейгінзона, Качана. Выклікала палітупраўленне, а дзе будуць працаваць, невядома.

Мы, што засталіся, сядзім у гасцініцы. Відаць, і праседзім да канца вайны. Добра, што можна рабіць тое-сёе, а то зусім бы загінулі.

«Раса» цяпер падаражэла ў два разы, ужываем вельмі рэдка. Прыязджайце хіба, хлапцы, можа, адразу ў нас пачнецца ажыўленне.

Нізка кланяюся ўсім прыяцелям — Іллюшку, Кучару, Пімену. Жадаю ім баявых поспехаў, а з імі хуткай сустрэчы.

Б'ю чалом усяму добраму калектыву «За Свабодную Беларусь».

*Пятрусь*

Масква

## 19. Я. КОЛАСУ

*30 кастрычніка 1942, Масква*

30 кастрычніка 1942 г.
Масква

Дарагі дзядзька Якуб!

Горача вітаю Вас са слаўным 60-годдзем. Жадаю пражыць яшчэ болей і на раднай зямельцы. Выбачце, што, пасылаючы тэлеграму, я паспяшаўся. Па-першае, баяўся спазніцца, а да таго ж яшчэ — ехаў у Горкі, не ведаў, колькі там затрымаюся, таму і паслаў загадзя.

Да вас паехаў Кандрат. Ён раскажа падрабязна пра наша жыццё, а я толькі хачу падзяліцца з Вамі, дзядзька Якуб, радаснай весткай. Як Вы і пісалі мне, што: «Не сумуй, Петрусёк, маці твая жыва», так і выйшла. Ужо ў другі раз праз партызан я атрымоўваю весткі пра яе. Першы раз расказалі два хлапцы, што бачылі яе ўлетку, а ўчора, калі я прыйшоў да Гарбунова, ён выклікаў адну таварышку па прозвішчы Гайдук. Яна мне падрабязна расказала пра маці. Аказваецца, праклятыя фрыцы садзілі старую, дапытвалі, дзе сыны, пасля выпусцілі. Жыве яна ў сваёй

хаце, толькі карову адабралі. Перабіваецца пакрысе, шые, лапіць тое-сёе каму са сваіх вяскоўцаў.

Гэта жанчына перадала маці газетку з маім вершам. Паплакала старая!

Усяму гэтаму я веру, бо яна падрабязна расказала, што нават стаіць у сярэдзіне хаты.

Што ў мяне больш новага? Кончыў паэмку пра Смалячкова і лібрэта. Ездзіў у Горкі, у оперны тэатр, прынялі вельмі добра.

А так сяджу ў Маскве і чакаю Ноніка. Вам, відаць, гаварыў Кандрат, што ёсць рашэнне выклікаць іх сюды. Відаць, давядзецца адседзець тут цэлую зіму. А як хочацца дахаты! Ды, відаць, надоўга затармазілі нам гэту справу нашы саюзнічкі.

Вітаю Вас, дзядзька Якуб, Мар'ю Дзімітраўну, Даніка і Міхаська са святам і шчыра жадаю ўсім здароўя і сіл.

Ваш *Пятрусь*

## 20. Я. КОЛАСУ

*3 лютага 1943, Масква*

3.II.1943 г.
Масква

Дарагі дзядзька Якуб!

Доўга я Вам не пісаў і адчуваю сябе вінаватым. Праўда, два разы мы чакалі Вас у Маскве, першы раз 7—8 студзеня на сход інтэлігенцыі, а другі — цяпер у лютым на Усеславянскі пленум, але так і не дачакаліся. У самаго мяне шмат змен у асабістым жыцці, і яны ў мяне адабралі многа часу. Увесь снежань месяц я быў у дарозе. Ездзіў у Алма-Ату за сям'ёй, прывёз іх у Маскву. Лёля і Юрка жывуць цяпер разам са мной. Гэта стала магчымым таму, што нас пяцёх: Лынькова, Крапіву, Глебку, Гурскага і мяне звольнілі ў запас і перадалі пад загад ЦК. Вось і закруціўся я ў сувязі з пераходам на штацкае становішча і з турботамі па пераездзе. Можа, гэта хоць крыху змяншае маю віну перад Вамі.

Навін так многа, што і не ведаю, з чаго пачынаць? Пачну з нагарод, ці што? Палітупраўленне Калінінскага фронту ўзнагародзіла былых працаўнікоў рэдакцыі «За Свабодную Беларусь», нашых хлапцоў: Пецю Глебку і Гурскага ордэнамі Чырвонай Зоркі, Кучара, Панчанку і др. медалямі «За баявыя заслугі». Хлопцы рады,канеч-

не, і нам прыемна, што сярод нас з'явіліся баявікі, тым больш што сярод рускіх хлапцоў іх вельмі многа.

А цяпер пераходжу аб нашай працы. Арганізавана выдавецтва: здаецца, усур'ёз. Там працуюць Кандрат Крапіва, Глебка, Гурскі і Малкін. Здалі ў вытворчасць ужо каля 15 кніг, сярод іх адна і мая вершаваная кніжачка. Ёсць там у плане Ваш аднатомнік выбраных вершаў і паэм і зборнік твораў за часы Айчыннай вайны.

Я думаю, што хлопцы пісалі Вам пра гэта. Відаць, Вы і працуеце над складаннем дзвюх гэтых кніг.

Меркавалася, што «Савецкая Беларусь» будзе выходзіць вялікім фарматам, але пакуль што яна працягвае сваё шэрае нуднае жыццё ў ранейшым памеры. Што газета сумная, вінавата рэдакцыя ды, відно, і мы, пісьменнікі, бо мала ўдзельнічаем у ёй.

За гэты час скончылі Максім Танк і Аркадзь Куляшоў свае паэмы. Погляды на іх розныя, адно трэба сказаць, што рэчы добрыя, хоць і непазбаўленыя, як заўсёды, недахопаў.

Так мне і не давялося прачытаць Ваш «Суд у лесе». Чуў добрыя водгукі.

Выходзіць, што наша беларуская літаратура папрацавала няблага.

Кончыў і я сваю паэмку пра Смалячкова (помніце — чытаў у Ташкенце), скончыў і здаў лібрэта оперы, напісаў некалькі новых вершаў, нават пераклaдаў Вашы радкі з беларускай на рускую мову (гэта ў артыкуле Дабрыніна — выбачайце, калі блага). Так што тое-сёе зрабіў і я. А цяпер сяджу і не ведаю, за што ўзяцца? Тэм многа, а ўмовы працы цяжкаватыя, за вялікую працу брацца боязна. Справа ў тым, што ганяюць нас, як сідаравых коз, з гасцініц, а зімой дзецца няма куды. Вунь і хлапцоў выгналі з гасцініцы «Масква» ў «Савецкую» (каля Дварца Саветаў), нейкім фуксам засталіся толькі Міхал і Кандрат. Я жыву са сваімі дамачадцамі ў гасц. «Еўропа». Сягоння вымаліў адтэрмінаванне на 12 дзён, што далей будзе, бог знае.

Ды толькі Вы не зважайце, прыязджайце сюды ў Маскву. Вас гэтая бяда не кране, а жыцца будзе не горш, Мар'і Дзімітраўне, напэўна, будзе лепш. А да таго, як успомніш, што некалі садзішся вечарам у Маскве, а на раніцу ў Мінску, дык сэрца ніяк не хоча пакідаць гэтага блізкага кірунку. Пішу я Вам у такія шчаслівыя дні, якія набліжаюць нас да родных сяліб. Я так і бачу Вас пра-

святлеўшым каля ташкенцкага рупара. Як хораша было б цяпер пасядзець з Вамі за сяброўскаю гутаркай набліз «дзядзькі Каруся». Хоць, па праўдзе казаць, можа, з «дзядзькам Карусём» нам трэба спатыкацца і радзей. Вунь і Кузьма, бедалага, хворы. Ён марудна, але ўпэўнена папраўляецца. Думаем, што ён хутка ачуняе.

А «дзядзька Карусь» стаў цяпер вельмі ганарыстым, дарагім і навяшчае нас вельмі рэдка.

Ды толькі прыязджайце, дзядзька Якуб, угаворым, запросім і яго.

Купаліха хварэла тут на запаленне лёгкіх. Асунулася, пастарэла і, здаецца, пасталела. Паехала ў Казань да вясны. На вясну збіраецца ў Маскву.

Ёсць у мяне адна вельмі прыемная навіна. Помніце, я пісаў Вам пра маці, і Вы напісалі мне, упэўняючы, што жыва мая маці. Так, прынамсі, было яшчэ ў верасні. Прыйшло два партызаны, а потым партызанка і ў адзін голас паведамлялі, што бачылі яе і гаварылі з ёй. Перадалі мне такія прыкметы з хатніх абставін, што гэта не выклікае ў мяне сумнення. Атрымаў пазней больш горкую вестку, што быццам спалілі гады яе хату і жыве яна, бедная, у другой вёсцы. Вельмі б хацелася яе ўбачыць!

Толькі што быў перапынак у пісьме. Прыходзіў Мазалькоў, пяклі аладкі з алма-ацінскай мукі. Шкада, што мала!

Што яшчэ новага ў Маскве? Ходзяць па вуліцах нашы афіцэры ў навенькіх пагонах. Даволі прыгожа!

Зіма сёлета тут лёгкая. Маразы невялікія, а да таго ж добрыя весткі з фронту вельмі саграюць душу. Мы крыху ўжо і раздураны, калі няма вечарам: «У апошні час», дык і лажыцца спаць сумнавата. Нічога, пачакаем, відаць, праб'е неўзабаве апошні час па нямецкім звяр'і.

Канчаю пісаць, бо мой малы Юрка так разгудзеўся, што няма рады. Цяпер «Апошнія паведамленні». Чакаю «Апошняга часу».

Ага, ледзь не забыўся! Прывязлі партызаны ў Маскву старога дзеда Талаша. Вось бы Вам з ім сустрэцца. Стары яшчэ дзябёлы. Ён бы Вам шмат расказаў. А можа, і можна было б падумаць пра другую частку.

Кланяецца Вам, Мар'і Дзмітраўне, Даніку і Міхаську ўся мая сям'я.

Нізка кланяюся і я.
Ваш *Пятрусь*

## 21. П. ПАНЧАНКУ

*21 ліпеня 1943, Масква*

21. VII. 43 г.
Масква

Дзень добры, браце Пімен!

Атрымаў тваё добрае пісьмо. Быў вельмі рады, што хоць газетамі і дадаткамі павесяліў тваё аднастайнае жыццё. Я і не ведаў, што ты не атрымоўваеш нічога беларускага, а то я зрабіў бы так, каб ты рэгулярна атрымоўваў наш друк. Зраблю гэта цяпер! Хлопцаў палаяў за цябе, і, здаецца, яны табе напісалі. Я дзіўлюся, чаму ты не атрымаў нашага агульнага з Нонікам ліста. Яно было такое харошае, пісалася ў добрым настроі і нават было скрэплена чыстаю слязою — гарэлачнаю кропляй, што пасылалі табе напярэдадні 1 Мая. Бачыш, старыя сябрукі цябе не забываюць і нават на вялікую адлегласць пасылалі табе таварыскую кроплю.

Шкада, што табе не давялося прыехаць у Маскву. Хадзілі чуткі, што ты прыедзеш, і мы цябе чакалі. Будзем спадзявацца, што яшчэ ўлетку пабачымся з табой і пагаворым за добрым, таварыскім сталом.

Жыццё наша табе вядомае. Лазім з гасцініцы ў гасцініцу, крыху пішам, не скажу каб перасіліліся, нешта розныя дробязі страшна многа часу адбіраюць. Я асабіста каторы час бяруся за паэму і пакуль што тапчуся на месцы. Але, відаць, хутка раззлуюся, сяду, плюну на ўсё, вазьму ды напішу. Ёсць у мяне адна тэма, якая мяне вельмі хвалюе. Каб толькі так добра выйшла, як уяўляецца, лежачы на ложку. Бяда, што як сядзеш пераводзіць на паперу, дык шмат што не ўдаецца.

Хлопцы нашы ўсе на месцы, за выключэннем Аркашы, які паехаў у сваю старую газету. Ды яшчэ дабавіліся! Прыехаў з тылу Піліп Пестрак з сям'ёй. Бачыш, мы гаварылі, што стары падпольшчык не загіне. Ён такі ж бадзёры, жыццярадасны.

Міхал наш атрымаў сумную вестку. Загінула яго сям'я. Хлапец страшэнна перажывае. Шкода яго! Кузьма акрыяў так, што нават учора сам прыходзіў да мяне ў госці.

Атрымаў твае вершы. Абодва добрыя, але мне больш падабаецца: «Яшчэ рана, хлопцы, атрасаць...» Ён больш задушэўны, лірычны. Заўтра адапру ў дадатак № 4. Прышлю. Пачытаеш. Раманам не палохай, я ўпэўнены, што такі хлопец, як Пімен, можа напісаць не толькі адзін ра-

ман, а цэлую трылогію. Цягне і мяне проза. Глядзі, што спаткаемся празаікамі! Хоць і лірычнае, паэтычнае сціло не дае спакою.

Што ж яшчэ? Максім гарцуе па Маскве. Відаць, абдымае дзяўчат і крашыць разам з дрэвамі, ажно схуднеў бядняга. Нонік з Гурскім гуляюць у 501. Кандрат прывёз сям'ю і заняты ёю. Гэтым жа заняты і я.

Вось коратка і ўсё. Жадаю табе ўсяго найлепшага ў тваім салдацкім жыцці.

Твой друг, былы франтавік
*Пятрусь*

## 22. Л. А. БЭНДЭ

*18 жніўня 1943, Масква*

18 августа 1943 г.
Москва

Добрага дня, дружа Васіль!

Спяшаюся выканаць тваю просьбу, хоць і не поўнасцю. Пасылаю табе № 1 і № 3 «Літаратурнага дадатку». Як будуць выходзіць новыя, пастараюся табе высылаць акуратна. Што тычыцца другіх матэрыялаў, дык мне вельмі цяжка цяпер іх сабраць. У нашым выдавецтве неўзабаве павінны выйсці: альманах № 1 беларускай мастацкай літаратуры і паасобныя кніжкі паэтаў і пісьменнікаў. Прышлю, як толькі выйдуць з друку. Там сабрана большасць з таго, што мы напісалі за час вайны.

Дзякую за добры водгук аб паэме пра Смалячкова. Пасылаю табе экземпляр у арыгінале. Мне было б прыемна, калі б яна была надрукавана ў Ленінградзе. Аднак калі гэта будзе прыносіць многа клапот (я маю на ўвазе твой абмежаваны час), дык не варта турбавацца.

Наш універсітэт пачынае працу 1 кастрычніка пад Масквой. Думаю, што кіраўнікі яго будуць толькі вітаць тваё жаданне прачытаць курс лекцый у ім. Сустрэнуся з імі, пагавару пра гэта і дам твой адрас.

Купалаўская камісія Акадэміі навук БССР вельмі цікавіцца матэрыяламі пра Купалу, якія ёсць у Ленінградзе. Там вучоным сакратаром камісіі працуе яго жонка У. Ф. Луцэвіч. Можа, ты напішаш, што можна здабыць і на якіх умовах у Ленінградзе. Можаш пісаць ёй на Саюз пісьменнікаў.

Дзе твае? Яшчэ жывуць у Алма-Аце? Я іх бачыў там

у снежні 1942 г. Шкадаваў, што не застаў цябе там. А я са сваімі жыву ў Маскве. Значна лепш разам.

Падзеі ідуць так, што намі ўсё больш авалодвае думка хутчэй вярнуцца дадому. Як было б добра прыехаць туды яшчэ ў гэтым годзе. Усім сэрцам жадаем гэтага.

Многа цікавых вестак ёсць з радзімы, нават не знаю, пра што табе напісаць. Досыць таго, што я атрымаў адтуль ад сваёй маці два пісьмы і адно пісьмо ад брата-партызана. Бачыш, якая ў нас сувязь!

Прывітанне табе ад нашых хлапцоў і ад маёй сям'і. Кланяйся сям'і.

Шчыра жадаю здароўя і сіл!

*Пятрусь Броўка*

## 23. П. Ф. ГЛЕБКУ

*11 лютага 1945, Мінск*

11 лютага 1945 года

Дарагі дружа!

Чуў я, што ты меўся быць у Мінску. Але, маючы на ўвазе тваю руплівасць, спадзявацца на скоры прыезд нельга. Вось я і пішу табе колькі слоў з нашага слаўнага Мінска.

Жывём мы няблага, абсталяваліся, можна сказаць, добра, выраслі ўглыб і ўшыр, так што нават прыхапілі твой пакой. Юра кажа, што ён сам будзе весці з табой перамовы. На мае заўвагі, што ён будзе табе перашкаджаць, сцвярджае, што пісаць табе ён нават паможа. Вось і радуйся! Мне так памог, што за месяц ледзь выціснуў адзін драбнюткі верш, ды і той не вельмі порсткі.

Чуў я, што напісаў добрыя вершы. Прашу цябе, як члена рэдкалегіі, не забываць свой баявы часопіс «Полымя». Апрача таго, на праўленні я мушу рабіць даклад пра тваю новую творчасць. Можа, з гэтага дакладу выкіруецца артыкул для мясцовага друку і для Масквы. Дык прысылай!

Быў тут Колас. Вылучалі кандыдатаў на прэмію. Вылучылі Коласа, Куляшова, Танка. Прыпраглі і мяне са зборнікам «Беларусь». Вырашылі, каб ты напісаў патрэбны водгук. Калі можаш, зрабі, бо ніхто так пра мяне не напіша дасканала, як ты. Канечне, атрымаць я нічога не атрымаю, але хоць паказацца на хвіліну ў добрай вупражы перад людзьмі і то няблага.

Што ў нас яшчэ? Атрымалі партызанскія медалі. Твая

ляжыць у ваенным аддзеле ЦК і чакае цябе. Прыязджай і начапляй, можа, хоць будзе апраўданне былым тваім пышным вусам! Падалі і на маскоўскія, але што з гэтага выйдзе, невядома. Падгані! Ты ж там маеш моц у Маскве!

Як у вас пагода? У нас цёпла, лагодна. Прыязджай, а то акалееш там у сваім «Якары». Дома яно заўсёды спакайней.

Кланяюцца табе Лёля і Юрка.

Не забывайся, што ёсць у Мінску Белорусская 4, дзе ты законны ўладар некалькіх метраў і дзе ёсць у цябе шчырыя сябры.

Бывай, бывай.

*Пятрусь*

## 24. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*23 ліпеня 1945, Мінск*

23.VII.45 г.

Дружище Павел!

У нас теперь такая обстановка — отсутствие жилья, многие в разъездах, срочные задания и пр., что я не позвал тебя приехать. Думаю, лучше будет, если ты приедешь позже.

А с ленинградскими поэтами нам связаться надо покрепче. Все они очень хорошие ребята и поэты.

Напиши толком, что можно из белорусского издать в Ленинграде, и мы поручим товарищам собрать и прислать материал. Кстати, пришли кое-что Прокофьева, Саянова и др. Переведем и напечатаем.

Вот так. Напиши мне о твоих соображениях.

Желаю тебе всяческих удач.

*Петрусь Бровка*

## 25. П. ПАНЧАНКУ

*23 ліпеня 1945, Мінск*

23. VII. 1945 г.
Мінск

Здароў, браце Пімен!

Выслаў я табе «Полымя», якое ты так расхваліў. А я дык баюся, што як ты прачытаеш яго, дык папросіш, каб болей не прысылаў, бо яшчэ больш нуды займееш у сваёй далёкай вандроўцы. Але як кажуць: «Чым багаты, тым і

рады!» Вось паклапаціся, браце, сам і часцей надсылай што-небудзь сваё, улівай «свежую струю», бо пішаш ты ў наш тоўсты часопіс вельмі мала. Вершы, што перадаў Максім, ідуць у № 5. Скажу табе па праўдзе, што яны мне вельмі падабаюцца.

Не знаю, пра што табе пісаць. Відаць, Максім табе напісаў пра ўсё падрабязна. Не ведаю, з чаго і пачынаць.

Як мы жывём? Сядзім стала ў сваёй сталіцы, і, сказаць табе шчыра, што пасля доўгіх вандровак пастаяннае аселішча нам даспадобы. Адна бяда — ганяюць нас з кватэры на кватэру, але гэта такое складанае пытанне, што ні ў якім лісце не апішаш. Ды толькі з кожным днём і гэтая справа ўлагоджваецца.

Якія самыя апошнія навіны? Лынь прыляцеў з Сан-Францыска. Знадворку — сапраўдны амерыканец. Курыць цыгары канадскія, сыпле па-ангельску, глядзіць на гадзіннік швейцарскі, крэмсае зажыгалку уругвайскую — адным словам, увесь свет сабраў у сабе. А сур'ёзна кажучы, многа цікавага расказаў пра заакіянскае жыццё.

Максім не дае маху так, як ты. Узяў ды і спарадзіў дзвюх дачок. Вось і падумай пра гэта. Толькі глядзі, не мыляйся, не бяры заморскую красуню, не абдымай персіянскі стан, бо я ведаю: ты вельмі слабы на такія рэчы. Прыязджай лепш сюды, а дзевак тут беларускіх, ды і вельмі добрых, табе хопіць.

Да Ноніка прыехала жонка з Нямеччыны. Сядзіць цяпер дома, як у клетцы. Не чуваць яго бадзёрага заклiку, не відаць яго мілага твару там, дзе «пуншу пламень галубы». Адным словам, жыве, як стары дзед. Можа, ты яшчэ толькі і здолееш яго расшавяліць.

Кулеш грае ў пульку. Кучар жлукціць піва. Гурскі бясконца піша апавяданні, драмы і камедыі.

Вось і каратка пра нашае жыццё.

Літаратурнае жыццё можна было б ажывіць, каб у нас было болей людзей. Часопісаў і розных выданняў больш, як да вайны, а пісьменнікаў, асабліва добрых, прыбавілася мала.

Вось чаму наш табе наказ: досыць заморскіх красунь і він, паварочвай аглоблі дахаты. Мы табе падбярэм дзяўчыну, хоць, можа, і не такую прыгожую, дык затое моцную. Прыязджай, пакурвай трубачку, абдымай жонку і пішы, і пішы...

Вітанне табе ад усіх хлапцоў.

*Пятрусь*

## 26. У РЭДАКЦЫЮ ГАЗ. «ПРАВДА»

*16 лістапада 1945, Мінск*

16. XI. 1945 г.

Дорогие Вадим Михайлович, Кирилл Васильевич, Юрий Борисович!

Я получил выписку о зачислении в штат «Правды». С того же дня мной овладело беспокойство, что делать, чтобы быть полезным? Условия передвижения теперь по районам ужасные, и я право не знаю, как почерпнуть свежие материалы.

На днях выезжаю в одно замечательное рыбное хозяйство. Хочу написать о рыбах, вернее, о людях, растящих белорусскую рыбу. Ко Дню Конституции пришлю, если подойдет, стихотворение. Задумываюсь над рассказом, но не знаю, что выйдет?

Очень прошу Вас написать мне кратенько, что я должен и в каких размерах делать для литературного отдела? Постараюсь по мере сил выполнять.

Примите мое, хотя и запоздалое, поздравление с высокой наградой.

Уважающий Вас *Петрусь Бровка*

Минск
Белорусская улица, дом № 4, кв. 14.

## 27. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*26 лютага 1946, Мінск*

26. 2. 1946 г.
Минск

Дружище Павел!

Благодарю за память. Письмо твое получил. Очень рад, что дело с антологией у вас движется. Должен сообщить, что и наши товарищи работают неплохо. Передай Саше Прокофьеву, что я уже перевел около 700 строк «России». Работаю уже второй месяц. Думаю к концу марта перевод «России» окончить. Поторопи Сашу — пусть он присылает остальные стихи для сборника. Его поэма в моем переводе пойдет в № 5 «Полымя».

Что касается количества строк для каждого нашего поэта в сборнике современных поэтов, то мы целиком пола-

гаемся на В/осведомленность. Вы сами прекрасно знаете, сколько кому дать, а если немного не угадаете — не заплачем. Пусть материал вам указывает.

Посылаю на твое имя пару новых стихов. Посмотрите, что с ними сделать?

Относительно книг. Я говорил с Сашей Прокофьевым. Прошу и тебя. Ты выясни, можно ли достать русских классиков и на каких условиях. Денег, тысяч пять, я смогу перевести, куда ты укажешь. Переслать мне может помочь директор Союзпечати Белоруссии, у которого в Ленинградском отд. Союзпечати — директор близкий друг. Если может помочь достать книги Саша — попроси его от моего имени. Скажи ему, что «Россию» на белор. языке я ему вышлю.

Посылаю искренний привет Саше, Николаю, Всеволоду Александровичу, Мите, а также Виктору Саянову.

Желаю тебе всего наилучшего!

*Петрусь Бровка*

## 28. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*23 кастрычніка 1946, Мінск*

23. X. 46 г.
Минск

Дорогой Павел!

В отношении Гаруна я один решить не могу. Поставим на правление, обсудим и телеграфно сообщим Вам. Сегодня я об этом передам Ковалеву.

Что с В/антологией и сборником Саши, затрудняюсь сказать, потому что уже месяц болею и не выхожу из дома. Через несколько дней пойду в издательство и выясню.

Как мы живем? Да неплохо. Будешь ехать с курорта, сам увидишь. Много спорим по литературным вопросам, но дело все к лучшему.

Я тебя попрошу узнать одну вещь: есть ли в Ленинградской публичной библиотеке архив Полоцкой окружной газеты «Чырвоная Полаччына» за 1926, 1927 и 1928 год? Не могу восстановить ни одного стиха за те годы.

Кланяйся низко Александру Андреевичу, Николаю Леопольдовичу, Всеволоду Александровичу, Виссариону Михайловичу.

Твой *Петрусь Бровка*

## 29. Я. КОЛАСУ

*5 чэрвеня 1947, Сочы*

5 чэрвеня 1947 г. Сочы.

Дарагі дзядзька Якуб!

Шчырае Вам прывітанне ад «Чэрлінага мора», ад кіпарысаў, магнолій і пальм, ад вечаровых светлячкоў, ад усяго, што так хораша тут. Шчырае Вам віншаванне з унукам Сяргеем, прадаўжальнікам слаўнага роду Міцкевічаў. Няхай яму будзе светлай дарога на нашай роднай зямлі.

А я сяджу вось ужо другі месяц тут, у Сочах. Мушу Вам сказаць, што гэты наш беларускі санаторый мне даспадобы. Усё тут арганізавана спрытна і ладна, і паправіцца можна добра. Месца для адпачынку прыгожае, зацішнае, яда здавальняючая, купанне ў моры і лячэнне ў мацэсцінскіх ваннах вельмі многа даюць. Я сябе адчуваю значна лепш, чым у Мінску. Калі б у Вас была магчымасць і настрой прыехаць сюды, то гэта было б вельмі карысна для Вас.

Прыходзяць сюды і беларускія газеты, часопісы, прыязджаюць людзі з Мінска, так што мы тут у курсе амаль усіх беларускіх спраў. Адпачываюць тут усе з Беларусі, больш работнікі нашых райкомаў. З сямей — сям'я Наталевіча і Эйдзінаў з усімі сваімі.

Пагода тут як заўсёды на поўдні — цёплая, сонечная. Праўда, і тут сёлета вясна халаднейшая, як і ў нас. Купацца толькі нядаўна пачалі. З ягад на рынку поўна — чарэшні, вішань, клубнікі і інш.

Жылі мы тут месяц разам з Сцяпанам Казіміравічам Майхровічам. Я ўжо рашыў адпачыць дык адпачыць — застаўся тут на другі месяц, купіў за 3000 рублёў месца і выклікаў Лёлю. Прылячу ў Мінск 28 чэрвеня.

Рабіць тут амаль нічога не раблю. Прыеду ў Мінск, тады засяду.

Трэба мне быць і ў Маскве, але туды паеду, відаць, пасля звароту адсюль. Вы, мабыць, будзеце на пленуме ў канцы чэрвеня.

Яшчэ раз вітаю Вас і шлю Вам паклон ад Лёлі, а таксама наша шчырае пажаданне здароўя і сіл.

Ваш *Пятрусь Броўка*

Сочи, санаторий «Белоруссия»,
П. Бровка

P. S. Кланяемся Даніле і Міхасю. *П.* і *Л.*

## 30. Д. Д. ОСІНУ

*11 ліпеня 1947, Мінск*

11 июля 1947 г.

Дорогой Митя!

Посылаю тебе «Катерину». Я сократил до 1800 строк. Право же, легче сокращать ее при работе, да и твой хирургический нож будет ходить увереннее.

Желаю тебе здоровья и успеха в работе.

Нина мне говорила о письме А. А. Фадееву. Я улетал рано и никого не застал в Союзе. Пошлем на твое имя письмо с Аркашей. Если нужно будет — присовокупи.

Привет семье. Обнимаю тебя.

*Петрусь*

## 31. Я. КОЛАСУ

*17 кастрычніка 1947, Мінск*

17. X. 1947 г.
Мінск

Дарагі дзядзька Якуб!

І ліха ж яго ведае як далёка Ваш Кіславодск. Ці не за марамі ён і за акіянамі? Чаму так доўга ідзе адтуль ліст? Гэта ж толькі на 7 дзень атрымаў я яго. Да гэтага званіў некалькі разоў Вам дахаты, але на звон адказу не атрымаў.

Вы скардзіцеся, што непрыветна Вас сустрэў курортны гарадок, нават хацелі паварочваць аглоблі. Маю надзею, што Вы ўжо асталяваліся, прывыклі, азнаёміліся з тымісімі мясцовымі «здабыткамі» і цяпер гэты настрой прайшоў. Калі Вы прывыклі да нарзанных ваннаў, да адпачынку, і гэта Вам на карысць, то не спяшайцеся вельмі сюды, бо тут цяпер самая гарачыня.

Як Вам вядома, я нясу ў некалькі разоў грамадскай нагрузкі менш за Вас, дык вось Вам для ўзору цяперашні мой дзень.

Возьмем яго, хоць бы — 15. X: устаў у 8 гадзін. Пісаў артыкульчык для ўзаемнай перадачы з Украінай, у 10 гадзін пасяджэнне партбюро, у 12 гадзін пачалося праўленне і цягнулася да 3-х. У 3 гадзіны засядаў на Савеце Міністэрства кінематаграфіі. У 5 ледзь паспеў паабедаць, як пайшоў па аднаму выкліку ў ЦК, у 7 гадзін засядаў у оперным тэатры. Калі дадаць, што кожны дзень прыходзіць

тэлеграма альбо звоніць званок з заказам, дык Вы зразумееце, што ў нас цяпер цяжка!

Былі гэтымі днямі ў Панцеляймона Кандратавіча. Як і заўсёды, вельмі многа гаварыў на гістарычныя тэмы, і, як заўсёды, цікава. Вельмі крыўдзіўся, што некаторыя зневажаюць Скарыну, і нават мне крыху перапала за тое, што ў хроніцы ў «Полымі» надрукаваў водгук пра Скарыну Гутарава.

Гэта аб справах. Цяпер аб пагодзе: увесь час тут стаяла цёплае, сонечнае надвор'е, але, відаць, як усяму, так і ўсяму добраму бывае канец — сягоння ўжо хмарна і, калі я вам пішу, па падаконніку барабаніць дождж.

Лынькоў і Кандрат заняты ў акадэміі. Новік, як наш партыйны сакратар, увесь час нас ганяе. Пасля Вашага ад'езду яшчэ ні разу не сабраліся.

Адна надзея, што набліжаецца свята, а значыць, пад'едзеце і Вы, і мы сабярэмся дзе-небудзь ды пагаворым і запяём.

Дык бывайце ж здаровы, набірайцеся моцы, каб пасля нарзану Вы не зналі стомы ані ў працы, ані ў чым.

Кланяйцеся нашым дарагім сябрам Насценьцы і Сашу, а мы тут як-небудзь вырвем хвіліну і ўзнімем за тое, каб Вы вярнуліся дужымі!

Ваш *Пятрусь*

## 32. Я. КОЛАСУ

*29 кастрычніка 1947, Масква*

29. X. 1947 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Пішу Вам з Масквы. Выклікалі сюды, як быццам дзеля паездкі ў адну суседнюю з намі дзяржаву. Сяджу ў гасцініцы і чакаю афармлення.

У Мінску цяпер вельмі многа перадсвяточных клапот, адны тэлефонныя размовы з газетамі адбіраюць шмат часу. Прыехаў Іаўчук, і на ўсім нашым культфронце пачаўся жывейшы рух. У акадэміі нешта вырашаюць з яе прэзідэнтам.

Пагода была тут добрая. Праўда, учора ліў дождж, а сягоння зноў ясна, хоць і холадна. Мароз ужо добра шчыпле за нос.

Як жывеце Вы? Мабыць, у Кіславодску цяпер цяплей і весялей. Прывітанне Сашу і Анаст. Васільеўне.

Ваш *Пятрусь*

## 33. Я. КОЛАСУ

*7 мая 1948, Кіславодск*

7. V. 48 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

На другі дзень, як Вы паехалі з Масквы, я накіраваў Арона Куперштока да Сямыніна. Ён злётаў і паведаміў мне, што яго не застаў. Я даручыў яму ўсю справу, растлумачыў яму ўсё як след, і ён абяцаў мне, што Сямынін пазвоніць Вам.

Сам я прыляцеў у Кіславодск добра, адно толькі, што перамёрз вельмі ў сваім летнім палітончыку. Думаў, што ў Кіславодску адагрэюся, ды дзе там — трапіў у такую непагадзь, што залез пад коўдру і чатыры дні ляжаў не вылазячы. 1 Мая ў нас было таксама холадна. Вось ужо з 2 мая пачалося цяпло і трымаецца дагэтуль. Аджыў, нават крыху прасмалеў на сонцы.

Перадаў Ваша прывітанне Міхаілу Іванавічу Калініну. Ён быў вельмі ўзрадаваны, прасіў вітаць Вас і напомніць, што чакае ад Вас кніжкі. Вельмі харошы ён чалавек. Я ў яго таксама лячуся і ўпадабаў яго. Перадаў Вашы прывітанні Маргарыце Вісарыёнаўне, Ведзяшкінай, яны дзякавалі Вам і ўспаміналі Вас добрым словам, а што тычыцца Вольгі Іванаўны, дык дагэтуль яшчэ яе не бачыў. Яна ў водпуску, як прыйдзе — перадам.

Жыву ж у 3 корпусе, на адлёце. Крыху сумна аднаму, але калі ўспомніш мінскі пыл, дык мірышся з усім. Прымаю ванны і яшчэ ўсялякую трасцу. Здаецца, што ўсё гэта ідзе на карысць.

Жыццё тут аднастайнае, так што дзень падобен на дзень. Адно толькі, што вясна ўступіла ў правы, і з кожнаю раніцай усё бялей робяцца сады навокал, і ружовым цветам гарaць абрыкосы.

Відаць, і ў Вашым садку цяпер не блага. Вітанне ж Вам пасярод сваіх сосен. Вітанне кожнаму Вашаму кусту і дрэву, якія прыкрываюць Вас ад ветру і ўзнімаюць Вашы думкі.

Нізкі паклон з Кіславодску!

Даніле, Міхасю, Наташы і малому Сяргею — прывітанне!

Прывітанне Мар'і Георгіеўне — слаўнай гаспадыні.

Ваш *Пятрусь*

## 34. Я. КОЛАСУ

*12 мая 1948, Кіславодск*

12. V. 1948 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Атрымаў Ваша вялікае пасланне. Дзякую за памяць. А мне нешта не вельмі спрыяе ў Кіславодску. З тыдзень пасля 2 мая пастаяла добрае надвор'е, а цяпер зноў сцюжа, дажджы і шалёныя вятры.

Адна ўцеха, што купаюся ў нарзане і спадзяюся на карысць. А то хоць ваўком вый — такая нудота. Думаю выехаць адсюль крыху раней тэрміну і пагрэцца крыху (тыдні два) у Сочы. У Мінск мяркую прыляцець 5—6 чэрвеня. Так і скончыцца мой сёлетні адпачынак.

З Міхаілам Іванавічам часта ўспамінаем Вас і шкадуем, што Вас тут няма. Яно пры Вас і ў гэткую пагоду было б весялей. А аднаму нудота.

Вольга Іванаўна яшчэ не вярнулася з адпачынку, і я так і не здолеў перадаць Вашага прывітання.

Хаджу я тут адзін каля «Красных камянёў», каля «Храма воздуха» і ўсё паглядаю ў свой бок. Больш ніколі адзін не буду выбірацца на курорты. У Сочы там іншая справа. Там усе свае, адным словам, невялічкі куток Беларусі, і дні праходзяць цікавей. А тут узыду я на «Красное солнышко» — там стаіць скульптура «Чабана», пастаім удвох, памаўчым, і іду я ад яго ізноў снедаць ці абедаць, а потым і спаць.

Жыццё Вам вядомае, аднастайнае. Што чутно з Сямыніным? Вельмі мне б хацелася, каб, нарэшце, шматпакутны пераклад «Новай зямлі» быў даведзен да ладу.

Шлю Вам шчырае прывітанне ад усіх Вашых сяброў і свой нізкі паклон.

Жадаю Вам здароўя і поспеху ў працы, а сабе жадаю аднаго — хуткай сустрэчы з Вамі.

Ваш *Пятрусь*

## 35. ЯРЦАВУ

*Пачатак верасня 1948, Мінск*

Директору издательства
«Советский писатель»
тов. Ярцеву

Книги умершего в 1941 году писателя-орденоносца

Змитрока Бядули, пользующиеся любовью и популярностью в Белоруссии, известны и за пределами ее.

За 30 лет произведения З. Бядули выдержали свыше 40 изданий на русском, украинском и других языках народов СССР.

Совсем недавно в издательстве «Советский писатель» в переводе П. Кобзаревского вышло новое издание повестей «В дремучих лесах» и «Соловей».

З. Бядуле принадлежит также двухтомный роман о классовой борьбе в Белоруссии «Язэп Крушинский», первый том которого известен русскому читателю в переводе.

Если с изданием произведений Бядули на русском языке дело обстоит вполне благополучно, то до сих пор читатели мало знают о жизненном и творческом пути старейшего белорусского писателя.

Этот пробел восполняет монография кандидата филологических наук, литературоведа тов. М. Д. Смолкина «Змитрок Бядуля», предложенная автором издательству «Советский писатель».

Правление Союза советских писателей БССР просит редакционный совет издательства «Советский писатель» внимательно отнестись к работе тов. Смолкина и включить ее в план издательства на 1949 год.

*Главный секретарь*
*Союза*
*советских писателей БССР*
*(П. Бровка)*

## 36. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*10 кастрычніка 1948, Мінск*

10.X.1948 г.

Дорогой Павел!

Письмо твое и деньги получил — большое спасибо! Очень неприятно, что Иринин не выполнил моей просьбы включить «Прощальное слово», да еще утверждает о каком-то согласовании со мной. Я же его просил при отъезде включить перевод именно А. Прокофьева.

Хорошо понимаю недовольство Саши. Постарайся сгладить все это дело. Поверь, что мне самому горько. Убеди, что в дальнейшем во всех случаях будем относиться ко всяким таким вещам очень внимательно.

Завтра же скажу выслать нужные тебе стихи.

Ну, пока! Будь жив!

Поклон Саше. Скоро будем праздновать и будем рады видеть Вас у себя.

*Петрусь Бровка*

## 37. У. І. КОРБАНУ

*5 сакавіка 1949, Мінск*

Паважаны тав. Корбан!

Зборнік Ваш атрымаў і прачытаў. Мне здаецца, што яго можна надрукаваць. З такім заключэннем я пераслаў яго ў выдавецтва.

Раю Вам туды звярнуцца. Адносна прысылкі брыгады — справа пакуль што цяжкая — усе раз'язджаемся, але, відаць, нехта трапіць і ў В/вобласць. Адносна зборніка — зварочвайцеся ў выдавецтва да тав. Шарахоўскага.

З пашанай да Вас.

5. III 1949. *Пятрусь Броўка*

## 38. Я. КОЛАСУ

*3 лістапада 1949, Кіславодск*

3.XI.49 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Шчырае прывітанне табе ад невялікіх кіславодскіх гор і ад нарзанных вод. Сяджу тут, купаюся ў нарзане і смуткую, смуткую... Добра яшчэ, калі пагода — схаджу на горку ды пакланюся сівому Эльбрусу, а калі дождж — нуджуся ў сваім маленькім пакойчыку, што ў камеры. Адна ўцеха — нядоўга засталося! Перасвяткую, крыху адпачну, ды бягом дахаты.

Жыццё маё, як Вам на ўласным вопыце вядома, аднастайнае. Ем, купаюся ды сплю. Сустрэў тут Касцюка, В. В. Ярмілава (Літгазета), С. Шчыпачова. Запрашаюць у госці. Мабыць, схаджу, абы час хутчэй ішоў.

Як маецеся Вы? Чытаю Вашы артыкулы, чытаю пра тое, як седзіце ў прэзідыуме. Веру, што і Вам хапае. Але бяздзейнасць горш за ўсё. Ніколі не было мне так сумна, як у гэты раз.

Вітаю Вас са святам. Жадаю правесці яго ў здароўі і радасці. Пакуль Вы паедзеце ў Маскву, відаць, я яшчэ вяр-

нуся дамоў і буду вельмі рад моцна абняць Вас і пацалаваць.

*Пятрусь Броўка*

Кіславодск,
Санаторый Семашко
*П. Б.*

P. S. Данілу і Міхасю — паклон.

*П.*

Паклон Максіму Лужаніну.

*П.*

## 39. П. Н. КАВАЛЁВУ

*1 ліпеня 1950, Дубулты*

1.VII.50 г.

Друг мой Павел!

Як водзіцца на курортах, заўсёды не хапае, а мне трэба паслаць сёстрам. Прашу цябе ўзяць пенсію па маім даручэнні за адну палову і паслаць ад майго імя сёстрам у наступныя дзве раты:

*3—4 ліпеня*
гор. Лепель, Витебской обл.
ул. Буденного д. 22.
Тарасевич
Марии Устиновне — *300 руб.*
п/о Зэльва, Гродненской обл.
м. Деречин, ул. Новая 26
Бровко
Валентине Устиновне — *300 руб.*

Такую порцыю прашу выслаць ім 1—2 жніўня.

Грошы прашу выслаць абавязкова ў два тэрміны. Так ужо ў мяне заведзена. Адной паловы хопіць.

Пенсію я не атрымліваў з 1 чэрвеня, так што, пакуль я прыеду, Літфонд здолее вылічыць за пуцёўкі і яшчэ застанецца.

Як мы жывём? Ды няблага, толькі пагода і тут капрызная: добрая— адпачываем, благая — «сидим у моря и ждем погоды».

Жадаю табе і тваёй сям'і ўсяго найлепшага. 6 жніўня прыеду і пушчу цябе пагрэцца, можа, тады і надвор'е распрыяе.

Паклон сябрам.

Твой *Пятрусь Броўка*

## 40. Я. КОЛАСУ

*6 ліпеня 1950, Дубулты*

6.VII.1950 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Вось і я абзываюся з Балтыйскага мора. Першы дзень, што крыху пагрэўся, а то сядзеў у мора, чакаў пагоды, дрыжэў і калаціўся ад злосці. Не, відаць, сапраўды нашаму брату-беларусу няма чаго далёка шукаць адпачынку: бяры вудачку і садзіся да Свіслачы, а там грыб і ўсялякае такое...

Калі будзе спрыяльнае надвор'е, дык, можа, за гэты месяц крыху і адагрэемся. Умовы для жыцця тут неблагія: маем на беразе мора 2 пакоі, кормяць няблага, а што больш трэба. Сумнавата, дык чытаю кніжку, а часамі бяруся за пяро.

Вось і ўсе мае навіны. 21 ліпеня буду святкаваць 10-годдзе Савецкай Латвіі, а там у першых лічбах жніўня пацягнуся ў родны кут.

А ў свеце ідуць вялікія падзеі. Кожны дзень паглядаю на карту Карэі і хвалююся, каб скарэй дайшлі паўночныя таварышы і перакулілі амерыканскую погань у мора. Калі Карэя будзе вольнай, тады не страшан Макартур у Японіі.

Чытаў пастанову пленума і бачыў Ваш подпіс пад адозвай. А я толькі сёння, здаецца, падпісваю. Такі ў нас графік. Хочацца, па праўдзе кажучы, мне і дадому, але дачакаю канца.

Як Ваша здароўе? Як пасоўваецца праца? Як Даніла і Міхась? Прывітанне ім.

Нізка кланяюся Вам з латвійскай зямлі.

Прывет Максіму.

Ваш *Пятрусь Броўка*

## 41. Я. КОЛАСУ

*2 лістапада 1950, Мінск*

Дарагі дзядзька Якуб!

Вось ужо лістапад, а заўтра — 3 — дзень Вашага нараджэння. Прыміце ж ад мяне самы гарачы пацалунак і пажаданні ніколі не хварэць і пажыць так, каб і сабе на радасць, і каб нам сумна не было.

Учора гаварыў з Максімам. Ён перадаў, што ў Вас справа ідзе на лад. Я вельмі рады гэтаму. Аднак наша Вам парада — замацуйцеся добра, не асабліва спяшайцеся сюды. Усё тут па-старому, нічога асаблівага няма. А Вам добра было б паехаць ў Барвіху. Ды і надвор'е ў нас увесь час было вельмі паганае, толькі два дні як пабачылі сонца і невялічкі марозік падбадзёрыў нас.

Што новага ў нас? Было бюро ЦК. Слухалі справаздачу «ЛіМа». Гаварыў прамову і я. Горцава вызвалілі ад абавязкаў рэдактара. Непрыемны ён і несправядлівы чалавек. Я здзіўляюся, як мы яго трымалі аж тры гады. Шукаем цяпер новага рэдактара. Нашы хлапцы адмаўляюцца. Але як ёсць газета, дык будзе і рэдактар!

Прымаў усіх пісьменнікаў Ц. С. Гарбуноў. Вельмі добра пагаварыў аб нашых задачах.

Сам я жыву вельмі клапатліва. Тузаюся па пасяджэннях, пішу розныя допісы, ажно галава кружыць. Збіраюся ўсё ж у свята адкінуць усё дый пабавіцца крыху з сябрамі. Вельмі шкада, што не будзе Вас паміж намі, але Вы можаце быць пэўны, што і праз адлегласць Вы будзеце сядзець між нас, а мы праз кожныя колькі хвілін будзем чокацца з Вамі.

Дык са святам цябе, дарагі дзядзька Якуб!

Будзь здаровы і вясёлы.

Абдымаю і моцна цалую.
Заўсёды твой *Пятрусь Броўка*

## 42. У. І. КОРБАНУ

*14 лістапада 1950, Мінск*

Паважаны таварыш Корбан!

Прабачце, што затрымаў з адказам. Свята, і ўсё такое, што адбірае шмат часу. Баюся, што праца Ваша цяпер не выкарыстаецца, бо асобна «Назара Стадолю» выдавецтва выдаваць не будзе.

Раю Вам на ўсялякі выпадак пагаварыць з т. т. Шарахоўскім і Танкам. Можа, яны што прыдумаюць? Наогул такія працы трэба рабіць па дамоўленасці з выдавецтвам ці часопісам.

*Пятрусь Броўка*

14/XI.1950 г.

## 43. Я. КОЛАСУ

*21 лістапада 1950, Мінск*

21.XI.1950 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Атрымаў Вашу першую паштоўку, але не адказваў, бо спадзяваўся з дня на дзень пабачыць Вас дома. На жаль, як відаць па другім пісьме, Ваш прыезд адкладаецца.

Я ўсё ж не згодзен з Вашым «рэалістычным» паглядам аб нейкай безнадзейнасці, і ўсе тлумачэнні з боку пісьма маюць больш аптымістычны і рэалістычны характар,— трэба патузацца і перамагчы. Доўгая ростань з прывычным месцам, сваімі, благое надвор'е — усё адно да другога, відаць, уплываюць на Ваш настрой.

Адкіньце ўсялякія сумныя думкі і пастаўце перад сабой задачу вярнуцца здаровым і бадзёрым. Такім Вас мы і дадому чакаем! Барвіху закідаць не варта, як папраўцеся — трэба замацавацца. У нас жа яшчэ вельмі благая пагода — слата. Сёння, праўда, невялікі марозік. Хадзіў, гуляў, але не паспеў нарадавацца, прыйшоў дадому, а радыё зноў у канцы дня абяцае дождж.

Так што Барвіха і з гэтага боку на гэты час лепш. Каля Масквы надвор'е больш сухое.

А цяпер па парадку пра нашы навіны. У суботу гулялі ў Ноніка аж да раніцы з прычыны ўслаўлення яго новым званнем. Былі: Кандрат, Міхал, Барысенка, Мацэпура, Ерафееў, Кедраў-Зіхман, ну і жонкі, як вядома. Пагулялі добра, толькі адна была перашкода. Гадзін каля дзвюх ночы аўтаінспекцыя сцягнула Кандратаву машыну. Быў цэлы перапалох, пакуль не вярнулі машыну назад. Гэта яшчэ раз доказ, што ад машыны адна пакута чалавеку. Нельга нават выпіць спакойна.

Быў на вечары і Ваш Даніла. Мушу сказаць Вам на радасць, што ён адзіны з нас не піў гарэлкі, а толькі адзін баржом. Усе пачалі гаварыць, што ён ажаніўся. Калі я ў перапынку запытаўся ў яго, ці праўда, ён сцвердзіў, што так. Кажуць, што жаніўся ён на той самай дзяўчыне, да якой заляцаўся, на Зарыне, ці што, якая, кажуць, і Вам падабалася. Здаецца, і мне Вы казалі, што яна добры чалавек.

Калі ўжо сплетнічаць, дык яшчэ адзін дадатны факт у яе бок. Ад Глебкі ездзілі яе запрашаць на вечарынку, але яна адмовілася, каб не ператварылася гэтая вечарынка ў яе агледзіны. Відаць, разумны чалавек!

Так што, дарагі дзядзька Якуб, у хаце ў Вас цяпер парадак, прэч усялякі сум, прыязджайце здаровым, ды пацяшайце сваё сэрца, ды гадуйце ўнукаў. Быў у ЦК. Перадаў ад Вас прывітанне Гарбунову. Ён абяцаў напісаць Вам. Калі буду ў Мікалая Сямёнавіча, перадам прывітанне і яму.

Была прэм'ера Кандрата Крапівы «Пяюць жаваранкі». П'еса ўсім вельмі спадабалася.

Вось як быццам і ўсе нашы навіны. Шлю Вам шчырыя паклоны ад усёй маёй сям'і і ад усяго сэрца жадаю з Вамі хуткай і радаснай сустрэчы!

Моцна цалую Вас.

Ваш *Пятрусь Броўка*

## 44. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*28 лістапада 1950, Мінск*

Уважаемый Павел Семенович!

Ко мне обратилась с просьбой тов. Михайлова О. Г. о розыске сборника стихов ее покойного мужа.

Будь любезен, пришли этот сборник ей. Она хочет его кое-кому показать.

Что ты замолчал? Когда будете чествовать Сашу? Мы только что отпраздновали юбилей Петра.

Будь здоров!

*Петрусь Бровка*

28.XI.1950 г.

## 45. Я. КОЛАСУ

*2 снежня 1950, Мінск*

2/XII.1950 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Вось ужо і снежань, а снегу няма. Некалькі дзён паляжаў, а цяпер хоць бы каліва. Ізноў грязна і сыра. Відаць, да Новага года так і будзе. Дні малыя, а цягнуцца яны вельмі нудна. Праходзяць яны як па заведзеным калясе, агледзішся, а іх ужо і парадкам мінула.

Калі падлічыць, дык ужо хутка будзе два месяцы, як Вы з дому. Добра, што справы Вашы ідуць пакрысе на папраўку, так мне людзі казалі, ды з апошняга ліста чуваць

і Ваш больш бадзёры голас. Трэба ўжо Вам там замацавацца як трэба, а вярнуўшыся дадому, жыць як па гадзінніку. Нічога не зробіш — здароўе патрабуе ўвагі. Трэба адкінуць розныя допісы і дробныя даручэнні, што толькі дзёргаюць, а рабіць тады, як самому хочацца. Відаць, Вы і самі думаеце пра гэта.

Што мы робім? Ды ўсё святкуем. Два разы збіраліся ў чэсць нашага друга Глебкі. Відаць, сам вінавайца, быў у Вас і расказваў, як мы шчыра бралі ў яго славу. На апошнім вечары ў Доме пісьменніка (дарэчы, мы яго крыху адрамантавалі) у чэсць юбіляра нас, 60 чалавек, сядзела да 3 гадзін ночы. Было і наша непасрэднае начальства. Узнімалі тост за Вашу папраўку, і Вы, мабыць, адчувалі, як мы шкадавалі, што Вас не было між нас.

Хутка да Вас часцей будуць наведвацца Вашы сябры. Цяпер у Вас Глебка, на днях едзе Лужанін, каля 10-га Міхась з Зосяй, каля 18—19-га — я. Так што да Вас адна толькі просьба: загадайце свайму арганізму непахісна мацнець і штораз сустракаць нас весялейшым.

У нас цяпер, як і ўсюды, выбары. Пасылаю Вам вытрымку з рэгістрацыйнага спіса. Як бачыце, Вас і хворага не забываюць. Так што папраўляйцеся і дайце справаздачу, як там жылі — сваім выбаршчыкам у гарсавет ад 178 выбарчай акругі.

Можа, ды залічаць Вас потым у Зялёную камісію, я ж там, будзем тады думаць, як больш насаджваць дрэў у нашай сталіцы, а яна ўсё будуецца і харашэе, а сэрца так радуецца ад гэтага.

Папраўляйцеся і прыязджайце, спраў у нас багата, багата!

Ваш *Пятрусь Броўка*

## 46. У. І. КОРБАНУ

*12 снежня 1950, Мінск*

Паважаны тав. Корбан!

Звярнуўся я з просьбай да тав. Карасёва — сакратара гаркома гор. Орша, каб ён Вам дапамог.

Думаю, што ён зробіць усё магчымае, бо праўда на Вашым баку. Крыўдна, што ёсць у нас людзі, якія не разумеюць вялікага значэння літаратурнай працы. Ды што ж, такіх трэба пераконваць і просьбай і грозьбай.

Не падайце духам, а працуйце, праца ўсё пераможа! Жадаю Вам усяго найлепшага.

*Пятрусь Броўка*

12/XII.1950 г.

## 47. Я. КОЛАСУ

*23 снежня 1950, Мінск*

23.XII.1950 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Так і не давялося мне пабыць у Вас. У панядзелак, 18 снежня, як пайшоў на пасяджэнне ў Міністэрства кінематаграфіі, дык і праседзеў там ад 12 гадзін раніцы да 12 гадзін ночы. Можна было б вырвацца на якую гадзіну, ды справа ў тым, што там праглядалася наша карціна «Савецкая Беларусь», і выходзіць было нязручна. А ў 12.40 я ўжо сядзеў у цягніку Масква — Мінск.

У Мінску ўжо каторы дзень, як звычайна, бегаю па пасяджэннях, а то ў нас залішне багата.

Што тут чуваць? Выпаў снег, і ўсталявалася добрае надвор'е. Ажно стала весялей глядзець на свет, а то заядалі гразь і слата.

Скончылі адны выбары, бярэмся за другія. Вылучылі мяне ў выбарную камісію, значыць, давядзецца папрацаваць. Не забываемся і пра юбілеі. 25 снежня Ленінград адзначае 50 год Сашы Пракоф'ева. Мы тут падрыхтавалі яму папку, купілі ў складчыну залаты гадзіннік за 3000 рублёў, зрабілі надпіс на ім, змясцілі артыкул і некалькі перакладаў вершаў у нашым «ЛіМе», і ўсё гэта пасылаем гучна цераз Максіма Лужаніна юбіляру.

Максім маецца з Ленінграда ехаць адразу ў Маскву і мяркуецца там быць каля 27—28 снежня.

Вось і ўсе пакуль нашы навіны. Праўда, адбыўся сход партарганізацыі. Далі палёгку Гурскаму, а выбралі на яго месца маладога Шамякіна.

Ноніка рэдка бачу, бо як узвялічылі яго акадэмікам, дык ён мала наведвае наш Саюз. Павел ужо стаміўся цягнуць лімаўскі дышаль і просіцца, каб яго вызвалілі. Ніхто не хоча туды ісці.

На Новы год думаем сабрацца і пагаварыць за чарачкай, а галоўнае, падняць яе, каб было ціха на свеце. Гэты вар'ят Трумэн вельмі падобны на Гітлера, ён усё можа.

Адно толькі, што навуку ад свайго папярэдніка ён узяў, але, можа, і пра вынік памятае.

Пакуль гэты ліст зайдзе да Вас, будзе блізкі — Новы год. Ад усяго сэрца жадаю Вам усяго найлепшага, а галоўнае здароўя, каб неўзабаве ў пачатку Новага года сустрэць Вас зноў сярод нас, бо мы без Вас, па праўдзе кажучы, як малады бярэзнік без дуба.

Цалую моцна!

Ваш *Пятрусь Броўка*

P. S. Ліст Ваш сапраўды аптымістычны. Калі так справа добра пойдзе, дык, чаго добрага, сустрэнем Вас з Масквы ў пары.

*П.*

## 48. Я. КОЛАСУ

*8 студзеня 1951, Мінск*

8.I.1951 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Прашу прабачэння, што першы раз пішу ў гэтым годзе. Паслалі тут мяне без Вас у Цэнтральную выбарчую камісію, і я закруціўся. Па-першае, для мяне новая справа, а па-другое, гэта ў дадатак да ўсіх маіх абавязкаў, так што хапае. Здаецца, што і навін асаблівых няма. Максім Лужанін быў у Вас і напэўна расказаў, як адсвяткавалі 50 год Пракоф'ева і як мы яго прывіталі.

Новы год адзначалі ў Саюзе, але я сядзеў дома. Да гэтага толькі вярнулася Лёля з бальніцы, дзе яна пралежала каля трох тыдняў, нельга мне яе было кінуць і самому пайсці на скокі. Узняў ціханька чарку за Новы год (пажадаў, каб ён быў сапраўды добрым), узняў чарку за сваіх сяброў ды і закуліўся спаць.

А пасля Новага года хадзіў то ў камісію, то на працу, вось і ўся мая праца. Праўда, раніцою падыходжу яшчэ на прагулку да возера, відаць, яна мяне і ратуе.

Надвор'е ў нас было ўвесь час добрае (маразы градусаў 8—10), а сёння ўжо зноў пацякло са стрэх. Дзе гэта бачна было, каб цякло са стрэх на каляды?

Данік мне казаў, што 12-га Вы збіраецеся ў Барвіху. Я вельмі рад, што Вы з бальнічнага рэжыму пераходзіце на санаторны, а гэта значыць, што неўзабаве пярэйдзеце на хатні, прыедзеце да нас.

Папраўляйцеся там добра, а мы ўжо тут усе пастанем вакол Вас у круг і не падпусцім да Вас ніводнага карэспандэнта. Пішыце што хочаце, і хай Вас не турбуюць кожную раніцу назойлівыя просьбы.

Яшчэ раз жадаю папраўкі і хутчэйшага звароту дамоў.

**Моцна цалую.**

***Пятрусь Броўка.***

## 49. Я. КОЛАСУ

*17 студзеня 1951, Мінск*

17.I.1951 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Чакаў Данілу, хацеў даведацца Ваш новы адрас, ды не дачакаўся. Званіў да Вашай хаты, адтуль сказалі, што мае быць скора, але я рашыў паслаць гэтае пісьмо наўгад. Санаторый «Барвіха» настолькі вядомы, што пісьмо павінна зайсці.

Што ў нас чуваць? Выбіраем! Скончылі выбары ў мясцовыя саветы, пачалі ў Вярхоўны. Я сяджу ў цэнтральнай камісіі, і з кожным днём мне работы ўсё болей. Учора ездзіў у Барысаўскі раён знаёміцца з работай акруговых камісій. Да канца лютага я чалавек выключаны ад усіх іншых прац, апрача выбараў. Станаўлюся падобным да чыноўніка. Маю сабе зялёную папку, накладу туды паперы і кожную раніцу акуратна крочу ў канцылярыю...

Надвор'е ў нас увесь час няважнае — усё слата. Сёння раніцай крыху пачарсцвела, можа, як выкіруецца на марозік. Аж зайздросна, калі па радыё выхваляюцца, што ў Маскве 10—12 градусаў марозу. Але хоць зімы ў нас няма сапраўднай, на харч мы перайшлі на зімовы. У мяне дома купілі за 1300 рублёў кабана — 5 пудоў, ды такі ж слаўны! Нарабілі кілбас ды ямо. Час ад часу ласуемся бульбянымі аладкамі з свінымі робрышкамі. Капуста свая таксама ўдалася.

У мінулую суботу да мяне прыходзіў мыцца Нонік. Мы з ім усё і ўжылі па парадку пачынаючы з рыжыкаў (частку якіх я строга наказаў захаваць да Вашага прыезду).

Паслалі мы рэчы на прэмію. Мала ў мяне надзеі на што якое, бо няма нашага прадстаўніка там. Усё-ткі, калі Вы там былі і ўстаўлялі сваё слова, эфект быў зусім іншы.

Ну, ды бог з імі, папраўляйцеся, адпачывайце, прыязджайце. Сказаць Вам па праўдзе, мы ўсе вельмі ўжо засумавалі па Вас.

Моцна цалую! *Пятрусь Броўка*

## 50. Я. КОЛАСУ

*24 студзеня 1951, Мінск*

24/I.1951 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Пішу Вам некалькі слоў, бо неўзабаве маю надзею пабачыць Вас у Мінску.

Навіны ў мяне адны: чым далей, дык больш работы па выбарах. Вось ужо і кандыдатаў выставілі. Я рады, што Вам далі бліжэйшую акругу: Орша такое месца, куды і па чыгунцы, і на машыне добра ехаць.

З пісьменнікаў выставілі ўсіх старых і амаль на ранейшых месцах. З акадэмікаў бачыў у газеце Мацэпуру, Лупіновіча, Ерафеева, Ільюшына, Нікольскага, Перцава. Грышчанку не бачыў, хоць некаторыя кажуць, што і ён ёсць.

Нарэшце дачакаліся марозу. Ды ўжо і не рады. Сёння ў нас 17°, а на ветры праймае так, ажно дух займае.

У Барвісе у Вас, відаць, весялей, чым у бальніцы. Там жа Пётр Андрэевіч. Перадайце яму прывітанне ад яго сяброў з Саюза пісьменнікаў.

Калі Вы думаеце вярнуцца дахаты? Канечне, нам хацелася б хутчэй Вас пабачыць, але калі справы здароўя будуць патрабаваць, дык пабудзьце яшчэ там які тыдзень. Добра было б, каб, прыехаўшы ў Мінск, Вы ўжо не зналіся з хваробай.

Моцна цалую Вас.
*Пятрусь Броўка*

## 51. Я. КОЛАСУ

*23 кастрычніка 1951, Кіславодск*

23.X.1951 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Вось ужо шосты дзень, як я ў Кіславодску. Крыху агледзеўся, а спачатку было мутарна. Жыву ў санаторыі Минтяжстрой» ён знаходзіцца далей пад горы пасля санаторыя «Максіма Горкага». Нікога знаёмага, я адзін з

Мінску, а таму і блукаю адзінотаю па кіславодскіх сцежках. Можа, яно для адпачынку так і лепш.

Тут увесь час ішлі дажджы. Едучы з Растова аж да месца, я бачыў добрую рунь, проста сэрца цешылася. Казалі, што ўраджай сабралі таксама добры. Вельмі балюча, што нам так не павязло, асабліва з бульбай. Ды ад'язджаў я, таксама стаялі холад і суш.

А тут цяпер цёплая сонечная пагода. Праўда, уночы прымаразкі, а днём цёпла, градусаў 16—18. Што я раблю? Прымаю ванны і ўсё хаджу, і хаджу гадзін па пяць на дзень. Вечарамі крыху чытаю. Пакуль што адпачываецца добра. Прайшло шэсць дзён, а я адчуў, як жа я быў стомлены. Паездка ў Чэхаславакію і клопаты ў Саюзе далі сабе знаць.

Дарагі дзядзька Якуб! Як тваё здароўе? Я б вельмі хацеў, каб ты быў здаровым і бадзёрым. А для гэтага, мне здаецца, сама важна правільны рэжым і расклад дня. Ды што мне пра гэта Вам казаць, Вы і самі добра знаеце пра гэта?

Ці скончылі Вы рэдагаванне тамоў? Трэба крыху падагнаць Пятро і Максіма, каб выходзілі яны без затрымкі.

Як выйшла з Міхасём?

Моцна цалую Вас, дарагі дзядзька Якуб, жадаю ад сэрца ўсяго найлепшага.

Ваш *Пятрусь*

Кіславодск
Санаторый «Минтяжстрой»
П. Броўка

## 52. П. Н. КАВАЛЁВУ

*4 верасня 1952, Мінск*

Павел Нікіфаравіч!

Мне здаецца, што дакладная запіска Савету Міністраў ад 3 студзеня зусім не ўстарэла. Мы параіліся тут з Кандратам Кандратавічам і лічым, што найвышэйшым тыражом у нас па прозе можа быць 10 тыс. экз., а па паэзіі 8 тыс. экз.

Парайся з другімі членамі прэзідыума і тады адстойвай нашу кропку гледжання.

Дзегцяроў казаў, што ў Маскве выпрацоўваецца адзіны закон аб аўтарскім праве для ўсяго Савецкага Саюза. Калі гэта праўда, можа б, пачакаць?

4.IX.52 г. *Пятрусь Броўка*

Зусім няправільнае сцверджанне Белпаліграфвыдата, што большасць выдавецтваў другіх рэспублік плаціць па стаўках РСФСР. Гэта не цяжка ўстанавіць, пазваніўшы ў Вільнюс, Рыгу, Кіеў, а таксама можна спытаць Пераплётчыкава.

## 53. П. Н. КАВАЛЁВУ

*4 верасня 1952, Мінск*

Павел Нікіфаравіч!

Кандрат яшчэ чытае праект аўтарскага права. Прывязу я яго ў суботу раніцай — пазвані ў Савет Міністраў. Мне здаецца, што з праектам трэба будзе згадзіцца, але ўся справа — на які тыраж? 15 і 10 тысяч крыху велікавата.

Машыну трэба даць. Гэта ж з'езд. Няхай Макарэвіч пад'едзе ў суботу а 10 гадзіне раніцы — канферэнцыя, кажуць, у 2 г. дня.

4.IX.52 г. *П. Броўка*

## 54. Я. КОЛАСУ

*10 чэрвеня 1953, Кактэбель*

10.VI.53

Дарагі дзядзька Якуб!

Шлю Вам невялікую вестачку з Чорнага мора. Вось ужо другі тыдзень, як мы тут жывём сям'ёю. Трэба сказаць, што нічога тут асаблівага няма. І памяшканне, і яда крыху горш за наша каралішчавіцкае. Адно што добра, дык гэта мора. Купаемся мы тут па 5—6 разоў на дзень, бо жывём на самым беразе мора. Мушу сказаць, што гэтыя купанні на мяне дзейнічаюць вельмі добра. Юрка таксама крыху пахудзеў, відаць, і яму на карысць.

Навін тут у нас ніякіх, а якія яны могуць быць у людзей, якія, апрача сталоўкі і мора, нічога не бачаць.

З Мінска вестак таксама не маем. Што там робіцца? Рабіць яшчэ не браўся, можа, на другі месяц вазьмуся за ручку, а пакуль што хочацца адпачыць.

Як у Вас там у Каралішчавічах? Ці доўга мяркуеце там быць? Шкода мне аднаго, што няма тут каля мора ні на-

шага жыта, ні нават «каралішчавіцкай дзебры». Што ж рабіць, буду сядзець у водах, ды ўсё.

Жадаю Вам добрага здароўя і добрага настрою.

Моцна цалую Вас.
Ваш *Пятрусь*

## 55. Я. КОЛАСУ

*Чэрвень 1953, Мінск*

№ 211 Мінск « » *чэрвеня* 1953 г.

Дарагі таварыш Якуб Колас

Па рашэнні праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР рыхтуюцца матэрыялы для зборніка «Маякоўскі ў Беларусі». Мяркуецца, што ў гэтым зборніку будуць зменшчаны матэрыялы, звязаныя з паездкамі У. У. Маякоўскага па гарадах Беларусі, выказванні аб творчасці паэта ў рэспубліцы.

Звяртаемся да Вас з просьбай прыняць удзел у гэтым зборніку і напісаць свае ўспаміны аб Маякоўскім.

Матэрыялы просім перасланць па адрасу: Мінск, Энгельса, № 27, Саюз савецкіх пісьменнікаў БССР

*Старшыня праўлення ССП БССР*
*(П. Броўка)*

## 56. П. Н. КАВАЛЁВУ

*9 ліпеня 1954, Мінск*

Павел Нікіфаравіч!

Атрымаў я выклік з Масквы на пленум Чэхаўскага камітэта, а таксама на ўрачыстае пасяджэнне. Думаў я, думаў, што рабіць, і ўсё ж парашыў, што з'ездзіць трэба. Неяк нялоўка, калі на такіх урачыстасцях не будзе ніякага прадстаўніка рэспублікі. Пазвані Буславу, калі ён такое ж самае думкі — я з'езджу на некалькі дзён.

Выклікаюць мяне на 13 ліпеня. Што я папрашу цябе? Дай мне як члену Чэхаўскага камітэта даведачку на некалькі старонак аб тым, што друкавалася з Чэхава ў нас, што друкуецца, якія спектаклі ставіліся і ставяцца, якія ўрачыстасці праведзены і будуць праводзіцца?

Падрыхтуйце мне камандзіровачнае пасведчанне і купіце білет на самалёт — на другую палову 12 ліпеня

(здаецца, ёсць такі, які вылятае з Мінска у 5 гадзін пасля паўдня).

Што яшчэ? Правер, калі ласка, як падрыхтоўваюцца мне матэрыялы для даклада. Прыеду з Масквы і адразу ж саджуся за даклад. Падганяй усіх, хто павінен выступаць на з'ездзе.

Я званіў Карпякову наконт кватэр. Абяцалі даць дзве? Што досыць? Як размяркоўваеце? Тут усё ходзіць Русецкая і скардзіцца, што ўся кватэра, дзе яны жывуць з Макаёнкам, 42 метры. Просіць, каб не вельмі сціскалі. Відаць, прасіла Коласа, бо і ён мне гаварыў пра гэта. Памяркуйце, што і як трэба зрабіць? Я не ведаю райкомаўскіх рашэнняў, але мне здаецца, што трэба ўсё калектыўна ўзважыць.

Добра было б, калі б ты падскочыў на хвілінку.

Прывет *Пятрусь Броўка*

9/VII.54

## 57. Я. КОЛАСУ

*16 мая 1955, Кіславодск*

Дарагі дзядзька Якуб!

Пасылаю Вам сваё прывітанне з Кіславодска. Крыху вылежаўся, адмок у нарзане, захацелася ўзяцца і за пяро, а то я быў так стомлены за апошні час, што толькі цягнула на сон.

Жыццё наша курортнае — вядомае. Ходзім у сталоўку, на ванны ды спім. Часамі проста шкода часу, але ўсё ж пераконваешся, што раз у год такі адпачынак неабходны. Варта і Вам было б, калі Вы яшчэ не ў Барвісе, з'ездзіць туды на месяц. Відаць, вясна і там ужо ўсталявалася. У Кіславодску вясна таксама спазнілася, але затое цяпер тут самая прыгажосць: цвітуць каштаны, бэз, японская сліва, нарцысы, наогул усё, што можа цвісці.

Паслухаеш радыё, і, калі са свету ідуць лепшыя весткі, на сэрцы робіцца лагадней.

Я тут свядома нічога не раблю, толькі крыху чытаю. Прачытаў у № 3 «Дружба народов» артыкул В. Турбіна пра Вашы аповесці, які мне спадабаўся. Па-мойму, з натхненнем і веданнем справы ён напісаны.

2 мая, выязджаючы з Мінска, званіў Вам на развітанне, але не дазваніўся. Сёння паглядзеў на першамайскі здымак у Мінску і як быццам пагаварыў з Вамі.

Дамоў збіраюся каля 2—3 чэрвеня. А там клопатаў

хопіць, а да іх яшчэ 50-годдзе. Як хутка яно прыйшло, і не агледзеўся. Давядзецца нешта рабіць, і турбот будзе не мала.

Прывітанне Вам ад Лёлі, якая са мною тут адпачывае, а я Вас цалую моцна-моцна і жадаю здароўя і здароўя!

Ваш *Пятрусь*

Кіславодск
Санаторый імя Сямашкі,
П. У. Броўка
16 мая 1955 г.

## 58. М. ТАНКУ

*16 мая 1955, Кіславодск*

Дарагі Максім!

Даруй, але нічога я напісаць не здолеў. Па-першае, усе думкі круцяцца вакол рамана, а па-другое, як пабачу Эльбрус, дык яны зусім ідуць у другі бок ад працы. Нічога і не хочацца рабіць. Як-небудзь абайдзіцеся і без маіх вершаў. А я абяцаю ў наступным, другім паўстагоддзі абавязкова іх напісаць. А можа, і выйдуць яны лепшымі?

Вітанне сям'і.

16.V.1955 г. Твой *Пятрусь Броўка*

## 59. П. Ф. ГЛЕБКУ

*17 мая 1955, Кіславодск*

Дарагія Нонік і Ніна!

Шлём Вам сваё кіславодскае прывітанне і ад усяго сэрца жадаем усяго найлепшага ў справах рук вашых.

Жывём мы тут, як Вам вядома, па-курортнаму, па-кіславодскаму: старанна ходзім на працэдуры, выконваем усе загады дактароў, ходзім на «Храмы воздуха» і г. д. Вечарамі праглядаем старыя кінафільмы. Вось і ўсё, калі не лічыць трохразовай яды ў сталоўцы і часу на сон. А вынікі? А вынікі, кажуць дактары, будуць адчуты тады, калі вернецеся дадому.

Вось у чаканні дня ад'езду мы і жывём.

Нонік! Вось пра што я хачу нагадаць табе. Можа б, ты выбраў час ды з'ездзіў у Крыжоўку. Хай бы ты паглядзеў,

дзе будавацца самому, а разам каля сябе прыкінуў бы мясціну і для мяне. А то будзе так, што аддадуць нам тое, што другім нягожа.

Яшчэ раз кланяемся Вам і жадаем шчасця.

*Пятрусь і Лёля*

17.V.55 г.

## 60. Я. КОЛАСУ

*10 чэрвеня 1955, Каралішчавічы*

Камарышчавічы [1]
10.VI.1955 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Пішу Вам з Каралішчавічаў — сапраўдных Камарышчавічаў. Камароў, як Вы знаеце, у нас заўсёды хапала, а сёлета пасля вялікай халоднай адсідкі яны адразу як сыпнулі роем, дык проста ратунку няма. Пасядзець на лаўцы нельга, можна толькі хадзіць, ды і то трэба адмахвацца бярозаваю галінаю. Адсюль з Каралішчавічаў я цераз дзень езджу на працу, бо ў сонечныя дні тут усё ж лепш, чымся ў горадзе.

Надвор'е ў нас нейкае няўстойлівае. Некалькі дзён пасля звароту з Кіславодска было добрых, а цяпер зноў падапсулася — асабліва сцюдзёныя ночы: у мінулую ноч было толькі 9°. Праўда, днём зноў пацяплела і мы спадзяёмся, што, можа, надоўга.

Расце ўсё пакуль яшчэ слабавата. Толькі цвітуць сады. Мала дзе пабачыш, як бульба прадзірае вочы з зямлі. Дубкі распусціліся яшчэ не ўсе. На маім агародзіку не ўзышлі кукуруза і агуркі, а памідоры стаяць пажаўцелыя пры зямлі, як сіраты. Хадзіў глядзець на поле: жыта рознае — мясцінамі вымакла, а мясцінамі нават добрае, ужо выступае.

Калі б тыдні два добрага надвор'я, дык я думаю, што шмат што ў нас паправілася б. Можа, таму, што я нядаўна прыехаў з поўдня і нагледзіўся там, як буяе пшаніца і кукуруза, думкі ў мяне пра сёлетні ўраджай неблагія. Харашы сёлета і на Украіне. Там хапае вільгаці, а гэта галоўнае.

Будзем спадзявацца, што на круглы лік па краіне будзем з хлебам.

---

[1] Камарышчавічы — жартоўная назва Дома творчасці пісьменнікаў «Каралішчавічы».

У Каралішчавічах мне сумнавата. Нікога з блізкіх сяброў няма. Нонік-Глебка ў гэты час, калі я вам пішу, перасякае акіян па дарозе ў Сан-Францыска, каб навесці парадак з мірам. Міхась Лынькоў недзе тупае каля Нарачы і будуе дом, наогул «нарачанцы» збіраюцца ў дарогу.

Мы тут рыхтуемся да міцкевічаўскіх дзён. Заўтра групай у 10 чалавек едзем ладзіць літаратурны вечар у Навагрудак. Вырашылі ў лістападзе правесці ў Мінску ўрачысты пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, прысвечаны Міцкевічу. Будзем запрашаць гасцей і хочам папрасіць Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча адкрыць пленум, прысвечаны Адаму Міцкевічу.

А пакуль што ад усяго сэрца жадаю Вам добра адпачываць і папраўляцца, каб Вы варочаліся дадому ў добрым і бадзёрым настроі. Вельмі прасіў бы, каб не затрымліваліся доўга ў Маскве, бо сумна мне будзе без Вас сядзець на вечары, на якім я пераваллю на другое паўстагоддзе. Ды і ў Каралішчавічах, дзе я думаю пасядзець з сябрамі, будзе без Вас маркотна.

Папраўляйцеся ды прыязджайце ў Камарышчавічы. Да таго часу камары знікнуць, а так, калі прыгледзішся да таго, якія прыгожыя вакол сосенкі, ды бярозкі, ды наслухаешся іхняга шуму, дык сапраўды на душы добра!..

Прыязджайце, дзядзька Якуб!

Моцна-моцна цалую Вас.

*Пятрусь*

## 61. Я. КОЛАСУ

*16 чэрвеня 1955, Каралішчавічы*

16.VI.55 г.

Дарагі дзядзька Якуб!

Шлю яшчэ раз Вам сваё вітанне з Каралішчавіч. Сягоння яны такія лагодныя — сонца грэе, як у сапраўднае лета, пад вакном у мяне пачынае ажываць агарод і нават птушкі за вакном спяваюць весялей. Асабліва прыгожа воркуе лясны голуб, ну сапраўды нібы спявае сваім дзецям лясную «калыханку»...

А што рабілася ў тую суботу, дык цяжка ўявіць. Мы ехалі з Мінска ў Навагрудак, дык усю дарогу лілося як з нейкае прорвы. Сумна было глядзець на збажыну.

У Навагрудку мы правялі вечар, прысвечаны А. Міцкевічу. Вечар прайшоў добра. Адкрыў яго малады і здоль-

ны сакратар райкома Пілатовіч, за ім выступіў з дакладам я, а пасля хлопцы з перакладамі: М. Танк, М. Лужанін, П. Панчанка, П. Пестрак, М. Калачынскі, А. Зарыцкі і другія.

Моладзь Навагрудка выступіла з самадзейным канцэртам. Чыталі і спявалі па-руску, беларуску і польску. Крыху было малавата беларускіх народных песень. Навагрудак у сувязі з юбілеем добра будуецца і рапаруецца, а таксама фарбуецца.

Былі мы ў музеі Міцкевіча. Ён яшчэ ладзіцца, але экспанатаў назбірана ўжо багата. З міцкевічаўскіх рэчаў — яго акуляры і прыгожы настольны гадзіннік, і, калі можна назваць ягонымі рэчамі,— стол і два крэслы ягонай каханкі Марылі з Тугановічаў.

Едучы назад, спыніліся каля Свіцязі. Якраз распагоднела, і мы ўсе ўзялі па малой у славу Міцкевічаў, думаю, што Міцкевічы нас не асудзяць.

Усю дарогу дадому наглядаў за пасевамі. Што можна сказаць? Жыта на Навагрудчыне шмат дзе павымакала, але ёсць і добрае. Мажа, на сярэдняе і выйдзе. Ярына як быццам не благая. Можа, добрыя пагоды выраўняюць і тое, што закажанела пры зямлі.

У Мінску бываю цераз дзень. Навін там асаблівых няма. Сёння па радыё чуў, што Нонік ужо ў Нью-Йорку. Што ж, няхай там наводзіць парадкі!

А Вас яшчэ раз вітаю і шчыра чакаю дадому.

Ваш *Пятрусь*

P. S. Лужанін паехаў з Купаліхай у Ленінград.

## 62. Я. КОЛАСУ

*18 красавіка 1956, Мінск*

Дарагі дзядзька Якуб!

Я выязджаю ў Карлавы Вары. Цалую Вас моцна на развітанне і жадаю аднаго, каб па маім прыездзе зноў ніхто б не здолеў раскрыць Ваш кулак, як некалі раней. Папраўляйцеся!

Ёсць адна да Вас просьба. Можа б, Вы падпісалі гэтую паперку для т. Звонака. Чалавек ён сапраўды добры і заслугоўвае ўсялякае ўвагі.

Яшчэ раз цалую Вас.

18 красавіка 1956 г. *Пятрусь Броўка*

## 63. Я. КОЛАСУ

*28 красавіка 1956, Карлавы Вары*

28.IV.1956 г.
Карлавы Вары

Дарагі дзядзька Якуб!

Шлю Вам самае сардэчнае прывітанне з Першым мая з далёкіх Карлавых Вар і жадаю здароўя і добрага адчування.

Вось ужо чацвёрты дзень як мы дабраліся сюды і праходзім поўны курс лекаў, які датычыцца галоўным чынам жывата і кішак.

Якія вынікі з гэтага лячэння будуць, яшчэ невядома, але мне здаецца, што справа гэтая тут пастаўлена сур'ёзна і паправіцца будзе можна. Ніякае такое асаблівае хваробы ў мяне няма, але, відаць, як у кожнага чалавека за пяцьдзесят год, арганізм патрабуе такога-сякога рамонту.

Многа тут розных у нас працэдур, важнейшая ж з іх піццё мінеральнай вады з гарачае крыніцы, якая завецца «млынарскай». Карлавы Вары — курорт вельмі вядомы, і я думаю, калі некалі лячыўся тут Пётр Вялікі, дык, можа, і Пётр малы будзе мець якую-небудзь карысць?

Горад сам прыгожы. Размешчаны ён у катлавіне паміж гор. Нечым нагадвае Кіславодск, толькі там горы голыя, а тут зялёныя, парослыя хвояй. Шмат цікавых будынкаў. Вось я хаджу паміж іх і думаю, у якім з іх тут некалі лячыўся Янка Купала?

Жыццё вядомае — санаторнае. Усё па рэгламенце: есці, спаць, лячыцца, гуляць. У санаторыі нашым шмат людзей, але знаёмых амаль нікога. Мы іх і не заводзім тут, бо нядоўга нам тут жыць — усяго 28 дзён.

Як Ваша здароўе? Што робіце Вы з рукамі? Тут людзі прымаюць з такімі хваробамі «радонавыя» ванны. Відаць, у нас такія ў Цхалтуба? Ці дапамагла Вам «мікалаеўшчынская гліна»? А можа, каб пагрэць іх добра на сонцы, дык усё б і прайшло.

Будзем чакаць, дарагі Канстанцін Міхайлавіч, цяпла і спадзявацца, што наша вясна калі-небудзь настане, а сёлета яна позняя і тут, тады паправіцеся і Вы як след.

А гэтага я Вам моцна-моцна жадаю і не менш моцна цалую многа раз.

Ваш *Пятрусь*

P. S. Прывітанне Даніку, Зарыне, Міхасю, Наташы і ўсім унукам. *П.*

## 64. Я. КОЛАСУ

*24 мая 1956, Мінск*

Дарагі дзядзька Якуб!

Пішу Вам а пятай гадзіне раніцы. Праз паўгадзіны еду ў Ашмяны на сустрэчу з выбаршчыкамі. Учора прыехаў з Каралішчавічаў і атрымаў Ваша пісьмо.

Як бы Вы скептычна ні глядзелі на ход лячэння, а Барвіха дасць Вам вельмі многа. Усё ж там сабраны найлепшыя спецыялісты, а да таго добра значыць ужо і Ваша становішча.

Што ў нас новага? Быў некалькі разоў у Абрасімава наконт дач. Апошні раз ён сказаў, што справа вырашана, дадзена заданне архітэктарам спланаваць увесь той вучастак лесу (30 гектараў) і цвёрда вызначыць, дзе будзе дача Савета Міністраў, а дзе даць нам. Дагаворы трэба будзе заключаць у жніўні, пачнуць будаваць восенню.

Пагода ў нас з таго часу, як Вы паехалі, для ўраджаю вельмі спрыяльная. Днём падпарвае, а вечарам ці ўночы абавязкова дождж. Усё пакуль што расце як на дражджах. У мяне ў Каралішчавічах ужо з'явіліся памідоры, а садзіў я ўсяго дваццаць дзён назад. Трапляюцца ўжо лісічкі, маслюкі, падасінавікі і нават баравікі-каласавікі.

Камароў у нас таксама стала меней. Так што варта і Вам калі-небудзь наведаць аслаўленыя Каралішчавічы і пазнаёміцца з грыбкамі.

Дарагі дзядзька Якуб! Канчаю пісьмо, бо спяшаюся ехаць. Вярнуся, напішу больш пра нашу вёску. А цяпер моцна-моцна Вас цалую і жадаю папраўіцца, пазбыцца болі ў руках, патанець, пamаладзець і наогул вярнуцца такім, каб не ведаць стомы ні ў чым!

Яшчэ раз цалую.
Ваш *Пятрусь Броўка*

24 мая 1956 г.
Мінск

## 65. Я. КОЛАСУ

*2 чэрвеня 1956, Мінск*

2.VII.1956 г.[1]

Дарагі дзядзька Якуб!

Толькі што вярнуўся з паездкі па Ашмянскім раёне. Аб'ехаў шмат калгасаў, ды бачыў добра, што робіцца на палях па дарозе. Мушу сказаць, што дажджы справу паправілі і ўся ярына выглядае вельмі добра. Там, дзе жыта не вымакла — стаіць сцяной. Пагода і цяпер спрыяе пасевам. Праўда, апошнія дні пахаладала — учора ноччу было толькі +4, а сягоння +6. Пішу Вам, а 8 гадзіне ўжо +14, і дзень абяцае быць цёплым.

У Каралішчавічах ужо зніклі камары, адна бяда, тут сыравата, але затое ёсць ужо грыбы. Панчанка ўчора знайшоў ажно 14 баравікоў. Сабраў лісіц, сыраежак, маслюкоў і я і насмажыў.

Наконт будаўніцтва дач хачу даведацца, што робіцца? Даўно ўжо я не быў у Абрасімава.

Мікалай Сямёнавіч, я чуў, паехаў па рэспубліцы аглядаць пасевы. Думаю, што многае яму спадабаецца.

Учора бачыў Лынькова. Прыязджаў з Нарачы, кажа, што там цяпер хараша. Знаючы Нарач, можна паверыць яму.

Мы тут у Мінску ўсё прымаем гасцей. Нядаўна прымалі японцаў. Адзін з іх — літаратар — наведаў Саюз пісьменнікаў, і нам давялося доўга гутарыць з ім.

Калі гэта пісьмо дойдзе да Барвіхі, Вам, відаць, застанецца мала часу там быць — будзеце збірацца ў дарогу.

Вельмі чакаем Вас дома здаровага і бадзёрага.

Цалую Вас.

*Пятрусь Броўка*

## 66. Я. КОЛАСУ

*7 жніўня 1956, Куйбышаў*

7.VIII.56

Дарагі дзядзька Якуб!

Вось ужо шосты дзень, як я еду з сям'ёй па Волзе. Праехалі Угліч, Кінешму, Кастраму, Горкі, Казань. Сягоння пад'язджаем да Куйбышава. Цеплаход наш вельмі камфартабельны, выгодны. Сапраўды, тут можна адпачыць.

---

[1] Трэба: 2.VI.1956 г.

Праўда, пагода і тут была няважная: усё дажджы і халадэча. Рэдка калі пясціла сонца. У Казані пазаўчора была такая бура, што пазносіла на некаторых дамах дахі, паламала ў парку некалькі дзесяткаў стогадовых сосен, на Волзе абярнула маторку, і некалькі чалавек загінула.

Сягоння пагода добрая, сонечна, цёпла. Я ўсё думаю, як там у вас, ці дасць, нарэшце, сёлятняе надвор'е прыбраць сена і збожжа?

Як жывеце Вы? Дзе адпачываеце? Ці ездзілі на Нарач? Мне так і не давялося пагаварыць з Вамі пасля ад'езду М. С. Патолічава. Вярнуся, трэба будзе нам схадзіць да К. Т. Мазурава ды паталкаваць аб тым-сім...

Хацеў бы Вам напісаць пра што-небудзь новае, ды, апрача берагоў, праўды, прыгожых, ды вады — нічога не бачу. Калі ж выходзім у які горад, дык глянем на колькі цікавых мясцін, ды назад хутчэй у каюту ці на палубу. Адным словам, зрабіўся на жнівень месяц сапраўдным матросам-рачнікам.

Адсюль жа, з берагоў Волгі, і шчыра кланяюся Вам і ўсёй Вашай сям'і.

Ваш *Пятрусь* з усёй сям'ёю.

Калі напішаце пару слоў аб сабе і здароўі, буду вельмі рады атрымаць весціну на цеплаходзе. А такая магчымасць ёсць. Адрас: Горький, Речной вокзал, теплоход «Родина», каюта Люкс-б, мне.

## 67. С. І. ЛІХАДЗІЕЎСКАМУ

*29 лістапада 1956, Мінск*

Паважаны Сцяпан!

Прачытаў тваё пісьмо. Вельмі рады, што справа твая высветлена канчаткова. Ты ўжо даўно ў Саюзе пісьменнікаў і, мабыць, добра ведаў, што меў усе правы для друкавання. Не разумею, на які ты «байкот перастрахоўшчыкаў» намякаеш? Прынамсі, з боку Саюза пісьменнікаў Беларусі я гэтага не заўважаў.

Што тычыцца друкавання, прысылай свае творы ў нашы часопісы і асобную кніжку ў Дзяржвыдавецтва. Усё, што будзе падыходзіць да друку, будзе надрукавана.

Наконт працы ў Мінску ты маўчыш, а я думаю, што па гэтым пытанні павінна быць табой сказана першае слова.

З прывітаннем.

29.XI.1956 г. *Пятрусь Броўка*

## 68. П. Ф. ГЛЕБКУ

*18 студзеня 1957, Мінск*

18.I.1957 г.
Мінск

Дарагі Нонік!

Нешта на днях прыходзіла да нас Ніна і вельмі ўжо ж вохкала, што няма яе любімага мужа дома, а яшчэ таму, што, відаць, яму недзе там, беднаму, сумна.

Вось я і надумаў напісаць табе некалькі слоў. Хоць я і не ўмею пісаць такіх слоў, каб цябе вельмі развесяліць, а ўсё ж думаю, можа, і я скажу тое-сёе, што будзе табе цікава далёка ад дома.

Ну як мы жывём? І што ў нас новага? Відаць, табе Ніна пра ўсё піша дакладна. Напішу і я пра тое, што першым ідзе ў галаву. Бо калі сядзіш дома, дык усё здаецца звычайным, і не знаеш, а што табе цікава?

Пачну з пагоды. Зіма ў нас добрая, не вельмі марозная. Было многа снегу, але нешта ў пачатку студзеня як надышла адліга, дык зусім яго не стала. Цяпер ізноў крыху падмарозіла (снегу мала). Абяцаюць адлігу. Слухаю радыё цяпер, калі пішу табе, дык нават дзівіць, недзе абяцаюць навальніцу.

У Акадэміі навук была сесія. Выбіралі акадэмікаў. На нашым аддзяленні не было выбараў, бо не хапіла, як кажа Ілля Гурскі, «кворуму». А ўсё той Лынь непаваротлівы, пакуль вярнуўся з-за мяжы, дык і сесія прайшла. А не хапала толькі ягонага голасу. Так што і табе ён зрабіў затрымку. Адклалі Вас з Васем — «рабоў божых» — на люты месяц, калі вы вернецеся дадому.

Выбралі Кандрата за віцэ-прэзідэнта. Сядзіць акуратна ў сваім кабінеце. Змянілі Маргунскага, паставілі Вінакурава. Ды і самому прэзідэнту ўсыпалі шмат галасоў. Я і не думаў, што Вашы акадэмікі такія злосныя! Ага, забыўся, другім «віцэм» выбралі б. рэктара БДУ т. Лукашова, так што месца рэктара вольнае.

У Саюзе было многа пасяджэнняў. Прывялі да парадку Філю. Наогул мне работы хапае. Хутка будзе пленум у нас ды і ў Маскве. Выступаць і там, і там трэба, а значыць, сядзі і рыхтуйся.

Абмяркоўвалі мой раман на секцыі. Ацэнка наогул добрая, але падкінулі і заўваг. Вось ізноў трэба пасядзець каля месяца. Як бачыш, увесь час сяджу і працую. Чакаю вясны, вельмі ўжо хочацца недзе пагрэцца, паля-

жаць, утаропіўшы вочы на неба, ды ні аб чым не думаць.

На Новы год Ніна была ў нас. Запісалі на магнітафон усе прамовы і прывітанні, звернутыя ў твой адрас. Юра захаваў плёнку, прыедзеш, паслухаеш. Я і не думаў, што ты такім поспехам карыстаешся ва ўсіх.

Вось і ўсё, мой дружа! Кланяйся шчыра ўсім нашым сябрам — Кузьму Венядзіктавічу, Фаіне Архіпаўне, т. т. Пыжкову, Новікаву, усім, усім нашым слаўным таварышам, якія робяць добрую, пачэсную, народную справу.

Мір Вам усім, дарагія сябры!

Цалую цябе моцна!
Твой *Пятрусь Броўка*

## 69. Л. А. БЭНДЭ

*22 сакавіка 1957, Мінск*

22.III.1957 г.

Паважаны Лука Антонавіч!

Я нават не ведаю, што адказаць на тваю просьбу. Трохтомнік Чарота будзе складаць выдавецтва, і дырэктар яго тав. Матузаў любіць такія справы вырашаць сам. Упэўнены, што мая парада яму нічым не дапаможа.

Хацелася б дапамагчы табе, а як зрабіць, не знаю? Як гэта выйшла, што ты, маючы столькі матэрыялаў па Беларусі і вопыт працы, не мог наладзіць належнага кантакту з нашым выдавецтвам і Акадэміяй навук, не разумею.

Раю табе звярнуцца з пісьмом у выдавецтва, Акадэмію, а самае лепшае, каб ты пагаварыў у нашым ЦК. Трэба, відаць, пераасэнсаваць і некаторыя свае погляды, бо калектыўная думка мае права на тое, каб да яе прыслухоўваліся.

Прабач, што пішу так мала. Што больш парадзіць — не ведаю!

*Пятрусь Броўка*

Прывітанне тваёй сям'і.
22.III.1957 г.

## 70. П. Ф. ГЛЕБКУ

*4 красавіка 1957, Кіславодск*

4.IV.1957
Кіславодск

Дарагі Пеця!

Вось я ўжо і ў Кіславодску. У Маскве мы адседзелі тры дні. За гэтыя дні ў мяне былі дзве сустрэчы па рама-

не — у «Дружбе народов» і ў «Советском писателе». Абедзве прайшлі добра. Зрабілі некалькі заўваг, а наогул усе ацанілі добра. Яны дзівяцца, калі я ім расказаў пра стаўленне некаторых у Мінску. А пра Пестраковы сцверджанні кажуць, што гэта суцэльнае глупства.

У «Дружбе народов» параілі мне зрабіць адну ўставачку і падскараціць мітынгоўшчыну ў першай главе. Вось тры дні свайго адпачынку ў Кіславодску я і аддаў гэтаму. Сёння высылаю Грыбачову і, можа, дасць бог, на гэтым усё. Вельмі ж ужо ўеўся мне гэты раман у косці.

З заўтрашняга дня пачну адпачываць, хоць нашаму брату заўсёды не хапае часу. Так і мне. Трэба дапрацаваць прадмову да тома публіцыстыкі Якуба Коласа, зрабіць пераклады 2—3 вершаў Пецёфі і 2—3 вершаў Нагнібеды. Адным словам, клопаты ёсць!

Лёля жыве ў Есентуках. Скардзіцца, што надвор'е благое і што нудна. Паеду заўтра праведаць.

У Кіславодску пагода прыемная. Праўда, днём сонечна, а ноччу зімна. Будзем спадзявацца, што ўсё наладзіцца.

Дарагі Нонічак! Як там у цябе справы з дачамі? Не палянуйся — напішы.

Шчыра цябе вітаю з акадэмікам, а калі яшчэ будуць выбіраць, дык віншую наперад, бо цвёрда перакананы, што беларускі акадэмік ты самы найлепшы, які толькі можа быць. Вось бачыш, хай паспрабуюць не выбраць, калі так высока ацэньваюць тваю годнасць людзі.

Вось і пакуль усё. Кланяйся Ніне і скажы ёй, калі яна стала «акадэмічыхай», хай не вельмі робіцца злоснай, а, як і раней, гасцінна падае нам з табой па якой кроплі.

Вітаю Вас усіх. Ваш *Пятрусь*

## 71. І. М. ІЛЬЮШЫНУ

*17 верасня 1957, Мінск*

Міністру асветы БССР
тав. І. М. Ільюшыну

Паважаны Іван Макаравіч!

Дэпутаты Меляхавіцкага сельскага савета т. т. Шостак і Антончык узнімаюць хадайніцтва аб адкрыцці ў Меляхавіцкай сямігадовай школе 8 класа.

Довады іх вельмі пераканальныя. Не ведаю толькі, як гэта можна зрабіць, калі навучальны год пачаўся.

Вельмі прашу Вас разгледзець іх просьбу і паведаміць мне, што можна зрабіць у гэтай справе.

Прыкладаю просьбу т. т. Шостака і Антончыка.

З вялікай павагай да Вас.

*Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР*

17 верасня 1957 г. *(П. Броўка)*

## 72. С. А. ПІЛАТОВІЧУ

*5 кастрычніка 1957, Мінск*

Сакратару Навагрудскага райкома КПБ
тав. Пілатовічу С. А.

Паважаны Станіслаў Антонавіч!

Да мяне паступіла скарга інваліда Айчыннай вайны гр. г. Навагрудка Барысава В. А. аб вельмі цяжкіх жыллёвых умовах.

Прашу Вас, Станіслаў Антонавіч, даручыць гарсавету разабрацца ў гэтай справе і па магчымасці дапамагчы т. Барысаву.

Было б добра, калі б гарсавет адказаў мне, што зроблена ў дачыненні дапамогі т. Барысаву.

З павагай.

*Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР*

5 кастрычніка 1957 г. *(П. Броўка)*

## 73. Е. Т. ГУЦЯНКОВАЙ

*10 кастрычніка 1957, Мінск*

Міністру сацыяльнага
забеспячэння БССР
тав. Гуцянковай

Да мяне звярнуўся са скаргай гр. вёскі Ходзеўляны Дзятлаўскага раёна Гродненскай вобласці Каско Грыгор Ільіч аб тым, што яму адмаўляюць у атрыманні пенсіі, якую ён павінен мець як інвалід Айчыннай вайны.

Вельмі прашу Вас разгледзець яго заяву і паведаміць аб выніках гр. Каско, а таксама мне.

*Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР*

10 кастрычніка 1957 г. *(П. Броўка)*

## 74. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*10 кастрычніка 1957, Мінск*

10.X.1957 г.

Друже Павел!

Посылаю тебе три лирических стиха. Отдай их, пожалуйста, в «Звезду» или «Неву». Мне хотелось бы их напечатать в Ленинграде.

Переводы не ленинградские, но что же делать, когда до Ленинграда далековато и договориться трудно.

В будущем году хочу приехать в Ленинград с новыми стихами и тогда уже попросить ленинградцев перевести меня.

Привет друзьям!
Твой *Петрусь Бровка*

## 75. З. П. МАТУЗАВУ

*12 кастрычніка 1957, Мінск*

Паважаны Захар Пятровіч!

Калі б можна было дапамагчы тав. Даўгапольскаму ў павелічэнні ганарару, было б вельмі правільна.

Чалавек ён стары, піша доўга і добрасумленна, яму крыўднавата хадзіць у пачынаючых. Т. Даўгапольскі казаў, што Вы абяцалі яму перагледзець справу. Саюз пісьменнікаў падтрымлівае хадайніцтва.

З прывітаннем.
12.X.1957 г. *Пятрусь Броўка*

## 76. П. Ф. ГЛЕБКУ

*21 лістапада 1957, Мінск*

21.XI.1957 г.
Мінск

Дарагі Нонік!

Проста не ведаю, з чаго табе пачынаць пісьмо, так многа адбылося за гэты час, як ты паехаў. Відаць, ты і сам з газет знаеш пра тое-сёе. Хутка, відаць, з'явішся дамоў, тады пагаворым падрабязна, а пакуль што хоць коратка.

Цікавае было ў нас падарожжа на Украіну. Гэтая паездка з'явілася сапраўдным святам. Украінцы прынялі нас так, як лепей не трэба. Добрыя сустрэчы ў Кіеве. Чатыры маршруты — паездкі па рэспубліцы. Я ў прыватнасці ездзіў па Закарпацці і да гэтага часу не магу забыцца пра ўсе прыгажосці. Адным словам, пабылі, што ў раі! Дарэчы, узнагародзілі нас на Украіне Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета УССР і ў тым ліку і цябе. Так што прыязджай — грамата чакае цябе!

Пра «спадарожнікаў» ты сам мне пісаў. Разумею цябе, як сустракаеце Вы іх там, а мы таксама з гонарам пазіраем на неба, гэта ж трэба, пакуль я крыху пасяджу за сталом, не паспею і чатырох радкоў скласці, як яны навакол зямлі аблётаюць, зноў нада мною з'явяцца і без адпачынку далей... У дзіўны час жывём мы, браце!

Быў я на юбілейнай сесіі. Яна мяне вельмі ўсхвалявала. Я вельмі рады, што пабачыў і паслухаў найлепшых людзей на свеце, а яшчэ рады і з таго, што пабачыў на парадзе. Лёгка дыхаецца!

У самы апошні час адсвяткавалі мы 75-годдзе нашага дарагога Якуба. Шкода, што не дацягнуў ён да гэтых дзён. Урачыстасці прайшлі хораша. Залажылі помнік. Адзначылі з гасцямі ў яго хаце гадавіну як след.

Што з нашымі дачамі? Пабудавалі ўсім падмуроўкі і на гэтым скончылі. Кажуць, што робяць нейкія пералікі, а як мне здаецца, дык трэба паверыць прарабу, які аднойчы сказаў: «Нам не выгадна распачынаць на зіму, бо трэба будзе аж трох вартаўнікоў ставіць». Відаць, у гэтым прычына. Абяцаюць усё зрабіць вясною.

Спектакль твой прайшоў у Віцебску. У Мінску будзе ісці 26 лістапада, абавязкова схаджу і тады скажу табе аб сваіх уражаннях.

Вось коратка аб нашых навінах. Кланяйся ад мяне Кузьму Венядзіктавічу, Алегу Аляксандравічу, тав. Сысоевай і ўсім-усім нашым сябрам і таварышам!

Вы, напэўна, засумавалі там, і мы, прызнацца, па Вас таксама, так што не баўцеся і прыязджайце дахаты!

Будзь здаровы і бадзёры!

Твой *Пятрусь Броўка*

## 77. М. П. ГЕАРГАДЗЕ

*Снежань 1957, Мінск*

Секретарю Президиума
Верховного Совета СССР
тов. Георгадзе М. П.

Уважаемый Михаил Порфирьевич!

Мне приходится отчитываться за короткий срок. Избран я депутатом Верховного Совета СССР всего год назад 18 ноября 1956 года.

За год у меня в районах Белорусской ССР было 25 встреч с избирателями, из них 12 встреч при выдвижении в кандидаты в районных центрах и сельских советах Новогрудского, Дятловского, Козловщинского, Любчанского, Кореличского и Городищенского районов.

С докладами о седьмой сессии Верховного Совета СССР выступал в районах Дятловском, Новогрудском и Любчанском.

Во время юбилея польского поэта Адама Мицкевича в Новогрудке у меня были три встречи в Новогрудском районе.

В семи колхозах Любчанского и Новогрудского районов летом 1957 года, во время Недели украинской литературы в Белоруссии, у меня также были встречи-беседы с колхозниками.

За год получено около 100 писем. Письма преимущественно с просьбами об улучшении жилищного положения, об определении пенсий, о неправильных действиях местных органов. Все, что мог, делал, чтобы удовлетворить справедливые просьбы избирателей, а если это было невозможно — старался разъяснить суть дела.

Из всего сделанного наиболее отрадно то, что по моему ходатайству в м. Любча Новогрудского района средней белорусской школе предоставлено хорошее помещение б. торгового техникума.

Вот коротко о моей депутатской деятельности за год. В ближайшие дни выеду к избирателям, чтобы рассказать им о решениях последней сессии Верховного Совета СССР.

*Депутат Верховного Совета СССР*
*по Новогрудскому избирательному округу*
*Белорусской ССР*

Декабрь 1957 г. *(П. Бровка)*

## 78. М. А. АБАЛКІНУ

*28 снежня 1957, Мінск*

28.XII.1957 г.

Дорогой Николай Александрович!

Так и не пришлось встретиться в Москве в воскресенье 22.XII. В 4-40 уехал в Киев. Звонил — Вас не было.

Я все о статье. Конечно, мне очень хочется увидеть несколько строк в «Правде» о моем романе. Думаю, что это естественно.

Мозольков болен. Я все думаю, что неплохо было бы, если бы написал Новиченко. Мне кажется — он согласится. Да и на объективность его можно полагаться.

А если откажется, то, может быть, А. Л. Земцов? Белорусский он знает в совершенстве.

Большой Вам новогодний привет!

*Петрусь Бровка*

## 79. А. ЮШЧАНКУ

*8 студзеня 1958, Мінск*

Паважаны друг Олекса Ющенко!

Дзякую Вам за навагодняе прывітанне і ад усяго сэрца вітаю Вас гэтым лістом, жадаю здароўя, шчасця, поспехаў.

На вялікі жаль тэлеграф не адшукаў Вас у Кіеве. Прыкладаю іх паведамленне.

З пашанаю.

8.I.1958 г.

## 80. М. А. АБАЛКІНУ

*20 студзеня 1958, Мінск*

20.I.1958 г.

Дорогой Николай Александрович!

В половине февраля наш съезд. Пошлем Вам приглашение, а Вы, если сможете, подъезжайте в наши белорусские края на несколько деньков. Вы давно у нас не были, а теперь, хотя и зимой, бывает красивая пора.

Еще хочу Вас просить об одном — не сердитесь! Написал я небольшую статью для «Известий». Право же, ни-

как не мог отказаться, а обещал им что-то сделать целый год.

Сегодня еду в Вильнюс на съезд писателей Литвы, и дума сердце гложет, что скоро и свой и что все это требует немало трудов и здоровья.

Большой Вам привет!
*Петрусь Бровка*

## 81. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*7 сакавіка 1958, Мінск*

7.III.1958 г.

Дарагі Павел!

Дзякуй за клопаты. Верш «Пахне чабор» я перагледзеў і адаслаў у «Звязду». Верш «Развітанне» я буду правіць на беларускай мове і адпаведна з гэтым будзе патрэбна праўка і перакладу.

Вот видишь, начал писать по-белорусски. Думаю, что ты поймешь? В общем так — после правки я тебе пришлю, и ты тогда сдай стих по своему усмотрению.

Большой тебе привет.
*Петрусь Бровка*

## 82. П. А. ЖАЛЯЗНЯКОВІЧУ

*14 сакавіка 1958, Мінск*

Сакратару Карэліцкага РК КПБ
тав. Жалязняковічу П. А.

На сустрэчы з выбаршчыкамі мне было зададзена пытанне аб пабудове ў Карэлічах РДК. Высвятляў гэтую справу ў Міністэрстве культуры БССР.

Па плану будаўніцтва прадугледжана пабудова Карэліцкага РДК у 1964/65 гг. Спасылаюцца на тое, што ў гэтым годзе ў Карэлічах будзе пабудавана кіно. Ведаючы, якое ў Вас памяшканне РДК, я пераконваў таварышаў, каб будаўніцтва РДК у Карэлічах было паскорана. Думаю, што мела б вялікае значэнне, каб Вы з свайго боку патрабавалі ад Міністэрства культуры паскарэння гэтага будаўніцтва.

З прывітаннем.

*Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР*
14 сакавіка 1958 г. *Пятрусь Броўка*

## 83. УЛЬЯНОВІЧУ

*14 сакавіка 1958, Мінск*

Старшыні Казлоўшчынскага РВК
тав. Ульяновічу

Высвятляў справу з пабудовай сярэдняй школы ў Казлоўшчыне ў Міністэрстве асветы БССР. Пабудова школы намячалася на больш позні час, але ў выніку маіх доказаў аб неабходнасці паскорыць будаўніцтва міністр асветы тав. Ільюшын зрабіў распараджэнне аб уключэнні будаўніцтва ў план 1960 года.

Вось ўсё, што я мог зрабіць па Вашай просьбе. Можа, Вы самі цераз абласныя арганізацыі здолееце яшчэ паскорыць справу, чаго б і я шчыра жадаў.

З прывітаннем.

*Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР*
*(П. Броўка)*

14 сакавіка 1958 г.

## 84. М. А. АБАЛКІНУ

*19 сакавіка 1958, Мінск*

19.III.1958 г.

Дорогой Николай Александрович!

Большое спасибо тебе за книгу. Хотя я не драматург, но, прочитав ее, я нашел немало полезного и для себя. Говорю правду — книжка полезна, особенно для молодежи в драматургии.

По Вашей просьбе я порекомендовал Тараса Хадкевича. Что-то не видно его трудов? И мой критик что-то молчит, а может быть, ему не хочется и писать? Хотя мне этого он не говорил.

Роман скоро выходит в «Советском писателе». Хочется увидеть его на русском.

Еще раз спасибо за память, за хорошую книгу.

Большой привет!

*Петрусь Бровка*

## 85. І. М. ІЛЬЮШЫНУ

*14 красавіка 1958, Мінск*

14 красавіка 1958 г.
Міністру асветы БССР
тав. Ільюшыну І. М.

Паважаны Іван Макаравіч!

Вучні і настаўнікі Мяжэвіцкай сярэдняй школы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці скардзяцца на вельмі цяжкое становішча са школьным памяшканнем.

Прашу Вас разгледзець гэта пытанне, дапамагчы як можна і адказаць ім па сутнасці справы.

З прывітаннем. *(П. Броўка)*

## 86. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*4 мая 1958, Кіславодск*

4.V.1958. г.
Кисловодск

Дорогой Павел!

Будь добр, поищи мое стихотворение «Земля» в переводе Бруно Ясенского. В суматохе дел ты мог забыть мою просьбу, а я очень жду этот перевод.

Если помнишь, я тебе говорил, что помещено это стихотворение было в моем сборнике «Избранные стихи», изд. ГИХЛ, 1935 год или в газете «Известия», а год точно не помню, кажется, 1931-й или 1932-й.

Прости, что я тебя тревожу, но мне очень нужно.

В Кисловодске живу неплохо. Правда, тоскливо, когда дождь, но что же поделаешь?

Забыл взять твой адрес, да и этот пишу на авось. Буду надеяться, что дойдет.

Сердечный тебе привет! *Петрусь Бровка*

## 87. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*15 мая 1958, Кіславодск*

15.V.1958 г.
Кисловодск

Дорогой Павел!

Большое тебе спасибо за выполнение моей просьбы. Конечно, над переводом Б. Ясенского пришлось теперь посидеть, и я дам его как авторизованный.

«Прощанье» шли уже в Минск.

А у меня к тебе еще одна просьба. В Ленинграде напечатан в «Роман-газете» мой роман. Пока он дойдет до меня, может пройти долго. Может быть, ты сможешь достать экземплярчика три и прислать мне в Минск.

Буду вечно благодарен. Большой тебе привет из Кисловодска!

Твой *Петрусь Бровка*

## 88. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*2 чэрвеня 1958, Мінск*

2.VI.1958 г.
Минск

Дорогой Павел!

Спасибо тебе за все дела. Стихотворение авторизовать не удосужился. 5-го еду в Каралищевичи и сделаю это там. А. Г. Островский прислал экземпляр, но я уже достал и в магазине. Все равно я ему благодарен за внимание.

Издательство «Искусство» прислало письмо, в котором сообщает, что оно согласно издать сборник пьес. Передал Есакову, чтобы он связался с тобой.

Большой тебе привет! Закаляйся в черноморских водах, но не в других!

*Петрусь Бровка*

## 89. С. К. ЦІМАШЭНКУ

*2 чэрвеня 1958, Мінск*

2 июня 1958 г.
Маршалу Советского Союза
С. К. Тимошенко

Дорогой Семен Константинович!

Гр. гор. Слонима пенсионер Федюков Николай Александрович обращается с просьбой о предоставлении читальни Слонимской горбиблиотеке за счет Военторга.

Единственное, что я могу — это просить Вас вникнуть в это дело и, если можно, помочь.

С глубоким уважением.

*(П. Бровка)*

## 90. М. А. АБАЛКІНУ

*18 жнiўня 1958, Рыга*

18.VIII.1958 г.
Рига

Дорогой Николай Александрович!

Вот уже две недели, как я отдыхаю на Рижском взморье. Сюда мне переслали Ваше письмо. Согласен с Вами, что уже пора высказываться о наших делах в «Правде». Беда только, что я не совсем готов к этому. Недавно вернулся из Стокгольма, хотел немного отдохнуть, пописать стихи... А тут беда, умерла мать моей жены, ездил на похороны, все это выбило из колеи.

Вернусь домой, возьмусь за доклад, мысли потекут в «критическом и самокритическом, в статейном направлении», вот тогда напишу и для «Правды».

Очень прошу извинить меня, но действительно, раньше не могу.

Николай Александрович! Несколько стихов «Из Стокгольмского дневника» передал для перевода Хелемскому. Может быть, можно взять для «Правды»? Телефон Якова Хелемского: Д — 7-25-24.

Шлю Вам привет от хладных балтийских вод!

Кланяюсь Вашей супруге.

*Петрусь Бровка*

## 91. М. А. АБАЛКІНУ

*17 кастрычніка 1958, Мінск*

17.X.1958 г.

Дорогой Николай Александрович!

Счел неудобным не откликнуться на призыв, посылаю Вам «Песню о Родине».

Написал я ее в меру своих сил по-русски. Взгляните, если подойдет — напечатайте.

Сижу теперь в лесу под Минском и пишу доклад. Не скажу, что мне это легко и приятно. Думаю и над статьей для «Правды». Может быть, в результате работы над докладом что-либо путное и выйдет.

Искренний, сердечный привет!

*Петрусь Бровка*

## 92. М. А. АБАЛКІНУ

*30 лістапада 1958, Мінск*

30.XI.1958 г.

Дорогой Николай Александрович!

Как мог — выполняю Вашу просьбу. Заодно посылаю стихотворение к 40-летию Советской Белоруссии. О нем меня просили ваши корреспонденты. До юбилея еще месяц, но для перевода лучше, когда время в запасе. Может быть, Вы попросите сделать перевод Хелемского? Обидно только, что иногда мы трудимся впустую. Так было со стихотворением, посвященным комсомолу. Выпало, а было совсем неплохим.

Да что поделаешь, иногда этому виноваты события.

Вот, кажется, я и выполнил свои обязательства перед «Правдой» в этом году. И на душе легче.

Большой привет Вам и Вашей супруге.

*Петрусь Бровка*

## 93. Е. Я. ЛОСЬ

*11 студзеня 1959, Мінск*

11/I—1959 г.
Мінск

Паважаная Еўдакія Якаўлеўна!

Добра разумею Вашы турботы і амаль усе іх падзяляю. Што ж тычыцца «тома» нашай крытыкі, адно магу сказаць — часта ў ім адсутнічае належны тэкст, але нашаму брату, нічога не зробіш, трэба прывыкаць. На доўгім літаратурным жыцці ўсялякіх выбрыкаў даводзіцца сустрэць нямала, але ставіцца да іх трэба спакойна.

На з'езд мы Вас выклічам абавязкова, і дарэмна Вы не рыхтуецеся на ім выступаць. Тое, што Вы мне выка-

залі ў лісце, заслугоўвае ўвагі, а мне здаецца, што ў Вас ёсць болей чаго расказаць сваім таварышам і ўсім прысутным.

Раю Вам падрыхтавацца, калі трэба параіцца з кімкольвек, і абавязкова выступіць. Дарма, калі Вы былі ў Мінску, не зайшлі да мяне, я б пастараўся адказаць Вам на ўсё, што Вас хвалюе.

Вельмі рад, што Вы задаволены жыццём, вучобай, творчаю працаю. Жадаю Вам у Новым годзе яшчэ болей поспехаў.

З прывітаннем.

*Пятрусь Броўка*

## 94. М. А. АБАЛКІНУ

*2 лютага 1959, Мінск*

2 февраля 1959 г.

Дорогой Николай Александрович!

12 февраля 1959 года в Минске открывается 4-й съезд писателей Белоруссии, который продлится три дня. Приглашаем Вас приехать на это время в Минск и принять участие в работе нашего съезда.

О своем согласии и времени приезда просьба сообщить заблаговременно.

С уважением!

*Председатель правления СП БССР*
*(П. Бровка)*

## 95. М. А. АБАЛКІНУ

*30 сакавіка 1959, Мінск*

30.III.1959 г.
Минск

Дорогой Николай Александрович!

Получил Вашу телеграмму, постараюсь выполнить Вашу просьбу.

Что можно сделать? У меня было стихотворение «В полесской глуши», посвященное тому, как на Полесье строится гигант — калийный комбинат. Да не знал я, что Вам понадобятся такие — отдал в «Огонек». Посылаю Вам, на

всякий случай, стихотворение «Семь дубов». В колхозе «Рассвет», где председателем К. П. Орловский, действительно в ознаменование семилетки садят семь дубов. Может быть, используете или обменяете с «Огоньком» на стихотворение «Полесье»?

Вот Вы можете обидеться на мои нескромные поручения, но мне искренне хотелось бы откликнуться на это событие.

Есть у Михася Калачинского стихотворение о Полоцком нефтеперегонном. Сегодня же попрошу выслать Вам. Поговорю об этом со всеми нашими поэтами.

Вот и все. Как живем? Сидим и ждем съезда, и немного огорчены, что он займет такое хорошее время, как май, разобьет у многих планы. Хотелось бы куда-либо поехать и понюхать жизнь. А почему бы ему не быть осенью, раз уж не успели этого сделать раньше.

Но от моих причитаний дело, как видно, не улучшится, а посему лучше смириться и ожидать.

Искренний привет Вашей супруге и всем нашим друзьям!

*Петрусь Бровка*

## 96. І. Д. КАЗЕКУ

*31 сакавіка 1959, Мінск*

Паважаны Іван Дарафеевіч!

Паэт І. Васілеўскі з Смаленска прыслаў сваю кнігу вершаў і хадайнічае аб яе надрукаванні ў Вас.

Што я магу зрабіць? Толькі прасіць Вас пачытаць і памяркаваць, як можна дапамагчы.

Прашу адказаць т. Васілеўскаму.

З павагай

31.III.1959 г. *Пятрусь Броўка*

## 97. М. А. АБАЛКІНУ

*3 чэрвеня 1959, Мінск*

3.VI.1959 г.

Дорогой Николай Александрович!

Все время терзаю себя, что не выбрал время посидеть и потолковать ладом. Да, если признаться, я по-настоя-

щему не уяснил, что надо нам, белорусам, сделать для «Правды».

Будь добр, Николай Александрович, напиши пару словечек, а уж мы приложим сообща силы, чтобы выполнить все как следует.

Сердечный привет!

*Петрусь Бровка*

## 98. М. А. АБАЛКІНУ

*27 ліпеня 1959, Мінск*

27.VII.1959 г.

Дорогой Николай Александрович!

Вырвался в лесок. Думаю отдохнуть и поработать. Начал оканчивать неоконченное. Собралось три стихотвореньица. Может быть, подойдут для «Правды»? Мне кажется, что да, а может быть, и не все, тогда решайте сами.

Просил своих посылать новые произведения в «Правду». В частности Брыля. Выполнили ли они обещания?

Шлю Вам, дорогой Николай Александрович, тысячу самых наилучших пожеланий.

*Петрусь Бровка*

Р. S. Хорошо было бы, если бы перевел Хелемский. А то, может быть, попросить Яр. Ал. Смелякова или А. А. Кудрейко?

*П. Б.*

*Шлю все от руки. Нет машинки.* *П.*

## 99. С. І. ЛІХАДЗІЕЎСКАМУ

*14 жніўня 1959, Мінск*

14.VIII.1959
Мінск

Дарагі Сцяпан!

Прабач, што позна адказваю. Не было ў Мінску. Разумею цябе і цалкам падтрымліваю. Я ўжо гаварыў па тваёй справе з нам. загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ тав. Канавалавым, і ён абяцаў уключыць твой зборнік у план 1960 года.

Адносна працы. Думаю, што было б вельмі карысна для нас, калі б ты працаваў у Мінску. Але што я тут магу парадзіць? Адзінае — можа, спаслацца на мяне і рэктару універсітэта і прарэктару — яны мяне добра ведаюць — а я закіну добрае слова.

Вельмі рад, што ў цябе з'явіўся добры творчы настрой і жаданне быць дома, а працы ў нас сапраўды шмат.

Жадаю табе найлепшых поспехаў.

*Пятрусь Броўка*

## 100. П. ПАНЧАНКУ

*28 верасня 1959, Нью-Йорк*

28.IX.1959 г.
Нью-Йорк

Дарагі Пімен!

Вось ужо больш за два тыдні, як я жыву тут замест цябе і ў тваім пакоі і сяджу блізка ля таго месца, дзе сядзеў ты.

Апісваць табе тутэшняе жыццё няма патрэбы, бо тут яшчэ жыве твой дух, і ты не паспеў забыцца на Астэр-Бэй.

Тваім знаёмым і сябрам Сітнікаву і Гурыновічу я перадаў прывітанне. Яны былі шчыра ўзрадаваны і прасілі пераслаць табе шчырыя прыветы.

Я буду працаваць з К. В. у першым камітэце, дзе буду выступаць, як умовіліся, па Карэі, Алжыры і Сахары.

Што тут было цікавага за апошні час, дык гэта прыезд М. С. Хрушчова. Усе тут жылі гэтым. Мне давялося яго слухаць на Асамблеі і некалькі разоў па тэлевізары. Ён зрабіў так многа, што проста дзівішся яго энергіі, хоць яна і дома не меншая. Сказаць шчыра, ён навучыў нас усіх, як трэба размаўляць у такіх умовах.

Пачуццё высокае годнасці і гордасці за сваю краіну адчувалася заўсёды.

Што табе яшчэ напісаць, бо сапраўды ўсё табе тут вядома. Ну, хіба тое, што ўжо верасень, надыходзіць кастрычнік, а мы ўсё яшчэ млеем ад духаты і ад празмернай вільгаці.

Скажу па шчырасці, што пачынаю сумаваць па доме, але думаю да канца ўсё вытрымаць.

Як жывеце Вы? Як сустрэліся з латышамі?

Перадай паклон Зоі Кір., Андрэю, Тані, бабушцы і ўсім нашым добрым сябрам і знаёмым. Моцна цябе абдымаю.

Твой *Пятрусь*

## 101. П. Ф. ГЛЕБКУ

*30 верасня 1959, Нью-Йорк*

30.IX.1959 г.

Дарагі Нонік!

Вось я ўжо і канчаю месяц верасень у Нью-Йорку. Не скажу, што я вельмі захоплены сваім знаходжаннем тут, але выседжваю дастойна і дачакаюся ў свой час ад'езду дахаты.

Што табе пісаць пра нашае жыццё. Ты перажыў усё гэта, ды і абставіны не змяніліся. Нават пакойчык той самы, што мне прыемна. Часта ўспамінаю, як жылі ў ім мае сябры.

Цікава было тут, калі прыязджаў М. С. Хрушчоў. Мне давялося паслухаць яго і праводзіць з Нью-Йорка.

Надыходзіць кастрычнік, а тут яшчэ душна. Здаецца, скінуў пінжак і пабегаў бы босы.

Як у Вас там цяпер у Ждановічах? Ці зрабілі Вы якія насаджэнні? Ці не забыліся Вы, што ў Вас ёсць сябра, які ўвесь час успамінае пра вас.

Кланяйся шчыра Ніне, Кандрату, усяму Крапівоваму сямейству, усім нашым сябрам і знаёмым. Моцна цябе абдымаю і цалую.

*Пятрусь*

## 102. І. П. ШАМЯКІНУ

*29 кастрычніка 1959, Нью-Йорк*

29.X.1959 г.
Нью-Йорк

Дарагі Іван Пятровіч!

Пішу табе проста з залы пасяджэнняў Генеральнай Асамблеі. Так, браце, выйшла, што кожны дзень я мушу сядзець і выслухоўваць розныя прамовы, а яны сапраўды бываюць рознымі.

Пакрысе тут ужо акліматызаваўся, хоць духата і цяпер яшчэ вялікая. Асабліва тут вялікая вільготнасць — сёння 91 %, а пры такой цяжка дыхаецца.

Але нічога, пражывём як-небудзь свой час і вярнемся дамоў, куды ўжо хочацца. У першым камітэце, дзе мне трэба працаваць, мне вызначылі тры выступленні: Карэя, Алжыр, Сахара.

Пакрысе ўжо бяруся за падрыхтоўку.

Вось і ўсе мае навіны.

Што там добрага ў вас? Як прайшлі сустрэчы з латышамі? Ці пачалі Вы рамонт дома?

Жадаю Вам, Іван Пятровіч, і Вашай сям'і самага найлепшага.

Кланяйцеся ад мяне Міхалу Іванавічу, Ткачову, Хадкевічу, Скрыгану, Якімовічу, Есакову, Таццяне Кузьмінічне, Браніславе Аўгусцінаўне, Фані Яфімаўне, Вользе Васільеўне, Марыі Канстанцінаўне, Алене Пятроўне, Алене Ігнацьеўне, Багушэвічу, Валі і ўсім, усім нашым сябрам і працаўнікам.

Ваш *Пятрусь Броўка.*

Р. S. Івану Іванавічу Грамовічу — шчырае прывітанне!

## 103. М. А. АБАЛКІНУ

*5 лістапада 1959, Нью-Йорк*

5.XI.1959 г.
Нью-Йорк

Дорогой Николай Александрович!

Не удивляйтесь, что письма шлю доплатными. У меня нет марок. Вот уже два месяца, как я сижу на Генеральной Ассамблее делегатом Белорусской ССР.

Естественно, что кое-что пришло в голову. Написал стихи. Посылаю в «Правду» через товарища, уезжающего в Москву. Посылаю для уверенности три стиха в трех письмах: «Невысказанное выступление на Генеральной Ассамблее», «Настоящему американцу» и «Военный оркестр на Бродвее». Думаю, что они подходят и в свете сегодняшнего положения в мире, и в свете советско-американских отношений.

Яша Хелемский мог бы их отлично перевести.

Если «Правда» решит не давать их, подскажите Яше Хелемскому передать их в «Литгазету».

Домой собираюсь приехать в середине декабря, постараюсь тогда навестить «Правду».

Шлю Вам сердечные поздравления с Великим Октябрем. Поздравляю Вашу супругу.

Поздравьте от меня уважаемых Павла Алексеевича, Лукина, Земцова, Потапова, Панкова и всех-всех моих хороших друзей.

Поклон и Наде. Пусть она простит меня, что не запомнил ее отчества.

Еще раз наилучшие пожелания Вам.

*Петрусь Бровка*

P. S. На Ассамблее Аргентина и некоторые другие латино-американцы, а также Испания всячески восхваляли армию. Это к стиху: «Невысказанное выступление» для ясности. Писал на двух сторонах, чтобы письма были полегче.

*П. Б.*

## 104. М. А. АБАЛКІНУ

*10 чэрвеня 1960, Мінск*

10.VI.1960 г.
Минск

Дорогой Николай Александрович!

Был в Москве во время сессии и по возвращении из Норвегии. Не звонил, в смятении чувств находился. Незадолго до сессии хватили меня спазмы сосудов головного мозга, и я изрядно испугался. Теперь поправляюсь, взялся за стихи, а значит, и беспокоить тебя.

Я послал Хелемскому стихи. Мне кажется, там есть подходящие для «Правды». Только не скупитесь, пожалуйста! Не ограничивайтесь одним, а дайте цикл, чтобы поэта работа видна была.

Надеюсь на Ваши хорошие правдистские сердца!

Сижу я теперь вблизи озера, но пользуюсь мало. Всё врачи запрещают пока даже купаться. Вот только озерную воду пить разрешают, а больше никакой. Скучновато! Малая толика иногда веселит душу.

Николай Александрович! Если не трудно — свяжись с Яшей Хелемским и отбери, что понравится, для себя.

А я шлю тебе тысячи приветов и наилучших пожеланий!

*Петрусь Бровка*

## 105. М. А. АБАЛКІНУ

*28 чэрвеня 1960, Ждановічы, пад Мінскам*

28.VI.60 г.
Ждановичи, под Минском

Дорогой Николай Александрович!

Звонил Вам и не застал. А звонил я вот по какому поводу: написал я небольшую вещичку (450 строк) просто о том, что волнует сегодня каждого советского человека — о мире. Может быть, я ошибаюсь или излишне самоуверен, а это с нашим братом бывает, особенно тогда, когда еще не остыл от работы, но мне кажется, что эта вещь для газеты нужна.

Учитывая неоднократные призывы Павла Алексеевича: «пишите», да и твои, дорогой Николай Александрович, я и хотел бы предложить ее Вам.

Знаю, что у Вас должны идти мои стихи, за что я искренне благодарен, чувствую себя немножко неловко. Мне кажется, что Вы готовы осудить мою нескромность. Но я совсем не настаиваю и делаю это только потому, что считаю своим долгом известить «Правду» об этом. Если «Правда» не сможет дать вещицу целиком, а я хочу видеть ее именно так, я попробую предложить ее другим газетам.

Николай Александрович! Я буду звонить Вам 1 июля. Подумайте о Ваших возможностях. Если Вас моя работа заинтересует, я ее немедленно вышлю. Я даже готов специально подлететь в Москву (командировочных не надо), чтобы договориться о переводе и обо всем. Смог бы я это сделать 9 июля, сразу после пленума ЦК КПБ. Мне только нужна была бы Ваша телеграммка с вызовом для проформы.

Вот и все мои хлопоты. Как вы себя чувствуете? Отдыхали ли? Я, как писал, болел, теперь мне лучше, а вскоре, надеюсь, будет и совсем хорошо.

Большой, дружеский привет!

*Петрусь Бровка*

P. S. Пусть эта вещичка не перегородит дорогу стихам. Если решите давать, перевод, да то, да сё — пройдет и месяц.

*П. Б.*

## 106. М. А. АБАЛКІНУ

*1 ліпеня 1960, Мінск*

1.VII.1960 г.
Минск

Дорогой Николай Александрович!

Начинаю опять с того же: мне кажется, что эта вещица очень ко времени, она в меру лирична и публицистична и говорит о том, что сегодня всем нам болит.

Немножко пояснений: посвящена она образу матери, на обращении автора к которой и построена вся вещь. К сожалению, для меня все это — жестокая реальность. Мою мать и многих родственников оккупанты сожгли в Освенциме.

Решайте сами, нужно ли посвящение.

Если решите печатать, перевод я просил бы сделать Хелемского. Если он откажется, а я его часто беспокою, тогда посоветуемся и решим.

Очень жаль, что я не смогу прочесть ее сам. Боюсь, что кое-что не дойдет по вполне понятным причинам (язык). Если возникнут предложения то ли добавить, то ли снять сколько-то строф, очень прошу своевременно известить меня.

А не лучше ли сделать так? Я могу подлететь 10—11 июля (8—9 у нас пленум ЦК), и обо всем договоримся вместе. Не затруднитесь тогда дать мне телеграммку.

Вот и все мои заботы. Боюсь, что и Вам я доставлю их предостаточно. Хорошо бы, чтобы все было недаром.

А я буду надеяться на лучшее.

Сердечный привет Вам и супруге!

*Петрусь Бровка*

## 107. М. А. АБАЛКІНУ

*9 жнiйня 1960, Мінск*

9.VIII.60 г.

Дорогой Николай Александрович!

Мне было очень радостно увидеть свои стихи в «Правде» и получить от Вас дружескую телеграмму. Спасибо!

Вчера получил перевод поэмки от Яши Хелемского. Мне кажется, что перевод хороший и вещица получилась. Буду теперь ждать появления ее в «Правде».

Я сделал Я. Хелемскому несколько замечаний. Он, безусловно, все поправит. Мне бы хотелось только, чтобы

обязательно на 1 стр. (7 строчка сверху) вместо слова «мама» было слово «мать». Да и вообще дальше, где можно, надо бы сделать также. На стр. 8 (10 строка сверху) вместо слова «обрушились» надо бы «рушились».

Ну, а остальные замечания, я уверен, он учтет. Эти я додумал после разговора с ним.

Вот и все! Очень прошу Вас, дорогой Николай Александрович, позаботиться теперь о судьбе моей поэмки.

Как живете? Мы в Белоруссии страдаем от избытка дождей. Каждый день льет и льет... Неприятно, конечно! Да нам — что? Сердце болит — убирать урожай надо, а это трудно делать, боюсь, кабы не пропало много. А так хотелось бы, чтобы колхозники получили в этом году побольше. Они ведь так стараются!

Болезнь моя понемногу проходит, и я надеюсь, что в скором времени избавлюсь от нее. Хотелось бы пожить еще здоровым, хотя относительно, но так, чтобы и мне, как всем здоровым, все можно было.

Большой привет Павлу Алексеевичу, Вашей супруге и всем друзьям!

Ваш *Петрусь Бровка*

## 108. П. ПАНЧАНКУ

*26 жніўня 1960, Мінск*

Дарагі Пімен!

Пасылаю табе 6 вершаў, якія я напісаў за лета. Можа, надрукуеш у «Маладосці»? Маіх вершаў, апрача аднаго, там яшчэ не было. Мне ўсё роўна, у які нумар ты іх пусціш.

Калі будуць якія заўвагі, пазвані, братка. Я буду вельмі ўдзячны. Я вельмі хацеў табе іх пачытаць, ды усё не выпадала.

Абдымаю цябе!
Твой *Пятрусь Броўка*

## 109. П. ПАНЧАНКУ

*3 кастрычніка 1960, Мінск*

3.X.1960 г.

Дарагі Пімен!

Вельмі добра, што ты напомніў пра А. Пракоф'ева. За-

раз жа сяду і буду рабіць. Пастараюся прыслаць не пазней 10 кастрычніка.

Я ўжо ўзяўся за работу. Чаго добрага, а пасяджэнняў хопіць. Вось ужо далі заданне рыхтавацца да сакратарыята па перакладах, прызначылі тры разы выступаць у «Дні паэзіі» і г. д.

Вельмі шкадую, што не здолеў табе дапамагчы ў тваёй справе, але спадзяюся, што прыеду ў кастрычніку, і тады разам давядзём.

Кланяйся З. К., маці і дзецям!
Твой *Пятрусь Броўка*

## 110. М. А. АБАЛКІНУ

*1 сакавіка 1961, Барвіха*

I.III.61 г.
Барвиха

Дорогой Николай Александрович!
Так и не удалось нам встретиться. Посылаю Вам из Барвихи несколько строк о Шевченко. Есть у меня еще на белорусском языке 6 страниц, может быть, там лучше, но очень велико.

Если что не удовлетворяет, звоните мне по телефону Г-1-13-69, добавочный 17.

Я очень устал и теперь с удовольствием отдыхаю и хожу по процедурам.

Большой Вам привет!

*Петрусь Бровка*

## 111. П. ПАНЧАНКУ

*6 сакавіка 1961, Барвіха*

6.III.1961 г.
Барвіха

Дарагі Пімянок!

Вельмі дзякую табе за такую шчырую і арыгінальную тэлеграму. Хоць я ніколі не быў ні каля Рака, ні каля Казярога, але я вельмі ўзрушаны тым, што там успомнілі мяне сябры.

Ты, відаць, ужо дома, адпачнеш, а потым разгорнеш сшытак і возьмешся за працу. Уражанняў, відаць, поўна. Ажно зайздросна! Шчыра жадаю, браце мой, табе поспеху!

А я сяджу ў Барвісе і крыху лячуся. Апошнія месяцы мне так выламіла спіну, што я не мог даць рады. Адлажэнне соляў на пазваночнік! Вось паганая хвароба, баліць страшэнна. Тут стала крыху лепш. Даюць мне радонавыя ванны, робяць масаж і дадаюць іянізацыю. Можа, я крыху выберуся з гэтай погані, хоць зусім пазбавіцца, кажуць, што нельга.

Сумна тут у Барвісе. Адны старыя і хворыя. А я калі ўспомню, што нядаўна тут быў Колас, а цяпер яго няма, дык ажно сэрца запічыміць. А калі гляну пасля гэтага сам у люстра, а адтуль паглядзіць на мяне сівы і добра змардаваны дзядзька, дык можаш уявіць, які тады ў мяне настрой.

Але досыць, Пімянок, пра хандру. Я ж па душы не такі пануры і думаю, што вясною адчую сябе як след. Зборнік твой аддаў Анатолю Сафронаву. Ён пусціў яго ў ход. Калі ён прыязджаў у Мінск, я зноў нагадваў пра цябе, ён запэўніў, што ўсё будзе ў парадку. Напішы ты колькі слоў яму сам і запытайся пра кніжачку, думаю, што гэта не пашкодзіць.

Тут адпачывае Твардоўскі. Па настроі адчуваецца, што нешта піша. Часамі гуляю разам, але я стараюся неназаляць, каб часам не падумаў, што я яму надакучаю. А так, як ён кажа, ставіцца ён да нас, беларусаў, добра. Нашаму брату, прынамсі, на яго крыўдаваць няма чаго.

Вось і канчаю я сваё пасланне пажаданнем табе здароўя, добрай працы, шчасця.

Кланяйся ўсім — бабушцы, Зоі, Тані, Андрушу.

Моцна цябе абдымаю і цалую!

Твой *Пятрусь Броўка*

## 112. Л. С. СОБАЛЕВУ, Г. М. МАРКАВУ

*Красавік 1961, Мінск*

Председателю Правления
Союза писателей РСФСР
тов. Л. С. Соболеву
копия
Секретарю Правления
Союза писателей СССР
Г. М. Маркову

Дорогой Леонид Сергеевич!

Много можно было бы сказать о той великой дружбе,

которая кровно связывает две наши братские литературы. Мы, белорусские поэты и писатели, всем сердцем признательны нашим дорогим русским друзьям за ту братскую помощь, которую они оказывали и оказывают нам.

Белорусская общественность, глубоко заинтересованная достижениями братской нам русской литературы, решила провести во второй половине июля Неделю русской литературы в Белоруссии.

Правление Союза писателей БССР убедительно просит Вас направить к нам на Неделю русской литературы бригаду русских поэтов и писателей (15 человек), которую мы счастливы будем встретить и вместе провести наши дружеские вечера.

Надеясь на Ваше согласие, мы уже разработали план мероприятий, который вскоре пришлем к Вам.

С братским, дружеским приветом!

*Председатель* *(Петрусь Бровка)*

## 113. М. А. АБАЛКІНУ

*31 ліпеня 1961, Мінск*

Минск
31.VII.61 г.

Дорогой Николай Александрович!

Посылаю свою вещицу. Намучился я изрядно: в Москве не застал Яши Хелемского, а другого, по душе, как ни старались с Сергеем Петровичем, не нашли.

Приехал домой. Дал одному — испортил, дал другому — сделал лучше, но пришлось, как каторжному, сидеть самому и править три дня. Теперь, кажется, получилось, и не плохо.

Вот какая у меня просьба: 3-го приезжает Яша Хелемский. Может, попросишь его — пусть пройдет по строчкам и уберет замеченные им шероховатости. Если не будет его, может быть, кто-либо пройдется у вас?

Николай Александрович! Очень тебя прошу — не режьте без нужды. Я и так уже сократил 20 строк. Обидно, если обкарнаете совсем.

Вот и все. Когда я был в Москве, ты был в Англии, оставил на память книжечку и ушел. Ну, а как насчет недели у нас? Приедешь ли? А было бы неплохо!

Привет и наилучшие пожелания!

*Петрусь Бровка*

## 114. М. А. АБАЛКІНУ

*2 жніўня 1961, Мінск*

Дорогой Николай Александрович!

Как я и предвидел — перевод подвел. Посылаю оригинал, уповаю на Яшу Хелемского. Может быть, поправит, а то и вновь?

Сердечный привет!

2.VIII.61 г. *Петрусь Бровка*

## 115. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*28 жніўня 1961, Мінск*

28.VIII.61 г.

Дорогой Павел!

Извини, что поздно отвечаю. Замотался окончательно. Много всякой текучки. Много времени ушло на Неделю, но зато дело получилось отличное.

Мы знали, что ты болеешь, и потому не тревожили. Вспоминали тебя добрым словом часто.

Янка Брыль говорил мне о твоих делах, и мы условились с ним помочь тебе в решении их.

Вряд ли выйдет дело с моим сборником в Ленинграде. Ведь только что у меня вышла книга в «Советском писателе». Я благодарю тебя за память, но ты особенно не настаивай, дело издания теперь — дело сложное.

Поправляйся, приезжай, и потом поговорим обо всем.

Обнимаю тебя!

*Петрусь Бровка*

## 116. ЯНУ СУДРАБКАЛНУ

*9 верасня 1961, Мінск*

9.IX.61 г.
Минск

Дорогой мой Ян Карлович!

Тысячу раз спасибо за твое чудесное письмо. Я и теперь еще живу тем волнением, которое охватило меня после его прочтения. Признаюсь, что читал и жене, и коекому из самых близких друзей. Пусть это нескромно, но

удержаться я не мог. Письмо твое принесло мне много радости, а еще больше влило в сердце большие надежды на будущий труд. Как много значит нашему брату искреннее, задушевное слово.

Еще и еще раз спасибо!

Дорогой Ян Карлович! В письме твоем чувствуются нотки самобичевания. Я очень уважаю людей, которые глубоко анализируют себя, но, поверь, дорогой, а я говорю святую правду, нет у тебя оснований так строго относиться к себе, обвиняя себя и в риторике, и в ходульности. Все это не характерно для тебя, а у всех нас есть неровные стихи. Но еще раз от всего сердца могу заверить тебя, что читатель не упрекнет тебя в грехах, которые ты приписываешь сам.

Мы все искренне тебя любим как большого друга, человека, как настоящего райнисовца, благородное призвание которого ты с такой честью несешь сегодня.

Я глубоко уверен, что еще много-много удач ждет тебя, дорогой Ян Карлович, впереди. Искренне тебе их желаю, крепко обнимаю и целую.

*Петрусь Бровка*

## 117. ЯНУ СУДРАБКАЛНУ

*17 кастрычніка 1961, Масква*

17.X.61 г.
Москва

Дорогой Ян Карлович!

Тысячу раз благодарю за Ваше сердечное, дружеское слово. Чувствую себя как в праздник. Многие поздравляют меня, а я все время думаю о том, кому я обязан.

Рад был вскоре прочитать Ваше прекрасное стихотворение «На съезд». Много в нем чувства, мысли и хороших находок. Я читал Ваше стихотворение и, простите за нескромность, думал, а ведь оно и ко мне обращено.

Спасибо Вам за Ваше хорошее сердце.

Сегодня спешу на открытие съезда. Взволнован. Думается о том, сколько у нас хорошего, сколько чудесных друзей, сколько еще дел впереди.

Большой-большой, искренний поклон Вам!

*Петрусь Бровка*

## 207. У. М. ДУБОЎКУ

*11 ліпеня 1975, Мінск*

*тэлеграма*

Всем сердцем поздравляю талантливого, мудрого, сердечного. Крепко обнимаю. Целую.

*Петрусь Бровка*

## 208. С. П. КРАСІКАВУ

*15 верасня 1975, Мінск*

15 сентября 1975 г.
Минск

Уважаемый тов. Сергей Красиков!

Вот видите, какая у меня несовершенная память. Я уже забыл и Ваше отчество. Извините!

Мое почти все переведено Хелемским и Корчагиным. Посылаю Вам два моих сборника. Думаю, что не возбраняется выбрать, что Вам понравится, и еще раз перевести для «Москвы». Я согласен. Будете сдавать — пришлите для ознакомления. Не помешает.

Искренний привет Нелле!

Всего Вам доброго!

*Петрусь Бровка*

## 209. У. М. ДУБОЎКУ

*17 снежня 1975, Мінск*

17 снежня 1975 г.
Мінск

Дарагі Уладзімір Мікалаевіч!

Па-першае, вялікае дзякуй табе за кніжку казак. Яна проста цудоўная і так патрэбная для чытача і малога і старога.

Пасылаю табе два пісьмы. Можа, яны належаць табе, а нас зблыталі па даўнасці часу. Калі так, будзь ласкаў, адкажы ім.

Як тваё здароўе? Я крыху падмацаваўся і адчуваю сябе прыстойна.

Шчырае прывітанне Марыі Пятроўне!

Ваш *Пятрусь Броўка*

## 210. М. Э. АБАЛА

*3 студзеня 1976, Мінск*

3.I.1976
Мінск

Дарагі наш сябра М. Абала!

З Новым годам Вас, хоць ужо і крыху позна. Самага найлепшага Вам ва ўсіх Вашых добрых задумах! Мяне здзіўляе, што Вы так добра ведаеце беларускую мову. Ах, каб я хоць крыху ведаў латышскую, як было б гэта добра!

Наконт справы. Ёсць у мяне некалькі пісем дарагога Яна Карлавіча, але знайсці мне іх вельмі цяжка. У мяне вялікі архіў і ў поўным беспарадку. Можа, толькі вясною я здолею ўзяцца за яго і тады вышлю Вам усё, што трэба. Прашу пра гэта і Алену Міхайлаўну.

Самага добрага Вам яшчэ раз!

*Пятрусь Броўка*

## 211. С. І. ГРАХОЎСКАМУ

*30 снежня 1978, Мінск*

Дарагі дружа Сяргей з сямейкаю!

Горача віншую Вас са святам, ды і жадаю самага найлепшага!

А табе, мой шчыры сябра, яшчэ большых поспехаў у паэзіі. А вершы твае заўсёды чытаю з цікавасцю, а часта з асалодаю!

*Пятрусь Броўка*

## 212. А. ЮШЧАНКУ

*Пачатак студзеня 1979, Мінск*

Дарагі дружа Алекса!

Віншую горача, хоць і са спазненнем! Вельмі мне спадабаліся Вашы вершы ў «Правде».

Жадаю новых поспехаў!

*Пятрусь Броўка*

## 213. В. П. РАГОЙШУ

*4 студзеня 1979, Мінск*

Паважаны Вячаслаў Пятровіч!

Віншую і Вас з сямейкаю з Новым годам! Добрага здароўя і добрых поспехаў Вам!

Адносна нашых спраў: мне ўсё яшчэ не дае спакою горла. Вось чаму мой удзел можа быць вельмі абмежаваным. Ды і не магу ж я доўга гаварыць сам пра свой Збор твораў. Кнігі 7-й яшчэ няма. Можа, адложым?

Давайце ўмовімся! Званіце мне 3—4 студзеня: 22-27-50. Сустрэнемся — памяркуем!

Прывітанне яшчэ раз!

*Пятрусь Броўка*

## 214. С. І. ГРАХОЎСКАМУ

*26 студзеня 1979, Мінск*

Дарагі дружа Сяргей!

Віншую з добрай кнігай «Зачараванасць». Галоўная якасць — пошукі новага, і часта ўдалыя. Ёсць такія-сякія паўторы, ды і ў мяне яны сустракаюцца. Бывае, што адно і тое ж у розных варыянтах усплывае перад намі.

Маналіт — мудры, свежы, цікавы. І вельмі сучасны.

Дзякую і за сардэчнае віншаванне.

Твой *Пятрусь Броўка*

26.I.1979 г.

## 215. В. П. РАГОЙШУ

*22 сакавіка 1979, Мядзель*

Шаноўны Вячаслаў Пятровіч!

Пасылаю Вам усё, што я здолеў зрабіць. Дзякуй Вам за клопаты. Не пашкадуйце іх і, калі трэба будзе, можа, і папраўце, што набяжыць. Вельмі спяшаўся, каб адаслаць Вам і два апошнія адказы нават не перачытаў. Выбачайце!

Прывітанне Вашаму дому!

З павагаю!

*Пятрусь Броўка*

22 сакавіка 1979
«Сосны»

## 216. Я. А. ХЕЛЕМСКАМУ

*11 кастрычніка 1979, Мінск*

11/X-79

Дорогой Яша!

Несчастный я человек. Начали поправляться глаза, да село горло и так, что я, будучи в Минске, не смог поразговаривать с тобой.

Начали лечить. Дали 6 уколов стрептомицина. Вот дадут и опять же какие-то таблетки.

Да я и сам уверен, что всё наладится. Думаю быть в Москве — 24-го/X у проф. Горлиной и других. Тогда и договоримся обо всем.

Сегодня возвращаюсь в Сосны, а оттуда 22-го утром. Все делается не так, как задумано. Не увидел и Азгура, и Сашу. А хотелось бы, чтобы он у нас побыл.

Но будем надеяться, что наши планы все же будут выполняться.

Сердечный привет Марии Наумовне и Саше!

Ваш *Петрусь Бровка*

## 217. Я. А. ХЕЛЕМСКАМУ

*6 сакавіка 1980, Мінск*

6.III.80
Минск

Дорогой Яша!

Пишу тебе несколько слов еще в неопределенности. Есть надежды. Ими и живу.

Запутался я с Наумом Кисликом. Что давать, а что и из прежних переводов хорошо. Разберитесь и решите сами.

Крепко обнимаю тебя, Сашу.

Марии Наумовне — особенно сердечный — 8-мартовский.

Твой *Петрусь Бровка*

P. S. Юра перепечатал мое обращение к читателям, мы вместе сочиняли с Ел. Михайловной. По-моему, хорошо?

## 1905

*Чэрвень, 25.*

У невялікай вёсцы Пуцілкавічы Ушацкага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і малазямельных сялян Усціна Адамавіча Броўкі і Алены Сцяпанаўны Броўка нарадзіўся сын Пятрусь.

Бацькі пісьменніка мелі дзве з паловай дзесяціны зямлі, а сям'я была вялікая: шэсць хлопцаў (Андрэй, Пятрусь, Сцяпан, Алесь, Кастусь, Лявон) і чацвёра дзяўчат (Маня, Люба, Жэня і Валя). Каб пракарміць сям'ю, бацька прырабляў на жыццё: араў зямлю ў арандатара, служыў фурманам, займаўся сталяркай.

*З успамінаў П. Броўкі:* «Вот и теперь, на склоне лет, будто живая, передо мною моя родная деревенька Путилковичи. Именно деревенька — всего, как говорили, шестнадцать дворов. А что за дворы! Шестнадцать соломенных крыш, будто прилепленных одна к другой. А под ними маленькие, подслеповатые окна, в которых разбитые стекла скреплены лучинками или заткнуты тряпьем. А в хате — огромная печь, некогда белая, но уже закопченная; большой сосновый стол, искромсанный ножами; лавки вдоль стен да широкие полати для спанья, застланные дерюжками. В красном углу — образ Миколы-угодника или Пречистой богоматери. А у входа в хату цэбар — огромная кадка, в которую сливались остатки пищи и собиралось пойло для коровы. Все было убого, но близко моему сердцу. Мне казалось тогда, что ничего красивее нашего уголка нет на свете, да ничего другого я и не видел... И хотя детство было нелегкое, оно не осталось в памяти мрачным, а вспоминается красочно-неповторимым». *(Бровка П. Пишу о сердце человечьем.— М., 1974.— С. 11.)*

## 1910

*З успамінаў П. Броўкі:* «Помню раннее весеннее утро, мне тогда было пять лет. Лежу на полатях и еще сквозь дремоту слышу, как голосисто протрубил деревенский па-

стух, призывая выгонять коров. Слышу, но проснуться не могу, так сладко спится после беготни с друзьями в минувший день. Но вот бабка Тэкля, нежно расталкивая меня, поднимает на ноги. Тут же помогает обуть лозовые лапотки. Я у цэбра, мою лицо из деревянной лохани. Бабка наскоро дает с собой бутылку молока и ломоть хлеба в торбочке, на день. На дворе нахожу свою пугу — и вот я уже рядом с пастухом Матеем, семидесятилетним дедом, за стадом коров. А потом целый день — лес, где мы пасли скот, сосновые взгорки, болотистые низины, кусты можжевельника, вереск, брусничник, болиголов, совы, дятлы, коршуны, дрозды...» *(Пишу о сердце человечьем...— С. 11.)*

## 1913
## (або 1912) — 1915

Пятрусь пачаў вучыцца ў пачатковай Пуцілкавіцкай школе, якая знаходзілася ў сялянскай хаце. Захапляецца чытаннем. Асабліва ўразілі вершы Я. Купалы, М. Някрасава, апавяданне Я. Коласа «Тоўстае палена». Знайшлася і работа — пісаць пісьмы салдатам на фронт.

*З успамінаў П. Броўкі:* «...это занятие заинтересовало меня, — за каждое письмо я получал плату: одно или два яйца. Как-никак — приработок. Но писать эти письма надоедало. Измученные солдатские матери и жены, неграмотные, не больно умели сочинять свои послания, да и я мало мог им в этом помочь...» *(Пишу о сердце человечьем...— С. 12.)*

## 1915

*Восень.*

Сям'я Усціна Адамавіча Броўкі пераехала ў горад Лепель і пасялілася пры гімназіі. Бацька пачаў працаваць вартаўніком, маці — прыбіральшчыцай.

Пятрусь паступіў у Лепелі ў царкоўнапрыходскую школу, а праз год — у Лепельскае вышэйшае пачатковае вучылішча.

## 1917

Пятрусь скончыў тры класы Лепельскага вышэйшага пачатковага вучылішча.

## 1918

З-за матэрыяльных нястач сям'я Усціна Адамавіча Броўкі вяртаецца ў Пуцілкавічы. Пятрусь пачынае працаваць перапісчыкам у Вялікадолецкім валасным ваенным камісарыяце.

Гэты аўтабіяграфічны факт пакладзены ў аснову апавядання «Пачатак» (1960).

*З успамінаў П. Броўкі:* «Што я мог рабіць? Перапісваў паперы. І, трэба сказаць, аддаваўся гэтай справе з усім запалам. Бо ў кожнай з такіх папер гаварылася аб вялікім і новым, што прынесла савецкая ўлада на вёску, аб тым, што кроўна цікавіла сялян, у тым ліку і мяне, сялянскага хлопца». *(Броўка П. Аўтабіяграфія* // Пяцьдзесят чатыры дарогі: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў.— Мн., ДВБ, 1963.— С. 56.)

## 1920

*Чэрвень.*

Пятрусь перайшоў працаваць справаводам у валвыканкоме.

*З успамінаў П. Броўкі:* «Вельмі многа мне дала гэтая работа, таму, што і ў валасным цэнтры нямала адбывалася падзей, а ўдзельнічаючы ў іх, і я знаходзіўся ў самай гушчы нашай вёскі. У валвыканком прыходзіла шмат газет і рознай літаратуры. Чытаў з захапленнем. Усё гэта з кожным днём усё больш і больш адкрывала мне вочы на свет». *(Пяцьдзесят чатыры дарогі... С. 56.)*

## 1921—1923

Працуе рахункаводам у саўгасе «Вялікія і Малыя Дольцы», памочнікам страхагента. Захапляецца работай сярод моладзі: арганізоўвае мастацкую самадзейнасць, выступае з дакладамі.

## 1922

Становіцца сельскім карэспандэнтам газеты «Бядняк» Барысаўскага павятовага камітэта партыі. Працуе загадчыкам хаты-чытальні. Піша допісы ў газеты «Беларуская вёска», «Савецкая Беларусь», «Звязда».

## 1923

Абраны сакратаром камсамольскай ячэйкі ў вёсцы Малыя Дольцы. Спачатку ў маладолецкую камсамольскую арганізацыю ўваходзіла 6—12 чалавек, у асноўным маладыя рабочыя саўгаса.

*З успамінаў П. Броўкі:* «В 1923 году мы, молодежь совхоза «Малыя Дольцы», почувствовали, что нам необходимо вступить в комсомол. Мы узнали о нем из поступавших к нам юношеских газет. К сожалению, волком КСМБ до нас еще не дошел, и мы решили направить ходока прямо в Борисовский уком комсомола. Я был тогда легок на подъем и, не мешкая, отправился в путь, прихватив с собой торбочку с хлебом и куском сала. Весь поход (а надо было пройти 120 километров) занял у меня четыре дня: два дня туда и обратно два. В укоме меня приветливо встретили, наделили инструкциями, бланками и предложили ускорить организацию ячейки. Так я и стал секретарем комсомольской ячейки, надолго связав свою судьбу с комсомолом. Я на всю жизнь остался благодарен ему за настоящую школу жизни, за воспитание во мне лучших коммунистических чувств, приведших меня в ленинскую партию коммунистов». *(Пишу о сердце человечьем...— С. 16.)*

П. Броўка пачынае дасылаць нататкі ў рэспубліканскія газеты. Становіцца іх селькорам. Захапляецца вершамі А. Пушкіна, М. Някрасава, Т. Шаўчэнкі. Знаёміцца з творчасцю Я. Купалы і Я. Коласа.

## 1924

Абраны старшынёй Маладолецкага сельсавета.

*З успамінаў П. Броўкі:* «А стихов я читал все больше и больше. Знал уже много из Пушкина, Некрасова, Кольцова. Глубоко взволновал меня Тарас Шевченко. Я уже не говорю о Купале и Коласе, я ловил все написанное ими. Услышал новый, свежий, молодой, бунтарский голос Михася Чарота, первого пролетарского поэта Белоруссии. Прочел новаторские, революционные стихи Маяковского. Я читал и чувствовал, что они поют о том, чем живу и я. Но еще мне казалось, что о чем-то я и сам могу рассказать,— о нашем, сельском, о том, как живем мы, молодые. Тайно я начал сочинять стихи, небольшие, но полные па-

фоса, и лирические — о природе и, конечно же, о любви. Открываться кому-либо стеснялся, тем более что меня уже избрали председателем сельсовета. Боялся уронить свой авторитет: а вдруг начнут насмехаться.

Но не писать я уже был не в силах. Я не могу не вспомнить все это, когда думаю, что же привело меня на путь поэзии. И познанные невзгоды прошлого, и несказанное счастье новой жизни, красота родной природы, и глубоко лирические народные музыка и песни — все наполнило сердце неодолимым желанием поведать о своих чувствах людям». *(Пишу о сердце человечьем... С. 17—18.)*

## 1925

Накіроўваюць на работу ў Полацк на пасаду загадчыка аддзела акруговага камітэта камсамола.

*З успамінаў П. Броўкі:* «Цяжка было мне развітвацца з сялом, але я ганарыўся тым, што еxaў у горад, дзе спадзяваўся атрымаць сталую асвету. Мае надзеі спраўдзіліся». *(Пяцьдзесят чатыры дарогі...— С. 57.)*

*Сакавік, 7.*

Пры рэдакцыі акруговай газеты «Чырвоная Полаччына» арганізавалася Полацкая філія Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк», куды ў розныя гады ўваходзілі А. Дудар, А. Александровіч, А. Звонак, П. Броўка, Э. Самуйлёнак, Я. Скрыган і інш. *(«Полоцкий пахарь», 21 лістап.)*

## 1926

*Жнівень, 18.*

У газ. «Чырв. Полаччына» — першы друкаваны верш П. Броўкі «Ой, не шапчы, бяроза...». Ва ўсіх наступных прыжыццёвых выданнях верш меў назву «Ой, не шапчы, мая бярозка...». Верш быў пакладзены на музыку самадзейным кампазітарам Н. Ларковым.

Першыя вершы П. Броўка друкуе ў 1926 г. у акруговай газеце «Чырвоная Полаччына», дзе з 1927 г. пачынае працаваць адказным сакратаром.

*З успамінаў П. Броўкі:* «Стихи я писал все время, но боялся признаваться в этом товарищам. Редакция окружной газеты «Чырвоная Полаччына» находилась в двух

кварталах от окружкома ЛКСМБ, где я работал, но отнести туда стихи я стеснялся. И только, когда один из близких друзей, которому я открылся, сказал мне, что сделает это за меня,— я решился и почтой отправил в редакцию свое стихотворение. Если бы можно было передать словами, с каким нетерпением я разворачивал каждый новый номер газеты. И наконец, о чудо! На третьей странице впервые печатными буквами: «Петрусь Бровка. «Ой, не шепчи, моя березка...» *(Пишу о сердце человечьем...— С. 212.)*

*Лістапад.*

Выйшаў першы літаратурна-мастацкі альманах полацкай філіі «Маладняка» — «Наддзвінне», на старонках якога друкаваліся першыя творы П. Броўкі: «Ой, ды над узгоркамі...», «Стары друг мой! — Стальная каса», «Майскім раннем я вас пакідаў...», «Сёння ж за ўзгоркамі...» і інш. Першыя творы П. Броўкі друкаваліся таксама і ў літаратурна-мастацкіх дадатках-альманахах «Росквіт» і «Зарніцы», якія выдавалі маладыя літаратары Полаччыны.

*Лістапад, 20.*

У газ. «Чырв. Полаччына» — верш «Засмяялася чырванню раніца...» з прысвячэннем Я. Коласу.

*З успамінаў П. Броўкі:* «Из белорусских поэтов наиболее нравились Янка Купала и Якуб Колас. Волновали меня и стихи Михася Чарота...

Из русских поэтов мне нравились Маяковский и Есенин. Как будто бы и противоположные поэты, а нравились оба. Нравились, так сказать, периодами: полгода я увлекался одним, полгода — другим. Кое в чем старался подражать. Стихи их меня глубоко волновали. Я ими жил. На прогулках, в поле, в лесу я читал их стихи наизусть. Оставаясь один, то и дело вспоминал из этих стихов строки, строфы. Любовь к обоим поэтам я сохранил на всю жизнь. И наверное, если хорошо покопаться в моих работах, то можно обнаружить влияние как Маяковского, так и Есенина». *(Пишу о сердце человечьем...— С. 230.)*

## 1927

Пачаў працаваць адказным сакратаром газеты «Чырвоная Полаччына».

*Студзень, 21.*

У газ. «Чырв. Полаччына» — верш «Мы на Ленінскім

шляху», напісаны да 3-й гадавіны з дня смерці У. І. Леніна.

*Май, 21.*

У газ. «Чырв. Полаччына» — верш «М. Багдановічу», прысвечаны 10-годдзю з дня смерці паэта.

*Май, 21; чэрвень, 22.*

У газ. «Чырв. Полаччына» — апавяданне «Сымонава гора». Першы празаічны друкаваны твор П. Броўкі.

*Жнівень, 20.*

У газ. «Чырв. Полаччына» — артыкул «Творчасць некаторых пачынаючых паэтаў».

*Верасень, 14.*

У газ. «Чырв. Полаччына» — апавяданне «Памылка».

## 1928

*Студзень, 25.*

У газ. «Чырв. Полаччына» — артыкул «Яшчэ раз аб творчасці пачынаючых».

*Красавік, 18.*

У газ. «Чырв. Полаччына» — апавяданне «Тры сасны».

*Чэрвень, 1.*

У газ. «Чырв. Полаччына» — верш «Міколу Галадзеду».

*Жнівень.*

Паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта. Гэтая падзея адлюстравана ў аўтабіяграфічным вершы «На вучобу» (1928).

*Лістапад, 25—28.*

Прымаў удзел у рабоце Усебеларускага з'езда «Маладняка».

З'езд прыняў пастанову аб стварэнні Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП). Члены: А. Александровіч, А. Астрэйка, П. Броўка, П. Галавач, А. Звонак, А. Куляшоў, М. Лынькоў, Р. Мурашка, Я. Скрыган, П. Трус, М. Хведаровіч, Х. Шынклер і інш. *(Звязда, 27, 29, 30 лістап.)*

## 1929

*Верасень, 2.*

Прысутнічаў на пахаванні П. Труса (памёр 30 жн.). На пахаванні выступілі: О. Канакоцін, Я. Колас, П. Галавач, А. Бабарэка, Р. Мурашка і інш. *(Сав. Беларусь, 4 верас.)*

## 1930

*Студзень — сакавік.*

У рэспубліцы прайшоў трохмесячнік беларускай пралетарскай культуры і культур нацыянальных меншасцей Беларусі.

У лютым у складзе брыгады пісьменнікаў (Я. Колас, З. Бядуля, М. Нікановіч, І. Цвікевіч) П. Броўка выязджаў у Магілёў. Пісьменнікі правялі шэраг вечароў, выязджалі на рабочыя прадпрыемствы Быхава і Шклова. *(Полымя, № 3.)*

*Май, 28.*

Прысутнічаў у Доме асветы на ўрачыстым вечары, прысвечаным 25-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы. На гэтым вечары П. Броўка ўпершыню ўбачыў Янку Купалу. *(Звязда, 30 мая; Броўка П. Вы клікалі нас, маладых арлянят... // Зб. тв.: У 7 т.— Мн.: Маст. літ., 1978. Т. 6.— С. 335.)*

*Чэрвень — ліпень.*

У часоп. «Маладняк», № 6—7 — паэма «Прамова фактамі» з падзагалоўкам: «Да дня вызвалення Беларусі ад белапалякаў».

*Жнівень, 10.*

Прысутнічаў на адкрыцці ў Мінску Першай Усебеларускай выстаўкі сельскай гаспадаркі і прамысловасці. Гэтай падзеі прысвяціў верш «Сёння слова бяру». *(Чырв. змена, 10 жн.)*

*Снежань.*

У часоп. «Маладняк», № 12 — паэма «Цэхавыя будні».

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшлі: першая кніга вершаў П. Броўкі «Гады як шторм» і асобнае выданне паэмы «Прамова фактамі».

## 1931

Скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

*Студзень, 6—13.*

Прымаў удзел у рабоце X з'езда камсамола Беларусі.

*10 студз.* выступіў на з'ездзе з вершаванай прамовай. Прамова «Слова ў камсамольскіх спрэчках» надрукавана ў газ. «Чырвоная змена», 11 студз.

*Люты, 15.*

Адбыўся творчы вечар М. Хведаровіча і П. Броўкі. *(Маладняк, № 3.)*

*Люты — красавік.*

У часоп. «Маладняк», № 2, 3, 4 — аповесць «Каландры».

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшлі: зборнік вершаў «Цэхавыя будні» і асобнае выданне аповесці «Каландры»; у перакладзе П. Броўкі з рускай мовы кніга: Голубеў А. М. «Фрунзе пра характар будучай вайны».

## 1932

*Студзень, 11.*

У газ. «Чырвонаармейская праўда» — верш «У новы чацвёрты год». Ва ўсіх наступных публікацыях — «У новы год».

Верш прысвечаны чацвёртаму году пяцігодкі. У рэдакцыйнай нататцы да верша адзначаецца: «Гэтым вершам П. Броўка кладзе пачатак удзелу сваёй творчасцю ў нашай газеце, уключаючы гэтым сваю працу ў справу ўмацавання баяздольнасці Чырвонай Арміі».

*Сакавік, 6.*

Выступіў з дакладам аб становішчы сучаснай беларускай песні на творчым вечары паэтаў і кампазітараў, які адбыўся ў Доме пісьменніка. *(Літ. і мастацтва, 18 сак.)*

*Сакавік, 8.*

Чытаў свае новыя творы ў Белдзяржтэатры на вечары пралетарскай літаратуры. *(Літ. і мастацтва, 18 сак.)*

*Красавік, 11.*

У «Літ. і мастацтве» — аб сваіх творчых планах да 15-й гадавіны Кастрычніка расказваюць М. Лынькоў, С. Баранавых, П. Броўка, Б. Мікуліч, М. Хведаровіч.

*Красавік, 15—17.*

Працавала першая акруговая літаратурная канферэнцыя пагранахраны і войск АДПУ БССР. П. Броўка выступіў у спрэчках па дакладах. *(Беларусь калгасная, № 4; Літ. і мастацтва, 21 крас.)*

*Чэрвень.*

У часоп. «Беларусь калгасная», № 6—7 — верш «Янку Купалу» з падзагалоўкам «Да 50-годдзя з дня нараджэння».

*Лета.*

Атрымаў творчую камандзіроўку ў 5-ю Самарскую дывізію, якая стаяла ў лагерах у пасёлку Ждановічы. *(Броўка А. Гады шчаслівыя, гады трывожныя...//Успаміны пра Петруся Броўку...— С. 58.)*

*Жнівень, 17.*

Дэлегацыя пісьменнікаў у складзе М. Лынькова, П. Галавача, Р. Кобеца, П. Броўкі і інш. была прынята народным камісарам асветы А. Платуном. У гутарцы было закранута шэраг пытанняў пра матэрыяльнае і бытавое становішча пісьменнікаў. *(Літ. і мастацтва, 10 верас.)*

*Кастрычнік, 8; снежань, 28.*

У «Літ. і мастацтве» — паведамленне: «Аповесць на тэму перапробкі людзей у працэсах сацыялістычнай вытворчасці, пра барацьбу камсамольцаў-тарфянікаў за энергетычную базу, пра пытанні бытавых узаемаадносін сярод працоўнай моладзі пад назваю «Сезоннікі» піша пісьменнік Пятрусь Броўка». Дзяржвыд БССР плануе выдаць аповесць у 1933 г.

Мяркуючы па ўсіх фактычных дадзеных, П. Броўка, відаць, аповесць «Сезоннікі» не напісаў.

*Снежань, пасля 28 — люты (1933 г.)*

Працуе ў Ленінградзе на кінафабрыцы «Советская Беларусь разам з рэжысёрам М. Авербахам над сцэнарыем

фільма «Хто твой сябра?», створаным па матывах аповесці «Каландры».

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшлі: другое выданне зборніка вершаў «Цэхавыя будні» і зборнік вершаў «Паэзія».

## 1933

*Люты, 24 — сакавік, 2.*

Прымаў: удзел у рабоце пашыранага пленума аргкамітэта ССПБ, прысвечанага творчым пытанням беларускай савецкай літаратуры.

*27 лют.* выступіў з прамовай, у якой гаварыў аб задачах беларускай паэзіі, пра рэшткі групаўшчыны і беспрынцыповасці. *(Літ. і мастацтва, 27 лют.)*

*Сакавік, да 9.*

Ажаніўся з Аленай Міхайлаўнай Рыдзеўскай.

*Чэрвень, 17.*

Атрымаў дыплом аб заканчэнні літаратурна-лінгвістычнага аддзялення педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. *(Дыплом № 54.)*

*Лета.*

Разам з жонкай і сям'ёй П. Глебкі па даручэнню сакратара Барысаўскага райкома Чарнышова едзе ў саўгас «Вільянова». Там П. Броўка і П. Глебка працуюць над серыяй нарысаў пра саўгас, якія і склалі зборнік нарысаў «Ураджай». *(Броўка А. Гады шчаслівыя, гады трывожныя... // Успаміны пра Петруся Броўку...— С. 61.)*

*Верасень, 6.*

У «Літ. і мастацтве» — артыкул «У пошуках паэзіі». З артыкула: «Лічу, што сур'ёзна пачаў працаваць толькі ў 1930 годзе. Праўда, і тады было многа зрываў. Было многа барабаншчыны, рыторыкі, лозунгоўшчыны. Я перамагаў гэта з цяжкасцямі. Часамі прыходзіла роспач і здавалася, што трэба кідаць пісаць, здавалася, што твая паэзія нікому не патрэбна. Але гэта толькі хвіліны. Потым глыбейшае азнаямленне з жыццём, актыўны ўдзел у ім, ізноў папера, аловак, ізноў бясконцае мармытанне праз ночы, нараджэнне новых і новых рэчаў».

*Верасень, 29.*

Выступіў на абмеркаванні паэмы А. Дудара «Слуцк», арганізаваным рэдкалегіяй часоп. «Полымя рэвалюцыі». Выступілі таксама М. Лынькоў, К. Крапіва, А. Куляшоў. *(Літ. і мастацтва, 16 кастр.)*

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшлі: другое выданне аповесці «Каландры» (школьная серыя); кніга нарысаў «Ураджай», напісаных разам з П. Глебкам; зборнік вершаў для дзяцей «Швейная фабрыка».

## 1934

*Люты, 14.*

Выступіў на творчай сустрэчы літаратараў Масквы з дэлегацыяй беларускай пісьменніцкай арганізацыі, якая прыехала ў Маскву па запрашэнню аргкамітэта ССП ССР у сувязі з падрыхтоўкай да І Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў. На сустрэчы ў Маскоўскім доме савецкіх пісьменнікаў выступілі таксама: В. Кірпоцін, П. Маркіш, Б. Ясенскі, П. Юдзін, М. Клімковіч, П. Галавач, В. Кавальскі і інш. *(Лит. газета, 16 февр.; Звязда, 26 лют.)*.

*Сакавік, сярэдзіна.*

У складзе брыгады беларускіх пісьменнікаў ездзіў у Гомель і Гомельскую вобласць. *(Палеская праўда, 17 сак.)*

*Сакавік, 17.*

П. Броўка сустрэўся ў г. Добрушы з чытачамі і прататыпамі герояў сваёй аповесці «Каландры» на літаратурным вечары. *(Літ. і мастацтва, 31 сак.)*

*Май, 8.*

Прыняты ў члены Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР. *(Літ. і мастацтва, 12 мая.)*

*Чэрвень, 8—14.*

Прымаў удзел у рабоце І Усебеларускага з'езда пісьменнікаў. Выступіў у спрэчках па дакладах. *(Звязда, 14, 15 чэрв.)*

*Жнівень, 15.*

У складзе дэлегацыі ад пісьменнікаў БССР прыехаў у Маскву на І Усесаюзны з'езд савецкіх пісьменнікаў. *(Правда, 16 авг.)*

*Жнівень, 17 — верасень, 1.*

Прымаў удзел у рабоце I Усерасійскага з'езда савецкіх пісьменнікаў. *(Первый Всесоюзный съезд советских писателей/Стеногр. отчет.— М., 1935.)*

Пад уражаннем знаходжання ў Маскве напісаў верш «На Чырвонай плошчы». Упершыню верш надрукаваны ў часоп. «Полымя», 1934, № 10 з падзагалоўкам «1 верасня 1934».

*Жнівень, канец.*

Удзельнічаў у сустрэчы беларускіх пісьменнікаў з М. Горкім. *(Броўка П. Вы клікалі нас, маладых арлянят... // Зб. тв. Т. 6.— С. 338.)*

*Верасень, 15.*

Прысутнічаў на сустрэчы дэлегатаў I Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў з першым сакратаром ЦК КП(б)Б М. Ф. Гікала і членамі бюро ЦК КП(б)Б.*(Звязда, 17 верас.; Літ. і мастацтва, 12 кастр.)*

*Кастрычнік, 30.*

У газ. «Звязда» — паэма «Менск».

*Снежань.*

Адпачываў у Кіславодску разам з Я. Купалам. *(Броўка П. Вы клікалі нас, маладых арлянят... // Зб. тв. Т. 6.— С. 338.)*

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшлі: асобнае выданне паэмы «Так пачыналася маладосць». Гэта адзіная поўная публікацыя паэмы; «Выбраныя вершы і паэмы» (Школьная серыя).

Па матывах аповесці «Каландры» зняты мастацкі фільм «Хто твой сябра?». Рэжысёр— М. Авербах.

## 1935

*Студзень.*

У альманаху «Атака», № 1 — паэма «Мінеральныя воды». Ва ўсіх наступных выданнях паэма мае назву «Праз горы і стэп».

*Сакавік, 3—7.*

Прымаў удзел у рабоце II пленума праўлення ССП СССР. *(Літ. і мастацтва, 27 лют.)*

*Сакавік, 30.*

Выступіў на вечары абароннай літаратуры ў Доме Чырвонай Арміі. *(Літ. і мастацтва, 6 крас.)*

*Май, 18.*

Выступіў з чытаннем сваіх твораў на вечары, прысвечаным літаратуры Савецкай Грузіі, які адбыўся ў мінскім Доме партактыву. Даклад Б. Буачыдзе.

Чыталі свае творы Р. Гветадзе, К. Лордкіпанідзе, А. Кутатэлі, Я. Колас, К. Крапіва, П. Глебка. *(Звязда, 20 мая.)*

*Красавік, 21.*

Выступіў на V пленуме праўлення ССП БССР (20—23 крас.). *(Звязда, 22 крас.; Літ. і мастацтва, 26 крас.)*

*Ліпень, 14.*

Прымаў удзел у сустрэчы грузінскіх і беларускіх пісьменнікаў з першым сакратаром ЦК КП(б)Б М. Ф. Гікала. *(Рабочий, 17 июля.)*

*Лета.*

Адпачываў у Ляўках разам з Янкам Купалам у ляснічага М. І. Шыманскага. «Цудоўна мы пажылі тады ў Ляўках,— успамінаў значна пазней Пётр Усцінавіч.— І для мяне гэта адна з самых запамінальных і хвалюючых часін майго жыцця». *(П. Броўка. Вы клікалі нас, маладых арлянят... // Зб. тв. Т. 6.— С. 343.)*

*Жнівень.*

У часоп. «Полымя», № 8 — у перакладзе П. Броўкі з грузінскай мовы вершы Уло Масашвілі.

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшаў зб. «Прыход героя»; у Маскве ў Дзяржаўным выдавецтве — першая кніга твораў П. Броўкі ў перакладзе на рускую мову: «Избранные стихи».

## 1936

*Студзень.*

У часоп. «Полымя рэв.», № 1 — у перакладзе П. Броўкі паэма У. Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін».

*Студзень, 26.*

На нарадзе паэтаў, крытыкаў і празаікаў, скліканай рэдакцыяй «Літаратуры і мастацтва!», абраны ў бюро секцыі *14 лют.* выступіў на пленуме. *(Правда, 11—17 февр.)*

*Люты, 10—16.*

Удзельнічаў у рабоце III пленума праўлення ССП СССР, прысвечанага пытанням савецкай паэзіі, беларускай і башкірскай савецкай літаратуры.

*14 лют.* выступіў на пленуме. *(Правда, 11—17 февр.)*

*Сакавік, 20 — красавік, 4.*

Прымаў удзел у дыскусіі пісьменнікаў Мінска па пытаннях барацьбы з фармалізмам і натуралізмам. Адбылося шэсць сходаў.

Выступіў на заключным сходзе. *(Літ. і мастацтва, 22, 28, 31 сак., 7 крас.)*

Скарочаная прамова пад назвай «Удасканаліць свой паэтычны голас» надрукавана ў газ. «Літаратура і мастацтва», 7 крас.

*Чэрвень, 20.*

У Маскве на Краснай плошчы адбылося пахаванне А. М. Горкага. П. Броўка прысутнічаў на пахаванні ў складзе дэлегацыі БССР (Я. Купала, Я. Колас, М. Лынькоў, А. Александровіч, М. Клімковіч, П. Галавач і інш.). *(Літ. і мастацтва, 27 чэрв.)*

У «Літ. і мастацтве» — жалобнае спачуванне за подпісам П. Броўкі з выпадку смерці А. М. Горкага «Памёр вялікі настаўнік».

*Верасень, 9—12.*

Выязджаў на манеўры Беларускай ваеннай акругі ў складзе пісьменнікаў БССР і Масквы (Я. Купала, Я. Колас, А. Александровіч, М. Лынькоў, І. Гурскі, І. Харык, А. Суркоў, В. Гусеў). Прысутнічалі маршалы Савецкага Саюза К. Я. Варашылаў, С. М. Будзённы, М. М. Тухачэўскі, А. І. Ягораў, чэхаславацкія, французскія ваенныя дэлегацыі, ваенныя дэлегацыі Вялікабрытаніі. У гонар К. Я. Варашылава беларускія паэты Я. Купала, Я. Колас, А. Александровіч, П. Броўка, П. Глебка напісалі твор «Дванаццаць песень пра Чырвоную Армію». *(Звязда, 10 верас.)* Упершыню надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 14 верас.

*Верасень, 16.*

Разам з П. Галавачом і А. Вольным вылучаны праўленнем ССП БССР у склад пісьменніцкай брыгады для правядзення юбілею Я. Коласа ў Віцебску і Магілёве. *(Літ. і мастацтва, 21 верас.)*

*Верасень, 27.*

У газ. «Звязда» — верш «Пасіянарыя», прысвечаны Далорэс Ібаруры.

*Кастрычнік, 11.*

У газ. «Звязда», «Літ. і мастацтва» — верш-прысвячэнне «Якубу Коласу». Верш напісаны да 30-годдзя літаратурнай дзейнасці народнага паэта.

*Кастрычнік, 13.*

У зале БДУ адбыўся вялікі інтэрнацыянальны літаратурны вечар, у якім прымалі ўдзел пісьменнікі Масквы, УССР, БССР, Смаленскай вобласці, польскія паэты і пісьменнікі. З чытаннем сваіх твораў выступілі Я. Купала, Я. Колас, А. Александровіч, П. Броўка, П. Глебка, А. Куляшоў і інш. *(Звязда, 15 кастр.; Літ. і мастацтва, 18 кастр.)*

*Лістапад, 20.*

Нарадзіўся сын Юрый.

*Снежань, 23.*

Выступіў на жалобным мітынгу з прычыны смерці пісьменніка М. Астроўскага. *(Літ. і мастацтва, 29 снеж.)*

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшлі: раман Ю. Яноўскага «Коннікі» ў перакладзе П. Броўкі з украінскай мовы, раман А. Кутатэлі «Тварам у твар» у перакладзе з грузінскай мовы. Пад рэдакцыяй А. Александровіча і П. Броўкі выдадзена «Анталогія рускай савецкай паэзіі».

## 1937

*Люты, 1.*

Прымаў удзел у літаратурным вечары, прысвечаным 100-годдзю з дня смерці А. С. Пушкіна. *(Звязда, 2 лют.; Літ. і мастацтва, 5 лют.)*

*Сакавік, 25—29.*

Выступіў з прамовай на сходзе пісьменнікаў БССР, прысвечаным абмеркаванню работы праўлення і задачам СП БССР у сувязі з падрыхтоўкай да 20-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. *(Літ. і мастацтва, 3 крас.)*

Скарочаная прамова пад назвай «Уцягнуць у работу беспартыйных бальшавікоў» надрукавана ў газ. «Літаратура і мастацтва», 6 крас.

*Красавік, 14.*

Прачытаў свой пераклад на беларускую мову ўрыўка з паэмы У. Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін» на вечары, прысвечаным гадавіне з дня смерці паэта. *(Полымя рэв., № 4.)*

У часоп. «Рабочий» — артыкул «Учиться у Маяковского». У артыкуле ідзе гаворка аб вывучэнні творчасці У. Маякоўскага беларускімі паэтамі і неабходнасці выдання Поўнага збору твораў паэта на беларускай мове.

*Красавік, 23.*

Выступіў з чытаннем вершаў на вечары, прысвечаным 5-й гадавіне з дня пастановы ЦК ВКП(б) аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый. *(Полымя рэв., № 4.)*

*Ліпень, 12.*

У газ. «Звязда» — верш «Смерць таварыша Хахлова», прысвечаны 17-й гадавіне вызвалення Беларусі ад белапалякаў.

*Снежань, 24—30.*

У складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў прымаў удзел у рабоце V пленума праўлення ССП СССР у Тбілісі, прысвечанага 750-годдзю з дня нараджэння Шата Руставелі.

*30 снеж.* у канцэртнай зале тэатра імя Шата Руставелі адбыўся вечар перакладаў паэмы «Віцязь у тыгравай шкуры» на мовы народаў СССР. З чытаннем перакладаў паэмы выступілі Н. Зар'ян, С. Вургун, М. Хведаровіч, П. Антакольскі, П. Броўка, П. Глебка і інш. *(Полымя рэв., 1938, № 1.)*

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшлі: зборнік вершаў і паэм «Вясна радзімы»; паэма У. Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін» у перакладзе П. Броўкі з рускай мовы.

# 1938

*Студзень, 27.*

У Мінску адбыўся агульнагарадскі літаратурны вечар, прысвечаны 750-годдзю з дня з'яўлення паэмы Шата Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры».

П. Броўка, як удзельнік юбілейнага пленума праўлення ССП СССР, які адбываўся ў Тбілісі, падзяліўся ўражаннямі аб паездцы па Грузіі і зачытаў свой пераклад на беларускую мову ўрыўка з паэмы. *(Полымя рэв., № 2.)*

*Люты, 16.*

У «Літ. і мастацтве» — рэцэнзія на зборнік вершаў Янкі Купалы «Беларусі ардэнаноснай».

*Сакавік, 28.*

У газ. «Звязда» — верш «Неўміручы», напісаны да 70-годдзя з дня нараджэння М. Горкага.

*Красавік, 15.*

У газ. «Чырв. змена» — артыкул «Над чым я працую», у якім адзначана: «Гэтымі днямі канчаю паэму «Кацярына». Над гэтай паэмай я працаваў блізка двух год. Мне хацелася паказаць у ёй вобраз беларускай жанчыны праз усё яе жыццё».

*Май, 10—14.*

Прымаў удзел у рабоце пленума праўлення савецкіх пісьменнікаў Беларусі.

Выступіў з дакладам аб творчасці П. Панчанкі. К. Крапіва гаварыў на пленуме пра лібрэта оперы П. Броўкі «Міхась Падгорны». *(Полымя рэв., № 5.)*

*Май, 20.*

У Доме пісьменніка адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 75-годдзю творчай дзейнасці казахскага народнага паэта Джамбула. Пераклады вершаў Джамбула чыталі Я. Колас, П. Броўка, М. Хведаровіч, А. Александровіч, Э. Агняцвет. *(Полымя рэв., № 5.)*

*Май, 31.*

Выступіў з чытаннем паэмы «Слова аб палку Ігаравым» (пераклад Я. Купалы) на ўрачыстым вечары АН БССР і СП БССР, прысвечаным 750-годдзю «Слова». *(Лит. газета, 30 мая; Полымя рэв., № 6.)*

*Ліпень — верасень.*

У часоп. «Полымя рэв.», № 7, 8, 9 — паэма «Кацярына».

*Кастрычнік, 6.*

У «Літ. і мастацтве» — у перакладзе П. Броўкі вершы Т. Шаўчэнкі.

*Лістапад, 15—17.*

Прымаў удзел у нарадзе паэтаў Беларускай асобай ваеннай акругі (БАВА), якая адбылася ў Смаленску. *(Літ. і мастацтва, 23 лістап.)*

*Лістапад.*

У часоп. «Полымя рэв.», № 11 — лібрэта оперы «Міхась Падгорны».

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшла асобным выданнем паэма «Кацярына».

## 1939

*Студзень, 28 — люты, 8.*

У складзе дэлегацыі пісьменнікаў і работнікаў мастацтва Беларусі прымаў удзел у вечарах беларускай культуры ў Маскве, якія праходзілі ў сувязі з 20-годдзем БССР. Літаратурныя вечары адбываліся на працягу дзесяці дзён. На вечарах выступілі: Я. Купала, Я. Колас, П. Броўка, А. Куляшоў, К. Крапіва, А. Карняйчук, А. Суркоў, А. Безыменскі, С. Гарадзецкі і інш. *(Правда, 29 янв., 4 февр.; Звязда, 29 студз., 1, 2 лют.)*

*Люты, 5.*

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР П. Броўка ўзнагароджаны ордэнам «Знак пашаны» і ордэнам «Чырвоная зорка». *(Ордэнская кніжка № 029834; Літ. і мастацтва, 5 лют.)*

*Люты, 10.*

Разам з Я. Купалам, Я. Коласам, З. Бядулем і П. Глебкам вітаў XIII з'езд ЛКСМБ. *(Звязда, 12 лют.; Чырв. змена, 14 лют.)*

*Люты, 11.*

Наведаў рэдакцыю газ. «Звязда» разам з Я. Купалам, Я. Коласам, З. Бядулем і П. Глебкам. *(Звязда, 12 лют.)*

*Сакавік 6, 9.*

У газ. «Звязда» — вершы «Праз Беларусь», «У Каніве», прысвечаныя 125-годдзю з дня нараджэння Т. Р. Шаўчэнкі.

*Красавік, да 23.*

На адкрытым партсходзе ССП прыняты ў кандыдаты ў члены ВКП(б). *(Літ. і мастацтва, 23 крас.)*

*Май, 4—8.*

Удзельнічаў у рабоце юбілейнага VI пленума праўлення ССП СССР, прысвечанага 125-годдзю з дня нараджэння Т. Р. Шаўчэнкі, які адбыўся ў Кіеве. *(Правда, 8 мая; Звязда, 4, 10 мая.)*

*Верасень, 17.*

У рэспубліцы прайшлі мітынгі і сходы, прысвечаныя пачатку вызвалення Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі.

З пачатку ваенных дзеянняў на фронце знаходзілася група пісьменнікаў: У. Лідзін, У. Ільенкаў, Я. Далматоўскі, А. Твардоўскі, С. Кірсанаў, А. Ісбах, С. Шчыпачоў, М. Лынькоў, П. Броўка, К. Крапіва, П. Глебка, П. Панчанка і інш. *(Лит. газета, 20 сент.; 15 окт.).*

*Верасень, 18.*

У газ. «Звязда», «Чырв. змена» — верш «Заходнім беларусам».

*Лістапад, сярэдзіна.*

У Мінску знаходзілася група пісьменнікаў Заходняй Беларусі. Адбыліся вечары і сустрэчы, на якіх выступілі: Я. Колас, М. Танк, П. Пестрак, М. Машара, Н. Тарас, А. Іверс, А. Куляшоў, П. Панчанка, П. Броўка, П. Слесараў, А. Жаўрук, З. Цялесін. *(Звязда, 12 лістап.; Сов. Белоруссия, 17 нояб.; Літ. і мастацтва, 23 лістап.)*

*Снежань, 11.*

Калектывам Дзяржаўнага беларускага тэатра оперы і балета вылучаны кандыдатам у дэпутаты Мінскага гарадскога Савета па 100-й выбарчай акрузе. *(Літ і мастацтва, 11 снеж.)*

*Снежань, 26.*

На пашыраным пасяджэнні праўлення ССПБ створана Камісія па правядзенню дзесяцігоддзя з дня смерці У. Маякоўскага, у склад якой вылучаны П. Броўка, Р. Бярозкін, М. Лынькоў, М. Клімковіч, З. Аксельрод. *(Літ. і мастацтва, 1940, 11 студз.)*

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшаў зборнік Т. Шаўчэнкі «Кабзар» на беларускай мове. Сярод перакладчыкаў — П. Броўка.

## 1940

Прызначаны рэдактарам часопіса «Полымя рэвалюцыі».

*Люты, да 14.*

У тэатры оперы і балета БССР пастаўлена новая беларуская опера «Кветка шчасця». Музыка А. Туранкова. Лібрэта — О. Барысевіча, П. Броўкі, П. Глебкі. *(Віцебскі рабочы, 14 лют.)*

*Люты, 20.*

Прымаў удзел у абмеркаванні даклада на справаздачна-выбарчым сходзе партыйнай арганізацыі СП БССР. У выступленні ўказаў на неабходнасць большай сувязі з братнімі літаратурамі — арганізацыі ўзаемных перакладаў, больш энергічнай падрыхтоўкі пісьменнікаў да дэкады беларускага мастацтва ў Маскве. *(Літ. і мастацтва, 23 лют.)*

*Люты, 23.*

У «Літ. і мастацтве» — верш-прысвячэнне «Пятру Глебку».

*Сакавік, 14.*

У газ. «Сов. Белоруссия» — артыкул «Маяковский и белорусская советская поэзия», напісаны да 10-годдзя з дня смерці У. Маякоўскага.

*Сакавік, 23.*

У «Літ. і мастацтве» — прывітанні М. Рыльскаму ад праўлення ССП Беларусі, Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броў-

кі, К. Чорнага з нагоды 30-гадовай літаратурнай дзейнасці паэта.

*Сакавік.*

У часоп. «Полымя рэв.», № 4 — паэма «Дзед і ўнук».

*Красавік, 11.*

У «Літ. і мастацтве» — верш «Паэт», прысвечаны 10-годдзю з дня смерці У. Маякоўскага.

*Чэрвень, 9.*

Усесаюзны радыёкамітэт правёў трансляцыю для Германіі мантажа оперы «Кветка шчасця» ў выкананні Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. Лібрэта О. Барысевіча, П. Броўкі, П. Глебкі. Музыка — А. Е. Туранкова. Тлумачэнні да оперы даваліся на нямецкай мове. *(Літ. і мастацтва, 17 чэрв.)*

*Чэрвень, 5—15.*

Прымаў удзел у дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве. *(Звязда, 18 чэрв.)*

*5 чэрв.* была паказана опера «Міхась Падгорны» кампазітара Я. Цікоцкага, лібрэта П. Броўкі, пастаноўка П. Златагорава. Спектакль быў паўтораны 6 і 13 чэрв. *(Літ. і мастацтва, 17 чэрв.)*

*Чэрвень, 17.*

Прысутнічаў на прыёме ў Вялікім Крамлёўскім Палацы ўдзельнікаў у дэкадзе беларускага мастацтва, наладжаны камітэтам па справах мастацтваў пры Саўнаркоме СССР. *(Звязда, 18 чэрв.)*

*Чэрвень, 18.*

Разам з Я. Коласам, Я. Купалам, М. Лыньковым і інш. прымаў удзел у сустрэчы беларускіх пісьменнікаў з працоўнымі Масквы, якая адбылася ў Цэнтральным парку культуры і адпачынку імя М. Горкага. *(Звязда, 20 чэрв.; Сов. Белоруссия, 20 июня.)*

*Верасень, да 6.*

Абраны ў склад камісіі па правядзенню 35-годдзя творчай дзейнасці Я. Купалы. *(Літ. і мастацтва, 7 верас.)*

*Верасень, 25.*

Выступіў з чытаннем сваіх твораў на вялікім літаратурным вечары, які адбыўся ў Доме партасветы ў Беласто-

ку. Вечар прысвечаны гадавіне вызвалення народаў Заходняй Беларусі ад польскіх капіталістаў і памешчыкаў. *(Літ. і мастацтва, 28 верас.)*

*Кастрычнік, да 4.*

Абраны членам рэспубліканскай камісіі па правядзенню 85-годдзя з дня смерці А. Міцкевіча. *(Сов. Белоруссия, 4 кастр.)*

*Снежань, 8.*

Прымаў удзел ва ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 35-годдзю літаратурнай і грамадскай дзейнасці Я. Купалы. Абраны ў прэзідыум схода. *(Полымя рэв., 1941, № 1.)*

*Снежань, 26.*

У складзе беларускай дэлегацыі (М. Лынькоў, М. Танк, Я. Бранеўская, М. Паслядовіч, М. Модэль) прымаў удзел у творчым вечары Я. Купалы ў Маскоўскім клубе пісьменнікаў, арганізаваным праўленнем СП СССР. П. Броўка прачытаў на вечары вершы, прысвечаныя юбіляру. *(Полымя рэв., 1941, № 1.)*

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшлі: зборнік вершаў «Шляхамі баравымі», зборнік «Вершы і паэмы» (Школьная бібка); зборнік У. Маякоўскага «Выбраныя творы». Рэдактар — П. Броўка.

У Маскве ў выдавецтве «Искусство» — асобным выданнем опера «Михась Подгорный».

## 1941

*Студзень, да 25.*

Выступіў на сходзе пісьменнікаў, прысвечаным выпікам паэтычнага года.

Скарочаная прамова пад назвай «Багатыя вынікі» надрукавана ў газ. «Літаратура і мастацтва», 25 студз.

*Чэрвень, 12.*

У складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў (Я. Купала, М. Лынькоў) па запрашэнню СП Латвійскай ССР выехаў у Рыгу на I з'езд пісьменнікаў Латвіі. *(Звязда, 13 чэрв.)*

*Чэрвень, 14—15.*

Прымаў удзел у рабоце I з'езда пісьменнікаў Латвіі. *(Звязда, 13 чэрв.; Лит. газ., 15 июня.)*

*Чэрвень, 19—22.*

Па запрашэнню літоўскіх пісьменнікаў, вяртаючыся з Рыгі ў Мінск, Я. Купала, М. Лынькоў і П. Броўка заехалі ў Каўнас.

*З успамінаў літоўскага паэта К. Корсакаса:* «Вечарам 20 чэрвеня ў Доме Саюза пісьменнікаў адбылася шырокая дзелавая сустрэча. На ёй прысутнічалі літаратары і дзеячы культуры (...). Раніцай 22 чэрвеня ў дом Саюза пісьменнікаў прыйшлі М. Лынькоў і П. Броўка (Янка Купала застаўся ў гасцініцы), каб даведацца, што ж адбываецца. Абодва яны былі ўсхваляваныя, аднак не адразу паверылі, што пачалася вайна. М. Лынькоў нават спрабаваў пераканаць нас, некалькіх прысутных тут літоўскіх пісьменнікаў, што хутчэй за ўсё гэта толькі ваенныя манеўры. Але жорсткая рэчаіснасць развеяла ілюзіі: нямецкія самалёты ўжо бамбілі каўнаскі аэрадром, а па берлінскім радыё няспынна трансліравалася раз'юшаная лаянка Гітлера супраць Савецкага Саюза». *(Корсакас Костас. Друг літоўскай літаратуры // Святло яго душы...— С. 240.)*

З пачатку вайны працаваў інструктарам-літаратарам у рэдакцыі франтавой газеты «За Савецкую Беларусь» на Бранскім і Заходнім франтах. Рэдактар М. Лынькоў.

У газетах «За Савецкую Беларусь», «Савецкая Беларусь», газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну», сатырычным лістку «Партызанская дубінка», у «Известиях», «Правде», «Огоньке» з'яўляюцца вершы-заклікі, вершы-пасланні, артыкулы і паэмы П. Броўкі, прысвечаныя барацьбе за родную зямлю: «Дрыжыце, падлюгі-фашысты», «Партызан Бумажкоў», «Маці», «Пісьмо к землякам», «Пастух», «Помста», «Дахаты», «Па дарозе Мінск — Масква», «Роднае», «Рана», «Байцам-беларусам», «Паэма пра Смалячкова», «Беларусь» і інш. Некаторыя з гэтых твораў напісаны ў паходных абставінах, на разнастайных лістках паперы, чарніламі розных колераў, а падчас і простым алоўкам. Яны былі водгукам паэта на суровыя падзеі, нясцерпным болем па родным краі, заклікалі на барацьбу.

*Ліпень, 21.*

П. Броўка камандзіруецца ў Маскву па справах друку, а таксама ў Саратаў для ўладкавання бежанцаў, жонак і

дзяцей пісьменнікаў-чырвонаармейцаў. *(Пасведчанне ад 21 ліп. 1941 г.)*

*Ліпень, 29.*

У газ. «За Савецкую Беларусь» — верш «Дрыжыце, падлюгі-фашысты».

*Жнівень, 7.*

У газ. «Правда», «Красная звезда» — верш «Партызан Бумажкоў». Пераклад на рускую мову С. Леўмана.

*Жнівень, 31.*

Выступіў на мітынгу «Брацкі Саюз славацкіх народаў», які адбыўся ў Цэнтральным парку культуры і адпачынку імя М. Горкага ў Маскве. Выступілі таксама праф. М. Гудзій, В. Лебедзеў-Кумач, крытык А. Усіевіч, польскі паэт У. Бранеўскі, чэшскі праф. З. Няедлы, польскі публіцыст Ст. Яндрыхоўскі, чарнагорскі паэт Р. Стыйенскі, А. Жараў, П. Антакольскі, С. Алымаў, І. Даронін, праф. П. Багатыроў, праф. Б. Казьмін. *(Лит. газ., 3 сент.)*

*Лістапад, 3.*

У газ. «За Сав. Беларусь» — верш «Да маці». У далейшым назва верша — «Маці». На сесіі АН БССР, якая адбылася ў сакавіку 1942 года, Я. Купала адзначыў: «У мастацкіх творах беларускіх пісьменнікаў чуюцца вострая боль і крыўда за пакуты і слёзы беларускай зямлі, часова захопленай фашысцкімі бандытамі, у іх кіпіць нязгаслая прага свяшчэннай помсты і непахісная вера ў пабеду савецкага народа над вераломным і ненавісным ворагам. З вялікай паэтычнай страсцю гэта вера народа ў праваду сваёй справы і перамогу над ворагам выражана ў мужных радках верша П. Броўкі «Маці». *(Купала Я. Зб. тв. У 7 т. Т. 7.— Мн.: Навука і тэхніка, 1976.— С. 400—401.)*

*Кастрычнік, 29.*

У газ. Смаленскага партызанскага палка «Народный мститель» — верш «Помста».

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшаў зборнік вершаў С. Маршака «Мы ваенныя» ў перакладзе П. Броўкі з рускай мовы.

## 1942

У пачатку 1942 г. рэдакцыя газеты «За Савецкую Беларусь» па загаду Палітычнага ўпраўлення Чырвонай Арміі прыбыла ў Маскву, у партызанскі штаб. *(Броўка П. Выклікалі нас, маладых арлянят... Зб. тв.— Т. 6, 1978.— С. 349. Аляксееў М. На ваенных дарогах // Успаміны пра Петруся Броўку... С. 73.)*

*Студзень, да 19.*

У Маскве адбылася сустрэча беларускіх празаікаў і паэтаў з пісьменнікамі сталіцы. З чытаннем новых твораў выступілі К. Крапіва, П. Броўка, М. Танк, П. Панчанка, М. Лынькоў, А. Стаховіч, А. Кучар. *(Лит. и искусство, 19 янв.)*

*Люты, 1.*

У газ. «Сав. Беларусь» пад зваротам-заклікам «Партызаны роднай Беларусі! Не выпускайце жывымі ні аднаго немца з нашай зямлі!» — верш «Дахаты».

*Люты, 8.*

У газ. «Лит. и искусство» — інфармацыя: «Вялікім тыражом выходзіць газета «За Савецкую Беларусь» і распаўсюджваецца сярод насельніцтва акупіраванай Беларусі. У газеце прымаюць удзел многія беларускія пісьменнікі: М. Лынькоў, К. Крапіва, П. Глебка, П. Броўка, К. Чорны, М. Танк, П. Панчанка і інш. У газету дасылаюць вершы і артыкулы Янка Купала і Якуб Колас».

*Люты, 9.*

Разам з Я. Коласам, М. Лыньковым, А. Куляшовым і М. Танкам выступіў у Доме Чырвонай Арміі. *(Лісты Я. Коласа да Марыі Дзмітрыеўны Міцкевіч ад 7, 8, 10 лют.)*

*Люты, 23.*

У 24-ю гадавіну Чырвонай Арміі разам з Я. Коласам, М. Лыньковым, К. Крапівой наведаў рэдакцыю польскай газеты, размешчанай у раёне Кунцава. *(Лісты Я. Коласа да Марыі Дзмітрыеўны Міцкевіч ад 7 сак.)*

*Сакавік, 7.*

У газ. «Сав. Беларусь» — верш «Па дарозе Мінск — Масква». Верш надрукаваны на старонцы пад зваротам-заклікам: «Да зброі, партызаны! На разгром ворага!»

*Красавік, 17.*

У газ. «Сав. Беларусь» — верш «Будзем сеяць, беларусы!» пад зваротам-заклікам: «Партызаны — слаўныя сыны зямлі беларускай! Знішчайце жывую сілу і тэхніку фашыстаў, рабіце засады ля дарог, біце па калонах і машынах ворага!»

*Ліпень, 1.*

Прысутнічаў на пахаванні народнага паэта Беларусі Янкі Купалы ў Маскве. *(Броўка П. Вы клікалі нас, маладых арлянят... // Зб. тв. Т. 6, 1978.— С. 343.)*

*Жнівень, 2—3.*

Праездам у Алма-Ату гасціў у Я. Коласа ў Ташкенце. *З ліста Я. Коласа да намесніка начальніка Беларускага штаба партызанскага руху І. Крупені ад 4 жн.:* прыезд Броўкі «прынёс радасць і ажыўленне ў наш дом. Шмат аб чым гутарылі з ім. Шмат расказваў ён мне цікавых фактаў з жыцця нашай многапакутнай Беларусі пад чорнаю гітлераўскаю акупацыяй».

Я. Колас пазнаёміў П. Броўку з новымі ўзбекскімі сябрамі, паказаў славутасці Ташкента. Чытаў урыўкі з паэмы «Суд у лесе».

П. Броўка чытаў Я. Коласу «Паэму пра Смалячкова». *(Літ. і мастацтва, 3 лістап., 1972; Ліст да Я. Коласа ад 4 верас.)*

*Лістапад, 4.*

У газ. «Сав. Беларусь» — верш «Якубу Коласу». Верш напісаны да 60-годдзя з дня нараджэння паэта.

*Снежань.*

Прывёз у Маскву сям'ю з Алма-Аты. *(Ліст да Я. Коласа ад 3 лют. 1943 г.)*

## 1943

П. Броўка быў дэмабілізаваны і паступіў у распараджэнне ЦК КПБ. *(Броўка А. Гады шчаслівыя, гады трывожныя... // Успаміны пра Петруся Броўку...— С. 65.)* Пачынае працаваць сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў.

*Студзень, да 13.*

У Цэнтральным доме работнікаў мастацтваў адбыўся літаратурны вечар, арганізаваны ССП БССР. Даклад зра-

біў М. Лынькоў. З чытаннем сваіх твораў выступілі П. Броўка, П. Глебка, А. Куляшоў, М. Танк, П. Панчанка, М. Машара, А. Астрэйка, Ц. Крысько. *(Сав. Беларусь, 13 студз.)*

*Студзень, да 16.*

Разам з М. Лыньковым, К. Крапівой, П. Глебкам, А. Куляшовым і М. Танкам прымаў удзел у рабоце схода беларускай інтэлігенцыі. *(Сав. Беларусь, 16 студз.)*

*Люты, 20.*

У газ. «Сав. Беларусь» — верш «Байцам-беларусам».

*Сакавік.*

У газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну», № 82 — верш «Мая рана». Ва ўсіх пазнейшых публікацыях назва верша «Рана».

*Май, 9.*

Прымаў удзел у рабоце Трэцяга Усеславянскага мітынгу, які адбыўся ў Маскве. Выступілі А. Талстой, А. Фадзееў, Я. Колас, А. Даўжэнка, В. Васілеўская. *(Правда, 10 мая).*

*Чэрвень.*

У літаратурным дадатку № 3 да газ. «Сав. Беларусь» — верш «Не паверу смерці». Верш напісаны ў сувязі з гадавінай з дня смерці Я. Купалы.

*Ліпень, 1.*

У Канцэртнай зале імя Чайкоўскага ў Маскве адбыўся вечар, прысвечаны гадавіне з дня смерці Я. Купалы. Вечар адкрыў А. Фадзееў, з дакладам выступіў М. Лынькоў. П. Броўка, М. Танк, П. Глебка, П. Пестрак, А. Астрэйка чыталі вершы, прысвечаныя памяці паэта. *(Сав. Беларусь, 3 ліп.)*

*Снежань, 22.*

У газ. «Сав. Беларусь» — паэма «Беларусь».

*На працягу года.*

У выдавецтве ЦК КП(б)Б «Савецкая Беларусь» выйшаў зборнік вершаў «Насустрач сонцу».

У Маскве ў выдавецтве «Госиздат» — зборнік вершаў «К родным берегам».

# 1944

Маці П. Броўкі, Алена Сцяпанаўна, замучана фашыстамі ў канцлагеры Асвенцім.

*З успамінаў У. Лабанка:* «У час адной з карных экспедыцый Алена Сцяпанаўна разам са сваякамі і аднавяскоўцамі накіравалася ў лес. Аднак выратавацца не ўдалося. Фашысты схапілі яе і прымушалі, каб яна пры людзях адмовілася ад сына. Толькі пры гэтай умове ёй абяцалі захаваць жыццё. Але не, не стала на калені перад ворагам бясстрашная патрыётка.

Пасля доўгіх жахлівых катаванняў Алену Сцяпанаўну адправілі ў канцлагер Асвенцім. І тут у яе таксама патрабавалі адрачыся ад сына. Яна прыняла смерць, але не пакрывіла душой». *(Лабанок У. Многа было памятных сустрэч // Успаміны пра Петруся Броўку... С. 80—81.)*

*Студзень, да 22.*

У Маскоўскім клубе пісьменнікаў адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны 25-годдзю БССР. Даклад М. Лынькова. Свае творы чыталі П. Броўка, П. Глебка, К. Крапіва, М. Танк, П. Пестрак, А. Куляшоў, А. Астрэйка. *(Лит. и искусство, 22 янв.)*

*Сакавік, 1.*

Прыязджаў разам з К. Крапівой, М. Лыньковым, П. Глебкам да Я. Коласа ў Клязьму. *(Колас Я. Збор твораў. У 14 т.— Т. 14.— Мн.: Маст. літ. 1978.— С. 268.)*

*Май, 1.*

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР за ўдзел у герaічнай абароне Масквы ўзнагароджаны медалём «За оборону Москвы». Уручаны 24 снеж. 1945 г. *(Пасведчанне.)*

*Май, 5.*

Разам з Я. Коласам, М. Лыньковым, К. Крапівой, кампазітарамі В. А. Залатаровым і А. В. Багатыровым, намеснікам старшыні СНК БССР К. В. Кісялёвым, сакратаром Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Л. Е. Панковым прымае ўдзел у адборы тэкста Дзяржаўнага гімна БССР. *(Колас Я. Зб. тв. Т. 14.— С. 272.)*

*Чэрвень, 1.*

Чытаў Я. Коласу сваю новую паэму «Ясны кут» у сябе дома.

*З дзённікавых запісаў Я. Коласа:* «Пятрусь чытаў мне сваю новую паэму. Паэма вельмі ўдалая. Мне спадабалася ў вялікай ступені. Была гутарка наконт паэмы. Я зрабіў адну асноўную заўвагу. Не ведаю, як паставіцца да яе Пятрусь, але мне здаецца, што ён у душы згодзен са мной». *(Колас Я. Зб. тв. Т. 14.— С. 277.)*

*Чэрвень, 28.*

Грамадскасць рэспублікі адзначае 2-ю гадавіну з дня смерці Я. Купалы. У гомельскім гарадскім тэатры адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны памяці паэта. Вечар адкрыў К. Крапіва. Даклад М. Лынькова. П. Броўка, П. Глебка, М. Танк, А. Астрэйка і А. Бялевіч прачыталі вершы, прысвечаныя Я. Купалу. *(Сав. Беларусь, 28 чэрв.)*

*Ліпень, 3.*

Мінск вызвалены Чырвонай Арміяй у выніку Беларускай аперацыі 1944 г.

*З успамінаў А. М. Броўкі:* «На другі ці на трэці дзень пасля вызвалення Мінска Пётр Усцінавіч быў ужо там. Усё, вядома, разбурана. Хата наша згарэла. Ніякіх рэчаў у нас няма. Але нягледзячы на гэта Пятру Усцінавічу вельмі хацелася, каб мы ўсёй сям'ёй пераехалі туды». *(Броўка А. Гады шчаслівыя, гады трывожныя... // Успаміны пра Петруся Броўку... С. 66.)*

*Ліпень. 4.*

У газ. «Сав. Беларусь» — верш «Сталіцы Беларусі», напісаны ў сувязі з вызваленнем Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

*Жнівень, 15.*

У газ. «Звязда» — паэма «Ясны кут».

*Лістапад, 5.*

За актыўны ўдзел у арганізацыі партызанскага руху ў Беларусі ўзнагароджаны медалём «Партызану Айчыннай вайны» І ступені. *(Літ. і мастацтва, 1945, 10 крас.; Партархіў Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, ф. 3500, воп. 15, д. 415.)*

*Лістапад, 25.*

У газ. «Звязда» — матэрыялы аб пахаванні К. Чорнага. Грамадзянская паніхіда адбылася ў памяшканні Беларускага драматычнага тэатра. Сярод шматлікіх спачуван-

няў тэлеграма ад беларускіх пісьменнікаў: Я. Коласа, П. Броўкі, П. Глебкі, А. Бялевіча, Я. Маўра, А. Астрэйкі, Я. Мазалькова: «Смуткуем разам з нашым народам з прычыны дачаснае смерці лепшага сына Беларусі, дарагога друга, таленавіцейшага пісьменніка Кузьмы Чорнага».

## 1945

Прызначаны галоўным рэдактарам часоп. «Полымя».

*Студзень, да 6.*

Прэм'ера оперы «Алеся» ў Беларускім тэатры оперы і балета. Лібрэта П. Броўкі, музыка Я. Цікоцкага. *(Сов. Белоруссия, 6 янв.)*

*Люты, 15.*

Я. Колас у лісце да П. Броўкі просіць яго ўнесці шэраг паправак у тэкст паэмы «Адплата». *(Ліст да П. У. Броўкі ад 15 лют.)*

*Красавік, да 10.*

Выступіў на агульным сходзе партыйнай арганізацыі СП Беларусі, на якім быў прыняты ў члены ВКП(б) Беларусі Я. Колас. *(Літ. і мастацтва, 10 крас.)*

*Красавік, 29.*

Зрабіў даклад аб творчасці П. Глебкі ў дні Айчыннай вайны на адкрытым сходзе партарганізацыі ССПБ. *(Полымя, № 4.)*

*Май, 15—22.*

Разам з Я. Коласам, К. Крапівой, А. Куляшовым, П. Глебкам, М. Клімковічам прымаў удзел у рабоце X пленума праўлення СП СССР. *(Лит. газета, 17, 22, 26 мая; Літ. і мастацтва, 1 чэрв.)*

*Май, 23.*

Выступіў на вечары «Паэты народаў СССР», які адбыўся ў Калоннай зале Дома Саюзаў. *(Лит. газета, 26 мая.)*

*Чэрвень, 1 — ліпень, 15.*

Рэдакцыя «Праўды» камандзіруе П. Броўку ў раёны Беларускай ССР. (Камандзір. пасведч. № 1949 ад 30 мая 1945 г.)

*Чэрвень, 6.*

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР П. Броўка ўзнагароджаны медалём «За доблестный труд в Великой Отечественной войне 1941—1945 гг.» Уручаны 24 снеж. 1945 г. *(Пасведчанне.)*

*Чэрвень, 20.*

Прысутнічаў на сустрэчы беларускіх пісьменнікаў, прысвечанай падрыхтоўцы да гадавіны вызвалення БССР ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сустрэча адбылася ў рэдакцыі газ. «Советская Белоруссия». *(Сов. Белоруссия, 23 июня.)*

*Чэрвень, 28.*

Выступіў на вечары, прысвечаным 3-й гадавіне з дня смерці Я. Купалы. *(Літ. і мастацтва, 2 ліп.)*

*Кастрычнік, 30.*

Прымаў удзел у закладцы парку ў Мінску ў гонар Перамогі. Гэта падзея паслужыла штуршком для напісання верша «Парк Перамогі». Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1946, 16 чэрв.

*Лістапад — снежань.*

У часоп. «Полымя», № 11—12 — паэма «Паланянка».

*Снежань, 27—30.*

Прымаў удзел у рабоце першага пасляваеннага пашыранага пленума праўлення ССП БССР. На пленуме прысутнічалі беларускія пісьменнікі і паэты, прадстаўнікі пісьменніцкіх арганізацый Масквы, Ленінграда, Літвы, Латвіі, шматлікія госці. П. Броўка абраны ў прэзідыум пленума. *(Полымя, № 11—12; Звязда, 28, 30 снеж.)*

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшаў зборнік «Выбраныя творы».

У Маскве ў выдавецтве «Советский писатель» — зборнік вершаў «Беларусь».

## 1946

*Студзень, 10.*

У памяшканні выканкома Мінскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных уручаны медаль «За победу над Гер-

манией в Великой Отечественной войне 1941—1945 гг.» *(Літ. і мастацтва, 10 студз.)*

*Студзень, 20.*

У «Літ. і мастацтве» — нарыс «Народны паэт». Напісаны да 40-годдзя літаратурнай і грамадскай дзейнасці Я. Коласа.

*Студзень — сакавік.*

Працуе над перакладам паэмы А. Пракоф'ева «Расія». *(Ліст да П. С. Кабзарэўскага ад 26 лют.)*

*Красавік, 12—13.*

Прысутнічаў на сходзе інтэлігенцыі Мінска, у якім прынялі ўдзел віднейшыя дзеячы мастацтва, навукі і літаратуры рэспублікі, а таксама прадстаўнікі савецкіх і партыйных арганізацый. *(Полымя, № 5.)*

*Май.*

У часоп. «Полымя», № 5 — у перакладзе П. Броўкі паэма А. Пракоф'ева «Расія».

*Чэрвень, 18.*

Выступіў з дакладам на агульнагарадскім сходзе, прысвечаным 10-й гадавіне з дня смерці М. Горкага. *(Літ. і мастацтва, 22 чэрв.; Полымя, № 7.)*

*Жнівень, 14.*

На першым пасляваенным арганізацыйным сходзе паэтычнай секцыі СП БССР абраны членам бюро. *(Полымя, № 8—9.)*

*Жнівень, 28.*

У «Літ. і мастацтве» — паэма «Хлеб».

*Верасень, 9—11.*

Прымаў удзел у рабоце восьмай сесіі Вярхоўнага Савета БССР. Сесія прыняла Закон аб пяцігадовым плане аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі БССР на 1946—1950 гг. *(Восьмая сесія...: Стэнаграфічная справаздача.— Мн., Дзяржвыд БССР.— 1947.)*

*Кастрычнік.*

У часоп. «Бярозка», № 10 — паэма «Марат Казей».

У часоп. «Полымя», № 10 — вершы «Каб мне стаць...», «Народнае дзякуй».

*Лістапад, 2.*

На агульнагарадскім урачыстым вечары, прысвечаным 40-годдзю літаратурнай і грамадскай дзейнасці Я. Коласа, выступіў з чытаннем вершаў у гонар юбіляра. *(Літ. і мастацтва, 6 лістап.; Полымя, № 11.)*

*Лістапад, 4.*

Выступіў на сустрэчы пісьменнікаў Мінска з украінскімі пісьменнікамі М. Рыльскім і П. Панчам.

М. Лынькоў, П. Броўка, А. Куляшоў у сваіх выступленнях гаварылі аб неабходнасці ўмацавання творчых сувязей беларускіх пісьменнікаў з украінскімі. *(Полымя, № 11.)*

*Лістапад, 15.*

На пасяджэнні праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР заслуханы даклад П. Броўкі аб рабоце часопіса «Полымя». *(Полымя, № 11.)*

*Лістапад, 24.*

Чытаў вершы, прысвечаныя Я. Коласу на ўрачыстым пасяджэнні вучонага савета БДУ, прысвечаным 40-годдзю літаратурнай і грамадскай дзейнасці народнага паэта. *(Літ. і мастацтва, 30 лістап.; Полымя, № 11.)*

*Снежань, 3 — ліпень, 1 (1947).*

Працаваў у рэдакцыі газ. «Правда» пры карпункце ў Мінску. *(Пасведчанне ад 3 снеж. 1946 г.)*

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшлі: зборнік «Вершы і паэмы», зборнік вершаў «У роднай хаце».

## 1947

*Студзень, 16.*

Зрабіў інфармацыю аб удзеле беларускіх пісьменнікаў у падрыхтоўцы да адзначэння 800-годдзя Масквы на пасяджэнні праўлення СП БССР. Створана камісія па збору літаратурна-мастацкіх твораў беларускай паэзіі і прозы аб Маскве для юбілейнага зборніка. Старшыня камісіі — П. Броўка. *(Полымя, № 1.)*

*Люты, 9.*

Абіраецца дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР па Глыбоцка-Паўночнай выбарчай акрузе № 351 Полацкай вобласці. *(Сов. Белоруссия, 13 февр., Полымя, № 2.)*

*Сакавік, 12—14.*

Прымаў удзел у рабоце першай сесіі Вярхоўнага Савета БССР. *(Сав. селянін, 13 сак.)*

*Май.*

У часоп. «Полымя», № 5 — вершы «Каваль», «Апошняя зямлянка», «Шпак», «Маці», «Сымонка», «Архітэктар», «Скарб», «Чараўнік», «Вярба над вадою», «Запаветнае».

*Май — чэрвень, 28.*

Адпачываў у Сочы ў санаторыі «Беларусь». *(Ліст да Я. Коласа ад 5 чэрв.)*

*Чэрвень, да 7.*

За паэмы «Хлеб», «Думы пра Маскву», вершы «Брат і сястра», «Народнае дзякуй», «Каб мне стаць...», «Спатканне» прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР II ступені. *(Звязда, 7 чэрв.)*

*Ліпень, 9—11.*

Прымаў удзел у рабоце другой сесіі Вярхоўнага Савета БССР. *(Літ. і мастацтва, 12 ліп.)*

*Ліпень, 22.*

Выступіў з дакладам на рэспубліканскім сходзе СП БССР, прысвечаным абмеркаванню пастаноў ЦК КП(б)Б аб рабоце Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР, часоп. «Полымя», «Беларусь» і рэдакцыі газ. «Літ. і мастацтва». *(Літ. і мастацтва, 26 ліп.; Полымя, № 8.)*

Даклад надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 26 ліп.

*Жнівень, 18—23.*

У складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў (Я. Колас, М. Танк, П. Панчанка, П. Пестрак, М. Лужанін, М. Клімковіч, П. Кавалёў) па запрашэнню ленінградскага аддзялення СП СССР знаходзіўся ў Ленінградзе.

Беларускія пісьменнікі прынялі ўдзел у вечарах беларускай паэзіі, выступілі па радыё, наведалі Кіраўскі за-

вод, Эрмітаж, Рускі музей, Музей абароны Ленінграда, шалаш Леніна ў Разліве, магілу І. Я. Рэпіна, Петрапаўлаўскую крэпасць, магілу Героя Савецкага Саюза Ф. Смалячкова. *(Літ. і мастацтва, 16, 23, 30 жн.; Полымя, № 9.)*

*19 жн.* Я. Колас, П. Броўка, М. Танк, П. Пестрак, П. Панчанка і інш. выступілі з чытаннем сваіх новых твораў. *(Літ. і мастацтва, 23 жн.)*

Беларускія пісьменнікі пабывалі на дачы А. Пракофьева на Карэльскім перашыйку. *(Броўка П. Наш добры сябра... // Зб. тв. Т. 6.— С. 396—397.)*

Пад уражаннем гэтай паездкі напісаў верш «Бранявік».

*Верасень, 8.*

Выступіў з чытаннем вершаў аб Маскве на вечары, прысвечаным 800-годдзю Масквы на Мінскім трактарным заводзе. *(Літ. і мастацтва, 13 верас.)*

*Кастрычнік, 22.*

У газ. «Звязда» — паэма «Родны дом». Ва ўсіх наступных публікацыях паэма мае назву «Бацькаў дом». Прысвечана 30-годдзю Кастрычніка.

*Кастрычнік, 27 — лістапад, 4.*

У складзе дэлегацыі (П. Тычына, І. Эрэнбург, А. Твардоўскі) знаходзіўся ў Польшчы. *(Звязда, 28 кастр.)*

*1 лістап.* наведаў былы канцлагер Асвенцім, дзе была закатавана маці паэта. *(Броўка П. Дарагое імя... // Зб. тв.— Т. 6, 1978.— С. 387.)*

*Лістапад, 23.*

У «Звяздзе» — верш «Кандрату Крапіве». Напісаны да 25-годдзя творчай дзейнасці К. Крапівы.

*Снежань, 11.*

Вылучаны кандыдатам у дэпутаты мінскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных на агульнагарадскім сходзе пісьменнікаў Мінска. *(Літ. і мастацтва, 13 снеж.; Полымя, 1948, № 1.)*

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшаў зборнік «Выбраныя творы».

У выдавецтве «Детгиз» — паэма «Думы о Москве» (пераклад з беларус. В. Дзяржавіна), у выдавецтве «Правда» — зборнік «Стихи» (пераклад з беларускай мовы Д. Осіна).

## 1948

*Студзень, 12.*

На чарговым пасяджэнні праўлення СП БССР абраны галоўным сакратаром Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі. *(Літ. і мастацтва, 17 студз.; Полымя, № 2.)*

*Студзень, 21.*

У газ. «Звязда» — вершы «Дом у Пароніне», «Ля Маўзалея», напісаныя да 24-й гадавіны з дня смерці У. І. Леніна.

*Люты, 4.*

Выступіў на рэспубліканскай нарадзе дзіцячых пісьменнікаў, скліканай ЦК ЛКСМБ і ССП БССР. *(Літ і мастацтва, 7 лют.)*

*Люты, 24—26.*

Уступным словам адкрыў рэспубліканскі сход пісьменнікаў, прысвечаны вынікам мінулага літаратурнага года. *(Звязда, 25 лют.; 2 сак.)*

Уступнае слова ў скарачэнні пад назвай «Створым новыя, выдатныя творы» надрукавана ў газ. «Літаратура і мастацтва», 28 лют.

Сход зацвердзіў рашэнне праўлення Саюза пісьменнікаў БССР аб утварэнні сакратарыята СПБ. Галоўны сакратар — П. Броўка. *(Літ. і мастацтва, 6 сак.)*

*Сакавік, 15.*

Прымаў удзел у рабоце трэцяй сесіі Вярхоўнага Савета БССР. *(Літ. і мастацтва, 20 сак.)*

*Сакавік, 28.*

У газ. «Сов. Белоруссия» — артыкул «Максим Горький и белорусская культура». Да 80-годдзя з дня нараджэння А. М. Горкага.

*Красавік, да 17 (або да 12).*

Выступіў з чытаннем твораў перад маладымі настаўнікамі Мінска. Выступілі таксама: Я. Колас, М. Лынькоў, К. Крапіва, М. Танк, П. Глебка, П. Панчанка, Э. Агняцвет. *(Літ. і мастацтва, 17 крас.)*

*Май.*

Адпачываў у Кіславодску. *(Ліст да Я. Коласа ад 7 мая.)*

*Чэрвень.*

У часоп. «Беларусь», № 6 — паэма «Родныя берагі».

*Чэрвень, 20.*

Прысутнічаў на ўрачыстым адкрыцці філіяла Дзяржаўнага музея Я. Купалы ў вёсцы Вязынка. Выступіў на мітынгу. *(Літ і мастацтва, 26 чэрв.; Полымя, № 7.)*

*Чэрвень, 30 — ліпень, 1.*

Выступіў на рэспубліканскай нарадзе па пытаннях выдання кніг і часопісаў, скліканай Упраўленнем прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б. У рабоце нарады ўдзельнічалі пісьменнікі, вучоныя, работнікі выдавецтваў і друкарань, мастакі, прадстаўнікі арганізацый, якія займаюцца распаўсюджваннем кніг.

*Ліпень, пасля 15.*

Выступіў у спрэчках на сходзе партыйнай арганізацыі, прысвечаным вынікам рэспубліканскай нарады ў ЦК КП(б)Б па пытаннях кніг і часопісаў. П. Броўка заклікаў пісьменнікаў стаяць бліжэй да жыцця, больш глыбока вывучаць нашу рэчаіснасць. Разам з тым ён гаварыў аб адсутнасці работы выдавецтва з аўтарамі. *(Полымя, № 8.)*

*Верасень, да 26.*

Абіраецца ў склад Урадавай камісіі па падрыхтоўцы да святкавання 30-годдзя з дня ўтварэння БССР. *(Сов. Белоруссия, 26 сент.)*

*Кастрычнік, 16—20.*

Прымаў удзел у рабоце рэспубліканскай нарады маладых пісьменнікаў. *(Літ і мастацтва, 23 кастр.)*

*Кастрычнік, 20.*

Выступіў на пашыраным пасяджэнні праўлення СП БССР (20—21 кастр.) з дакладам «Беларуская савецкая літаратура на сучасным этапе і яе задачы да 30-й гадавіны БССР». *(Літ. і мастацтва, 23 кастр.)*

Даклад надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 30 кастр.

*Снежань, 7—10.*

Прымаў удзел у рабоце Другога з'езда савецкіх пісьменнікаў Украіны.

*7 снеж.* выступіў з прывітальнай прамовай і ў спрэчках па дакладу А. Карнейчука. *(Лит. газета, 8 дек.)*

*Снежань, 19.*

Выступіў з чытаннем сваіх твораў на літаратурным вечары, прысвечаным 30-годдзю БССР. *(Літ. і мастацтва, 25 снеж.)*

*Снежань.*

У часоп. «Полымя», № 12 — артыкул «Беларуская савецкая літаратура ў 1948 годзе»; апублікавана і паведамленне: «Урад Беларускай ССР стварыў рэспубліканскі юбілейны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенню 150-годдзя з дня нараджэння А. С. Пушкіна. Старшыня камітэту — Я. Колас, намеснік — П. Броўка».

*На працягу года.*

У Маскве ў выдавецтве «Сов. писатель» выйшаў зборнік «Стихи и поэмы».

У Белдзяржвыдавецтве выйшлі: зборнік «Выбраныя вершы і паэмы»; зборнік Т. Шаўчэнкі «Выбраныя вершы і паэмы» на беларускай мове. Сярод перакладчыкаў — П. Броўка; зборнік твораў «Беларуская савецкая проза і драматургія» пад рэдакцыяй Я. Коласа, П. Броўкі, К. Крапівы і інш.; пад рэдакцыяй П. Броўкі, К. Крапівы, А. Куляшова, М. Лынькова аднатомнік Я. Коласа «Вершы і паэмы»; пад рэдакцыяй Я. Коласа, П. Броўкі, К. Крапівы, А. Куляшова, М. Лынькова зборнік твораў Я. Купалы «Вершы і паэмы».

У Ленінградзе ў выдавецтве «Лениздат» пад рэдакцыяй М. Браўна, П. Броўкі, П. Глебкі, Я. Коласа, А. Пракоф'ева выдадзена «Антология белорусской поэзии».

## 1949

*Студзень, 1.*

У сувязі з 30-годдзем рэспублікі і дасягнутымі поспехамі ў развіцці і аднаўленні прамысловасці, сельскай гаспадаркі, навукі, культуры і мастацтва вялікая група работнікаў БССР узнагароджана ордэнамі. Сярод узнагароджаных ордэнам Леніна — П. Броўка. *(Правда, 1 янв.; Звязда, 1 студз.)*

Прымаў удзел у рабоце чацвёртай Юбілейнай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, прысвечанай 30-годдзю рэспублікі. *(Літ. і мастацтва, 4 студз.)*

*Студзень, 2.*

Разам з групай пісьменнікаў, якія ўдзельнічалі ў Юбілейнай сесіі Вярхоўнага Савета БССР, гасціў у Я. Коласа. *(Ліст Я. Коласа да С. Гарадзецкага ад 13 студз.)*

*Студзень, 25 — люты, 3.*

Прымаў удзел у Дэкадзе беларускай савецкай літаратуры ў Маскве.

*25 студз.* выступіў з прамовай ад СП БССР на ўрачыстым адкрыцці Дэкады ў Цэнтральным Доме літаратара.

У час дэкады выступіў таксама з чытаннем сваіх вершаў на сустрэчы беларускіх пісьменікаў з слухачамі і выкладчыкамі Ваенна-палітычнай акадэміі імя Леніна, на вечары ў клубе студэнцкага гарадка.

На пасяджэнні секцыі паэзіі ССП СССР абмеркавана паэма П. Броўкі «Родныя берагі».

*2 лют.* выступіў з кароткай прамовай на магіле Я. Купалы. *(Літ. і мастацтва, 27 студз., 5 лют.; Звязда, 26 студз., 4 лют.)*

*Люты, 4.*

Адбылося пашыранае пасяджэнне сакратарыята Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР сумесна з беларускімі пісьменнікамі, прысвечанае вынікам дэкады беларускай літаратуры ў Маскве.

П. Броўка ад імя беларускіх паэтаў, празаікаў і драматургаў выказаў сардэчную падзяку рускім пісьменнікам і кіраўнікам Саюза савецкіх пісьменікаў СССР за вялізарную ўвагу, аказаную ім у дні дэкады.

Група беларускіх пісьменнікаў наведала рэдакцыю газеты «Правда», дзе адбылася сустрэча з рэдкалегіяй. З чытаннем сваіх вершаў выступілі П. Броўка, П. Глебка, К. Крапіва і інш. *(Звязда, 5 лют.)*

*Люты, 15—18.*

XIX з'езд КП(б)Б.

*15 лют.* на вячэрнім пасяджэнні П. Броўка прымаў удзел у абмеркаванні справаздачных дакладаў ЦК КП(б)Б і Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі КП(б)Б.

Скарочаная прамова пад назвай «Адлюстраваць баявыя і працоўныя подзвігі савецкага народа» надрукавана ў газ. «Звязда», 22 лют.; «Літаратура і мастацтва», 26 лют.

*18 лют.* абраны кандыдатам у члены ЦК КП(б)Б. *(Літ. і мастацтва, 19 лют.; Звязда, 19 лют.)*

*Сакавік, да 12.*

Выступіў з дакладам на адкрытым партыйным сходзе СП БССР, прысвечаным вынікам XIX з'езда КП(б) Беларусі. *(Літ. і мастацтва, 12 сак.)*

*Сакавік, 19.*

У «Літ. і мастацтве» апублікавана Заява беларускіх пісьменнікаў «За трывалы дэмакратычны мір паміж народамі, супраць падпальшчыкаў вайны!» у падтрымку прапановы Міжнароднага камітэта сувязі дзеячаў культуры ў абарону міру і Міжнароднай федэрацыі жанчын аб скліканні Сусветнага кангрэсу прыхільнікаў міру. Сярод падпісаўшых заяву — П. Броўка.

*Чэрвень, 4.*

У «Літ. і мастацтве» — верш «У вянок паэту». Напісаны да 150-й гадавіны з дня нараджэння А. С. Пушкіна.

*Чэрвень, 20—23.*

Прымаў удзел у рабоце Другога з'езда пісьменнікаў Беларусі. З'езд адкрыў уступнай прамовай Я. Колас. Са справаздачным дакладам «Становішча і задачы беларускай савецкай літаратуры» выступіў П. Броўка. На з'ездзе выступілі: М. Танк, К. Крапіва, К. Сіманаў, Ральф Парве, А. Малышка і інш. *(Літ. і мастацтва, 23, 24 чэрв.; 2, 9, 16 ліп.)*

Даклад П. Броўкі надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 24 чэрв.

*Чэрвень, 23.*

Выступіў з уступным словам на ўрачыстым пасяджэнні ўдзельнікаў Другога з'езда СП БССР сумесна з Акадэміяй навук БССР, прысвечаным 7-й гадавіне з дня смерці Я. Купалы. Даклад П. Панчанкі.

Прысутнічаў на ўрачыстым адкрыцці помніка Я. Купалу ў Цэнтральным скверы Мінска. З прамовамі выступілі Я. Колас, А. Твардоўскі, А. Грашы, А. Малышка і інш. *(Літ. і мастацтва, 2 ліп.)*

*Чэрвень 24.*

Адбыўся арганізацыйны пленум праўлення ССП БССР, які абраў прэзідыум праўлення. Старшынёй праўлення абраны П. Броўка, сакратаром — П. Кавалёў. *(Літ. і мастацтва, 2 ліп.; Полымя, № 7.)*

*Жнівень, 28.*

У складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў (праф. І. Анісімаў, М. Бажан, С. Чыкавані, С. Шчыпачоў) выехаў у Веймар на святкаванне 200-годдзя з дня нараджэння вялікага І. В. Гётэ. *(Звязда, 28 жн.)*

*Жнівень, 27.*

У «Літ. і мастацтве» — паведамленне аб тым, што Савет Міністраў БССР стварыў камісію па правядзенню двухсотгадовага юбілею з дня нараджэння А. М. Радзішчава. П. Броўка ўвайшоў у склад гэтай камісіі.

*Кастрычнік, 10—11.*

Адбыўся пленум Саюза пісьменнікаў Беларусі. Пленум абмеркаваў два пытанні: аб стане і задачах літаратурнай крытыкі ў Беларусі і аб удзеле пісьменнікаў у развіцці беларускай кінематаграфіі.

П. Броўка выступіў у спрэчках па гэтых пытаннях. *(Полымя, № 11.)*

Выступленне надрукавана ў газ. «Літаратура і мастацтва», 15 кастр.

*Лістапад.*

Адпачываў у Кіславодску. *(Ліст да Я. Коласа ад 3 лістап.)*

У часоп. «Полымя», № 11 — паэма «Добры друг».

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшлі: зборнік твораў «Беларуская савецкая паэзія» пад рэдакцыяй Я. Коласа, П. Броўкі, К. Крапівы і інш.

Пад рэдакцыяй Я. Коласа, П. Броўкі, П. Глебкі, А. Кулешова, Я. Шарахоўскага — зборнік А. С. Пушкіна «Выбраныя творы».

У Маскве ў «Гослитиздате» — зборнік вершаў і паэм «Избранное».

## 1950

*Люты, 20.*

Выступіў на агульнагарадскім мітынгу працоўных Мінска, прысвечаным выбарам у Вярхоўны Савет СССР. *(Савецкі селянін, 21 лют.; Літ і мастацтва, 25 лют.)*

*Сакавік, 4.*

У «Літ. і мастацтве» — нарыс «Народны паэт» пра Я. Коласа, пад рубрыкай «Кандыдаты ў дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР».

*Красавік, 10—11.*

Выступіў з дакладам аб становішчы літаратурнай крытыкі і дзіцячай літаратуры на III пленуме праўлення ССП БССР, прысвечаным вынікам XIII пленума ССП СССР. *(Літ. і мастацтва, 15 крас.)*

Даклад пад назвай «Аб літаратурнай крытыцы ў Беларусі», надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 15 крас.

*Ліпень.*

Адпачываў у Дубултах. *(Ліст. да П. Кавалёва ад 1 ліп.)*

*Ліпень, 14.*

У газ. «Звязда» — верш «Прысяга байца за мір». Верш з'явіўся водгукам паэта на «Адозву Пастаяннага камітэта Сусветнага кангрэсу прыхільнікаў міру аб забароне атамнай зброі».

*Жнівень, 8—11.*

Уступным словам адкрыў 3-ю рэспубліканскую нараду маладых пісьменнікаў. *(Літ. і мастацтва, 12 жн.)*

Працавалі секцыі прозы, паэзіі, крытыкі і драматургіі. Секцыяй паэзіі кіраваў П. Броўка. *(Полымя, № 9.)*

*Жнівень, 16.*

Прымаў удзел у пасяджэнні прэзідыума і партбюро Саюза пісьменнікаў БССР. Пытанні: выдавецкі план, план работы партгруп. *(Кавалёў П. З увагай да людзей // Успаміны пра Петруся Броўку...— С. 133.)*

*Верасень, 24.*

У акруговым Доме афіцэраў адбыўся літаратурны вечар на тэму «Беларускія пісьменнікі ў барацьбе за мір». Уступнае слова Я. Коласа. Вершы чыталі П. Броўка, П. Глебка, П. Панчанка, А. Вялюгін, К. Кірэенка і інш. *(Звязда, 26 верас.)*

*Кастрычнік.*

У «Полымі», № 10 — паэма «Чырвон-гарадок».

*Кастрычнік, 16—18.*

Удзельнічаў у рабоце II Усесаюзнай канферэнцыі прыхільнікаў міру, якая адбылася ў Маскве.

*17 кастр.* выступіў з прамовай ад ССП БССР. *(Звязда, 20 кастр.; Літ. і мастацтва, 21 кастр.)*

Прамова надрукавана ў газ. «Літаратура і мастацтва», 21 кастр.

*Лістапад, 25.*

Адкрыў урачысты вечар, прысвечаны 25-годдзю літаратурнай дзейнасці П. Глебкі. *(Звязда, 28 лістап.)*

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшаў зборнік вершаў і паэм «Сонечнымі днямі»; зборнік вершаў на рускай мове «Дорога жизни». Пераклад з беларус. Д. Осіна.

## 1951

*З успамінаў А. М. Броўкі:* «У 1951 годзе мы пераехалі на вуліцу Карла Маркса, 30, там пражылі мы трыццаць гадоў, а цяпер там арганізуецца музей Петруся Броўкі»... *(Броўка А. Гады шчаслівыя, гады трывожныя... // Успаміны пра Петруся Броўку... С. 66.)*

Літаратурны музей П. Броўкі адкрыўся 4 студз. 1984 г.

Філіял гэтага музея ў вёсцы Пуцілкавічы — 15 чэрв. 1985 г.

*Студзень, 27.*

У «Літ. і мастацтве» — артыкул «Выдатны майстар савецкай паэзіі». Да 60-годдзя з дня нараджэння ўкраінскага паэта П. Тычыны.

*Люты, 1.*

У «Літ. і мастацтве» — у перакладзе П. Броўкі вершы П. Тычыны.

*Люты, 25.*

Абіраецца дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР па Глыбоцка-Паўднёвай выбарчай акрузе № 372 Полацкай вобласці. *(Сов. Белоруссия, 28 февр.)*

*Сакавік, 4.*

Уступным словам адкрыў урачыстае пасяджэнне, прысвечанае 100-годдзю з дня смерці М. В. Гогаля. *(Полымя, № 3.)*

*Сакавік, 17.*

За зборнік вершаў «Дорога жизни» (аўтарызаваны пераклад з беларускай мовы Д. Осіна) П. Броўку прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР, прысвоена званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР. *(Літ. і мастацтва, 17 сак.)*

*Сакавік, 29.*

Прысутнічаў на сустрэчы з настаўнікамі Мінскай вобласці. *(Літ. і мастацтва, 31 сак.)*

*Красавік, 10—12.*

Выступіў з прамовай аб чарговых задачах пісьменніцкай арганізацыі Беларусі на IV пленуме праўлення ССПБ, прысвечаным пытанням мовы і задачам беларускай літаратуры. *(Літ. і мастацтва, 14 крас.)*

Прамова пад назвай «Нашы вынікі і задачы» надрукавана ў газ. «Літаратура і мастацтва», 21 крас.

*Май, 10 — чэрвень, 10.*

У складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў па запрашэнню Саюза пісьменнікаў Чэхаславакіі і міністэрства інфармацыі і культуры наведаў Чэхаславакію. Пад уражаннем паездкі напісаў вершы «Там, дзе хадзіў калісьці Ленін...» «Гара Славы», «Сустрэча з земляком», «Яра!... Яра!..».

Усе названыя вершы ўпершыню надрукаваны ў часоп. «Беларусь», 1952, № 1.

Акрамя вершаў пад уражаннем паездкі напісаў нарыс «Месяц у Чэхаславакіі». *(Літ. і мастацтва, 29 чэрв.; 7, 14, 21, 28 ліп.; 4, 11, 18, 25 жн.)*

*Чэрвень, 18.*

Выступіў з чытаннем вершаў, прысвечаных М. Горкаму, на агульнагарадскім літаратурным вечары, прысвечаным 15-й гадавіне з дня смерці пісьменніка. *(Літ. і мастацтва 23 чэрв.; Полымя, № 3.)*

*Ліпень.*

Уступным словам адкрыў агульнагарадскі вечар, прысвечаны 9-й гадавіне з дня смерці Я. Купалы. *(Полымя, № 7.)*

*Верасень, 5—6.*

Выступіў з дакладам «Савецкі народ у барацьбе за захаванне і ўмацаванне міру» на рэспубліканскай канферэнцыі прыхільнікаў міру.

Абіраецца членам Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру і дэлегатам на III Усесаюзную канферэнцыю прыхільнікаў міру. *(Звязда, 7, 8 верас.)*

Даклад надрукаваны ў газ. «Звязда», 7 верас.

*Кастрычнік, 27 — лістапад (сярэдзіна).*

Адпачываў у Кіславодску ў санаторыі «Минтяжстрой». *(Ліст да Я. Коласа ад 23 кастр.)*

*Лістапад, 23.*

Грамадскасць рэспублікі адзначыла 25-годдзе творчай дзейнасці П. Броўкі. У памяшканні Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны юбіляру. Вечар адкрыў М. Лынькоў. З дакладам аб жыцці і творчасці паэта выступіў П. Глебка. На імя юбіляра паступілі віншавальныя тэлеграмы ад саюзаў пісьменнікаў братніх рэспублік, ад грамадскіх устаноў і прыватных асоб. У заключэнні выступіў Пётр Усцінавіч. *(Літ. і мастацтва, 24 лістап.; Калгасн. праўда, 24 лістап.)*

*Лістапад, 27—29.*

Прымаў удзел у рабоце III Усесаюзнай канферэнцыі прыхільнікаў міру.

Напярэдадні канферэнцыі, *25 лістап.* у газ. «Звязда» — верш «Мір нам патрэбен!» Ва ўсіх наступных публікацыях назва верша — «Не трэба вайны!».

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшаў зборнік вершаў і паэм «Выбраныя творы».

У выдавецтве «Гослитиздат» пад рэдакцыяй П. Броўкі, М. Ісакоўскага, Я. Мазалькова выйшлі 1-шы і 2-гі тт Зб. твораў Я. Коласа ў 4-х тамах на рускай мове.

## 1952

*Студзень, 21.*

Камітэт радыёінфармацыі правёў тэматычную перадачу «Ленін жыве паміж нас». Перад мікрафонам выступілі: Я. Колас, А. Куляшоў, М. Танк, П. Броўка, П. Панчанка і інш. *(Літ. і мастацтва, 26 студз.)*

*Сакавік, 18—19.*

Выступіў з дакладам на V пленуме ССП БССР, прысвечаным абмеркаванню вынікаў 1951 літаратурнага года. *(Літ. і мастацтва, 22 сак.)*

Скарочаны даклад пад назвай «За новы творчы ўздым беларускай савецкай літаратуры» надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 22 сак.

*Чэрвень, 18.*

Выступіў з чытаннем вершаў на агульнагарадскім вечары, прысвечаным 15 гадавіне дня смерці М. Горкага. *(Полымя, № 7.)*

*Чэрвень, 20—21.*

Уступнай прамовай адкрыў рэспубліканскую нараду па пытаннях дзіцячай літаратуры. *(Літ. і мастацтва, 28 чэрв.)*

*Ліпень.*

Адкрыў урачыстае пасяджэнне, прысвечанае 35-годдзю з дня смерці М. Багдановіча. *(Полымя, № 7.)*

*Жнівень, 16.*

У газ. «Звязда» паведамленне аб тым, што Дзяржаўнае выдавецтва БССР выпусціла ў свет зборнік твораў Т. Шаўчэнкі «Кабзар».

У ім змешчаны пераклады Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі, П. Броўкі, К. Крапівы, А. Куляшова, П. Глебкі, М. Клімковіча.

*Жнівень.*

У часоп. «Полымя», № 8 — у перакладзе П. Броўкі апублікаваны вершы А. Твардоўскага «Крэмль зімняй ноччу», «Памяці Леніна», «Мужычок гарбаты».

*Верасень, 20—23.*

Прымаў удзел у рабоце XX з'езда Камуністычнай партыі Беларусі.

*23 верас.* абіраецца членам ЦК КП(б)Б. *(Звязда, 21—24 верас.)*

*Кастрычнік, 5—14.*

Прымаў удзел у рабоце XIX з'езда ВКП(б). *(Звязда, 6—16 кастр.)*

Водгукам на гэтую падзею з'явіўся верш «Калі пагляджу я на карту».

*Лістапад, 17—20.*

Удзельнічаў у нарадзе па беларускай дзіцячай літаратуры, скліканай па рашэнню сакратарыята Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР. Запрошаны былі пісьменнікі Масквы і Ленінграда, Украіны і Латвіі.

У сваім выступленні П. Броўка гаварыў аб перакладзе паэмы А. Бялевіча «Ідзі, мой сын» і зазначыў, што А. Пракоф'еў зрабіў вельмі няўдалы пераклад гэтага твора на рускую мову. *(Полымя, № 12.)*

*Снежань, 2—4.*

Прымаў удзел у рабоце IV Усесаюзнай канферэнцыі прыхільнікаў міру. *(Звязда, 4, 5, 7 снеж.)*

*Снежань, да 13.*

Выступіў на сходзе творчых работнікаў, прысвечаным абмеркаванню вынікаў XIX з'езда ВКП(б). *(Літ. і мастацтва, 13 снеж.)*

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшлі: зборнік «Выбраныя творы», зборнік Т. Шаўчэнкі «Кабзар» на беларускай мове. Сярод перакладчыкаў — П. Броўка. Асобным выданнем — нарыс «Месяц у Чэхаславакіі».

У Бухарэсце ў выдавецтве «Carte Rusą» («Русская книга») выйшаў зборнік «Вершы».

У Маскве ў выдавецтве «Правда» — зборнік вершаў «Дорога жизни».

У выдавецтве «Гослитиздат» пад рэдакцыяй П. Броўкі, М. Ісакоўскага, Я. Мазалькова выйшлі 3-ці і 4-ты тт. Зб. твораў Я. Коласа ў 4-х тамах на рускай мове.

## 1953

*Студзень, 6—8.*

На сесіі АН БССР абраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук БССР. *(Літ. і мастацтва, 10 студз.).*

*Люты, 7.*

Адкрыў літаратурны вечар, прысвечаны 60-годдзю з дня нараджэння А. Гурло. *(Літ. і мастацтва, 14 лют.).*

*Красавік, да 25.*

Выступіў на абмеркаванні рамана П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах» на пасяджэнні секцыі прозы СП

БССР. Зрабіў заўвагі аўтару, накіраваныя на паляпшэнне рамана. *(Літ. і мастацтва, 25 крас.)*

*Красавік.*

Ездзіў на міжкалгасную гідраэлектрастанцыю «Дружба народаў», якая пабудавана ў верхнім цячэнні ракі Дрысвяты. *(Літ. і мастацтва, 25 крас.)*

*Май.*

Вярнуўся з паездкі на міжкалгасную гідраэлектрастанцыю «Дружба народаў». *(Полымя, № 5.)*

*Ліпень.*

Адпачываў у Кактэбелі. *(Ліст да Я. Коласа ад 10 чэрв.)*

*Верасень, да 12.*

Выступіў з уступнай прамовай на літаратурным вечары, прысвечаным барацьбе за мір, які адбыўся ў клубе калгаса «Рассвет». *(Літ. і мастацтва, 12 верас.)*

*Верасень.*

У чэшскім часоп. «Прага — Масква», № 9 — вершы «Здрада», «Крыніца», «Мяцеліца», «Рана», «Веснавое», «Прачнуўшыся рана», «Каб мне стаць...», «Маладзіком», «Мая айчына». Пераклад О. Свобадавай.

*Кастрычнік, 21—24.*

Прымаў удзел у рабоце XIV пленума праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў.

Абраны ў прэзідыум Праўлення СП СССР. *(Полымя, № 11.)*

*Снежань, 28—29.*

Адбыўся шосты пленум Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі, прысвечаны становішчу і задачам беларускай драматургіі. П. Броўка адкрыў пленум уступнай прамовай. У прамове зазначыў, што пытанне, разглядаемае на пленуме, мае на сучасным этапе надзвычайнае значэнне для творчага жыцця пісьменніцкай арганізацыі. *(Полымя, № 1, 1954.)*

*На працягу года.*

У Вучпедвыдаце выйшла другім выданнем паэма «Кацярына».

## 1954

*Студзень.*

У часоп. «Полымя», № 1 — паэма «Лясы наддзвінскія».

*Студзень, 17.*

У газ. «Сов. Белоруссия» — артыкул «Всегда вместе». Да 300-годдзя ўз'яднання Украіны з Расіяй.

*Люты, 10—13.*

Прымаў удзел у рабоце XXI з'езда Камуністычнай партыі Беларусі. *12 лют.* выступіў з прамовай. Прамова надрукавана ў газ. «Літаратура і мастацтва», 13 лют., «Звязда», 17 лют.

Абіраецца членам ЦК КПБ *(Звязда, 11, 14 лют.)*

*Чэрвень, 2—4.*

Прымаў удзел у рабоце чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета БССР трэцяга склікання. *(Чацвёртая сесія...: Стэнаграфічная справаздача.— Мн., 1954.)*

*Ліпень, 13—14.*

Прысутнічаў на пленуме Чэхаўскага камітэта і ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 50-годдзю з дня смерці пісьменніка. *(Ліст да П. Кавалёва ад 2 ліп.)*

*Ліпень, 20.*

Выступіў з прамовай на сходзе пісьменніцкага актыву Мінска, прысвечанага падрыхтоўцы да III Беларускага і II Усесаюзнага з'ездаў пісьменнікаў. П. Броўка праінфармаваў прысутных аб падрыхтоўцы беларускай пісьменніцкай арганізацыі да свайго з'езда. *(Літ. і мастацтва, 24 ліп.)*

*Верасень, 15.*

Выступіў з дакладам «Беларуская літаратура ад Другога да Трэцяга з'езда пісьменнікаў» на Трэцім з'ездзе пісьменнікаў Савецкай Беларусі (15—18 верас.).

Даклад надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 17 верас.

Абіраецца членам праўлення ССП і дэлегатам на II Усесаюзны з'езд пісьменнікаў. *(Літ. і мастацтва, 17 верас.)*

*Лістапад, 17.*

У газ. «Сов. Литва» — артыкул «Навеки с жизнью». Пра літоўскую паэтэсу Саламею Нерыс.

*Снежань, 18.*

Выступіў з прамовай на II Усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў. З'езд праходзіў 15—26 снеж.

Прамова надрукавана ў газ. «Літаратура і мастацтва», 25 снеж.; «Литературная газета», 22 дек.

*Снежань, 28.*

На першым пленуме праўлення СП СССР абраны ў прэзідыум праўлення Саюза пісьменнікаў. *(Правда, 29 дек.)*

*Снежань.*

У часоп. «Полымя», № 12 — паэма «Сябры».

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшаў зборнік вершаў і паэм «Цвёрдымі крокамі».

## 1955

*Люты, да 5.*

Выступіў з дакладам на агульным сходзе пісьменнікаў Мінска, прысвечаным вынікам II Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў. *(Літ. і мастацтва, 5 лют.)*

*Люты, 11—21.*

Прымаў удзел у Дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве. *11 лют.* урачыстае адкрыццё Дэкады ў Вялікім тэатры Саюза ССР. На вечары калектыў Беларускага дзяржаўнага ордэна Леніна тэатра оперы і балета паказаў оперу Я. Цікоцкага «Дзяўчына з Палесся». Лібрэта П. Броўкі і Я. Рамановіча. *12 лют.* П. Броўка сказаў уступнае слова на першым літаратурным вечары дэкады. *(Звязда, 12—22 лют.; Літ. і мастацтва, 19 лют.)*

*Люты, паміж 22—25.*

Сустрэўся з выбаршчыкамі калгасаў Ашмянскага раёна. *(Літ. і мастацтва, 26 лют.)*

*Люты, 25.*

За выдатныя заслугі ў развіцці беларускай літаратуры і ў сувязі з Дэкадай беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве ўказам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР узнагароджаны ордэнам Леніна. *(Звязда, 26 лют.; Правда, 26 февр.; Сов. Белоруссия, 26 февр.)*

*Люты, 27.*

Абіраецца дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР па Ашмянскай выбарчай акрузе № 376 Маладзечанскай вобласці. *(Сов. Белоруссия, 3 марта.)*

*Сакавік, 28—30.*

Прымаў удзел у рабоце першай сесіі Вярхоўнага Савета БССР чацвёртага склікання. *(Літ. і мастацтва, 2 крас.)*

*Красавік, 18.*

Уступным словам адкрыў вечар, прысвечаны 25-годдзю з дня смерці У. Маякоўскага. *(Звязда, 19 крас.)*

*Май.*

Адпачываў у Кіславодску. *(Ліст да Я. Коласа ад 16 мая.)*

*Чэрвень 8, 17.*

Я. Колас напісаў вершы, прысвечаныя П. Броўку.

*8 чэрв.*— «Петрусю Броўку: (Да пяцідзесяцігоддзя)», («Азірнёмся, Пятруська, назад»). *(Літ. і мастацтва.— 2 ліп.). 17 чэрв.*— «Дамок наводшыбе; прысвячаецца П. Броўку». *(Зб. тв.— 1962.— Т. 2.)*

*Чэрвень, 11.*

Выступіў з дакладам «Адам Міцкевіч — геніяльны паэт» на вечары, прысвечаным 100-годдзю з дня смерці А. Міцкевіча. Вечар адбыўся ў Навагрудку. *(Звязда, 15 чэрв.; Полымя, № 7.)*

*Лета.*

У Каралішчавічах. *(Ліст. да Я. Коласа ад 16 чэрв.)*

*Чэрвень, 25.*

Грамадскасць рэспублікі шырока адзначыла 50-годдзе з дня нараджэння Пятра Усцінавіча. У Дзяржаўным рускім драматычным тэатры БССР імя М. Горкага адбыўся вечар, прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння паэта. Уступная прамова М. Лынькова. Даклад К. Кірэенкі. *(Літ. і мастацтва, 2 ліп.; Полымя, № 7.)*

За вялікія заслугі ў развіцці беларускай савецкай літаратуры і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў П. Броўку Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. *(Полымя, № 7.)*

*Верасень. 15—23.*

Адкрыў шостую рэспубліканскую нараду маладых пісьменнікаў. Прысутнічала звыш 100 маладых празаікаў, паэтаў, драматургаў і крытыкаў з усіх абласцей рэспублікі. Адкрываючы нараду, П. Броўка гаварыў аб выключнай адказнасці савецкага пісьменніка за сваю працу, за мастацкую якасць кніг, аб значэнні творчай вучобы для літаратурнай моладзі.

*Верасень, 24.*

Адкрыў вечар, прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння П. Глебкі. *(Літ. і мастацтва, 24 верас., 1 кастр.)*

*Верасень, 30.*

У Дзяржаўным Варшаўскім оперным тэатры ўрачыстым пасяджэннем адкрыўся месячнік польска-савецкай дружбы. У Польшчу разам з вялікай групай работнікаў мастацтва і літаратуры Беларусі прыехаў П. Броўка. У час месячніка ўрачыстыя пасяджэнні і мастацкія вечары адбыліся ў Кракаве, Лодзі, Познані, Любліне, Беластоку і іншых гарадах. *(Літ. і мастацтва, 1, 8 кастр.)*

Нататкі пра паездку ў Польскую Народную Рэспубліку «У народнай Польшчы» П. Броўка змясціў у часоп. «Беларусь», № 12.

*Лістапад, да 19.*

Уступным словам адкрыў рэспубліканскую нараду, на якой было абмеркавана пытанне аб рабоце тэатраў і драматургаў над арыгінальнымі п'есамі. Ва ўступным слове П. Броўка сказаў, што гэтая нарада выклікана тым становішчам, што за апошнія гады ў рэпертуары нашых тэатраў рэзка знізілася колькасць спектакляў па п'есах беларускіх драматургаў. Гэта павінна ўстрывожыць пісьменніцкую і тэатральную грамадскасць. *(Літ. і мастацтва, 19 лістап.)*

*На працягу года.*

У выдавецтве «Гослитиздат» выйшаў зборнік «Стихотворения и поэмы».

## 1956

*Студзень, 9—16.*

У Маскве праходзіла сумесная работа II пленума праўлення ССП СССР і Трэцяй Усесаюзнай нарады маладых

пісьменнікаў. Ад ССП БССР у рабоце ўдзельнічалі П. Броўка, К. Крапіва, І. Шамякін, А. Куляшоў і інш. *(Лит. газета, 10—17 янв.; Сов. Белоруссия, 11 янв.)*

*Студзень, 24—27.*

Удзельнічаў у рабоце XXII з'езда Камуністычнай партыі Беларусі.

*26 студз.* выступіў на ранішнім пасяджэнні Камітэта Кампартыі Беларусі і Рэвізійнай Камісіі.

Прамова надрукавана ў газ. «Літаратура і мастацтва», 28 студз.

Абіраецца членам ЦК КПБ і дэлегатам на XX з'езд КПСС. *(Звязда, 25—29 студз.)*

*Люты, 14—25.*

Прымаў удзел у рабоце XX з'езда КПСС. *(Звязда, 15—28 лют.)*

*Красавік, 2.*

Выступіў з прамовай на агульнарэспубліканскім сходзе пісьменнікаў, прысвечаным вынікам XX з'езда КПСС і задачам савецкай літаратуры. П. Броўка гаварыў аб тым, як па-сапраўднаму правесці ў жыццё рашэнні XX з'езда КПСС. Трэба больш бываць на прадпрыемствах рэспублікі, у калгасах, не ацэньваць работу па колькасці пасяджэнняў, больш шчыра гаварыць аб творчай рабоце. *(Літ. і мастацтва, 7 крас.)*

*Красавік, 6.*

Выступіў з чытаннем перакладаў твораў У. Маякоўскага на вечары, прысвечаным творчасці паэта. *(Звязда, 8 крас.)*

*Красавік, сярэдзіна.*

Адпачывае і лечыцца ў Карлавых Варах. *(Ліст да Я. Коласа ад 18 крас.)*

*Лета.*

Знаходзіцца ў Доме творчасці ў Каралішчавічах. *(Шушкевіч С. Часта чую яго голас. // Успаміны пра Петруся Броўку...— С.19.)*

*Жнівень.*

У часоп. «Беларусь», № 8 — паэма «Заўсёды з Леніным».

*Жнівень — кастрычнік.*

У часоп. «Полымя», № 8, 9, 10 — раман «Калі зліваюцца рэкі».

*Лістапад, да 11.*

Вылучаны кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР. *(Гродненская праўда, 11 лістап.)*

*Лістапад, 18.*

Абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. *(Ліст да М. П. Геаргадзе ад снеж. 1957 г.)*

## 1957

*Студзень, да 5.*

На секцыі прозы пры Саюзе пісьменнікаў БССР абмеркаваны раман «Калі зліваюцца рэкі». У абмеркаванні прынялі ўдзел А. Кучар, Я. Скрыган, А. Слесарэнка, У. Карпаў, І. Гурскі, Т. Хадкевіч, Р. Сабаленка, М. Пасляловіч, Я. Брыль. У заключным слове П. Броўка выказаў сваю шчырую падзяку за дзелавое добразычлівае абмеркаванне рамана. Было б няправільна,— сказаў ён,— калі б я паабяцаў улічыць усе заўвагі. Магчыма, што для гэтага давялося б пісаць новы твор. Аднак найбольш слушныя заўвагі будуць выкарыстаны пры дапрацоўцы рамана». *(Літ. і мастацтва, 5 студз.)*

*Сакавік, 12.*

Прымаў удзел у рабоце чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета БССР. *(Літ. і мастацтва, 16 сак.)*

*Сакавік, 14.*

Старонка «Лит. газеты» прысвечана беларускай літаратуры. Вершы П. Броўкі, М. Танка, П. Панчанкі.

*Сакавік, 18—19.*

Удзельнічаў у рабоце Трэцяга пленума праўлення СП БССР. *18 сак.* Выступіў з дакладам «Стан беларускай савецкай літаратуры пасля XX з'езда КПСС і яе задачы». *(Літ. і мастацтва, 20 сак.; Полымя, № 4; Настаўн. газета, 21 сак.)*

Даклад надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 20 сак.

*Май, 14—17.*

Удзельнічаў у рабоце III пленума праўлення СП СССР. *15 мая* выступіў ад СП БССР. *(Правда, 15—18 мая; Лит. газета, 21 мая.)*

Прамова пад назвай «Услаўляць праўду жыцця, аддана служыць народу» надрукавана ў газ. «Літаратура і мастацтва», 18 мая; «Правда», 17 мая.

*Май, 27.*

Выступіў з дакладам на адкрытым сходзе партыйнай арганізацыі СП БССР, прысвечаным вынікам III пленума праўлення СП БССР і задачам беларускай пісьменніцкай арганізацыі ў сувязі з падрыхтоўкай да 40-годдзя Кастрычніка. *(Літ. і мастацтва, 29 мая.)*

*Чэрвень, 25 — ліпень, 2.*

Прымаў удзел у тыдні ўкраінскай літаратуры ў Беларусі. *(Літ. і мастацтва, 26 чэрв.; Сов. Белоруссия, 26 июня, 30 июня.)*

*Лета.*

Жыве на дачы ў Ждановічах.

*З успамінаў А. Броўкі:* «...у пасёлку Ждановічы Пётр Усцінавіч пабудаваў сабе летні прытулак — невялічкую дачку. І з таго часу аж да 1980 года, да яго канчыны, ён там абавязкова жыў усё лета, а часам захопліваў і кавалак восені, і вясны, а то нават і зімы. Гэта была яго любімая мясціна. *(Броўка А. Гады шчаслівыя, гады трывожныя... // Успаміны пра Петруся Броўку...— С. 59.)* [1]

*Ліпень, 28 — жнівень, 7.*

Прымаў удзел у VI Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў. *(Літ. і мастацтва, 27 ліп.)*

*Верасень 17—24.*

Тыдзень беларускай літаратуры на Украіне.

*17 верас.* У Кіеў прыехала дэлегацыя беларускіх пісьменнікаў. Кіраўнік дэлегацыі П. Броўка. На адкрыцці тыдня выступіў А. Ганчар, ад імя беларускай дэлегацыі — П. Броўка.

*24 верас.* у клубе літаратараў (Кіеў) былі падведзены вынікі тыдня. Выступілі: М. Бажан, П. Броўка, А. Кар-

---

[1] Далей звесткі аб штогоднім адпачынку П. Броўкі на дачы ў Ждановічах больш не падаюцца.

няйчук, А. Малышка і інш. *(Літ. і мастацтва, 19, 21, 25 верас.; Полымя, № 10; Сов. Белоруссия, 21, 24 сент.)*

*Верасень, 21.*

У «Літ. і мастацтве» пад агульным загалоўкам «Вершы аб Украіне» змешчаны вершы «Для цябе мая песня...», «Як жа ты багата!», «Будзь слаўны навекі», «Сябрам», «Хлопцы-каўпакаўцы». Усе яны прысвечаны Тыдню беларускай літаратуры на Украіне.

*Кастрычнік, 29.*

Выступіў з дакладам «Аб стане і задачах беларускай літаратуры» на сходзе актыву работнікаў літаратуры і мастацтва Беларусі (29—30 кастр.). *(Звязда 30, 21 кастр.; Сов. Белоруссия, 30, 31 окт.).*

Скарочаны пераказ даклада пад назвай «Дамагацца новых і новых поспехаў!» надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 2 лістап.

*Лістапад, 16.*

Выступіў з дакладам на агульнагарадскім вечары, прысвечаным 75-годдзю з дня нараджэння Я. Коласа *(Літ. і мастацтва, 20 лістап.)*

У «Літ. і мастацтве» — артыкул «Любімы настаўнік». Да 75-годдзя з дня нараджэння Я. Коласа.

*Лістапад, да 27.*

Выступіў разам з І. Мележам, А. Бачылам, К. Кірэенкам на Мінскім камвольным камбінаце на вечары, прысвечаным месячніку кнігі. *(Літ. і мастацтва, 27 лістап.)*

*Снежань, 3—4.*

Выступіў у спрэчках па пытанню «Аб выніках нарад прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый у Маскве» на IX пленуме ЦК КПБ. *(Літ. і мастацтва, 7 снеж.)*

*Снежань, 16.*

Уступным словам адкрыў вечар, прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння Э. Самуйлёнка. *(Літ. і мастацтва, 14 снеж.)*

*Снежань, 19—20.*

Прымаў удзел у рабоце дзевятай сесіі Вярхоўнага Савета СССР чацвёртага склікання. *(Літ і мастацтва, 21 снеж.)*

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшлі: Збор твораў у 2-х тамах і раман «Калі зліваюцца рэкі».

Пад рэдакцыяй П. Броўкі — зборнікі: Колас Я. «Публіцыстычныя і крытычныя артыкулы»; «Маякоўскі ў Беларусі».

## 1958

*Студзень, 15.*

Вылучаны кандыдатам у склад выбарчай камісіі Беларускай ССР па выбарах у Савет Нацыянальнасцей. *(Літ. і мастацтва, 15 студз.)*

*Люты 11—13.*

У Маскве адбыўся IV пленум праўлення СП СССР. З дакладам выступіў М. Ціханаў. П. Броўка прыняў удзел у абмеркаванні даклада. *(Правда, 13, 14 фев.; Літ і мастацтва, 15, 19 лют.)*

*Сакавік.*

Адбылася сустрэча выбаршчыкаў з П. Броўкам. Ён выступіў перад калектывам гродненскай кардоннай фабрыкі «Альберцін», перад працоўнымі Слонімскага і Казлоўшчынскага раёнаў. *(Полымя, № 3.)*

*Красавік, 4.*

Адкрыў IV пленум праўлення СП БССР. *(Літ. і мастацтва, 5, 9 крас.)*

*Красавік.*

Беларускае радыё падрыхтавала пастаноўку па раману П. Броўкі «Калі зліваюцца рэкі».

Аўтар сцэнарыя і пастаноўшчык П. Васілеўскі. *(Полымя, № 4.)*

*Красавік — май, да сярэдзіны.*

У Кіславодску. *(Ліст да П. Кабзарэўскага ад 4 мая.)*

*Май, 20—26.*

Прымаў удзел у тыдні літоўскай літаратуры ў Беларусі. *21 мая* адбыўся літаратурны вечар. З прывітаннем выступіў П. Броўка, са словам у адказ — А. Венцлава. *(Літ. і мастацтва, 24, 28 мая; Сов. Белоруссия, 22 мая.)*

*Лета.*

У Каралішчавічах. *(Ліст да П. Кабзарэўскага ад 2 чэрв.)*

*Чэрвень.*

У часоп. «Полымя», № 6 — вершы: «Развітанне» (напісаны да другой гадавіны з дня смерці Я. Коласа), «Пахне чабор» (у 1967 г. пакладзены на музыку кампазітарам Ю. Талеснікам), «Бяроза... Бяроза» (пакладзена на музыку Г. Маўсесянам), «У краі зялёным» (прысвечаны А. Пракоф'еву), «Паэзія», «Пра вочы», «Белы барабаншчык».

*Ліпень, 16.*

У складзе савецкай дэлегацыі прыхільнікаў міру прымаў удзел у рабоце Сусветнага кангрэсу за раззбраенне і міжнароднае супрацоўніцтва. Пад уражаннем знаходжання ў Стакгольме П. Броўка напісаў цыкл вершаў «Са стакгольмскага сшытка». Усе вершы ўпершыню змешчаны ў часоп. «Беларусь», № 11.

*Верасень, 19—25.*

Тыдзень беларускай літаратуры ў Літве.

*19 верас.* урачыстае адкрыццё тыдня. Уступнае слова А. Венцлавы, слова ў адказ — П. Броўкі.

За час тыдня беларускія пісьменнікі наведалі Вільнюс, Каўнас, Шаўляй, Тракай, Клайпеду, Палангу і інш. Яны расказалі літоўскім чытачам аб дасягненнях беларускай савецкай літаратуры, азнаёмілі са сваімі творамі. *(Літ і мастацтва, 17, 20, 27 верас.; Настаўн. газ., 26 верас.)*

Прамова П. Броўкі на адкрыцці тыдня пад назвай «Вялікае дзякуй, дарагія сябры!» надрукавана ў газ. «Літаратура і мастацтва», 20 верас.

У сувязі з правядзеннем у Літве тыдня беларускай літаратуры напісаны верш «На літоўскай зямлі». Упершыню надрукаваны ў зб. «Пахне чабор» (1959).

*Верасень, 27.*

У «Літ. і мастацтве» — Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Літоўскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб узнагароджанні Ганаровымі граматамі пісьменнікаў, паэтаў і другіх літаратурных работнікаў Беларускай ССР. Сярод узнагароджаных — П. Броўка. *(Літ. і мастацтва, 27 верас.)*

У польскай газ. «Crerwony srtandar» («Чырвоны сцяг») — верш «Воблака». Пераклад з беларускай мовы Л. Зажэцкай.

*Лістапад, 19.*

Выступіў на пасяджэнні прэзідыума праўлення СП БССР, на якім абмяркоўвалася работа рэдакцыі газеты «Літ. і мастацтва». Адзначыў, што ў газеце трэба больш друкаваць матэрыялаў аб становішчы сучаснай літаратуры, а не толькі аб літаратуры мінулага, хоць, безумоўна, неабходны і такія матэрыялы. Рэдакцыі трэба пашыраць аўтарскі актыў, мацаваць сувязі з шырокімі коламі чытачоў. *(Літ. і мастацтва, 22 лістап.)*

*Снежань, 18.*

Выступіў з дакладам на літаратурным вечары, прысвечаным 40-годдзю БССР. *(Літ. і мастацтва, 20 снеж.)*

*Снежань.*

У часоп. «Полымя», № 12 — верш «Развітанне», напісаны да другой гадавіны з дня смерці Я. Коласа.

*На працягу года.*

У выдавецтве «Советский писатель» выйшаў раман «Когда сливаются реки». Пераклад з беларускай мовы М. Грыбачова.

## 1959

*Студзень, 1.*

У газ. «Звязда» — верш «У сям'і з'яднанай», прысвечаны 40-годдзю з дня ўтварэння БССР.

*Студзень, 3.*

Прысутнічаў на ўрачыстым пасяджэнні Вярхоўнага Савета БССР і ЦК КП Беларусі, прысвечаным 40-й гадавіне з дня ўтварэння БССР і Камуністычнай партыі Беларусі. *(Сов. Белоруссия, 4 янв.; Полымя, № 1.)*

*Студзень, 10.*

У балгарскай газ. «Народна култура» — верш «Апошняя зямлянка». Пераклад з беларускай мовы І. Давыдкава.

*Студзень, 14—15.*

Нечарговы XXIII з'езд Кампартыі Беларусі. *15 студз.* выступіў у спрэчках па дакладу К. Т. Мазурава. Абіраецца членам ЦК КПБ *(Літ. і мастацтва, 17 студз.)*

*Студзень, 29.*

У газ. «Звязда» — у перакладзе П. Броўкі з літоўскай мовы верш Ю. Палецкіса «Беларусі».

*Люты, 12—13.*

Прымаў удзел у рабоце IV з'езда пісьменнікаў Беларусі. *12 лют.* выступіў з дакладам «На шляху служэння народу».

Даклад надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 13 лют.

Абіраецца членам праўлення СП БССР і дэлегатам на III з'езд пісьменнікаў СССР. *(Звязда, 14—15 лют.; Літ. і мастацтва, 13, 18 лют.; Полымя, № 3; Сов. Белоруссия, 13, 15 февр.)*

*Люты, 16.*

На першым пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў БССР абраны старшынёй праўлення. *(Полымя, № 3.)*

*Сакавік, 9.*

Раман «Калі зліваюцца рэкі» адзначаны Літаратурнай прэміяй імя Я. Коласа. *(Літ. і мастацтва, 14 сак.; Полымя, № 4.)*

*Красавік, 3.*

Адкрыў урачыстае пасяджэнне, прысвечанае 150-годдзю з дня нараджэння М. В. Гогаля. *(Сов. Белоруссия, 5 апр.)*

*Красавік.*

Адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі на доме, у якім нарадзіўся М. Багдановіч. З прамовамі аб паэце выступілі П. Броўка, М. Калачынскі і І. Саламевіч. *(Полымя, № 4.)*

*Май, 8.*

Уступным словам адкрыў вечар, прысвечаны 60-годдзю з дня нараджэння І. Гурскага. *(Літ. і мастацтва, 13 мая; Полымя, № 5.)*

*Май, 7—9.*

Праходзіла рэспубліканская нарада маладых пісьменнікаў, скліканая ЦК ЛКСМБ, СП БССР і рэдакцыяй часопіса «Маладосць». У спрэчках па дакладах выступіў П. Броўка. *(Літ. і мастацтва, 9, 13 мая.)*

*Май, 18—23.*

Прымаў удзел у рабоце III з'езда ССП СССР. ***18 мая*** выступіў у спрэчках на вячэрнім пасяджэнні.

Прамова пад назвай «Лепш ведаць адзін аднаго» надрукавана ў газ. «Літаратура і мастацтва», 23 мая; Лит. газета, 20 мая.

Абіраецца членам праўлення Саюза пісьменнікаў СССР. *(Літ. і мастацтва, 27 мая.)*

*Май, 23.*

Абраны сакратаром праўлення на пленуме нававыбранага праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, які абмеркаваў арганізацыйныя пытанні. *(Літ. і мастацтва, 23 мая.)*

*Чэрвень, 27.*

У «Літ. і мастацтве» — у перакладзе П. Броўкі з латышскай мовы верш «Памяці Купалы» Я. Судрабкална.

*Верасень — снежань.*

У складзе дэлегацыі БССР прымаў удзел у рабоце XIV сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

У Нью-Йорку былі напісаны вершы, якія склалі кнігу «Далёка ад дому».

Большасць з вершаў упершыню апублікавана ў часоп. «Полымя», 1960, № 2.

*19 лістап.* П. Броўка выступіў у Палітычным камітэце XIV сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

Выступленне надрукавана ў часоп. «За вяртанне на радзіму», 1959, № 87.

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдаце выйшаў зборнік вершаў «Пахне чабор».

У выдавецтве «Гослитиздат» — зборнік «Стихотворения и поэмы».

У Рызе ў Латдзяржвыдзе — раман «Калі зліваюцца рэкі». Пераклад з беларускай мовы О. Балодзітэ.

У Вільнюсе ў Дзяржлітвыдзе — раман «Калі зліваюцца рэкі». Пераклад з беларускай мовы П. Сіманайціса.

## 1960

*Студзень, 14—15.*

Прымаў удзел у рабоце чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета СССР пятага склікання, прысвечанай барацьбе за

мір і раззбраенне. *15 студз.* выступіў у абмеркаванні даклада М. С. Хрушчова. *(Известия, 16 янв.)*

*Люты, 17—19.*

Прымаў удзел у рабоце XXIV з'езда Камуністычнай партыі Беларусі. *17 лют.* выступіў на вячэрнім пасяджэнні ў спрэчках па справаздачных дакладах ЦК КП Беларусі і Рэвізійнай Камісіі КП Беларусі. Прамова надрукавана ў газ. «Звязда», 19 лют.; «Літаратура і мастацтва», 20 лют.

Абіраецца членам ЦК КПБ. *(Літ. і мастацтва, 20 лют.)*

*Люты, 22.*

Выступіў на другім пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі з дакладам «Аб перабудове работы Саюза пісьменнікаў БССР».

На пленуме абмяркоўвалася пытанне «Пісьменнік і сямігодка». *(Літ. і мастацтва, 24 лют.; Полымя, № 3.)*

*Сакавік.*

Адпачывае і лечыцца ў Кіславодску. *(Ліст да П. Кавалёва ад 14 сак.)*

*Сакавік, 24.*

У румынскай газ. «Tribuna» («Трыбуна») — паэма «Заўсёды з Леніным». Пераклаў з беларускай мовы Г. Думітрэску.

*Май, 5.*

Прымаў удзел у рабоце пятай сесіі Вярхоўнага Савета СССР пятага склікання. *(Літ. і мастацтва, 7 мая.)*

*Чэрвень, 28; ліпень, 1.*

Піша лісты да М. Абалкіна, у якіх паведамляе, што напісаў паэму «Голас сэрца». *(Абалкін М. Разам з камісарам... // Успаміны пра Петруся Броўку... С. 211—212.)*

*Ліпень, 8—9.*

Прымаў удзел у рабоце III пленума Цэнтральнага Камітэта КП Беларусі. *(Літ. і мастацтва, 12 ліп.)*

*Ліпень, 17.*

Адбылася сустрэча кіраўнікоў партыі і ўрада з прадстаўнікамі савецкай інтэлігенцыі. Выступілі кіраўнікі партыі і ўрада, пісьменнікі і дзеячы культуры і мастацтва:

М. Шолахаў, К. Федзін, Л. Собалеў, С. Герасімаў, М. Рыльскі, С. Бандарчук, Д. Шастаковіч, М. Ахлопкаў, А. Карняйчук, П. Броўка і інш. *(Літ. і мастацтва, 19 ліп.; Правда, 18 июля; Полымя, № 8.)*

*Жнівень.*

У часоп. «Работніца і сялянка», № 8 — паэма «Маўчаць не магу я». У далейшых публікацыях назва паэмы — «Голас сэрца».

*Жнівень, 17.*

Выступіў на агульным сходзе пісьменнікаў Мінска з паведамленнем пра сустрэчу кіраўнікоў партыі і ўрада з прадстаўнікамі савецкай інтэлігенцыі, якая адбылася 17 ліп. у Маскве. *(Літ. і мастацтва, 19 жн.)*

*Верасень, 3—13.*

У Латвіі праходзіла Дэкада беларускай літаратуры. На літаратурных вечарах і сустрэчах выступілі П. Броўка, П. Глебка, Я. Брыль, П. Панчанка і інш. *12 верас.* выступіў на заключным літаратурным вечары ў зале Латвійскага дзяржаўнага універсітэта імя П. Стучкі. *13 верас.* прымаў удзел у абмеркаванні вынікаў Дэкады беларускай літаратуры ў Латвіі. *(Літ. і мастацтва, 2, 6, 9, 13 верас.; Полымя, № 9.)*

Да адкрыцця дэкады напісаў вершы «Латышскія стралкі» і «Ля помніка Райнісу».

Упершыню вершы апублікаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 2 верас.

*Верасень, 19—26.*

Прымаў удзел у тыдні малдаўскай літаратуры ў Беларусі. *(Літ. і мастацтва, 16 верас.; Полымя, № 10.)*

*Кастрычнік, 9.*

Прымаў удзел у святкаванні Дня паэзіі ў Маскве. *(Лит. газета, 11 окт.)*

*Лістапад.*

У часоп. «Маладосць», № 11 — артыкул «Наш дарагі друг» (да 60-годдзя А. Пракоф'ева).

У часоп. «Полымя», № 11 — у перакладзе П. Броўкі новыя вершы А. Пракоф'ева.



Пятрусь Броўка і Васіль Быкаў.
1976 г.



З жонкай Аленай Міхайлаўнай і сынам Юрыем.
Ждановічы, 1970-я гады.

*Снежань, 20.*

Прымаў удзел у рабоце шостай сесіі Вярхоўнага Савета СССР пятага склікання. *(Літ. і мастацтва, 23 снеж.)*

*На працягу года.*

У Бялдзяржвыдавецтве выйшаў зборнік вершаў «Далёка ад дому».

У выдавецтве «Правда» — зборнік вершаў «Присяга сердца».

У выдавецтве «Учпедгиз» — раман «Когда сливаются реки». 5 кніг. Выданне для сляпых.

У выдавецтве АН БССР пад рэдакцыяй І. М. Ільюшына і П. Броўкі — кніга «Развіццё беларускай сацыялістычнай культуры».

## 1961

*Студзень, да 3.*

Выступіў на сустрэчы сакратароў праўлення ССП з кіруючымі работнікамі кінематаграфіі, якая адбылася ў Маскве. Абмяркоўваліся пытанні творчых сувязей пісьменнікаў з кінаматаграфістамі. *(Лит. газета, 3 янв.)*

*Люты.*

Увайшоў у склад рэспубліканскага камітэта па правядзенню мерапрыемстваў у сувязі са 100-годдзем з дня смерці Т. Шаўчэнкі. *(Полымя, № 3.)*

*Сакавік, 10.*

Прымаў удзел у агульнагарадскім вечары, прысвечаным 100-годдзю з дня смерці Т. Шаўчэнкі. *(Полымя, № 4.)*

*Чэрвень, 2.*

Выступіў у спрэчках па дакладу К. Т. Мазурава на сходзе актыву творчай інтэлігенцыі рэспублікі, скліканым Цэнтральным Камітэтам КП Беларусі. *(Звязда, 3 чэрв.; Літ. і мастацтва, 6 чэрв.)*

*Чэрвень, 12.*

Адкрыў агульнагарадскі вечар, прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння В. Р. Бялінскага. *(Звязда, 13 чэрв.)*

*Чэрвень.*

У часоп. «Бярозка», № 6—8 — паэма «Наш музей».

*Жнівень, 12—18.*

Тыдзень рускай літаратуры на Беларусі. *12 жн.* у аэрапорце і ў Палацы культуры прафсаюзаў, дзе адбылося ўрачыстае адкрыццё Тыдня, П. Броўка ад імя пісьменнікаў Беларусі звярнуўся да гасцей са словамі прывітання. *(Звязда, 13, 15—19 жн.; Літ. і мастацтва, 15 жн.) 14 жн.* у складзе пісьменніцкай брыгады выехаў у падарожжа па рэспубліцы. *(Літ. і мастацтва, 18 жн.)*

*Жнівень, 13.*

У газ. «Лит. и жизнь» — артыкул «Традиции великой дружбы». Да Тыдня рускай літаратуры на Беларусі.

*Верасень, 24.*

Грамадскасцю Стаўбцоўскага раёна разам з прадстаўнікамі Саюза пісьменнікаў Беларусі і Акадэміі навук БССР было праведзена адкрыццё мемарыяльных дошак на радзіме Я. Коласа.

Перад землякамі паэта з вершамі і ўспамінамі выступіў П. Броўка. *(Полымя, № 10.)*

*Верасень, 26—28.*

Прымаў удзел у рабоце XXV з'зда Камуністычнай партыі Беларусі. *26 верас.* выступіў з прамовай.

Прамова надрукавана ў газ. «Звязда», 27 верас.; «Сов. Белоруссия», 27 сент.;

Абіраецца на з'ездзе членам ЦК КПБ *(Літ. і мастацтва, 29 верас.)*

*Верасень, 30.*

Адкрыў вечар, прысвечаны 60-годдзю з дня нараджэння В. Вольскага. *(Літ. і мастацтва, 3 кастр.)*

*Верасень.*

У часоп. «Беларусь», № 9 — нізка вершаў «Беларускія шахцёры», «Спяцоўка», «Зайздрасць», «Пенсіянер», «Нішчыцца турма», «Май зялёны на парог», «*** Як пабачу тыя бровы...», «Му і Рана».

*Кастрычнік, 17—31.*

Прымаў удзел у рабоце XXII з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. *(Звязда, 18 кастр.; Літ. і мастацтва, 27 кастр.)*

Верш «Нашымі вачамі» напісаны з нагоды адкрыцця з'езда.

*Кастрычнік, 31.*

У «Літ. і мастацтве» — у артыкуле З'езд будаўнікоў камунізма» П. Броўка дзеліцца ўражаннямі аб XXII з'ездзе КПСС.

*Лістапад.*

Лечыцца ў санаторыі імя М. Сямашкі ў Цхалтуба. *(Ліст да У. Казекі ад 6 лістап.)*

У часе знаходжання ў Цхалтуба напісаў шэраг вершаў: «Чорнае мора», «Балтыйскае мора», «Шчасце», «Ветраная», «Клопаты», «Калі прыеду», «Птушніца», «Вецер і бура», «Александрына», «З-пад сосен бору», «Два бальшакі», «Пасланне ў Кіеў», «Камунары жывуць!».

Усе вершы ўпершыню надрукаваны ў часоп. «Маладосць», № 2, 1962.

Верш «Александрына» пакладзены на музыку У. Мулявіным.

*Снежань, 22—23.*

Прымаў удзел у рабоце III пленума праўлення Саюза пісьменнікаў СССР.

Абраны сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў СССР. *(Лит. газета, 26 дек.)*

*Снежань, 25—28.*

Прымаў удзел у рабоце Усесаюзнай нарады па пытаннях ідэалагічнай работы. *(Лит. газета, 26, 28, 30 дек.)*

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдаце выйшаў зборнік вершаў для дзяцей «Маладым сябрам».

У Мінску ў выдавецтве «Звязда» — зборнік сатыры і гумару «Па сакрэту».

У выдавецтве «Гослитиздат» — раман «Когда сливаются реки». Пераклад з беларускай мовы М. Грыбачова.

У Кіеве ў выдавецтве «Дзяржлітвыд» — раман «Калі зліваюцца рэкі». Пераклад з беларускай мовы Г. Вігурскай.

У выдавецтве «Советский писатель» — зборнік вершаў і паэм «А дни идут...».

## 1962

*Студзень, да 16.*

Адкрыў вечар, прысвечаны 60-годдзю з дня нараджэння М. Зарэцкага. *(Літ. і мастацтва, 16 студз.)*

*Студзень, 30—31.*

Прымаў удзел у рабоце IV пленума праўлення ССП БССР. *30 студз.* выступіў з дакладам «XXII з'езд КПСС і задачы беларускай савецкай літаратуры».

Даклад надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 2 лют. *31 студз.* выступіў з заключным словам. *(Літ. і мастацтва, 2 лют.; Полымя, № 2.)*

*Люты, 13.*

У «Літ. і мастацтве» — успаміны пра Э. Самуйлёнка, з якім П. Броўку звязвалі цёплыя сяброўскія адносіны.

*Красавік, 24.*

У «Літ. і мастацтве» — паведамленне аб прысуджэнні П. Броўку Ленінскай прэміі ў галіне літаратуры за кнігу вершаў «А дні ідуць...» Апублікаваны таксама Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР аб прысваенні Пятру Усцінавічу ганаровага звання народнага паэта Беларускай ССР.

*Красавік, 25.*

У балгарскай газ. «Літаратурныя навіны» — вершы «Акіян», «Дубовы ліст», «Чакаю садоў красавання». Пераклаў на балгарскую мову Н. Вылчаў.

*Чэрвень, 30.*

Выступіў на мітынгу ў Маскве, які адбыўся ў сувязі з пераносам урны з прахам Я. Купалы для перазахавання ў Мінску. *(Літ. і мастацтва, 3 ліп.)*

*Ліпень, 4.*

Прымаў удзел у рабоце навуковай сесіі Акадэміі навук БССР, прысвечанай 80-годдзю з дня нараджэння Я. Купалы. *(Полымя, № 8.)*

*Ліпень, 5.*

Прысутнічаў на агульнагарадскім купалаўскім вечары. *(Полымя, № 8.)*

*Ліпень, 9—15.*

Прымаў удзел у Маскве ў рабоце Сусветнага кангрэсу за ўсеагульнае раззбраенне і мір. *(Літ. і мастацтва, 13 ліп.)*

*Верасень, 5.*

Выступіў з дакладам «Задачы беларускай літаратуры па камуністычнаму выхаванню моладзі» на адкрытым пар-

тыйным сходзе ў Саюзе пісьменнікаў БССР, прысвечаным вынікам трэцяга пленума ЦК КПБ. *(Літ. і мастацтва, 7 верас.; Полымя, № 10.)*

Даклад у скарочаным выглядзе пад назвай «Крыніца натхнення — сучаснасць» надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 11 верас.

*Верасень, 21.*

У «Літ. і мастацтве» — паведамленне аб тым, што восьмы нумар часопіса «Савецкая літаратура» (выдаецца ў Маскве на англійскай, нямецкай, польскай і іспанскай мовах) прысвечаны беларускай літаратуры і мастацтву. Беларуская паэзія прадстаўлена ў часопісе вершамі П. Броўкі, М. Танка, А. Куляшова, П. Глебкі, П. Панчанкі, А. Русецкага, А. Вялюгіна, Р. Барадуліна.

*Лістапад, 12.*

Адкрыў уступным словам агульнагарадскі вечар, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння Я. Коласа. *(Літ. і мастацтва, 16 лістап.)*

*Лістапад, 22.*

Выступіў з дакладам на вечары, прысвечаным 80-годдзю з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа. *(Лит. газета, 24 нояб.)*

*Снежань, 17.*

Прымаў удзел у сустрэчы кіраўнікоў Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада з дзеячамі літаратуры і мастацтва, якая адбылася ў Маскве. *(Літ. і мастацтва, 21 снеж.)*

*Снежань.*

У часоп. «Беларусь», № 12 — нізка вершаў: «Ноч», «Размова дамоў», «Начоўкі», «Каму — вядома...», «*** І сёння ў памяці не згасла...», «Мне распазнаць яшчэ не позна...», «*** На вельмі доўгім перагоне...», «*** Зацерушыла каляіны», «Дзеўча», «*** Калі мільёны паміралі...», «Ты кажаш, што маршчын няма...»

*На працягу года.*

У Белдзяржвыдавецтве выйшлі: зборнік вершаў і паэм «А дні ідуць...», зборнік «Высокія хвалі», асобнае выданне паэмы «Наш музей».

У выдавецтве «Советский писатель» — другое выданне зборніка «А дни идут...» на рускай мове.

У выдавецтве «Детгиз» — асобнае выданне паэмы «Наш музей». Пераклад з беларускай мовы Я. Хелемскага.

У Сафіі ў выдавецтве «Народна култура» — зборнік «Выбраныя вершы і паэмы».

У Кішынёве ў выдавецтве «Карця Малдавеняскэ» — раман «Калі зліваюцца рэкі». Пераклад з беларускай мовы Е. Давід.

У Ашхабадзе ў Туркмендзяржвыдаце — раман «Калі зліваюцца рэкі». Пераклад з беларускай мовы М. Ішанкуліева.

У Ташкенце ва Узлітвыдаце — раман «Калі зліваюцца рэкі». Пераклад з беларускай мовы Т. Пулат.

## 1963

*Студзень.*

У часоп. «Беларусь», № 1 — нізка вершаў «Білетная каса», «З панядзелка да суботы...», «Стаім з табою мы ў жыцці перад вякамі сінімі...», «*** Раней ты шчыраю была...», «*** Не страшны здзекі, ні турма...», «Салдацкія думы», «*** Што мне парадзіць, што зрабіць...», «А чым я магу пахваліцца?», «Услед за сонцам», «*** Бывае так: краса-дзяўчына...»

*Студзень, 22.*

У «Літ. і мастацтве» — паведамленне аб тым, што марыйскае кніжнае выдавецтва выпусціла зборнік вершаў пад назвай «Шудо поэт» («Сто поэтов»). У зборнік увайшлі вершы ў перакладзе на марыйскую мову ста паэтаў свету. Беларуская паэзія прадстаўлена творамі Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі.

*Люты, 17.*

У Дзяржаўным ордэна Леніна тэатры оперы і балету БССР адбылася прэм'ера новага балета «Святло і цені», напісанага Г. Вагнерам па матывах рамана П. Броўкі «Калі зліваюцца рэкі». Лібрэта М. Алтухова. Пастаноўку спектакля ажыццявіў заслужаны артыст РСФСР А. Андрэеў. Балетмайстар — заслужаная артыстка РСФСР Н. Стукалкіна. *(Літ. і мастацтва, 19 лют.; Полымя, № 3.)*

*Сакавік, 7—8.*

*7 сак.* выступіў з прамовай на сустрэчы кіраўнікоў партыі і ўрада з дзеячамі літаратуры і мастацтва, у час

якой працягваўся абмен думкамі аб пытаннях літаратуры і мастацтва, пачаты на сустрэчы 17 снеж. 1962 г. *(Літ. і мастацтва, 12 сак.; Правда, 9, 10 марта.)*

*Сакавік, 19.*

Прымаў удзел у рэспубліканскім сходзе актыву творчай інтэлігенцыі. *(Літ. і мастацтва, 22 сак.; Полымя, № 4.)*

*Сакавік, 26—28.*

Прымаў удзел у рабоце IV пленума праўлення Саюза пісьменнікаў СССР. *(Лит. газета, 28 марта.)*

*Красавік, 13.*

Выступіў з успамінамі аб Д. Бедным на ўрачыстым пасяджэнні ў Маскве, прысвечаным 80-годдзю з дня нараджэння паэта. *(Лит. газета, 16 апр.)*

У газ. «Правда» — артыкул «Стихи — оружие». Да 80-годдзя з дня нараджэння Д. Беднага.

*Красавік, 27.*

Выступіў з успамінамі аб П. Галавачу на вечары, прысвечаным 60-годдзю з дня нараджэння пісьменніка. *(Звязда, 28 крас.)*

*Май, 7—10.*

Прымаў удзел ва Усесаюзнай нарадзе маладых пісьменнікаў. *(Лит. газета, 9, 11 мая.)*

*Чэрвень.*

У часоп. «Полымя», № 6 — нізка вершаў «Жывём часінаю такою...», «Трубі, мой бор», «*** Гамоняць клёны на шляхах...», «Цягнікі», «Сляды», «Вятры», «Дзень мне векам здаваўся», «*** Стаю задумлівы...».

*Ліпень, 19.*

Выступіў на юбілейным вечары, прысвечаным 70-годдзю з дня нараджэння У. Маякоўскага, які адбыўся ў Маскве. *(Лит. газета, 20 июня.)*

Прамова надрукавана ў газ. «Правда», 20 июля.

У «Літ. і мастацтве» — артыкул «Рэвалюцыяй мабілізаваны». Да 70-годдзя з дня нараджэння У. Маякоўскага.

*Жнівень, 5—9.*

У Ленінградзе праходзіў сімпозіум Еўрапейскага таварыства пісьменнікаў, на якім былі абмеркаваны прабле-

мы сучаснага рамана. Прыехала больш за 90 гасцей з Італіі, Польшчы, Францыі, Чэхаславакіі, ГДР, Англіі, Венгрыі, Грэцыі, Бельгіі, ФРГ, Румыніі, Аўстрыі, Балгарыі, Югаславіі, Швецыі, Швейцарыі, Фінляндыі.

Беларускіх раманістаў на форуме прадстаўляў П. Броўка. *(Полымя, № 9.)*

*Жнівень.*

У часоп. «Полымя», № 8 — нізка вершаў «*** Яшчэ плывуць ракою крыгі...», «Пасля дажджу», «*** Усім вясна дала работу...», «Сэрца і гадзіннік», «*** Гашчу ў сяброў паблізу мора...», «Што за дзіва?..», «Мары», «Усё апісалі паэты», «Адшчапенец», «Бачу я ўсюды Веру Харужую...», «Двухтысячны год», «Што ты, месяц, вырабляеш?», «Зязюленька», «Зайздроснік-максімаліст».

*Верасень, 22—29.*

Прымаў удзел у тыдні літоўскай кнігі ў Беларусі. *(Літ. і мастацтва, 24 верас.)*

*Кастрычнік, да 24.*

Адпачывае і лечыцца ў Кіславодску. Працягвае працу над цыклам «Верасень». *(Ліст да М. Танка і Я. Скрыгана ад 10 кастр.)*

Верш надрукаваны ў часоп. «Полымя», № 1, 1964.

*Кастрычнік, 24 — лістапад, 4.*

Прымаў удзел у рэспубліканскай нарадзе маладых літаратараў, скліканай Саюзам пісьменнікаў і ЦК камсамола Беларусі. *(Полымя, № 12.)*

*Снежань.*

У часоп. «Беларусь», № 12 — нізка вершаў: «Першы крок», «Непрыкметны», «Пісьманосец», «На станцыі Орша», «На рыбалцы».

*На працягу года.*

У выдавецтве «Учпедгиз» выйшаў зборнік вершаў і паэм «А дни идут...». Пераклад з беларускай мовы Я. Хелемскага.

У выдавецтве «Гослитиздат» — зборнік вершаў і паэм «У родных крыніц».

У Тбілісі ў выдавецтве «Савецкая Грузія» — раман «Калі зліваюцца рэкі». Пераклад з беларускай мовы Т. Бебурышвілі.

У Балгарыі ў Дзяржаўным выдавецтве «Народна култура» — кніга выбраных твораў пад рэдакцыяй балгарскага паэта Х. Радзеўскага.

## 1964

*Студзень, да 7.*

Выступіў на пасяджэнні прэзідыума праўлення ССП БССР, на якім адбылося абмеркаванне часопіса «Полымя». *(Літ. і мастацтва, 7 студз.)*

*Студзень, 25.*

У Лит. газете» — артыкул «Памятник поэту». Да 250-годдзя з дня нараджэння пачынальніка літоўскай літаратуры К. Данелайціса.

*Люты, 27—28.*

Выступіў з дакладам у Маскве на пашыраным пасяджэнні сакратарыята праўлення ССП СССР, прысвечаным абмеркаванню пытанняў далейшага ўмацавання ўзаемасувязей братніх літаратур народаў СССР. *(Лит. газета, 29 февр.)*

*Май, 15.*

У «Літ. і мастацтве» — артыкул «Творчая маладосць». Да 70-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Латвіі Яна Судрабкална.

*Сакавік, 9.*

Выступіў з прамовай на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 150-годдзю з дня нараджэння Т. Шаўчэнкі, якое адбылося ў Маскве. *(Лит. газета, 10 марта.)*

*Сакавік, 17.*

У «Сельскай газеце» — паэма «Кірыл Пракопавіч», прысвечаная К. П. Арлоўскаму (1895—1968), аднаму з кіраўнікоў партызанскага руху ў Вялікай Айчыннай вайне на Беларусі, Герою Савецкага Саюза і Герою Сацыялістычнай Працы.

*Ліпень, 4—25.*

Дні беларускай літаратуры ў РСФСР.

*4 ліп.* у складзе пісьменнікаў Беларусі П. Броўка пачаў падарожжа з г. Кызыл (Тува) па Краснаярскім краі.

Беларускія паэты і празаікі наведалі Шушанскае, пазнаёміліся з ленінскімі мясцінамі, сустрэліся з гарнякамі Абакана і працоўнымі Чарнагорска. Чыталі свае творы на літаратурных вечарах у Краснаярску, выступілі перад будаўнікамі Дзіўнагорскай ГЭС, наведалі Нарыльск. *(Літ. і мастацтва, 7 ліп.)*

Пад уражаннем паездкі напісаў вершы «У Шушанскім», «Цэнтр Азіі», «Каля юрты», «Чабан», «Енісей», «Дзіўнагорыя».

*Ліпень, 25.*

У «Лит. газете» — артыкул «Горячий июль». Пра Дні беларускай літаратуры ў РСФСР.

*Ліпень.*

У часоп. «Беларусь», № 7 — нізка вершаў «*** Мой край у росце...», «Зямля і чалавек...», «Гарбуз», «Певень», «Шэрая гадзіна».

*Кастрычнік, да 26.*

У Кіславодску. *(Ліст да П. Панчанкі ад 10 кастр.)*

У пачатку кастрычніка з Кіславодска ездзіў у Пяцігорск на ўрачыстасці, прысвечаныя 150-годдзю з дня нараджэння М. Лермантава. *(Ліст да І. Шамякіна ад 10 кастр.)* Пад уражаннем ад паездкі напісаў верш «Роздум у Пяцігорску».

*Кастрычнік.*

У часоп. «Полымя», № 10 — нізка вершаў «Рай», «*** Ісці да мэты — ўстаць да ўсходу...», «*** Глядзіш на хлопца — што за ліха...», «Цэнтр Азіі», «Каля юрты», «Чабан», «Енісей,», «Дзіўнагорыя».

*Снежань, 9—11.*

Прымаў удзел у рабоце пятай сесіі Вярхоўнага Савета СССР шостага склікання. *(Лит. газета, 10, 12 дек.)*

*Снежань, 22.*

Выступіў з дакладам на пашыраным пасяджэнні сакратарыята праўлення ССП СССР, прысвечаным пытанням узаемасувязей братніх літаратур. *(Лит. газета, 24 дек.)*

*На працягу года.*

У выдавецтве «Советский писатель» выйшаў раман «Когда сливаются реки». Пераклад з беларускай мовы М. Грыбачова.

У Баку ў выдавецтве «Азернешр» — зборнік вершаў і паэм «А дні ідуць...».

У Таліне ў «Эстдзяржвыдаце» — зборнік вершаў і паэм «А дні ідуць...». Пераклад з беларускай мовы Х. Юрысон, М. Вээтам, В. Віландзі.

## 1965

*Студзень.*

У часоп. «Маладосць», № 1 — нізка вершаў «Пошукі тэмы», «*** І мне не разабрацца ў вершы...», «Прыгожы чалавек», «Ноч у валрэўкоме», «У мікрараёне», «Лясныя музыканты», «Сваты», «*** Глядзіце, зрокам не абняць...», «Здавалася, што сонца звонка...», «*** Я ведаю, не буду новым...», «*** Ёсць шмат сабою закаханых...», «*** Прыходзь, прыходзь жа раніцой...», «*** Калі казаў табе: «Люблю...», «*** Аседзішся. Спакой і ціш...»

*Сакавік, 16.*

Прымаў удзел у рабоце пленума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, прысвечаным задачам беларускай літаратуры ў сувязі з падрыхтоўкай да 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі і 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна. *(Літ. і мастацтва, 19 сак.)*

*Красавік.*

У часоп. «Знамя», № 4 — артыкул «Человек-солнце». Да 95-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна.

*Красавік, да 24.*

У Цхалтуба. *(Ліст да П. Панчанкі ад 1 крас.)*

*Май, 25.*

У «Літ. і мастацтве» — віншуе нататкай М. А. Шолахава з 60-годдзем.

*Чэрвень, 24.*

Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні П. Броўкі ордэнам Леніна за заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння. *(Літ. і мастацтва, 25 чэрв.; Сов. Белоруссия, 25 июня.)*

*Чэрвень, 25.*

У памяшканні Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы адбыўся вечар, прысвечаны 60-годдзю з дня нараджэння Пятра Усцінавіча. Адкрыў вечар К. Крапіва.

Прывітанне юбіляру ад Цэнтральнага Камітэта КПБ, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, Савета Міністраў рэспублікі зачытаў сакратар ЦК КПБ С. В. Прытыцкі.

Успамінамі пра сустрэчы з юбілярам на самым пачатку яго творчай дарогі падзяліўся зямляк паэта Т. Хадкевіч.

На беларускай і рускай мовах гучалі шматлікія віншаванні юбіляра.

У заключэнні вечара творчы калектыў акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы паказаў спектакль «Паўлінка». *(Літ. і мастацтва, 29 чэрв.; Правда, 27 июня.)*

Да шасцідзесяцігоддзя з дня нараджэння П. Броўкі часопісы «Пшыязнь» (ПНР), «Наша жыццё» (Фінляндыя), «Веснік» (Канада) змясцілі артыкул Б. Міцкевіча «Пясняр беларускага народа». У Англіі, Францыі, Італіі, Фінляндыі, Бельгіі, Аўстрыі, Аўстраліі, Інданезіі, Канадзе, паказваўся фільм «Паэт у дарозе», створаны Мінскай студыяй навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў. *(Полымя, № 10.)*

*Чэрвень.*

У нямецкім часоп. «Sowjetliteratur» («Савецкая літаратура»), № 7 — верш «Ты — мая пчолка». Пераклад з беларускай мовы Ф. Лешніцэра.

*Верасень.*

Для ўдзелу ў Днях паэзіі Саюз пісьменнікаў накіраваў у паездку па рэспубліцы некалькі груп літаратараў.

У Гродна выязджалі пісьменнікі П. Броўка, Я. Скрыган, С. Грахоўскі, А. Савіцкі.

У час сустрэч пісьменнікі выступілі з чытаннем сваіх новых твораў, расказалі пра «літаратурны ўраджай» гэтага года, пра кнігі, якія рыхтуюць да выпуску ў свет беларускія выдавецтвы. *(Полымя, № 10.)*

*З успамінаў В. Быкава аб прыездзе П. Броўкі ў Гродна:*

«Пётр Усцінавіч гаварыў пра свой шлях у літаратуры,— шлях няпросты і, вядома, нялёгкі, пра тое, што на гэтым шляху было рознае — барацьба, няўдачы і перамогі, цяпер бы ён, мабыць, пачынаў інакш, з большай сардэчнасцю, глыбінёй і чалавечнасцю, пазбягаючы траскатні і

хадульнасці,— цішэй, спакайней, глыбей. Але тады, у 20—30-я гады, патрабавалася менавіта такая паэзія-агітацыя з высокай патэтыкай, і так пісалі амаль усе. А вядома, што якой бы індывідуальнасцю таленту ні валодаў паэт, яму ўсё ж цяжка вызваліцца ад улады моды, знайсці і сцвердзіць свой асаблівы голас. Ды і тагачасная крытыка не дазваляла адступлення ад агульнага тону, паэзія павінна стаць хорам, у якім раствараліся, знікалі паасобныя галасы песняроў». *(Васіль Быкаў. Пра Петруся Броўку // Успаміны пра Петруся Броўку...— С. 12.)*

*Кастрычнік, 1, 2.*

Прымаў удзел у рабоце шостай сесіі Вярхоўнага Савета СССР шостага склікання. *(Літ. і мастацтва, 5 кастр.)*

*Кастрычнік, 10.*

У Мінску ўпершыню адбыўся Дзень паэзіі. П. Броўка адкрыў уступным словам сустрэчу чытачоў з беларускімі паэтамі ў Цэнтральнай кнігарні сталіцы. *(Літ. і мастацтва, 12 кастр.; Полымя, № 11.)*

*Кастрычнік, 19.*

Ад імя літаратурнай грамадскасці сталіцы Беларусі вітаў нямецкіх сяброў на вечары, прысвечаным літаратуры ГДР. Прачытаў верш «Смела, таварышы, ў ногу!», напісаны ў час знаходжання ў ГДР і прысвечаны нямецкаму пралетарыяту. *(Літ. і мастацтва, 22 кастр.)*

*Лістапад.*

Адпачывае ў Кіславодску. *(Кавказская здравница, 28 нояб.)*

*Снежань, 7.*

Прымаў удзел у рабоце сёмай сесіі Вярхоўнага Савета СССР шостага склікання. *(Літ. і мастацтва, 10 снеж.)*

*Снежань, 24.*

Удзельнічаў у рабоце пленума ЦК КП Беларусі. *(Літ. і мастацтва, 28 снеж.)*

*На працягу года.*

У выдавецтве «Беларусь» выйшлі першыя два тамы Зб. тв. у 4-х тамах.

У выдавецтве «Правда» — зборнік новых вершаў «Кленовые листья». Пераклад з беларускай мовы Я. Хелемскага.

# 1966

*Студзень, 18.*

Уступным словам адкрыў пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, які разгледзеў пытанне аб стане і задачах беларускай дзіцячай і юнацкай літаратуры. *(Літ. і мастацтва, 21 студз.)*

Уступнае слова пад назвай «І хваляваць і выхоўваць» надрукавана ў газ. «Літаратура і мастацтва», 21 студз.

Выступіў на пленуме з заключным словам. *(Літ. і мастацтва, 25 студз.)*

*Студзень, 25.*

Адкрыў агульнагарадскі вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Рамэна Ралана. *(Літ. і мастацтва, 28 студз.; Полымя, № 3.)*

*Студзень, 31.*

Выступіў на пасяджэнні прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, дзе быў абмеркаваны першы беларускі зборнік «Дзень паэзіі». *(Літ. і мастацтва, 4 лют.)*

*Люты.*

У часоп. «Полымя», № 2 — нізка вершаў «Дыпламат», «*** А думы, думы роем-роем...», «*** Ты шчодрая зямля — планета...», «*** Ты ўся ў трывозе, маладая...» «*** Сэрца тугою нязведанай поўнячы...», «Цябе я зваў заўсёды мілай...», «Імем рэспублікі», «Восень, бабіна лета, лёг туман на траву...», «*** А восень найзванчэй, чым далей...», «*** Я сяджу над радком. Хіліць вецер кусты...», «Скрынка», «Добра ўсюды нарадзіцца...».

*Сакавік, 3—5.*

Прымаў удзел у рабоце XXVI з'езда Камуністычнай партыі Беларусі.

*4 сак.* выступіў у спрэчках па справаздачных дакладах ЦК КП Беларусі і Рэвізійнай Камісіі КП Беларусі. Абіраецца членам ЦК КПБ. *(Сов. Белоруссия, 5 марта; Звязда, 5 сак.)*

*Сакавік ,5.*

Адкрыў уступным словам вечар, прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння К. Крапівы. *(Полымя, № 4.)*

*Сакавік, 29 — красавік, 8.*

Прымаў удзел у рабоце XXIII з'езда КПСС. *(Літ. і мастацтва, 29 сак.)*

*Красавік, 14.*

Выступіў з дакладам на сходзе партарганізацыі Саюза пісьменнікаў БССР. *(Літ. і мастацтва, 15 крас.)*

*Красавік, 17—26.*

Узначальваў дэлегацыю пісьменнікаў ад Беларусі ў час Дэкады беларускай літаратуры і мастацтва ва Узбекістане.

*17 крас.* выступіў з прамовай на ўрачыстым адкрыцці літаратурнай часткі дэкады ў ташкенцкім Палацы мастацтва. *(Літ. і мастацтва, 19 крас.)*

Прамова надрукавана ў часоп. «Звезда Востока», № 5.

Пад уражаннем паездак па ўзбекскай краіне напісаў верш «Ташкент — ты ў сэрцы!», які ўпершыню апублікаваны ў газ. «Звязда», 1 верас.

*Красавік.*

У часоп. «Маладняк», № 4 — нізка вершаў «Белы рамонак», «Шчаслівая гадзіна», «Гора — горы», «Будзь вярны!» «З дзён маленства», «Валрэўкомаўскі кур'ер».

*Май, 12—14.*

Удзельнічаў у рабоце V з'езда пісьменнікаў Савецкай Беларусі.

*12 мая* выступіў з дакладам «Партыйнасць і народнасць — галоўная лінія беларускай мастацкай літаратуры». *(Літ. і мастацтва, 13 мая.)*

Даклад надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 13 мая; «Звязда», 14 мая.

Абіраецца членам прэзідыума і сакратаром праўлення СП БССР, дэлегатам на IV з'езд пісьменнікаў СССР. *(Полымя, № 7; Літ. і мастацтва, 17, 20 мая.)*

*Май, паміж 15—24.*

Сустрэча ў Мазыры з выбаршчыкамі. *(Літ. і мастацтва, 24 мая.)*

*Чэрвень, 28.*

У гадавіну смерці Я. Купалы разам з беларускімі пісьменнікамі ўскладаў вянкі і кветкі на магілу песняра. *(Літ. і мастацтва, 1 ліп.)*

*Ліпень, 4—5.*

Абраны акадэмікам АН БССР па спецыяльнасці «літаратуразнаўства» на агульным сходзе АН. *(Весці АН БССР, № 3.)*

*Жнівень, 13.*

Выступіў на мітынгу, які адбыўся на магіле Я. Коласа ў сувязі з 10-й гадавінай яго смерці. *(Літ. і мастацтва, 16 жн.)*

*Жнівень, 23.*

Група дзеячаў беларускай культуры выступілі ў газ. «Літаратура і мастацтва» з пісьмом «Створым этнаграфічны музей». Сярод падпісаўшых пісьмо — П. Броўка.

*Жнівень.*

У ленінградскім часоп. «Звезда», № 8 — вялікая падборка вершаў пад рубрыкай «Поэты Белоруссии». Часопіс знаёміць рускага чытача з вершамі П. Броўкі, М. Танка, М. Лужаніна, П. Панчанкі, А. Вялюгіна, М. Калачынскага і інш. Пераклады іх твораў зрабілі рускія паэты А. Пракоф'еў, Ус. Раждзественскі, М. Камісарава, М. Браўн і інш. *(Полымя, № 10.)*

*Лістапад, 25.*

Уступным словам адкрыў пленум праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, які разгледзеў пытанне аб ходзе падрыхтоўкі да 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі і 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна.

На пленуме П. Броўка вызвалены ад выканання абавязкаў старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў у сувязі з назначэннем Галоўным рэдактарам Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. *(Літ. і мастацтва, 29 лістап.; Полымя, № 1.)*

*Лістапад.*

У часоп. «Полымя», № 11 — нізка вершаў «Свет, ён вялікі, бязмежны...,», «Покуль вятры паналяцелі... «*** Ты шчодры будзь! Хтось не забудзе...», «Бомбы, снарады і газы шугаюць...».

*Снежань, 30.*

У сістэме Акадэміі навук БССР створана Галоўная рэдакцыя Беларускай Савецкай Энцыклапедыі на правах навукова-даследчай установы. Галоўным рэдактарам пры-

значаны П. Броўка *(Пастанова ЦК КП Беларусі і Савета Міністраў БССР за № 488.)*

*На працягу года.*

У выдавецтве «Беларусь» выйшлі другі і трэці тамы Зб. твораў у 4-х тамах.

У выдавецтве «Народная асвета» зборнік вершаў і паэм «Вершы і паэмы».

## 1967

*Май, 21—27.*

Прымаў удзел у рабоце IV Усесаюзнага з'езда пісьменнікаў СССР.

*23 мая* на вячэрнім пасяджэнні выступіў з дакладам аб некаторых зменах у статуце Саюза пісьменнікаў СССР. *(Літ. і мастацтва, 25 мая.) 27 мая* на заключным пасяджэнні з'езда абрана новае праўленне Саюза пісьменнікаў СССР. П. Броўка абраны ў сакратарыят праўлення Саюза пісьменнікаў СССР. *(Лит. газета, 31 мая; Знамя юности, 28 мая; Полымя, № 7.)*

*Май, 31 — чэрвень, 10.*

Удзельнічаў у Дэкадзе ўзбекскай літаратуры і мастацтва ў Беларусі. *2 чэрв.* вітаў узбекскіх гасцей на ўрачыстым адкрыцці літаратурнай часткі Дэкады ўзбекскай літаратуры і мастацтва. *(Літ. і мастацтва, 6 чэрв.; Полымя, № 7.)*

*Жнівень, 2.*

У «Лит. газете» — артыкул «Прошлое встает передо мной и настоящем». З гісторыі пісьменніцкай арганізацыі Беларусі.

*Жнівень, 15.*

Выступіў з дакладам «Францыск Скарына — заснавальнік беларускага кнігадрукавання» на агульнагарадскім вечары ў гонар 450-годдзя беларускага кнігадрукавання. *(Літ. і мастацтва, 18 жн.)*

*Жнівень, 17, 18.*

Свята беларускай кнігі, беларускай культуры, прысвечанае 450-годдзю беларускага кнігадрукавання ў Полацку. *17 жн.* прысутнічаў на ўрачыстым пасяджэнні. *18 жн.* выступіў на мітынгу, прысвечаным урачыстай закладцы пом-

ніка першадрукару Францыску Скарыне. *(Літ. і мастацтва, 22 жн.)*

*Жнівень, 29 — верасень, 4.*

Дні беларускай культуры і мастацтва ў Маскве.

*30 жн.* выступіў у Крамлёўскім тэатры на вечары, прысвечаным Беларускай ССР. Чытаў верш «Думы пра Маскву». *(Літ. і мастацтва, 1 верас.; Полымя, № 10.)*

*2 верас.* прымаў удзел у вечары ў ЦДЛ, прысвечаным беларускай савецкай літаратуры. *(Літ. і мастацтва, 5 чэрв.)*

*Кастрычнік, 23.*

Прымаў удзел у рабоце аб'яднанага пленума творчых саюзаў Беларусі, прысвечанага 50-й гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі. *(Літ. і мастацтва, 21 кастр.)*

*Лістапад, 5.*

Выступіў на ўрачыстым пасяджэнні ЦК КП Беларусі і Вярхоўнага Савета БССР, прысвечаным 50-годдзю Кастрычніка, якое праводзілася сумесна з партыйнымі і савецкімі органамі Мінска і Мінскай вобласці. *(Літ. і мастацтва, 7 лістап.; Гродненская правда, 6 нояб.)*

*Лістапад, 7.*

У «Літ. і мастацтве» — артыкул «Дружбай з'яднаны мы назаўжды». Пра творчыя сувязі пісьменнікаў Беларусі з пісьменнікамі іншых краін.

*Лістапад.*

У часоп. «Полымя», № 11 — нізка вершаў «Жыццё — карабель», «А Ленін нам кажа...», «Свята», «Курган славы», «Першы камісар», «На сваёй зямлі», «*** Мы выйшлі з цямноты, нядолі і гора...».

*Снежань, 22.*

Выступіў на ўрачыстым вечары, прысвечаным 45-годдзю часоп. «Полымя» з успамінамі аб першых сустрэчах з часопісам, аб яго колішніх супрацоўніках. *(Літ. і мастацтва, 26 снеж.)*

У «Літ. і мастацтве» — артыкул «Пяю цябе, зямля братоў», прысвечаны 50-годдзю Савецкай Украіны.

*Снежань.*

У часоп. «Полымя», № 12 — нізка вершаў «Ніцая вярба», «Як плакалі лісты...», «***Я чую, як коціцца...»,

«***Вецер ціхі, зоры ў зборы...», «***Ніякіх вестак, дзень не першы...».

*На працягу года.*

У выдавецтве «Беларусь» выйшлі: асобным выданнем паэма «Заўсёды з Леніным»; зборнік вершаў «Між чырвоных рабін».

У выдавецтве «Советский писатель» — зборнік вершаў і паэм «Всегда с тобой».

## 1968

*Студзень, 19.*

Першае пасяджэнне рэдакцыйнай калегіі і рэдакцыйнага Савета Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Акрамя членаў рэдакцыйнай калегіі і рэдакцыйнага Савета, у ім прынялі ўдзел члены прэзідыума АН БССР, кіраўнікі шэрагу рэспубліканскіх міністэрстваў і ведамстваў. *(Літ. і мастацтва, 23 студз.; Настаўніцкая газ., 24 студз.)*

*Студзень.*

У часоп. «Полымя», № 1 — паведамленне аб тым, што Савет Міністраў БССР утварыў юбілейны камітэт па правядзенню 100-годдзя з дня нараджэння М. Горкага. П. Броўка ўвайшоў у склад камітэта.

*Сакавік, 27.*

У «Літ. і мастацтве» — артыкул «Незабыўнае». Да 100-годдзя з дня нараджэння М. Горкага.

*Сакавік, 28.*

Прысутнічаў у Крамлёўскім Палацы з'ездаў у Маскве на ўрачыстым пасяджэні, прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння А. М. Горкага. *(Лит. газета, 3 марта.)*

*Красавік.*

У часоп. «Полымя», № 4 — нізка вершаў «***Дзе ад старасці падзецца...», «*** Ну я, вядома, не герой...», «*** Вядома мне: яно не нова...», «*** Якімі б ні ішоў шляхамі...», «*** Відаць, ніколі не забыцца...».

*Красавік, 19.*

У «Літ. і мастацтве» — апавяданне «Быў такі...».

*Май, 25.*

У балгарскай газ. «Работническо дело» — верш «Паклон балгарскім братам». Пераклад з беларускай мовы А. Чыркова.

*Чэрвень, 1.*

Прымаў удзел ва ўрачыстым сходзе грамадскасці Мінска, прысвечаным Міжнароднаму дню абароны дзяцей. *(Сов. Белоруссия, 2 июня.)*

*Чэрвень, 4—10.*

Прымаў удзел у тыдні беларускай літаратуры ў Ленінградзе. *(Звязда, 5 чэрв.)*

*Чэрвень, 23.*

Выступіў з успамінамі на ўрачыстым вечары, прысвечаным 70-годдзю з дня нараджэння К. Чорнага. *(Літ. і мастацтва, 26 чэрв.)*

*Чэрвень, 25—27.*

Прымаў удзел у рабоце чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета СССР сёмага склікання. *(Літ. і мастацтва, 29 чэрв.)*

*Кастрычнік, 2.*

Прымаў удзел у рабоце рэспубліканскай нарады ідэалагічных работнікаў, прысвечанай падрыхтоўцы да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна. *(Літ. і мастацтва, 4 кастр.)*

*Верасень, канец — кастрычнік, сярэдзіна.*

Адпачывае ў Сочы. *(Ліст да М. Ісакоўскага ад 23 верас.)*

*Кастрычнік, 30—31.*

Прымаў удзел у рабоце пленума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. *(Літ. і мастацтва, 1 лістап.)*

*Кастрычнік.*

У часоп. «Полымя», № 10 — апавяданні «Пачатак», «Хрысця», «Паштавічка».

*Лістапад, 27.*

Выступіў на сустрэчы («Братэрства народаў — братэрства літаратур») за «круглым сталом» у Саюзе пісьменнікаў у Маскве, якая была арганізавана Саветам па бела-

рускай літаратуры пры Саюзе пісьменнікаў СССР і рэдакцыяй газеты «Літаратура і мастацтва». *(Літ. і мастацтва, 5 снеж.)*

*Снежань, 28.*

Прысутнічаў на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 50-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі. *(Літ. і мастацтва, 31 снеж.; Звязда, 29 снеж.)* Гэтай падзеі прысвяціў верш «Беларусі». Упершыню надрукаваны ў газ. «Вячэрні Мінск», 30 снеж.

*На працягу года.*

У Кіеве ў выдавецтве «Дніпро» выйшаў раман «Калі зліваюцца рэкі». Пераклад з беларускай мовы Г. Вігурскай.

## 1969

*Люты, 7.*

У «Літ. і мастацтве» — паведамленне «На мовах розных народаў», у якім адзначаецца, што «на рускай мове выйшла 27 кніг П. Броўкі тыражом 1 мільён 720 тысяч экземпляраў».

*Люты, 18.*

У «Літ. і мастацтве» — паведамленне аб уручэнні П. Броўку юбілейнага медаля «50 гадоў узброеных сіл».

*Сакавік.*

У часоп. «Полымя», № 3 — нізка вершаў «***У Беларусі — ясныя вочы...», «***Як бы нішто не адбылося...», «***Вясенні вецер на сялібах...», «***Люблю начысціню размовы...», «***Часамі бачу я камету...», «***Калі надыдзе час спачыну...».

*Чэрвень.*

У часоп. «Полымя», № 6 — паведамленне аб тым, што атрымана першая карэктура 1-га тома Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. У гэтым жа нумары нізка вершаў «***Ах, каб як вы ні хацелі...», «***Калі мы ў прасторы выходзім вясною...», «Малюся...», «***Цаню адзінку — мастака...», «І нехта ўспомніць пра мяне», «Але і тым я ганаруся...».

*Чэрвень, 3—6.*

Прымаў удзел у святкаванні 170-годдзя з дня нараджэння А. С. Пушкіна. Пад уражаннем паездкі напісаў верш «У Міхайлаўскім». Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 6 чэрв.

*Ліпень, 4.*

Прымаў удзел ва ўрачыстым сходзе грамадскасці Мінска, прысвечаным 25-годдзю з дня вызвалення сталіцы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. *(Літ. і мастацтва, 8 ліп.)*

*Кастрычнік, 6—10.*

Удзельнічаў у літаратурных вечарах пісьменнікаў РСФСР у Мінску, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна. *(Сов. Белоруссия, 9 окт.; Літ. і мастацтва, 10, 14 кастр.)*

*Снежань, 10—11.*

Выступіў на аб'яднаным пленуме праўленняў творчых саюзаў СССР — пісьменнікаў, мастакоў, кінематаграфістаў, кампазітараў з удзелам прадстаўнікоў тэатральных аб'яднанняў, саюзаў архітэктараў і журналістаў. На парадку дня пленума: «Увасабленне ленінскіх прынцыпаў партыйнасці і народнасці савецкай літаратуры і мастацтва». *(Літ. і мастацтва, 12 снеж.)*

Прамова надрукавана ў газ. «Литературная Россия», 19 дек.; «Лит. газета», 17 дек.

*Снежань, 19.*

Паступіў у Цэнтральную бальніцу 4-га галоўнага ўпраўлення пры Мінздраве СССР у Кунцаве. Дыягназ: язва страўніка. *(Гісторыя хваробы № 044.)*

*На працягу года.*

У выдавецтве «Беларусь» выйшаў зборнік вершаў «Між чырвоных рабін».

У Маскве ў выдавецтве «Художественная литература» — «Избранные произведения» у 2-х тамах (вершы, паэмы).

## 1970

*Студзень, 23.*

Перанёс аперацыю (рэзекцыя страўніка).

Аперацыю зрабіў прафесар М. Н. Маліноўскі ў кунцаўскай бальніцы. *(Гісторыя хваробы № 044.)*

*Студзень.*

У часоп. «Полымя», № 1 — паведамленне аб тым, што выйшаў з друку першы том Беларускай Савецкай Энцыклапедыі памерам 50 аркушаў, у якім змешчана 2658 артыкулаў — малых і вялікіх. Тыраж тома — 25 000 экземпляраў. Кожны год будзе выходзіць два тамы БелСЭ.

*Люты, 2.*

Выпісаўся з бальніцы. *(Гісторыя хваробы № 044.)*

У бальніцы напісаў вершы «Хваляванне», «Ой, чалом», «Дзень добры», «У Кунцаве», «Многа даў наш край бацькоўскі».

*Люты, 25.*

За кнігу паэзіі «Між чырвоных рабін» і паэму «Заўсёды з Леніным» П. Броўку прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Купалы. *(Літ. і мастацтва, 3 сак.; Полымя, № 4.)*

*Сакавік, да 26.*

У Барвісе. *(Ліст да І. Казекі ад 9 сак.)*

*Май, 8.*

У «Літ. і мастацтве» — паэма «Дума аб бессмяротнасці». Паэма напісана да 25-годдзя перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй і прысвечана землякам паэта, якія загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны.

*Май, паміж 22—29.*

Адбылася сустрэча з выбаршчыкамі дэпутатаў Вярхоўнага Савета СССР у Рэчыцы. *(Літ. і мастацтва, 29 мая.)*

*Чэрвень, 23.*

Выступіў з успамінамі пра сустрэчы з К. Чорным на ўрачыстым вечары, прысвечаным 70-годдзю з дня нараджэння пісьменніка. *(Літ. і мастацтва, 26 чэрв.; Полымя, № 8.)*

*Чэрвень.*

У часоп. «Полымя», № 6 — паведамленне аб тым, што «На ўсесаюзным юбілейным конкурсе на лепшае мастацка-тэхнічнае афармленне і выданне кніг» першы том Беларускай Савецкай Энцыклапедыі адзначаны дыпломам другой ступені. Кніга паэзіі П. Броўкі «Між чырвоных рабін» (мастак П. Драчоў) — дыплом трэцяй ступені».

*Ліпень, 15.*
У «Літ. газеце» — віншуе У. Дубоўку з 70-годдзем з дня нараджэння.

*Жнівень.*
У часоп. «Полымя», № 8 — вершы «*** Усё жыццё — адно імгненне...», «Быў юнаком...», «*** Пад дзірваном магільным горкі...», «У парку курортным», «*** Пра незнаёмца, незнаёмку...», «*** Наперад — промень праз морак рання...», «Хваляванне», «Дзень добры...», «У Кунцаве», «Першыя спектаклі», «Як лета ўбярэцца», «Смачней было...», «Ты па характару сарока...», «У навальніцу», «Маім сябрам», «Пчаліны дом», «Параненыя».

*Верасень.*
У часоп. «Беларусь», № 9 — верш «Міхаілу Святлову», напісаны да 5-й гадавіны з дня смерці паэта.

*Кастрычнік, 26 — лістапад, 15.*
У Кіславодску. *(Ліст да С. Красікава ад 12 лістап.)*

*Кастрычнік.*
У часоп. «Полымя», № 10 — паведамленне аб тым, што на паліграфічным камбінаце імя Я. Коласа падрыхтавана да выпуску сувенірнае выданне, прысвечанае 50-годдзю Ленінскага камсамола Беларусі.

Складальнік арыгінальнай кніжкі названай «Арлянатам»,— П. Броўка. У яе ўвайшлі вершы беларускіх паэтаў пра камсамолію нашай рэспублікі. Кніга памерам з запалкавы карабок мае больш за сто старонак.

У часоп. «Маладосць», № 10 — вершы «*** Ноч і прытуліць і прыкрые...», «Мне шмат цяжэй», «*** Ну што ж, прыціхлі сэрца спевы...», «*** Навошта непатрэбны крык...».

*На працягу года.*
У Маскве ў выдавецтве «Советский писатель» выйшаў раман «Когда сливаются реки». Пераклад з беларускай мовы М. Грыбачова.

## 1971

*Люты, 12.*
У «Літ. і мастацтве» — артыкул «Непаўторная». Да 70-годдзя з дня нараджэння народнай артысткі БССР В. Пола.

*Красавік, 8.*

Чытаў верш «Мая Савецкая ўлада» на заключным літаратурным вечары, якім закончыліся праведзеныя ў рэспубліцы ў гонар XXIV з'езда КПСС Дні літаратуры. *(Літ. і мастацтва, 16 крас.)*

*Красавік, 25.*

Прымаў удзел ў аб'яднаным пасяджэнні Рэдакцыйнай калегіі і Рэдакцыйнага савета БелСЭ па абмеркаванню пятага і шостага тамоў БелСЭ і плана-праспекта дванаццатага тома «Беларуская Савецкая Сацыялістычная рэспубліка». *(Ліст да М. Танка ад крас.)*

*Красавік, 26—27.*

VI з'езд пісьменнікаў Савецкай Беларусі.

Прымаў удзел у спрэчках па справаздачным дакладзе праўлення і дакладзе рэвізійнай камісіі Саюза пісьменнікаў Беларусі. *(Літ. і мастацтва, 7 мая.)*

Выступленне пад назвай «Сілы і талент — любай радзіме» надрукавана ў газ. «Літаратура і мастацтва», 7 мая.

*Чэрвень, 29 — ліпень, 2.*

Прымаў удзел у рабоце V з'езда пісьменнікаў СССР. *(Лит. газета, 20 июня; Літ. і мастацтва, 2, 9 ліп.)*

*Ліпень, 2.*

Адбыўся пленум праўлення Саюза пісьменнікаў СССР. Пленум разгледзеў арганізацыйныя пытанні.

П. Броўка абраны ў сакратарыят праўлення Саюза пісьменнікаў СССР. *(Літ. і мастацтва, 9 ліп.)*

*Жнівень, пасля 10 — верасень, пачатак.*

У бальніцы. *(Янка Казека. «На новай ніве» // Успаміны пра Петруся Броўку...— С. 296.)*

*Жнівень.*

У часоп. «Маладосць», № 8 — вершы «Ты для мяне...», «Як дзень пачнецца...», «*** Мой зямны шар...», «Змаганне з тугой...», «Касмічных спраў майстры...», «Вішня», «Вясновае».

*Верасень.*

У Доме творчасці пісьменнікаў імя Я. Райніса ў Дубултах. *(Ліст да І. Казекі ад 25 верас.)*

*Снежань.*

Адпачывае і працуе ў санаторыі ў Нясвіжы. У санаторыі напісаў апавяданне «Спакуса». Упершыню надрукавана ў часоп. «Полымя», 1973, № 1.

*На працягу года.*

У выдавецтве «Беларусь» выйшаў раман «Калі зліваюцца рэкі».

У Маскве ў выдавецтве «Советский писатель» — зборнік новых вершаў «Я вам скажу...».

## 1972

*Студзень, 19.*

Пад старшынствам П. Броўкі адбылося пасяджэнне Камітэта па дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. *(Літ. і мастацтва, 21 студз.)*

*Студзень, 26—28.*

Прымаў удзел у рабоце пленума праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, прысвечанага літаратурнай крытыцы. *(Літ і мастацтва, 4 лют.)*

*Люты, 16.*

Прымаў удзел у рабоце пленума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, прысвечанага беларускай літаратурнай крытыцы. *(Літ. і мастацтва, 18 лют.)*

*Май — чэрвень.*

Працуе над аповесцю «Донька-Даніэль». Упершыню аповесць надрукавана ў часоп. «Полымя», 1973, № 1.

*Чэрвень, 5—7.*

У бальніцы. Праходзіць курс лячэння горла. *(Гісторыя хваробы № 044.)*

*Чэрвень, пасля 25.*

Прымаў удзел у азнаямленчай паездцы па Мінскім, Лагойскім, Докшыцкім і Мядзельскім раёнах, якую арганізаваў ЦК КП Беларусі для членаў праўленняў Саюзаў пісьменнікаў і кампазітараў. Выступіў перад жыхарамі гарадскога пасёлка Бягомль. *(Літ. і мастацтва, 23 чэрв.; Полымя, № 8.)*

*Ліпень, 5.*

Падзяліўся ўспамінамі пра Янку Купалу на навуковай сесіі АН БССР, прысвечанай купалаўскаму юбілею. *(Літ. і мастацтва, 14 ліп.; Весці АН БССР, № 5.)*

*Ліпень, 7.*

Выступіў на ўрачыстым мітынгу, прысвечаным адкрыццю помніка Я. Купалу ў Мінску. Над стварэннем мемарыяльнага ансамбля ў Купалаўскім парку працавалі архітэктары і скульптары А. Анікейчык, А. Заспіцкі, Л. Гумілеўскі, Ю. Градаў, Л. Левін.

Прысутнічаў на ўсеагульным урачыстым сходзе, прысвечаным 90-годдзю з дня нараджэння Я. Купалы. *(Літ. і мастацтва, 14 ліп.; Полымя, № 9.)*

У газ. «Правда» — артыкул «Сын и певец народа». Да 90-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы.

*Ліпень, 8.*

Выступіў з чытаннем верша «Купала і Колас, вы нас гадавалі» на свяце паэзіі ў Вязынцы. *(Літ. і мастацтва, 14 ліп.; Полымя, № 9.)*

*Ліпень, 25.*

У «Лит. газете» — артыкул «Проникновенный голос» з выпадку смерці М. Ісакоўскага. З М. Ісакоўскім П. Броўку звязвалі цёплыя сяброўскія адносіны. М. Ісакоўскі пераклад вершы П. Броўкі, сярод якіх «Дубовы ліст» і «Александрына». Гэта адны з любімых самім П. Броўкам вершаў.

*Жнівень, 24—30.*

У бальніцы. *(Гісторыя хваробы № 044.)*

*Верасень, 5.*

Зацверджаны членам рэдкалегіі «Библиотека поэта». *(Пастанова сакратарыята.)*

*Верасень.*

У Доме творчасці пісьменнікаў СССР ім. Я. Райніса ў Дубултах. *(Ліст да І. Казекі ад 10 верас.)*

*Кастрычнік, 3.*

За выдатныя заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і плённую грамадскую дзейнасць П. Броўку прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы з уручэннем яму ор-

дэна Леніна і залатога медаля «Серп і Молат». *(Звязда, 4 кастр.; Літ. і мастацтва, 6 кастр.; Полымя, № 11.)*

*Кастрычнік.*

У Барвісе. *(Ліст да І. Казекі ад 24 кастр.)*

У часоп. «Маладосць», № 10 — вершы «Маляр», «Сябру-крытыку», «Кажу табе...» «Прыкметы вясны», «Партызанская любоў», «Лепель», «Нязменны воін», «А сонца тчэ свае валокны...».

*Лістапад, 3.*

Адкрыў уступным словам урачысты сход, прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння Я. Коласа. *(Літ. і мастацтва, 10 лістап.)*

У «Літ. і мастацтве» — артыкул «У дзядзькі Якуба ў Ташкенце». Успаміны з нагоды 90-годдзя з дня нараджэння Я. Коласа.

*Лістапад, 14.*

Прымаў удзел у рабоце аб'яднанага пленума праўлення саюзаў пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, кінематаграфістаў, архітэктараў, журналістаў БССР, Беларускага тэатральнага аб'яднання, прысвечанага 50-годдзю з дня ўтварэння СССР. *(Літ. і мастацтва, 17 лістап.)*

*Снежань.*

У часоп. «Полымя», № 12 — апавяданні «Разам з камісарам», «З драўляным сажнем», «Перапыненая вечарынка», «Вінчэстэр», «Анэтка».

*На працягу года.*

У выдавецтве «Беларусь» выйшлі зборнікі вершаў «Калі ласка» і «Ты — мая пчолка». Зборнік «Ты — мая пчолка» паралельна на беларускай і рускай мовах. Пераклад з беларускай мовы Я. Хелемскага.

## 1973

*Сакавік, 29.*

У польскай газ. «Przodownik» («Ударнік») — верш «Жыццё — як адно імгненне...».

*Май.*

Напісаў нізку вершаў «За вас мы рады, маладыя...», «Настрой», «*** Палі, лугі, гаі, разлогі...», «Калі б нанова пачынаць...», «А мы расцём!»

*Чэрвень.*

У часоп. «Маладосць», № 6 — песня «Я не магу на вас забыцца». Словы верша «Чаму я гэтак вас люблю?» пакладзены на музыку І. Лучанком.

Да зямлі маленства, Ушаччыны, паэт вяртаўся і ў іншых вершах: «Любая мясціна», «*** Мой кут нічым не адмысловы», «Мая Ушачка».

*Ліпень, 7.*

Выступіў з успамінамі аб сустрэчах з Я. Купалам на свяце паэзіі ў Вязынцы. *(Літ. і мастацтва, 13 ліп.)*

*Ліпень.*

Узнагароджаны балгарскім ордэнам Кірылы і Мефодзія. *(Полымя, № 7.)*

У часоп. «Новый мир», № 7 — артыкул «Как грозовой дождь». Да 80-годдзя з дня нараджэння У. Маякоўскага.

*Верасень, 14.*

У «Літ. і мастацтве» — у перакладзе П. Броўкі з азербайджанскай мовы рубаі Насімі Імадзедзіна («Што чалавеку не дала б жыццёвая дарога...», «О ружа, ты расла ў садах якіх...», «Мой доктар хворы...», «Ад вечнай ісціны не адышоў...», «І свету без цябе няма, здаецца, нам...», «У валасах маіх мне палыхае сонца...», «А прыгажосць твая — у свеце ўсё скарыла...», «Хоць можа мой няясны сказ, я гавару...», «У свеце ўсё, як ёсць, па боскай волі...», «Ці я ў мячэць іду, ці ў зорку я імама...»).

У газеце змешчаны таксама артыкул П. Броўкі аб І. Насімі.

*Верасень, 17.*

У газ. «Лит. Россия» — успаміны аб А. Твардоўскім «Бессмертие пахаря». А. Твардоўскі быў адзін з любімых паэтаў П. Броўкі, добрым сябрам і настаўнікам.

*Верасень, да 28.*

У Доме творчасці пісьменнікаў ім. Я. Райніса ў Дубултах. *(Ліст да С. Грахоўскага ад 9 верас.)*

У Дубултах напісаў апавяданні: «Кантрабандысты», «Чырвоны аловак», «Зайздрасць і заспакаенне». Усе апавяданні ўпершыню апублікаваны ў часоп. «Полымя», № 4, 1974.

*Кастрычнік, 25—31.*

Удзельнічаў у рабоце Сусветнага кангрэсу міралюбівых сіл у Маскве. *(Літ. і мастацтва, 26 кастр.; Лит. газета, 31 окт.)*

*Лістапад.*

У часоп. «Дружба народов», № 11 надрукаваны апавяданні «Начало», «Вместе с комиссаром», «Прерванная вечеринка», «Винчестер», «Анэтка». Пераклад з беларускай мовы А. Астроўскага.

*На працягу года.*

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла паэма «Лясы наддзвінскія».

У Маскве ў выдавецтве «Художественная литература» — кніга вершаў і паэм «А дни идут...». Пераклад з беларускай мовы Я. Хелемскага.

У Маскве ў выдавецтве «Воениздат» — зборнік вершаў і паэм «Дума о бессмертии».

У Маскве ў выдавецтве «Известия» — раман «Когда сливаются реки». Пераклад з беларускай мовы М. Грыбачова.

## 1974

*Студзень.*

У часоп. «Беларусь», № 1 — успаміны пра П. Глебку, з якім Пятра Усцінавіча звязвала доўгае сяброўства.

У часоп. змешчаны таксама ў перакладзе П. Броўкі вершы Я. Хелемскага.

*Люты, 1.*

У «Літ. і мастацтве» — паведамленне аб тым, што П. Броўку прысуджана прэмія часоп. «Дружба народов» за цыкл апавяданняў, змешчаных у 11 нумары часопіса за 1973 год.

*Люты, 8.*

У «Літ. і мастацтве» — артыкул «Натхнёны». Да 60-годдзя з дня нараджэння А. Куляшова.

*Сакавік, 20.*

Вітаў літоўскіх сяброў на ўрачыстым адкрыцці Дзён культуры Савецкай Літвы ў Беларусі. *(Літ. і мастацтва, 22 сак.; Полымя, № 5.)*

*Красавік, 12.*

У «Літ. і мастацтве» — паведамленне, што ў латвійскім выдавецтве «Ліесма» падрыхтаваны да друку вялікі зборнік «Беларуская паэзія», у які ўвайшлі вершы і паэмы Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, М. Танка, П. Панчанкі, А. Куляшова і інш.

*Красавік, канец — май, 24.*

Знаходзіўся ў Цэнтральнай бальніцы 4-га галоўнага ўпраўлення пры Мінздраве СССР у Кунцаве.

*Май, 27.*

Сустрэўся са сваімі выбаршчыкамі і студэнтамі Мазыра. *(Літ. і мастацтва, 31 мая.)*

П. Броўка вылучаны кандыдатам у дэпутаты Савета нацыяльнасцей па Мазырскай выбарчай акрузе № 87.

*Чэрвень, 25—30.*

Прымаў удзел ва ўрачыстасцях, прысвечаных 30-годдзю вызвалення БССР ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і прысваенню Мінску звання «Горад-герой». *(Літ. і мастацтва, 28 чэрв.)*

*28 чэрв.* выступіў на ўрачыстым сходзе, прысвечаным 30-годдзю вызвалення беларускай рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і прысваенне Мінску ганаровага звання «Горад-герой». *(Літ. і мастацтва, 29 чэрв.; Полымя, № 8.)*

*Жнівень, 28.*

Выступіў з успамінамі аб рабоце першых саюзнага і беларускага з'ездаў пісьменнікаў на вечары, прысвечаным 40-годдзю I Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў і I Усебеларускага з'езда савецкіх пісьменнікаў. *(Літ. і мастацтва, 30 жн.; Полымя, № 10.)*

*Жнівень, 30.*

Прысутнічаў на ўрачыстым пасяджэнні гарадскога камітэта КП Беларусі і гарадскога Савета дэпутатаў працоўных, прысвечаным 1000-годдзю Віцебска і ўручэнні гораду ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга. *(Полымя, № 10.)*

*Верасень, 3—4.*

Выступіў на пленуме праўлення СП СССР, прысвечаным 40-годдзю першага з'езда савецкіх пісьменнікаў.

Прамова пад назвай «История выдвинула нас вперед» надрукавана ў часоп. «Вопросы литературы», № 8.

*Верасень, пасля 4.*

Адпачывае ў Ялце. *(Ліст да І. Казекі ад 21 верас.)*

Напісаў вершы «Развітанне з паўднёвым сонцам», «Труба і ліра».

*Кастрычнік, 9—10.*

Выступіў на Савецкай канферэнцыі прыхільнікаў міру, прысвечанай 25-гадавіне савецкага руху ў абарону міру. *(Лит. газета, 16 окт.)*

*Снежань.*

У бальніцы ў Кунцаве. *(Ліст да А. Петрашкевіча, І. Казекі, Р. Канавалава, І. Хаўратовіча ад 4 снеж.)*

*На працягу года.*

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшлі новая кніга лірыкі «І ўдзень і ўночы» і зборнік прозы «Разам з камісарам».

У Маскве ў выдавецтве «Советский писатель» — зборнік вершаў «И днем и ночью». Пераклад з беларускай мовы В. Карчагіна і Я. Хелемскага.

У Маскве ў выдавецтве «Молодая гвардия» — зборнік «Пишу о сердце человечьем...».

## 1975

*Студзень, да 25.*

У бальніцы ў Кунцаве. *(Ліст да А. Петрашкевіча, І. Казекі, Р. Канавалава, І. Хаўратовіча ад 4 снеж. 1974.)*

У бальніцы напісаў вершы «З жыцця бальнічнага», «Натура ўжо, відаць, такая...», «Ты захварэеш неспадзеўкі...», «Хоць плот бальнічны не вышэйшы...», «Чытачам», «Яно, жартуючы, вядома».

*Люты — сакавік.*

Працуе над аповесцю «Вечная пляма». Упершыню аповесць надрукавана ў часоп. «Маладосць», 1975, № 9.

*Май, 13.*

За актыўны ўдзел у прапагандзе дасягненняў савецкай навукі, тэхнікі, культуры і плённую работу па выданню энцыклапедычнай літаратуры П. Броўка Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў.



Г. Бураўкін, К. Крапіва, П. Броўка, М. Матукоўскі.
VIII з'езд пісьменнікаў БССР.
1976 г.

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР за вялікія заслугі ў развіцці беларускай савецкай літаратуры і ў сувязі з сямідзесяцігоддзем з дня нараджэння Пётр Усціновіч узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. *(Полымя, № 8.)*

*Чэрвень.*

У часоп. «Беларусь», «Полымя», «Маладосць», «Вожык», «Вясёлка», «Бярозка» вершы — «*** Зямля! Ты тайнамі багата...», «На схіле пройдзеных гадоў», «*** Хоць сталасць з'явіцца па ўзросце...», «Памяці паэта», «Я не люблю пахмурных дзён...», «Зайздрошчу макаваму зерню», «Як дзве бабулі...», «*** Зіма яшчэ не наступае...», «А час, як прыйдзе, скажа цвёрда...», «А я ж у сэрцы не змяніўся...», «*** Відаць, што доля ўжо такая...», «За валам вал...», «Нібы імкнецца ўсё да ўзлёту», «Размова з мастаком-мадэрністам», «Пра вас я думаю заўсёды», «Ты мне ўяўляешся такою...», «Я нізка прад табой хілюся...», «Партызанскі пчаляр», «Раніцу люблю...», «Два хвалько».

*Ліпень, 1.*

Урачысты вечар, прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння П. Броўкі. Вечар адкрыў М. Танк. Са словам пра юбіляра выступіў П. Панчанка. *(Літ. і мастацтва, 4 ліп.; Звязда, 3, 4 ліп.)*

*Ліпень, 11.*

У «Літ. і мастацтве» — гутарка карэспандэнта газеты «Літ. і мастацтва» з П. Броўкам у сувязі з выхадам у свет 12-га тома Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, які завяршае гэтае выданне.

*Жнівень, 19.*

За плённую работу па падрыхтоўцы і выданню дванаццацітомнай Беларускай Савецкай Энцыклапедыі П. Броўку прысвоена ганаровае званне заслужанага дзеяча навукі Беларускай ССР. *(Літ. і мастацтва, 22 жн.; Пасведчанне № 124.)*

*Кастрычнік, 1.*

Прымаў удзел у рабоце ўрачыстай сесіі агульнага сходу АН БССР, прысвечанай уручэнню Акадэміі навук рэспублікі ордэна Дружбы народаў. *(Полымя, № 11.)*

*Кастрычнік, 20.*

У Маскве ў Калоннай зале Дома Саюзаў адбыўся вечар, прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння Пятра Усціnavіча. Вечар адкрыў уступным словам М. С. Ціханаў.

Слова пра П. Броўку сказаў М. Танк. Аб творчасці юбіляра гаварылі літаратары Масквы, Украіны, Таджыкістана, Латвіі і інш. саюзных рэспублік. На вечары выступілі М. Нагнібеда, К. Ваншэнкін, Ю. Ванаг, М. Турсун-задэ, Я. Хелемскі, М. Камісарава, К. Кулієў, Р. Барадулін П. Панчанка, артыст І. Русінаў. *(Літ. і мастацтва, 24 кастр.; Звязда, 22 кастр.; Полымя, № 12.)*

*На працягу года.*

У Мінску ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў першы том (вершы, паэмы, пераклады 1926—1940 гг.) Зб. тв. у 7 тамах. У выдавецтве «Правда» ў Маскве — зборнік «Стихи».

У Маскве ў выдавецтве «Советский писатель» — зборнік вершаў «І ўдзень і ўночы».

## 1976

*Студзень, 1.*

У «Літ. і мастацтве» П. Броўка расказвае аб сваіх задумах, творчых планах і здзяйсненнях. Адзначае, што асабліва радуецца «калектыўнаму набытку Галоўнай рэдакцыі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, яе шматлікага аўтарскага актыву: у 1975 годзе, акурат у тэрмін, завершана выданне дванаццацітомнай БелСЭ — першага ў гісторыі Беларусі універсальнага даведніка па ўсіх галінах ведаў, набытых чалавецтвам».

*Студзень, 9.*

У «Літ. і мастацтве» — паведамленне аб тым, што «змест адной з чарговых кніжак бібліятэчкі «Огонёк» склалі творы П. Броўкі. Зборнік называецца «Крокі». Сорак пяць вершаў народнага паэта Беларусі на рускую мову пераклаў Я. Хелемскі».

*Студзень, сярэдзіна.*

Выступіў на аўтарскім вечары П. Панчанкі. *(Полымя, № 3.)*

*Студзень.*

У часоп. «Полымя», № 1 нізка вершаў — «*** Калі праз меру суха-суха...», «Дзяржынскі ў Мінску», «Яны стаяць, як маякі...», «Я свой збіраю ўраджай», «Паэту — сябру», «*** Вядома нам — усё не вечна...».

*Люты, 4—6.*

Прымаў удзел у рабоце XXVIII з'езда КПБ. *(Літ. і мастацтва, 6 лют.; Полымя, № 3.)*

*Сакавік, 20.*

Адкрыў урачысты сход, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння К. Крапівы. *(Літ. і мастацтва, 26 сак.; Полымя, № 5.)*

*Май, 11—12.*

Прымаў удзел у рабоце VII з'езда пісьменнікаў Беларусі. *11 мая* адкрыў з'езд уступным словам. *(Полымя, № 6.)*

Уступнае слова пад назвай «Мы можам ганарыцца такім сяброўствам...» надрукавана ў газ. «Літаратура і мастацтва», 14 мая. Абраны ў праўленне СП БССР і дэлегатам на VI Усесаюзны з'езд пісьменнікаў СССР. *(Літ. і мастацтва, 14 мая.)*

*Май, 25.*

Выступіў на ўрачыстым вечары адкрыцця літаратурнай часткі Дзён літаратуры і мастацтва Украінскай ССР. *(Літ. і мастацтва, 28 мая; Полымя, № 7.)*

*Чэрвень, 7.*

Першае пасяджэнне прэзідыума праўлення СП БССР, абранага VII з'ездам пісьменнікаў Беларусі. І. Мележ уручыў П. Броўку юбілейны медаль Сусветнага Савета Міру і Ганаровую грамату Савецкага камітэта абароны міру за актыўны ўдзел у дзейнасці Камітэта абароны міру і ў сувязі з 25-годдзем сусветнага руху прыхільнікаў міру. *(Літ. і мастацтва, 11 чэрв.; Полымя, № 8.)*

*Чэрвень, 21—25.*

Прымаў удзел у рабоце VI з'езда пісьменнікаў СССР.

Абраны членам праўлення СП СССР. *(Літ. і мастацтва, 2 ліп.)*

*Верасень.*

У часоп. «Бярозка», № 9 — паэма «Марат Казей».

*Снежань, 24.*

У «Літ. і мастацтве» — ліст А. Фадзеева да П. Броўкі ад 19 лют. 1955 г. Ліст надрукаваны пад рубрыкай «Да 70-годдзя з дня нараджэння А. Фадзеева».

*Снежань.*

У Кіславодску. *(Ліст да Л. А. Антаневіч ад 7 снеж.)*

Працуе над апавяданнем «Законы сэрца». Упершыню апавяданне надрукавана ў часоп. «Полымя», № 10, 1977.

*На працягу года.*

У Мінску ў выдавецтве «Беларусь» выйшаў зборнік вершаў «Ты — мая пчолка» паралельна на беларускай і рускай мовах. Пераклад з беларускай мовы Я. Хелемскага.

У Мінску ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» — другі і трэці тамы (вершы, паэмы) Зб. твораў у 7 тамах.

У Маскве ў выдавецтве «Советский писатель» — зборнік «Вместе с комиссаром». Пераклад з беларускай мовы А. Астроўскага.

## 1977

*Студзень, 14.*

У «Літ. і мастацтве» — паведамленне аб тым, што рэдакцыйная калегія часопіса «Огонек» адзначыла прэміямі і граматамі лепшыя творы, якія былі змешчаны на яго старонках на працягу 1976 г. Сярод названых аўтараў народныя паэты Беларусі П. Броўка і М. Танк.

*Люты.*

У часоп. «Полымя», № 2 — паведамленне аб тым, што маскоўскае выдавецтва «Прогресс» выпусціла ў перакладзе на англійскую мову анталогію беларускай паэзіі «Мая цудоўная Беларусь». У кнігу ўключаны пераклады з Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, П. Броўкі, М. Танка, А. Куляшова і інш.

*Люты — сакавік, да 25.*

Знаходзіцца ў бальніцы ў Кунцаве. *(Ліст да І. Казекі, І. Хаўратовіча, М. Дубянецкага ад 21 лют.)*

*З успамінаў І. Казекі:* «Хвароба паклала свой адбітак на душэўны стан, настрой Петруся Броўкі, і ўсе, хто блізка ведаў яго ў апошнія гады жыцця, заўважалі, як ён мяняўся. У размовах стаў часцей звяртацца да фактаў ра-

нейшага літаратурнага жыцця і асобных момантаў уласнай біяграфіі. Адчувалася, што ён многа думаў аб пражытым і перажытым, як бы азіраў пройдзены шлях, зробленае ў літаратуры. Гэта выявілася і ў яго лірыцы: усё часцей і часцей з'яўляліся ў яго вершах так званыя вечныя тэмы. Роздум пра вечныя маральныя каштоўнасці, пра сэнс жыцця і духоўную веліч чалавека складае змест многіх яго вершаў апошніх гадоў. Прыкметна было, што ён шукаў большай блізкасці з людзьмі, больш даверліва гаварыў пра сябе». *(Янка Казека. «На новай ніве» // Успаміны пра Петруся Броўку...— С. 298—299.)*

У бальніцы напісаў успаміны аб сваіх настаўніках і любімых песнярах Я. Купале («Вы клікалі нас, маладых арлянят...») і Я. Коласе («Забыць цябе не маю сілы...)».

*Сакавік, 29.*

Выступіў на адкрытым партыйным сходзе СП БССР. Гаварыў пра развіццё беларускай літаратуры, пра кантакты паміж пісьменнікамі і чытачамі, пра адданасць майстроў слова ленінскім ідэалам. *(Полымя, № 5.)*

*Красавік, 19—20.*

Прымаў удзел у рабоце VIII з'езда таварыства «Веды» Беларускай ССР. *(Полымя, № 6.)*

*Май, 10.*

Аўтарскі вечар Е. Лось. Шчырыя, сяброўскія словы прыслаў сваёй зямлячцы П. Броўка. *(Літ. і мастацтва, 13 мая.)*

*Чэрвень, 16.*

Прымаў удзел у рабоце шостай сесіі Вярхоўнага Савета СССР дзевятага склікання. *(Літ. і мастацтва, 17 чэрв.)*

*Кастрычнік, 4.*

Прымаў удзел у рабоце нечарговай сёмай сесіі Вярхоўнага Савета СССР дзевятага склікання. *(Літ. і мастацтва, 6 кастр.)*

*Кастрычнік, 19.*

Прымаў удзел у рабоце аб'яднанага пленума праўленняў творчых саюзаў Беларусі, прысвечанага 60-годдзю Кастрычніцкай рэвалюцыі. *(Літ. і мастацтва, 28 кастр.)*

*Снежань, 2.*

У «Літ. і мастацтве» — паведамленне аб тым, што напярэдадні 60-й гадавіны Вялікага Кастрычніка Лодзінскае выдавецтва выпусціла анталогію «Польшча ў савецкай паэзіі». Усяго ў выданні змешчаны творы ста дваццаці трох савецкіх аўтараў. Сярод трынаццаці паэтаў з Беларусі — П. Броўка.

*На працягу года.*

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшлі чацвёрты і пяты тамы Зб. твораў у 7-мі тамах; асобным выданнем паэма «Наш музей».

У выдавецтве «Советский писатель» — зборнік вершаў «Как поднимается солнце». Пераклад з беларускай мовы В. Карчагіна і Я. Хелемскага.

## 1978

*Студзень, 13.*

У «Літ. і мастацтве» — паведамленне аб тым, што беларускае тэлебачанне паказала спектакль па кнізе П. Броўкі «Разам з камісарам». Аўтар сцэнарыя — Р. Барадулін. Рэжысёр-пастаноўшчык — У. Забела. У галоўных ролях заняты артысты беларускіх тэатраў Ф. Варанецкі і Я. Лявонцьеў. Песні да спектакля напісаны кампазітарам І. Лучанком.

*Верасень, 7.*

Адкрыў уступным словам урачыстае пасяджэнне, прысвечанае 150-годдзю з дня нараджэння Л. М. Талстога. *(Літ. і мастацтва, 15 верас.)*

Уступнае слова «...святло праўды свету нёс» надрукавана ў газ. «Літаратура і мастацтва», 15 верас.

*Снежань.*

Прымаў удзел у рабоце аб'яднанага пленума праўлення творчых саюзаў рэспублікі. *(Літ. і мастацтва, 22 снеж.)*

*На працягу года.*

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшлі шосты і сёмы тамы Зб. твораў у 7-мі тамах.

У Маскве ў выдавецтве «Детская литература» выйшаў зборнік прозы «Вместе с комиссаром». Пераклад з беларускай мовы А. Астроўскага.

## 1979

*Люты, 1.*

У газ. «Знамя юности» — паведамленне аб абранні ганаровым калгаснікам калгаса імя Т. Шаўчэнкі Арцёмаўскага раёна Данецкай вобласці.

*Люты, 9.*

У «Літ. і мастацтве» — паведамленне аб сустрэчы працоўных Полацка з кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР П. Броўкам і ткачыхай завода шкловалакна С. Цурай. Даверaная дэпутата расказала прысутным аб жыццёвым шляху паэта. Пётр Усцінавіч прачытаў урывак з паэмы «Беларусь» і верш пра Полацк, напісаны праз 50 гадоў пасля развітання з ім.

*Лета.*

Апошняя паездка на радзіму. *(С. Законнікаў. Жывая крыніца. // Успаміны пра Петруся Броўку...— С. 331.)*

*Лістапад, 12—16.*

У Соснах напісаў верш «Ён неўміручы», які прысвяціў памяці беларускага воіна, былога рабочага мінскага радыёзавода Т. А. Лук'яновіча. Гэта апошні апублікаваны пры жыцці твор паэта.

Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 29 снеж.

*На працягу года.*

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў зборнік вершаў «Што сэрца праспявала».

У выдавецтве «Советский писатель» — зборнік «И молодость и зрелость».

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» — паэма «Над родной рекой Березой».

У Рызе выйшаў томік выбраных вершаў «Дабрыня».

## 1980

*Люты.*

У бальніцы ў Кунцаве. *(Якаў Хелемскі. Другая палова жыцця // Успаміны пра Петруся Броўку... С. 124.)*

*Люты, 15.*

У бальніцы напісаў верш «Савецкі чалавек». Гэта апошні верш П. Броўкі.

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Полымя», № 6.

*Люты, 17.*

Закончыў працу над прадмовай «Слова да чытача» да I т. Зб. тв. у 4-х т. на рускай мове. Працаваць дапамагала жонка, Алена Міхайлаўна. *(Літ. і мастацтва, 13 лістап.; ліст да Я. Хелемскага ад 6 сак.)*

*Сакавік, 6.*

*З успамінаў Я. Хелемскага:* «Апошняе пісьмо, атрыманае мной ад Броўкі, пазначанае шостым сакавіка. Больш дакладна, не пісьмо, а кароткая запіска. На большае сіл, відаць, ужо не было. Але почырк заставаўся, як заўсёды, выразным, каліграфічным. Вось што я прачытаў: «Пішу табе некалькі слоў, яшчэ не маючы пэўнасці. Ёсць надзеі. Імі жыву». *(Якаў Хелемскі. Другая палова жыцця // Успаміны пра Петруся Броўку... С. 124.)*

*Сакавік, 24.*

Пётр Усцінавіч Броўка памёр. Дыягназ: рак горла. *(Літ. і мастацтва, 28 сак.; Гісторыя хваробы № 044.)*

*Сакавік, 26.*

Пахаванне Пятра Усцінавіча. На жалобным мітынгу выступілі: першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР У. Ф. Міцкевіч, старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, народны паэт Беларусі Максім Танк, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР С. В. Сартакоў, слесар вытворчага аб'яднання «Інтэграл», Герой Сацыялістычнай Працы У. У. Забалоцкі, віцэ-прэзідэнт АН БССР А. С. Махнач, ад Саюза пісьменнікаў УССР украінскі літаратар В. Р. Бальшак, ад працаўнікоў сельскай гаспадаркі механізатар калгаса імя Гастэлы Мінскага раёна С. С. Глухаў, ад выбаршчыкаў Полацкай выбарчай акругі сакратар Шумілінскага райкома КПБ М. С. Сянчура, ад літоўскіх літаратараў сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Літвы А. З. Пацюс, ад імя моладзі рэспублікі аспірантка кафедры беларускай мовы Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна А. І. Копаць, першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР І. П. Шамякін, ад імя землякоў старшыня калгаса «Новае жыццё» Ушацкага раёна У. Р. Носік. *(Літ. і мастацтва, 28 сак.)* На магіле П. У. Броўкі ўстаноўлены помнік работы скульптара А. Анікейчыка.

Згодна з Пастановай Савета Міністраў БССР ад 10 ліпеня 1980 г. № 256 імя П. У. Броўкі нададзена: выда-

вецтву «БелСЭ», калгасу «Новае жыццё» Ушацкага раёна Віцебскай вобласці, Вялікадолецкай сярэдняй агульнаадукацыйнай школе. Прысвоена імя П. У. Броўкі вул. Падлеснай у Мінску, вул. Прамысловай у г. Віцебску (новы мікраараён Поўдзень-4), Ветрынскай шашы ў г. Полацку, вул. Ніжне-Узбярэжнай у г. п. Ушачы. Акрамя таго ў новым мікрараёне Гомеля «Волатава» пабудавана вуліца П. Броўкі. На вул. К. Маркса (д. 30, Мінск) устаноўлена мемарыяльная дошка. Устаноўлены мемарыяльныя дошкі на вуліцах П. Броўкі ў Гомелі і Віцебску. У Мінску створан Літаратурны музей П. Броўкі. У в. Пуцілкавічы працуе Хата-музей П. Броўкі — філіял Літаратурнага музея П. Броўкі.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» ажыццяўляе выданне Збору твораў П. Броўкі ў 9-ці тамах (1985—1990 гг.). Гэта ж выдавецтва выдала зборнік успамінаў пра П. Броўку (1986 г.) і зборнік вершаў апошніх гадоў П. Броўкі (1982 г.) Выдавецтва «Беларусь» у 1985 годзе выпусціла фотаальбом, які прысвечаны П. Броўку.

Аб'яднанне «Тэлефільм» выпусціла кінафільм для паказу па тэлебачанні пра П. Броўку. Аўтар І. Калоўскі.

*На працягу года.*

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў зборнік вершаў розных гадоў «І маладосць і сталасць», асобным выданнем паэма «Марат Казей». Пераклад з беларускай мовы І. Бурсава.

# КАМЕНТАРЫІ

У дадзены том уключаны матэрыялы эпісталярнага жанру — найбольш значныя і цікавыя лісты, паштоўкі, тэлеграмы Петруся Броўкі.

Змешчаныя ў томе лісты, паштоўкі, тэлеграмы публікуюцца ўпершыню, за выключэннем адзінага выпадку, які агавораны непасрэдна ў каментарыях.

Крыніцамі публікацыі з'яўляюцца арыгіналы, чарнавыя аўтографы, машынапісныя копіі, ксера- і фотакопіі.

Лісты, паштоўкі, тэлеграмы змешчаны ў томе ў храналагічнай паслядоўнасці або храналагічна-алфавітнай (для лістоў, напісаных у адзін дзень). Незалежна ад аўтарскай даты (ёсць яна або адсутнічае, дакладная ці памылковая) кожны ліст, паштоўка, тэлеграма мае рэдактарскую дату, якая пры адсутнасці аўтарскай ці пры наяўнасці памылковай аўтарскай аргументуецца ў каментарыях. Рэдактарская дата і месца напісання ліста падаюцца курсівам у выглядзе падзагалоўка да ліста. Падаюцца курсівам таксама аўтарскі подпіс у канцы ліста ці паштоўкі, і словы, падкрэсленыя ў лістах аўтарам. Яўныя літарныя апіскі выпраўлены без агаворкі. Гэта датычыцца і знакаў прыпынку. Усе іншыя памылкі агаворваюцца непасрэдна ў каментарыях.

У раздзел «Каментарыі» ўваходзяць: даведка аб крыніцы асноўнага тэксту і месцы яе захавання, даведка пра месца першай публікацыі ліста, аргументацыя рэдактарскай даціроўкі пры адсутнасці аўтарскай. Каменціруюцца рэаліі лістоў: гістарычныя і літаратурныя падзеі, геаграфічныя назвы, асобныя словы з разраду размоўнай лексікі. З-за вялікай колькасці прозвішчы вынесены ў анатаваны паказальнік імёнаў. У гэты паказальнік уключаны і прозвішчы адрасатаў. У канцы кожнай пазіцыі (апошні радок) пасля працяжніка даюцца старонкі тэкста, на якіх упамінаецца тое або іншае імя. Прозвішча, імя і імя па бацьку і старонкі ў канцы кожнай пазіцыі падаюцца курсівам.

На сённяшні дзень са шматлікай і разнастайнай перапіскі Петруся Броўкі сабрана амаль 400 лістоў, паштовак і тэлеграм. Безумоўна, з цягам часу эпісталярый пісьменніка папоўніцца новымі і каштоўнымі дакументамі. Але сёння, на вялікі жаль, з-за абмежаванага аб'ёму дзевятага тома з 400 сабраных намі лістоў, паштовак, тэлеграм у том увойдуць найбольш значныя і цікавыя дакументы.

Рэдкалегія выказвае падзяку ўсім адрасатам і іх родным, хто даслаў рэдакцыйнай калегіі матэрыялы эпісталярыя паэта.

# I

## ЭПІСТАЛЯРНАЯ СПАДЧЫНА П. БРОЎКІ

У гісторыі беларускай савецкай літаратуры нямала цікавых і яскравых старонак, адна з іх звязана з імем народнага паэта Беларусі Петруся Усцінавіча Броўкі. Як паэт і празаік, літаратурны крытык і публіцыст, грамадскі дзеяч, Пятрусь Броўка шырока вядомы не толькі ў рэспубліцы, але і далёка за яе межамі. Аднак чытачы не мелі магчымасці пазнаёміцца яшчэ з адным жанрам у творчасці Петруся Броўкі — літаратурнай, дзелавой, сяброўскай перапіскай паэта, якая з'яўляецца неад'емнай часткай яго літаратурна-мастацкай спадчыны. Не мелі магчымасці таму, што, як правіла, пры жыцці ўдзельнікаў перапіскі эпісталярый не абнародваецца, не становіцца набыткам шырокіх колаў чытачоў. А між тым лісты, паштоўкі, тэлеграмы Петруся Броўкі — цікавы і каштоўны матэрыял для вывучэння біяграфіі пісьменніка, псіхалогіі яго творчасці; крыніца звестак пра ўзнікненне творчых задум і працэс падрыхтоўкі таго ці іншага твора да друку. Перапіска дае магчымасць узнавіць канкрэтныя падзеі літаратурнага і грамадскага жыцця, творчую атмасферу, у якой жыў і працаваў паэт. Акрамя гэтага, эпісталярый багаты на звесткі пра творчыя інтарэсы паэта, кола яго сувязей і ўзаемаадносін, сямейны побыт, грамадскую дзейнасць і г. д.

Лісты, паштоўкі, тэлеграмы Петруся Броўкі вельмі неаднолькавыя як па насычанасці фактычным матэрыялам, так і па аб'ёму, манеры напісання. Гэта знаходзіцца ў прамой залежнасці ад таго, каму адрасаваны ліст, ад роду заняткаў адрасата, ад кола тых пытанняў і праблем, якія ставяцца і вырашаюцца ў лістах.

Безумоўна, лісты Петруся Броўкі не пазбаўлены і пэўнай суб'ектыўнасці ў ацэнцы тых ці іншых фактаў літаратурнага і грамадскага жыцця. Напісанае непасрэдным удзельнікам, відавочцам падзей заўсёды нясе адзнаку суб'ектыўнасці, тым больш гэта адносіцца да такога эмацыянальнага, імпульсіўнага чалавека, якім быў Пятрусь Усцінавіч. Але ад гэтага не зніжаецца каштоўнасць дакументаў.

Апрача ўсяго іншага, перапіска Петруся Броўкі дае магчымасць паслядоўна прасачыць за ідэйна-творчай эвалюцыяй паэта. Гэтаму ў многім спрыяе і своеасаблівы, адметны стыль, які ўласцівы лістам. Адзначаныя рысы яскрава сведчаць: эпісталярый Петруся Броўкі — самастойная, раўнапраўная з іншымі форма творчасці паэта. Нельга супрацьпастаўляць перапіску паэта іншым жанрам яго творчасці або адводзіць ёй толькі службовую ролю — як крыніцы пэўных звестак пра самога пісьменніка, яго асяроддзе, пра падзеі літаратурнага і грамадскага жыцця.

Эпісталярый Петруся Броўкі ахоплівае звыш сарака найбольш напружаных і найбольш плённых год жыцця і творчай дзейнасці паэта. Але, на вялікі жаль, на сённяшні дзень з перапіскі Петруся Усцінавіча 30-х гадоў нам вядома толькі некалькі лістоў да аднаго з самых блізкіх сяброў — Пятра Глебкі. Безумоўна, наяў-

насць большай колькасці лістоў гэтага перыяду дала б нам магчымасць шырэй і глыбей пазнаць даволі драматычны перыяд жыцця краіны, рэспублікі таго часу. Вельмі можа быць, што ў гэтыя гады людзі не асабліва davяралі паперы.

Трагічнымі былі і 40-я гады — гады барацьбы савецкага народа з фашысцкім нашэсцем. Перапіска Петруся Броўкі перыяду Вялікай Айчыннай вайны даносіць да нас, сучасных чытачоў, суровы подых часу, напружанасць становішча ў краіне. Як сведчаць лісты, Пятрусь Усцінавіч на пачатку вайны разам з М. Лыньковым, К. Крапівой, А. Стаховічам, В. Барысенкам працаваў у рэдакцыі газеты Бранскага і Заходняга франтоў «За Савецкую Беларусь» (распаўсюджвалася сярод партызан і насельніцтва на часова акупіраванай тэрыторыі), а з канца 1942 года быў пераведзены ў распараджэнне ЦК ВКП(б). Ваенная перапіска Петруся Броўкі яскрава адлюстроўвае настрой, думкі, душэўны стан, перажыванні не толькі самога паэта, але і тых, з кім ён працаваў і сустракаўся. Нялёгкія ўмовы жыцця і працы членаў рэдакцыі ўскладняліся яшчэ і сумнымі паведамленнямі з фронту, адсутнасцю звестак пра сем'і, пра блізкіх і знаёмых. Так, 4 верасня 1942 года Пятрусь Броўка пісаў Якубу Коласу: «Страшна баліць сэрца, як успомню пра сваю маці. Чамусьці яна стала мне сніцца з ночы ў ноч. А як прыгадаю родныя мясціны, проста не знаходжу сабе месца. Я ўжо даходжу часамі да містыкі. Вось вазьму ды сабе загадаю: калі вялізны камень (ёсць у нас такі на краі дарогі ля сяла) ляжыць цяпер на месцы, значыць, і я вярнуся дахаты. Да чаго толькі не дадумаешся!» Але, нягледзячы на страшэнна цяжкае становішча ў краіне, народ верыў у блізкую перамогу, верыў у хуткае вызваленне ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У тым жа лісце ад 4 верасня 1942 года да Якуба Коласа ёсць і такія словы: «Будзем верыць, што яшчэ доўга паходзім па роднай зямлі». Або ў лісце да Якуба Коласа, які быў напісаны ў пачатку ліпеня 1942 года: «Жадаю Вам здароўя і сіл, а таксама хутчэйшай сустрэчы з Вамі ў больш радасны час». Усё гэта адыгрывае істотную ролю ў стварэнні драматычнага і напружанага вобраза часу, калі ішла жорсткая барацьба за жыццё і будучыню чалавецтва.

Але характарыстыка Броўкавага эпісталярыя будзе няпоўнай, калі не адзначыць яшчэ адну яго асаблівасць. Гэта раскіданыя па многіх лістах лаканічныя выказванні, заўвагі паэта па літаратурных пытаннях, яго ацэнка пэўных мастацкіх твораў, паасобных літаратурных падзей. Адзначаная асаблівасць характэрна для перапіскі як ваеннага, так і мірнага часу. Безумоўна, Пятрусь Броўка, як і кожны чалавек, мог памыляцца ў ацэнцы тых ці іншых твораў або з'яў, але ў большасці выпадкаў час пацвердзіў справядлівасць паэтавых меркаванняў. Так, 3 лютага 1943 года Пятрусь Усцінавіч пісаў Якубу Коласу: «За гэты час скончылі Максім Танк і Аркадзь Куляшоў свае паэмы. Погляды на іх розныя, адно трэба сказаць, што рэчы добрыя, хоць і непазбаўленыя, як заўсёды, недахопаў». Або: «Атрымаў твае вершы. Абодва добрыя, але мне больш падабаецца: «Яшчэ рана, хлопцы, атрасаць...» Ён больш задушэўны, лірычны»,— адзначае П. Броўка ў лісце да П. Панчанкі 21 ліпеня 1943 года. Як бачым, паэтава меркаванне супадае з агульнапрынятай станоўчай ацэнкай названых вышэй твораў.

Не ўсе беларускія пісьменнікі дажылі да светлага Дня Перамогі. З горыччу і болем пісаў Пятрусь Броўка Якубу Коласу пра смерць старэйшых таварышаў — Янкі Купалы: «Смерць Янкі так

выбіла з раўнавагі, што літаральна не мог узяцца за пяро. Які недарэчны выпадак!» (пачатак ліпеня 1942 года) і Змітрака Бядулі: «Сумная навіна: памёр Змітрок Бядуля ў Уральску ад разрыву сэрца. Бядняга не дачакаўся звароту дахаты» (ліст ад 26 снежня 1941 года). Таму заслугоўвае ўвагі наступнае выказванне Петруся Броўкі: «Літаратурнае жыццё можна было б ажывіць, каб у нас было болей людзей. Часопісаў і розных выданняў больш, як да вайны, а пісьменнікаў, асабліва добрых, прыбавілася мала» (ліст Пімену Панчанку 23 ліпеня 1945 года).

Безумоўна, можна было б яшчэ цытаваць лісты Петруся Броўкі, прыводзіць яго выказванні пра творы беларускіх, рускіх, украінскіх і іншых пісьменнікаў. Але нельга пакінуць па-за ўвагай і звесткі паэта пра ўласныя творы. Вядома, не пра ўсе больш-менш значныя вершы і паэмы вядзецца размова ў лістах. За пяцьдзесят год працы ў літаратуры Петрусём Броўкам напісана шмат вершаваных і празаічных твораў, літаратурна-крытычных і публіцыстычных артыкулаў. Таму зразумела, што лісты не маглі ахапіць творчую гісторыю ўсяго напісанага паэтам. Чытач не знойдзе падрабязных звестак пра тое, як ішла работа над словам твора, як шліфаваўся той ці іншы верш. Але лісты цікавыя трохі іншым. Асноўную ўвагу аўтар звяртае на працэс падрыхтоўкі да друку і апублікавання сваіх твораў: «Верш «Пахне чабор» я перагледзеў і адаслаў у «Звязду». Верш «Развітанне» я буду правіць на беларускай мове і адпаведна з гэтым будзе патрэбна праўка і перакладу» (ліст да Паўла Кабзарэўскага ад 7 сакавіка 1958 года). А заўвагі па творчай гісторыі вершаў, паэм і г. д. часам вельмі лаканічныя і скупыя. Так, у лісце да М. А. Абалкіна ад 1 ліпеня 1960 года Пятрусь Броўка піша пра сваю паэму «Голас сэрца» наступнае: «...Посвящена она образу матери, на обращении автора к которой и построена вся вещь. К сожалению, для меня всё это — жестокая реальность. Мою мать и многих родственников оккупанты сожгли в Освенциме».

Апрача ўсяго іншага, пэўную цікавасць могуць прадстаўляць лісты часу дзейнасці Петруся Броўкі на пасадзе Старшыні Саюза пісьменнікаў БССР, а затым Галоўнага рэдактара Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Гэтыя лісты багаты на звесткі пра ўдзел паэта ў канферэнцыях, пленумах, з'ездах, вечарах, дэкадах літаратуры і мастацтва. Пятрусь Броўка ў аднолькавай ступені займаўся як сур'ёзнымі, так і менш значнымі пытаннямі рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі. Не ў характары паэта было адкінуць якую-небудзь праблему, не звярнуць на яе ўвагі. У 1967 годзе Пятрусь Броўка ўзначаліў створаную ўпершыню рэдакцыю Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Не было належнага вопыту ў выданні энцыклапедычнай літаратуры, патрэбны былі кваліфікаваныя кадры, але, нягледзячы на пэўныя цяжкасці, першая 12-томная беларуская энцыклапедыя выйшла ў тэрмін. Пятрусь Броўка рэгулярна чытаў усе выдавецкія матэрыялы, пільна сачыў за своечасовым выхадам чарговых тамоў. Так, у лісце да П. Д. Пузікава, І. Д. Казекі, А. Л. Петрашкевіча 20 снежня 1969 года ёсць наступныя радкі: «Чытаю 5 выпуск. Скончу — прышлю з заўвагамі. Вельмі прашу Вас — старайцеся трымацца графіка». Або: «Пасылаю Вам 9 выпуск III тома. Абмяркуйце мае заўвагі і патрэбнае ўлічыце. Калі прышлеце новы выпуск, прачытаю. Часу тут хапае. Як там з II томам? Ці паказалася яго галава з нетраў паліграфкамбіната?» (ліст супрацоўнікам БелСЭ, канец 1970 года).

Нямала працаваў Пятрусь Броўка і як дэпутат Вярхоўнага Савета БССР і СССР. На працягу многіх гадоў выбіраўся ён у вышэйшы орган улады. Да паэта, народнага выбранніка, звярталіся за дапамогай, парадай не толькі яго непасрэдныя выбаршчыкі, але і людзі з іншых выбарчых акругоў. Але з дэпутацкай перапіскі Петруся Броўкі на сённяшні дзень мы маем пакуль што толькі некалькі лістоў, якія былі напісаны ў канцы 50-х гадоў. Безумоўна, з цягам часу стануць вядомы новыя і цікавыя дакументы. Неадназова прыходзілася Петрусю Усцінавічу працаваць і ў камісіях па выбарах у вышэйшыя органы краіны і рэспублікі. Так, у лісце ад 8 студзеня 1951 года да Якуба Коласа Пятрусь Броўка пісаў: «Паслалі тут мяне без Вас у Цэнтральную выбарчую камісію, і я закруціўся».

Сярод лістоў ёсць некалькі напісаных Петрусём Броўкам з ЗША, калі ён у 1959 годзе ў якасці члена дэлегацыі Беларускай ССР удзельнічаў у рабоце сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Нельга сказаць, што гэтыя лісты вельмі вялікія па аб'ёму і насычаны разгорнутымі апісаннямі. У іх пераважае інфармацыя. На лісты можна было і не звярнуць увагі, калі б не два цікавыя моманты. Па-першае, мы даведваемся, што ў Нью-Йорку напісаны вершы «Сапраўднаму амерыканцу», «Вайсковы аркестр на Брадвеі», «Нявыказанае выступленне на Генеральнай Асамблеі», якія былі адасланы для апублікавання ў газеце «Правда»: «Естественно, что коечто пришло в голову. Написал стихи. Посылаю в «Правду» через товарища, уезжающего в Москву. Посылаю для уверенности три стиха в трех письмах: «Невысказанное выступление на Генеральной Ассамблее», «Настоящему американцу» и «Военный оркестр на Бродвее». Думаю, что они подходят и в свете сегодняшнего положения в мире и в свете советско-американских отношений» (ліст да М. А. Абалкіна ад 5 лістапада 1959 года). А па-другое, гэта ацэнка Петрусём Усцінавічам прыезду ў Нью-Йорк М. С. Хрушчова: «Што тут было цікавага за апошні час, дык гэта прыезд М. С. Хрушчова. Усе тут жылі гэтым. Мне давялося яго слухаць на Асамблеі і некалькі разоў па тэлевізары. Ён зрабіў так многа, што проста дзівіўся яго энергіі, хоць яна і дома не меншая» (ліст да Пімена Панчанкі ад 28 верасня 1959 года).

Вядома, што ў невялікім аглядзе эпісталярнай спадчыны Петруся Броўкі немагчыма ахапіць абсалютна ўсе праблемы, асвятліць усе пытанні, якія ставяцца і вырашаюцца ў лістах. Будзем спадзявацца, што чытачам будзе цікава пазнаёміцца з найбольш значнымі і цікавымі лістамі, паштоўкамі і тэлеграмамі Петруся Усцінавіча Броўкі, якія ўвайшлі ў дадзены том.

А. І. ШАМЯКІНА

1. *П. Ф. Глебку* (с. 7)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа, ф. 24, в. 1, спр. 1125, л.1.

*Нікачка, Ніна* — Н. І. Глебка.

*Ісакі* — Ісакіеўскі сабор у Ленінградзе.

*«Англетэр»* — гасцініца ў Ленінградзе, зараз знесена.

*Барашачка* — І. Барашка.

*пленум 20.*— 24 лютага — 2 сакавіка 1933 г. пленум аргкамітэта ССПБ, на якім з прамовай выступіў П. Броўка.

*Сцэнарый здам на мастацкую раду 16—17-га...*— Сцэнарый фільма «Кто твой друг». Дагавор на гэты фільм быў заключаны са студыяй «Белдзяржкіно», якая знаходзілася ў Ленінградзе на канале Грыбаедава.

*«Кармэн»* — опера французскага кампазітара Ж. Бізэ (1838—1875).

*Амаль падрыхтаваў сваю старонку ў «ЛіМ».*— Відаць, артыкул «У пошуках паэзіі» (ЛіМ, 1933, 6 верасня).

*Лёля* — А. М. Броўка.

2. *П. Ф. Глебку* (с. 8)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа, ф. 24, в. 1, спр. 1125, л. 3.

*Мікола* — відаць, М. Хведаровіч.

*Лёва, Лёля* — А. М. Броўка.

*Сымон* — відаць, С. Баранавых.

3. *П. Ф. Глебку* (с. 10)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа, ф. 24, в. 1, спр. 1125, л. 11.

*Чаму ты на мяне набрахаў у «Звяздзе»?* — Маецца на ўвазе выступленне П. Глебкі на сустрэчы маладых беларускіх пісьменнікаў з кіраўніком аднаго з маскоўскіх літаратурных гурткоў т. Бекерам. П. Глебка адзначыў, што ў некаторых паэтаў Беларусі (напр., у П. Броўкі) няма чулых адносін да пачынаючых паэтаў, чым тлумачыцца недастатковая дапамога ім. У газ. «Звязда» за 11/II-35 г. надрукавана невялікая справаздача аб гэтай сустрэчы.

4. *П. Ф. Глебку* (с. 10)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа, ф. 24, в. 1, спр. 1125, л. 12.

*Юрка* — Ю. П. Броўка.

*Пуцілкавічы* — вёска ў Ушацкім раёне Віцебскай вобласці, радзіма П. Броўкі.

*Мар'я Канстанцінаўна* — М. К. Хайноўская.

*Выдавецтва проста гвалт крычыць, што няма Шата Руставелі.*— Размова ідзе аб выданні на беларускай мове паэмы Шата Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры». У перакладзе паэмы прымалі ўдзел П. Броўка і П. Глебка. Але кніга, відаць, не была выдадзена.

*Мною перакладзены: главы 21, 22, 23...*— Главы з паэмы «Віцязь у тыгравай шкуры».

5. *Якубу Коласу* (с. 11)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Прыехаў я ў Маскву з Саратава...*— П. Броўка быў камандзіраваны ў Саратаўскую вобл. для ўладкавання бежанцаў, жонак і дзяцей пісьменнікаў-чырвонаармейцаў. У Саратаве да восені 1941 г. знаходзілася і сям'я П. Броўкі.

*...а Вас ужо няма.*— З 14 жніўня 1941 г. Я. Колас з сям'ёй жыве ў Ташкенце, куды была пераведзена Акадэмія навук БССР.

*Учора прыехаў тав. Панамарэнка, і цяпер наша справа выраішаецца.*— П. Броўка быў накіраваны ў рэдакцыю газеты «За Савецкую Беларусь», якая выходзіла на Бранскім і Заходнім франтах.

*Юрка* — Ю. К. Міцкевіч.

*Янка* — Янка Купала.

*Лёля* — А. М. Броўка.

*Лёля паехала да сваіх у Алма-Ату.*— Восенню 1941 г. сям'я П. У. Броўкі пераехала да сваякоў у Алма-Ату.

*Марыя Дзімітраўна* — М. Д. Міцкевіч.

*Міхаська* — М. К. Міцкевіч.

*Данік* — Д. К. Міцкевіч.

6. *Якубу Коласу* (с. 12)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Шлю Вам, Мар'і Дзімітраўне, Даніку і Міхасю прывітанне ад усіх хлапцоў, якія кожны дзень у густым сасновым бары ўспамінаюць Вас.*— Маецца на ўвазе прывітанне ад членаў рэдакцыі газеты «За Савецкую Беларусь».

*Просім мы, каб Вы былі сталым супрацоўнікам нашай роднай газеты «За Савецкую Беларусь».*— З ліста да П. Броўкі ад 17. XII. 1941 г.: «За вялікі гонар, які аказалі вы мне, увёўшы ў склад рэдакцыі, шчыра дзякую» (Т. 13, с. 253).

*Прысылайце нам усё, што можаце.*— У лісце да П. Броўкі ад 2. X. 41 Я. Колас паслаў верш «Абаронцам роднай зямлі» («За Савецкую Беларусь», 1941, 17 снежня).

*Напішыце і прозай зварот да беларускіх партызанаў.*— Зварот да беларускага народа «На бітву, браты-беларусы» надрукаваны ў «Савецкай Беларусі» ад 7 лістапада 1941 г. і прачытаны па радыё Я. Коласам.

7. *Якубу Коласу* (с. 12)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Нонік* — Пятро Глебка.

*Янка* — Янка Купала.

*Цёця Уладзя* — У. Ф. Луцэвіч.

*Дзе цяпер Янка і цёця Уладзя, не ведаем.*— У гэты час Я. Купала знаходзіцца ў Чэбаксарах ( па дарозе ў Казань).

*...Можа, Вы і пісалі каму з нас...*— Лынькову М. Ц. I.VIII.1941, 8.X.1941; Броўку П. У. 2.X.1941.

8. *Якубу Коласу* (с. 13)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*...Міхал і я атрымалі лісты і вершы.*— Лынькову М. Ц. 1.VIII.1941, 8.X.1941; Броўку 2.X.1941. У лісце Броўку 2.X.1941 быў верш «Абаронцам роднай зямлі» («За Савецкую Беларусь», 1941, 17 снежня).

*...за добрым сталом пры «дзядзьку Карусю»* — жартоўная назва выпіўкі.

*...Вы перажылі такое няшчасце: хваробу Мар'і Дзімітраўны.*— Мар'я Дзімітраўна хварэла на запаленне лёгкіх, ляжала доўга ў бальніцы.

*Янка* — Янка Купала.

*Юрачка* — Ю. П. Броўка.

*Ад Янкі ніякіх вясцін... Куды ён паехаў, невядома.*— З 13.XI.1941 па 13.VI.1942 Я. Купала жыве ў пасёлку Печышчы (ваколіцы Казані).

*Пухавічы* — вёска ў Пухавіцкім р-не Мінскай вобл. на р. Свіслач і Цітаўка.

*Талька* — вёска ў Пухавіцкім р-не Мінскай вобл. на р. Талька.

*Загібелька* — невялічкая вёска ў Пухавіцкім р-не Мінскай вобл. Там Я. Колас часта праводзіў свой адпачынак.

*Міхал* — Міхась Лынькоў.

*Кандрат* — Кандрат Крапіва.

9. *П. Ф. Глебку* (с. 14)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа, ф. 24, в. 1, спр. 1125, л. 15.

*Наконец ты нашелся.*— П. Глебка пасля шпіталю некаторы час працаваў у газ. «Чырвонаармеец» (г. Саратаў), потым працаваў у рэдакцыях газет «За Савецкую Беларусь» і «За свабодную Беларусь».

*Михал* — М. Ц. Лынькоў.

*Лёля* — А. М. Броўка.

*Юра* — Ю. П. Броўка.

*Кузьма* — К. Чорны.

*Нина* — Н. І. Глебка.

У канцы пісьма подпіс аўтара адсутнічае.

10. *Якубу Коласу* (с. 15)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*...памёр Змітрок Бядуля ў Уральску ад разрыву сэрца.*— 3-га лістапада. Пахаваны ва Уральску.

*Друкуем Вашы вершы.*— У газеце «За Савецкую Беларусь» (нумары за 17 жніўня 1941, 19 верасня 1941, 17 снежня 1941) былі змешчаны вершы Я. Коласа «Байцам-камсамольцам», «Смерць разбойнікам», «Абаронцам роднай зямлі».

11. *П. Ф. Глебку* (с. 15)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа, ф. 24, в. 1, спр. 1125, л. 16.

*Ілля* — І. Д. Гурскі.

*Айзік* — А. Кучар.

*Міхал* — М. Ц. Лынькоў.

*Кандрат* — К. Крапіва.

*Пімен* — П. Е. Панчанка.

*...напісаў некалькі вершаў...*— «Будзем сеяць, беларусы», «Дахаты», «На дарозе Мінск — Масква», «Пастух», «Помста», «Нязлоўны» і інш.

*...не люблю я працаваць над лібрэта, вельмі ўжо яно мне агоркла раней...*— П. Броўка — аўтар лібрэта оперы «Міхась Падгорны» (1940) і адзін з аўтараў лібрэта оперы «Кветка шчасця» (1940).

*Колас паехаў у Ташкент.*— Я. Колас прыязджаў на сесію АН БССР, якая праходзіла ў Казані.

*Нортман знайшоў Юрку.*— Тое, што знайшлі сына Я. Коласа Юрку, было памылкай. Гл. таксама каментарый да пісем Я. Коласу ад 5.V.42 і 16.VI.42.

12. *Якубу Коласу* (с. 17)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Учора прынёс Вашу першую паштовачку Міхалу.*— М. Ц. Лынькову 17/IV.1942.

*Юрка знайшоўся.*— У лісце П. Броўку ад 3.XII.1941 г. Якуб Колас пісаў пра сына Юрку: «Дзе ён, што з ім, не ведаю. Яшчэ 18 верасня паслаў яму заказное пісьмо. Гэта пісьмо вярнулі мне

з прыпіскай для ўдакладнення № палявой станцыі, бо 49-га КАП па старому адрасу пісьмо не застала. Полк выбыў, а куды — невядома. Горка мне стала. Розныя мыслі лезлі ў галаву, а слёзы выбіваліся з вачэй. Апошняе пісьмо ад Юркі было ад 20/IX» (Т. 13, с. 249).

13. *Якубу Коласу* (с. 18)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Спазніўся я тады прыбегчы на вакзал.*— У пачатку лютага 1942 г. Якуб Колас выехаў з Ташкента ў Маскву, каб адтуль накіравацца на сесію Акадэміі навук БССР, якая павінна была адбыцца ў Казані. На сесіі ён рабіў справаздачу аб рабоце АН БССР за 1941 г. П. Броўка не паспеў прыйсці на вакзал, каб праводзіць Я. Коласа ў Ташкент.

*Беразянка* — невялікі пасёлак у Пухавіцкім р-не Мінскай вобл.

*У № 1044 я стаў старажылам...*— Хутчэй за ўсё № 1049 гасцініцы «Масква». У гэтым нумары жыў Я. Колас, калі ехаў праз Маскву ў Казань на сесію АН БССР.

*Наколькі я ведаю, яны і дагэтуль нічога не выпусцілі.*— Відаць, зб. Я. Коласа «Голас зямлі».

14. *П. Ф. Глебку* (с. 18)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа, ф. 24, в. 1, спр. 1125, л. 21.

*Пімен* — П. Е. Панчанка.

*Чытаю амаль кожны нумар В/газеты і «Дубінкі».*— Газета «За свабодную Беларусь» і сатырычны лісток «Партызанская дубінка».

*Знайшоў меншага брата — Косцю.*— Загінуў потым на фронце. У Літаратурным музеі П. Броўкі захоўваецца пахавальная на Канстанціна Усцінавіча Броўку.

*...скончыў нарэшце падрабязны план лібрэта.*— План лібрэта оперы «Алеся» («Дзяўчына з Палесся»).

*Напісаў некалькі вершаў.*— Гл. каментарый да ліста ад 28.IV.42 г.

*Ілля Данілавіч* — І. Д. Гурскі.

*Айзік* — А. Кучар.

15. *Якубу Коласу* (с. 19)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Калі ў яго выйдзе кніжка — невядома.*— Відаць, «Голас зямлі». Кніга ў гэтым выдавецтве не выйшла.

*Прыехаў Панамарэнка і паставіў пытанне аб перадачы нас пад загад ЦК.*— Восенню 1942 г. рашэннем ЦК КПБ М. Лынькоў, К. Крапіва, П. Глебка, І. Гурскі і П. Броўка былі адкліканы з фронту ў Маскву ў распараджэнне Цэнтральнага штаба партызанскага руху.

*Ганялі мы Нортмана. Ён клянецца, што бачыў Юрку ~ Я таксама баюся, ці не наблытаў ён.*— У лісце П. Броўку ад 28/V.1942 г. Я. Колас піша: «Я не ведаю, як мне радавацца з поваду паведамлення аб Юрку. Нас засмучае адно: чаму ж Юрка не напіша нам? Ён жа ведае наш адрас. Калі б ён яго страціў, то мог бы напісаць у Клязьму. Баюся, што тут выйшла непаразуменне. Ёсць наш зямляк і аднафамілец Коля. Можа, яго Нортман прыняў за Юрку» (Т. 13, с. 286).

*Янук* — Янка Купала.
*Уладка* — У. Ф. Луцэвіч.
*Нонік* — Пятро Глебка.

16. *Якубу Коласу* (с. 20)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве сям'і Я. Коласа.

Паколькі адрэзаны правы вугалок, ліст датуецца паводле зместу: «Смерць Янкі...» — Янка Купала памёр 28.VI.1942 г.

Па гэтай самай прычыне прыкладна ўзноўлены некаторыя словы. Яны падаюцца ў вуглавых дужках.

*Міхал* — М. Ц. Лынькоў.

*Кузьма* — Кузьма Чорны.

17. *Якубу Коласу* (с. 20)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве сям'і Я. Коласа.

*Саксаул* — 1. Невысокае бязлістае дрэва (або хмызняк) сямейства маравых, якое расце ў сярэднеазіяцкіх саланчаковых пустынях; 2. драўніна гэтага дрэва.

*Міхал* — М. Ц. Лынькоў.

*Чакаў я, чакаў другога фронту...*— У 1942 г. нашы саюзнікі (ЗША і Англія) павінны былі адкрыць у Заходняй Еўропе другі фронт. Другі фронт быў адкрыты толькі ў 1944 г.

*...Туранкоў прадаўся немцам.*— Звесткі не пацвердзіліся.

*За ўвесь месяц я напісаў 1 главу паэмкі і 2 песні для кіно.*— Глава «Паэмы пра Смалячкова», 2 песні для беларускага кіназборніка.

*Клумаў просіць, каб Вы яму дапамаглі з лібрэта.*— Відаць, размова ідзе пра лібрэта музыкальнай камедыі «Прыгоды Фрыца» (лібрэта напісана А. Астрэйкам і У. Няфёдам).

*С. М.* — С. М. Гарадзецкі.

18. *П. Ф. Глебку* (с. 22)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа, ф. 24, в. 1, спр. 1125, л. 18.

*Якуб* — Якуб Колас.

*Прабыў я... месяц ў Алма-Аце...*— П. Броўка ў час адпачынку ездзіў да сям'і ў Алма-Ату.

*Быў я ў Ташкенце.*— Па дарозе ў Алма-Ату П. Броўка заязджаў да Я. Коласа ў Ташкент.

*Колас засмучаны смерцю Янкі...*— смерцю Янкі Купалы.

*...балюча пераносіць адсутнасць вестак пра Юрку...*— Я. Колас не меў ніякіх звестак пра сына Юрку. Тое, што бачылі Юрку ў Калузе, было памылкай. Гл. таксама каментарый да пісем Я. Коласу ад 5.V.42 і ад 16.VI.42.

*Цяпер сяджу над трэцім актам лібрэта...*— Лібрэта оперы «Алеся» («Дзяўчына з Палесся»).

*Іллюшка* — І. Д. Гурскі.

*Пімен* — П. Е. Панчанка.

19. *Якубу Коласу* (с. 24)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве сям'і Я. Коласа.

*Кандрат* — К. Крапіва.

*Лапіць* (разм.) — латаць.

*Кончыў пісаць паэмку пра Смалячкова і лібрэта.*— Паэма пра Смалячкова (1942) і лібрэта оперы «Алеся» (разам з Я. Рамановічам).

*Нонік* — Пятро Глебка.

20. *Якубу Коласу* (с. 25)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*...першы раз 7—8 студзеня на сход інтэлігенцыі...*— Да 16 студзеня 1943 г.— з'езд беларускай інтэлігенцыі ў Маскве.

*...а другі — цяпер у лютым на Усеславянскі пленум...*— III Усеславянскі мітынг адбыўся 9 мая 1943 г.

*Лёля* — А. М. Броўка.

*Юрка* — Ю. П. Броўка.

*Арганізавана выдавецтва...*— Дзяржвыд БССР, які ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны быў эвакуіраваны ў Маскву, у кастрычніку 1942 г. быў рэарганізаваны ў выдавецтва ЦК КП(б)Б «Савецкая Беларусь:», са снежня 1943 г. зноў Дзяржвыд БССР.

*...сярод іх адна і мая вершаваная кніжачка.*— Зб. «Насустрач сонцу» (М.: выд-ва ЦК КП(б)Б, 1943).

*Ёсць там у плане ваш аднатомнік выбраных вершаў і паэм і зборнік твораў за часы Айчыннай вайны.*— Зборнікі Я. Коласа «Голас зямлі» (вершы) і «Суд у лесе» (паэма) (М.: выд-ва ЦК КП(б)Б, 1943).

*«Савецкая Беларусь»*, газета, орган ЦК КП(б)Б, Саўнаркома і Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, якая выдавалася з кастрычніка 1941 да вызвалення Мінска ад ням.-фаш. захопнікаў (да 10.4.43 орган ЦК і Мінскага абкома КП(б)Б. Друкавалася ў Арле, потым у Казані, Маскве, Навабеліцы на беларускай, а з 10.4.43 і на рускай мовах. Была разлічана на насельніцтва часова акупіраванай Беларусі.

*За гэты час скончылі Максім Танк і Аркадзь Куляшоў свае паэмы.*— М. Танк «Янук Сяліба» (1943), А. Куляшоў «Сцяг брыгады» (1943).

*Так мне і не давялося прачытаць Ваш «Суд у лесе»* — «Суд у лесе» (паэма, 1943).

*...помніце — чытаў у Ташкенце...*— Летам 1942 г. П. Броўка атрымаў адпачынак і ехаў да сваёй сям'і ў Алма-Ату. Па дарозе ён заехаў да Я. Коласа ў Ташкент. У Ташкенце і былі прачытаны главы з паэмы пра Смалячкова.

*...скончыў і здаў лібрэта оперы...*— Лібрэта оперы «Алеся» («Дзяўчына з Палесся», разам з Я. Рамановічам). Опера пастаўлена ў 1944 г.

*...напісаў некалькі новых вершаў...*— «Землякам», «Надзя-Надзейка», «Байцам-беларусам».

*...нават перакладаў Вашы радкі з беларускай на рускую мову (гэта ў артыкуле Дабрыніна...)* — Дабрынін М. Замечательный поэт славянскага мира (Я. Колас) — Известия, 1942, 3 лістапада.

*Міхал* — М. Ц. Лынькоў.

*Кандрат* — К. Крапіва.

*Я так і бачу Вас прасвятлеўшым каля ташкенцкага рупара.*— Відаць, у сувязі з перамогай Савецкай Арміі пад Сталінградам.

*Вунь і Кузьма, бедалага, хворы.*— Кузьма Чорны хварэў туберкулёзам.

*Ходзяць па вуліцах нашы афіцэры ў новенькіх пагонах.*— Указам ад 6 студзеня 1943 г. у Савецкіх Узброеных Сілах былі ўведзены пагоны.

*...а да таго ж добрыя весткі з фронту вельмі саграюць душу.*— Весткі пра перамогу Савецкай Арміі пад Сталінградам, пра пачатак наступлення на Каўказе.

*Прывязлі партызаны ў Маскву старога дзеда Талаша.*— З пачатку 1943 г. дзед Талаш у Маскве, выступаў перад рабочымі, воінамі, якія адпраўляліся на фронт.

*А можа, і можна было б падумаць пра другую частку.*— Другая частка аповесці «Дрыгва» не была напісана.

21. *П. Е. Панчанку* (с. 28)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Мінск), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя П. Броўкі да П. Панчанкі, што ўвайшлі ў дадзены том.

*Нонік* — Пятро Глебка.

*Я асабіста каторы час бяруся за паэму...*— Паэма «Беларусь» (1943).

*Хлопцы нашы ўсе на месцы, за выключэннем Аркашы, які паехаў у сваю старую газету.*— У 1941—1943 гг. А. Куляшоў у армейскай газеце «Знамя Советов».

*Міхал наш атрымаў сумную вестку. Загінула яго сям'я.*— У 1942 г. у М. Ц. Лынькова загінулі ад рук ням. -фаш. захопнікаў жонка і сын.

*Кузьма акрыяў так, што нават учора сам прыходзіў да мяне ў госці.*— У Кузьмы Чорнага было некаторае паляпшэнне стану здароўя (хварэў туберкулёзам).

*Максім* — М. Танк.

*Кандрат* — К. Крапіва.

22. *Л. А. Бэндэ* (с. 29)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 66, в. 1, спр. 776, л. 1.

Імя «Васіль» часам выкарыстоўвалася як зварот да Л. Бэндэ.

*Наш універсітэт пачынае працу 1 кастрычніка пад Масквой.*— У 1943 годзе на ст. Сходня пад Масквой пачаў работу Беларускі універсітэт.

*Купалаўская камісія Акадэміі навук БССР...*— Маецца на ўвазе камісія па літаратурнай спадчыне Я. Купалы.

23. *П. Ф. Глебку* (с. 30)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа, ф. 24, в. 1, спр. 1125, л. 24.

*Вылучалі кандыдатаў на прэмію. Вылучылі Коласа, Куляшова, Танка.*— Дзяржаўныя прэміі СССР 1946 года былі прысуджаны Я. Коласу (за вершы, напісаныя ў гады вайны); А Куляшову (за паэму «Сцяг брыгады»).

24. *П. С. Кабзарэўскаму* (с. 31)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 31, в. 2, спр. 292, л. 1.

*Кстати, пришли кое-что Прокофьева, Саянова и др. Переведем и напечатаем.*— А. Пракоф'еў: «Звініць дрымучы бор і б'е ў маё акно...», «Дзесь гром грыміць, а тут яшчэ ў спакоі...» (Беларусь, 1946, № 4), «Тры паштоўкі на поўдзень» (Беларусь, 1946, № 3);

В. Саянаў: паэма «Белавежская аповесць (Са славянскіх паданняў)» (Полымя, 1946, № 6), вершы «Варшава», «Шляхі наступлення» (ЛіМ, 1945, 12/XII).

25. *П. Е. Панчанку* (с. 31)

Друкуецца па арыгінале.

*Вершы, што перадаў Максім, ідуць у № 5.*— Панчанка П. Франтавік (Полымя, 1945, № 5—6).

*Максім* — М. Танк.

*Лынь прыляцеў з Сан-Францыска.*— М. Ц. Лынькоў прымаў удзел у рабоце канферэнцыі ААН.

*Кулеш* — А. Куляшоў.

*Гурскі бясконца піша апавяданні, драмы і камедыі.*— Апов. «Лясныя салдаты» (Мн., 1945), зб. апавяд. «Над Нёманам» (Мн., 1945), «На родных гонях» (Мн., 1948).

26. *У рэдакцыю газ. «Правда»* (с. 33)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі.

*Вадзім Міхайлавіч* — В. М. Кажэўнікаў.

*Кірыл Васілевіч* — К. В. Патапаў.

*Юрый Барысавіч* — Ю. Б. Лукін.

*Примите мое, хотя и запоздалое, поздравление с высокой наградой.*— Газ. «Правда» была ўзнагароджана ордэнам Леніна.

27. *П. С. Кабзарэўскаму* (с. 33)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 31, в. 2, спр. 292, л. 2.

*Очень рад, что дело с антологией у вас движется* — Анталогія беларускай паэзіі (Л., 1948).

*Передай Саше Прокофьеву, что я уже перевел около 700 строк «России» ~ Его поэма в моем переводе пойдет в № 5 «Полымя».*— «Расія» (Полымя, 1946, № 5).

*Поторопи Сашу — пусть он присылает остальные стихи для сборника.*— Маюцца на ўвазе творы для зборніка А. Пракоф'ева «Выбраныя вершы» (Мн., 1948).

*Посылаю на твое имя пару новых стихов.*— «Брат и сестра», «Дождь», (Звезда. 1946, № 7—8); «Кастусь Калиновский», «Метелица» (Звезда, 1946, № 4). Вершы «Брат і сястра», «Кастусь Каліноўскі» і «Мяцеліца» ўвайшлі потым у анталогію беларускай паэзіі (Л., 1948).

*Николай* — М. Л. Браўн.

*Всеволод Александрович* — У. А. Раждзественскі.

*Митя* — відаць, Дзм. А. Леванеўскі.

*Виктор Саянов* — імя Віктар выкарыстана тут як варыянт імя Вісарыён.

28. *П. С. Кабзарэўскаму* (с. 34)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 31, в. 2, спр. 292, л. 3.

*В отношении Гаруна я один решить не могу.*— Відаць, размова ідзе аб тым: уключаць ці не творы А. Гаруна ў анталогію беларускай паэзіі (Л., 1948).

*Что с В/антологией и сборником Саши, затрудняюсь сказать, потому что уже месяц болею и не выхожу из дома.*— 1. Паэты Ле-

нінграда (Мн., 1948); 2. Пракоф'еў А. А. Выбраныя вершы (Мн., 1948).

*Александр Андреевич* — А. А. Пракоф'еў.

*Николай Леопольдович* — М. Л. Браўн.

*Всеволод Александрович* — Ус. Ал. Раждзественскі.

*Виссарион Михайлович* — В. М. Саянаў.

29. *Якубу Коласу* (с. 35)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве сям'і Я. Коласа.

*«Чэрлінае мора»* — Чорнае мора.

*Лёля* — А. М. Броўка.

30. *Д. Д. Осіну* (с. 36)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі.

*Посылаю тебе «Катерину».*— Паэма была выслана для перакладу на рускую мову.

*Аркаша* — А. Куляшоў.

31. *Якубу Коласу* (с. 36)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве сям'і Я. Коласа.

*Панцеляймон Кандратавіч* — П. К. Панамарэнка.

*Кандрат* — К. Крапіва.

*Нонік* — П. Глебка.

*Саша* — відаць, А. А. Пракоф'еў.

*Насценька* — відаць, А. В. Пракоф'ева.

32. *Якубу Коласу* (с. 37)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве сям'і Я. Коласа.

*У Мінску цяпер вельмі многа перадсвяточных клапот...*— 30-годдзе Кастрычніцкай рэвалюцыі.

*Саша* — відаць, А. А. Пракоф'еў.

*Анастасія Васільеўна* — відаць, А. В. Пракоф'ева.

33. *Якубу Коласу* (с. 38)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве сям'і Я. Коласа.

*Я даручыў яму ўсю справу...*— Маецца на ўвазе наступнае: А. Куперштох павінен быў дамовіцца, каб П. А. Сямынін згадзіўся стаць рэдактарам перакладу «Новай зямлі» пры канчатковай падрыхтоўцы да друку.

*Наташа* — Н. Міцкевіч.

*Сяргей* — С. М. Міцкевіч.

*Мар'я Георгіеўна* — М. Г. Татур.

34. *Якубу Коласу* (с. 39)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве сям'і Я. Коласа.

*Міхаіл Іванавіч* — М. І. Калінін.

*...каб, нарэшце, шматпакутны пераклад «Новай зямлі» быў давядзен да ладу.*— Я. Мазалькоў у сваіх успамінах наступным чынам растлумачыў гісторыю перакладу і выдання на рускай мове «Новай зямлі»: «Меркавалася, што рэдактарам рускага выдання буду я. Міхаіл Ісакоўскі даў згоду перакласці ўсю паэму, але, за-

кончыўшы пераклад чатырох раздзелаў, захварэў і вымушаны быў адмовіцца ад далейшай працы. Здарылася так, што хутка захварэў і я. Рэдактарам перакладаў стаў С. Гарадзецкі. Утварыўся калектыў перакладчыкаў. Падрыхтаваныя пераклады, як пісаў мне Колас, «не ўсюды задавальнялі яго». Для канчатковай падрыхтоўкі перакладаў да друку Канстанцін Міхайлавіч запрасіў у Мінск П. А. Сямыніна, які разам з аўтарам рэдагаваў рускі тэкст паэмы (гл. «Полымя», 1962, № 8, с. 113—114). «Новая зямля» на рускай мове выйшла з друку ў Мінску ў 1949 г.

35. *Ярцаву* (с. 39)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі. Арыгінал невядомы.

Датуецца пачаткам верасня 1948 г. на падставе ліста М. Д. Смолкіна П. У. Броўку ад 29.8.48 г. з просьбай дапамагчы ў выданні кнігі пра Зм. Бядулю ў выд-ве «Советский писатель» (г. Масква).

36. *П. С. Кабзарэўскаму* (с. 40)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 31, в. 2, спр. 292, л. 5.

*...Иринин не выполнил моей просьбы включить «Прощальное слово»...*— У зб. П. Броўкі «Выбранае» (М., 1949), рэдактарам якога быў Б. С. Ірынін, быў уключаны верш «Прощальное слово» («Развітальнае слова»), але ў перакладзе не А. Пракоф'ева, а С. Обрадовіча.

*Завтра же скажу выслать нужные тебе стихи.*— «Девушка из Полесья» («Дзяўчына з Палесся», пер. П. Кабзарэўскага) — Крестьянка, 1949, № 3.

*Скоро будем праздновать и будем рады видеть Вас у себя.*— 30-годдзе БССР.

37. *У. І. Корбану* (с. 41)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 183, в. 1, спр. 126, л. 1.

*Зборнік Ваш атрымаў і прачытаў. Мне здаецца, што яго можна надрукаваць.*— Рукапіс зборніка «Мы іх ведаем» (выйшаў у 1950 г.).

38. *Якубу Коласу* (с. 41)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Эльбрус* — самы высокі горны масіў Каўказа.

*Чытаю Вашы артыкулы...*— Артыкулы Я. Коласа «Моя республика, мой народ» (газ. «Сов. Белоруссия», 1949, № 215, 29 окт.), «Десять лет спустя» (газ. «Красная звезда», 1949, № 256, 29 окт.), «Историческая годовщина» (газ. «Правда», 1949, № 302, 29 окт.), «Уз'яднанне» (газ. «Звязда», 1949, № 215, 29 кастр.).

39. *П. Н. Кавалёву* (с. 42)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі.

*Лепель* — горад, цэнтр Лепелькага р-на Віцебскай вобл., на беразе Лепельскага воз.

*Зэльва* — гарадскі пасёлак, цэнтр Зэльвенскага р-на Гродзенскай вобл., на р. Зальвянка.

40. *Якубу Коласу* (с. 43)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Вось і я абзываюся з Балтыйскага мора.*— П. Броўка ў гэты час адпачываў у Доме творчасці пісьменнікаў пад Рыгай.

*21 ліпеня буду святкаваць 10-годдзе Савецкай Латвіі...*— 21 ліпеня 1940 г. была ўтворана Латвійская ССР.

*Кожны дзень паглядаю на карту Карэі і хвалююся, каб скарэй дайшлі паўночныя таварышы і перакулілі амерыканскую погань у мора.*— У 1950—1953 гг. Паўднёвая Карэя была выкарыстана ЗША як ваенна-стратэгічны плацдарм для ўзброенай агрэсіі супраць КНДР.

*Чытаў пастанову пленума і бачыў Ваш подпіс пад адозвай.*— 29/VI-50 г.— пленум Сав. Камітэта міру, прысвечаны правядзенню збору подпісаў у СССР пад Адозвай Пастаяннага Камітэта Сусветнага кангрэса прыхільнікаў міру аб забароне атамнай зброі. Подпіс Я. Коласа пад Адозвай Пастаяннага Камітэта Сусветнага кангрэса прыхільнікаў міру аб забароне атамнай зброі.

*Максім* — М. Лужанін.

41. *Якубу Коласу* (с. 43)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

Датуецца паводле зместу: «Вось ужо лістапад, а заўтра — 3 — дзень Вашага нараджэння», а таксама па пашт. штэмпелі.

*Максім* — М. Лужанін.

*Барвіха* — санаторый пад Масквой.

*Сам я жыву вельмі клапатліва. Тузаюся па пасяджэннях, пішу розныя допісы...*— З 1948 г. П. Броўка старшыня СП БССР.

42. *У. І. Корбану* (с. 44)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 183, в. 1, спр. 126, л. 2.

43. *Якубу Коласу* (с. 45)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Я ўсё ж не згодзен з Вашым «рэалістычным» поглядам аб нейкай безнадзейнасці...*— У лісце П. Броўку ад 16/XI 1950 г. Я. Колас піша: «Другі месяц з таго часу, як злёг я, тым жа часам ніякага паляпшэння няма і няма. Відаць, яго і не будзе (т. 14, с. 29).

*Нонік* — П. Глебка.

*...з прычыны ўслаўлення яго новым званнем.*— У 1950 г. П. Глебка быў абраны членам-карэспандэнтам АН БССР.

*Кандрат* — К. Крапіва.

*Міхась* — М. Ц. Лынькоў.

*Даніла* — Д. К. Міцкевіч.

*Мікалай Сямёнавіч* — Патолічаў Мікалай Сямёнавіч.

*Была прэм'ера Кандрата Крапівы «Пяюць жаваранкі».*— Прэм'ера адбылася на сцэне Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

44. *П. С. Кабзарэўскаму* (с. 46)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 31, в. 2, спр. 292, л. 7.

*Когда будете чествовать Сашу?* — Маецца на ўвазе 50-годдзе з дня нараджэння А. А. Пракоф'ева.

*Мы только что отпраздновали юбилей Петра.*— 25-годдзе творчай дзейнасці П. Глебкі.

45. *Якубу Коласу* (с. 46)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Два разы збіраліся ў чэсць нашага друга Глебкі.*— 25-годдзе творчай дзейнасці і абранне членам-карэспандэнтам АН БССР.

*Міхась* — М. Ц. Лынькоў.

*Зося* — С. З. Куспіц-Лынькова.

*У нас цяпер, як і ўсюды, выбары.*— Выбарчая кампанія. 17/XII-50 адбыліся выбары ў абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя Саветы дэпутатаў працоўных Беларускай ССР.

46. *У. І. Корбану* (с. 47)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 183, в. 1, спр. 126, л. 3.

У лісце размова ідзе пра паляпшэнне У. Корбану жыллёвых умоў.

47. *Якубу Коласу* (с. 48)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Скончылі адны выбары, бярэмся за другія.*— Адбыліся выбары ў абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя Саветы дэпутатаў працоўных Беларускай ССР, пачалася падрыхтоўка да выбараў у Вярхоўны Савет БССР.

*...змясцілі артыкул і некалькі перакладаў вершаў у нашым «ЛіМе»...*— Да 50-годдзя А. Пракоф'ева ў «ЛіМе» змешчаны артыкул П. Кабзарэўскага і Ус. Раждзественскага «Выдатны савецкі паэт» і вершы А. Пракоф'ева «Свету — мір!», «Шляхамі Леніна», «Адказ». Пераклады на беларускую мову зроблены М. Танкам, П. Броўкам, А. Зарыцкім (ЛіМ, 1950, 23 снежн.).

*Максім* — М. Лужанін.

*Нонік* — П. Глебка.

*Павел ужо стаміўся цягнуць лімаўскі дышаль і прасіцца, каб яго вызвалілі.*— З канца 1950 г. па жнівень 1951 г. П. Кавалёў быў галоўным рэдактарам «ЛіМа». Затым яго змяніў на гэтым пасту В. Вітка.

48. *Якубу Коласу* (с. 49)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Лёля* — А. М. Броўка.

*Данік* — Д. К. Міцкевіч.

49. *Якубу Коласу* (с. 50)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Нонік* — П. Глебка.

*Паслалі мы рэчы на прэмію.*— Маецца на ўвазе Дзяржаўная прэмія СССР у галіне літаратуры і мастацтва.

50. *Якубу Коласу* (с. 51)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Грышчанка* — хутчэй за ўсё М. І. Грашчанкаў.

*Пётр Андрэевіч* — П. А. Абрасімаў.

51. *Якубу Коласу* (с. 51)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Паездка ў Чэхаславакію...*— Вясной 1951 г. у складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў П. Броўка (па запрашэнню Саюза пісьменнікаў Чэхаславакіі і міністэрства інфармацыі і культуры) месяц знаходзіўся ў Чэхаславакіі.

*...клопаты ў Саюзе...*— З 1948 па 1967 год П. Броўка — старшыня праўлення СП БССР.

*Ці скончылі Вы рэдагаванне тамоў?* — Маецца на ўвазе збор твораў Я. Коласа ў 7-мі тамах (Мн., 1952).

*Трэба крыху падагнаць Пятро і Максіма, каб выходзілі яны без затрымкі.*— П. Глебка і М. Лужанін уваходзілі ў склад рэдакцыйнай калегіі па падрыхтоўцы зб. тв. Я. Коласа ў 7-мі тамах.

*Як выйшла з Міхасём?* — Відаць, размова ідзе пра малодшага сына Я. Коласа Міхася. У гэты час Міхась са сваёй сям'ёй пераехаў на новую кватэру.

52. *П. Н. Кавалёву* (с. 52)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі.

У лісце размова ідзе аб некаторых зменах у аўтарскіх правах. У 1952 г. было прапанавана перагледзець аўтарскае права. Праект быў прысланы ў Саюз пісьменнікаў з Савета Міністраў БССР.

*Кандрат Кандратавіч* — К. Крапіва.

53. *П. Н. Кавалёву* (с. 53)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі.

*Кандрат яшчэ чытае праект аўтарскага права.*— Гл. каментарый да папярэдняга ліста.

54. *Якубу Коласу* (с. 53)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Шлю Вам невялікую вестачку з Чорнага мора.*— П. Броўка адпачываў у гэты час у Доме творчасці пісьменнікаў у Кактэбелі.

*Кактэбель* — пасёлак гарадскога тыпу ў Крымскай вобл. (20 км. ад Феадосіі). Прыморскі кліматычны курорт (пасля 1944 г.— Планёрскае).

*Юрка* — Ю. П. Броўка.

*Каралішчавічы* — Дом творчасці беларускіх пісьменнікаў пад Мінскам.

55. *Якубу Коласу* (с. 54)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

Ліст надрукаваны на афіцыйным бланку праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.

Зб. «Маякоўскі ў Беларусі» пад рэд. П. Броўкі выйшаў у Мінску ў 1957 г.

56. *П. Н. Кавалёву* (с. 54)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі.

*Атрымаў я выклік з Масквы на пленум Чэхаўскага камітэта,*

*а таксама на ўрачыстае пасяджэнне.*— 50-годдзе з дня смерці А. П. Чэхава.

*Падганяй усіх, хто павінен выступаць на з'ездзе.*— 15—18 верасня 1954 г.— III з'езд пісьменнікаў БССР.

57. *Якубу Коласу* (с. 55)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Прачытай у № 3 «Дружбы народов» артыкул В. Турбіна пра Вашы аповесці...*— В. Турбин. В тысяча девятьсот пятом...//О Якубе Коласе и его трилогии «В полесской глуши», «В глубине Полесья», «На перепутье» (Дружба народов, 1955, № 3).

*Лёля* — А. М. Броўка.

58. *Максіму Танку* (с. 56)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 25, в. 2, спр. 54, л. 1.

*Па-першае, усе думкі круцяцца вакол рамана...*— «Калі зліваюцца рэкі».

59. *П. Ф. Глебку* (с. 56)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа, ф. 24, в. 1, спр. 1125, л. 29.

60. *Якубу Коласу* (с. 57)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Нонік — Глебка ў гэты час, калі я Вам пішу, перасякае акіян па дарозе ў Сан-Францыска, каб навесці парадак з мірам.*— П. Глебка прымаў удзел у рабоце сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

*Мы тут рыхтуемся да міцкевічаўскіх дзён.*— У 1955 г. адзначалася стагоддзе з дня смерці Адама Міцкевіча.

*Заўтра групай у 10 чалавек едзем ладзіць літаратурны вечар у Навагрудак.*— Паводле некаторых крыніц Адам Міцкевіч нарадзіўся ў Навагрудку.

*Вырашылі ў лістападзе правесці ў Мінску ўрачысты пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, прысвечаны Міцкевічу.*— 29/XI-1955 г. у Мінску прайшоў вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня смерці А. Міцкевіча.

*...сумна мне будзе без Вас сядзець на вечары, на якім я пераваллю на другое паўстагоддзе,*— 25 чэрвеня 1955 г. П. Броўку споўнілася 50 год.

61. *Якубу Коласу* (с. 58)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Рапаруецца (разм.)* — папраўляць, рамантаваць.

*Свіцязь* — возера ў Навагрудскім раёне Гродзенскай вобл. Свіцязь услаўлена А. Міцкевічам у баладах «Свіцязь» і «Свіцязянка». Пастановай СМ БССР ад 18.VI.1970 г. Свіцязь і навакольная тэрыторыя аб'яўлены дзяржаўным ландшафтным заказнікам.

*...Нонік ужо ў Нью-Йорку.*— Гл. каментарый да ліста Я. Коласу ад 10.VI.55.

*Купаліха* — У. Ф. Луцэвіч.

62. *Якубу Коласу* (с. 59)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Карлавы Вары* — горад у Чэхаславакіі, бальнеялагічны курорт на базе тэрмальных (тэмпература 42—72 °С) вуглекіслых крыніц.

63. *Якубу Коласу* (с. 60)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Пётр Вялікі* — маецца на ўвазе Пётр I.

*...тут некалі лячыўся Янка Купала.*— У жніўні — верасні 1927 г. Янка Купала знаходзіўся на лячэнні ў Карлавых Варах (Чэхаславакія).

*Што робіце Вы з рукамі?* — У выніку грыпознага захворвання ў Я. Коласа паапухалі рукі (грыпозная вірусная інфекцыя). У лісце П. Броўку 17—18/VI 1956 г. Я. Колас з Барвіхі піша: «Рукі як балелі, дык і баляць... Лечаць мяне саліцылкаю, уратрапінам і гімнастыкай пальцаў і запясця...» (т. 14, с. 210).

*Ці дапамагае Вам «мікалаеўшчынская гліна»?* — Для лячэння суставаў Я. Колас выкарыстоўваў гліну са сваёй радзімы, якая быццам бы валодала лекавымі ўласцівасцямі.

64. *Якубу Коласу* (с. 61)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

65. *Якубу Коласу* (с. 62)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Мікалай Сямёнавіч* — М. С. Патолічаў.

66. *Якубу Коласу* (с. 62)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

67. *С. І. Ліхадзіеўскаму* (с. 63)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ, ф. 242, в. 1, спр. 38, л. 1.

68. *П. Ф. Глебку* (с. 64)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа, ф. 24, в. 1, спр. 1125, л. 33.

*Ніна* — Н. І .Глебка.

*...няма яе любімага мужа дома...*— П. Глебка ў гэты час знаходзіўся ў Нью-Йорку на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

*Лынь* — М. Ц. Лынькоў.

*А ўсё той Лынь непаваротлівы, пакуль вярнуўся з-за мяжы, дык і сесія прайшла.*— М. Ц. Лынькоў ездзіў у Індыю на IX канферэнцыю ЮНЕСКА.

*Вася* — В. В. Барысенка.

*Кандрат* — К. Крапіва.

*Абмяркоўвалі мой раман на секцыі.*— «Калі зліваюцца рэкі».

*Кузьма Венядзіктавіч* — К. В. Кісялёў.

*Фаіна Архіпаўна* — Ф. А. Новікава.

69. *Л. А. Бэндэ* (с. 65)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 66, в. 1, спр. 776, л. 2.

*Трохтомнік Чарота...*— У 1958 г. выйшаў двухтомнік М. Чарота.

70. *П. Ф. Глебку* (с. 65)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа, ф. 24, в. 1, спр. 1125, л. 36.

*За гэтыя дні ў мяне былі дзве сустрэчы па рамане — у «Дружбе народов» і ў «Советском писателе».*— «Калі зліваюцца рэкі» (надрукаваны ў час. «Дружба народов», 1957, № 6, 7, 8; у маскоўскім выдавецтве «Сов. писатель», 1958).

*Трэба дапрацаваць прадмову да тома публіцыстыкі Якуба Коласа...*— Прадмова П. Броўкі да кнігі Я. Коласа «Публіцыстычныя і крытычныя артыкулы» (Мн., 1957).

*...зрабіць пераклады 2—3 вершаў Пецёфі і 2—3 вершаў Нагнібеды.*— Відаць, замест Пецёфі П. Броўка зрабіў пераклады югаслаўскіх паэтаў Г. Вітэза «Дуб», «Эпітафія» і Д. Максімовіча «Каханне» (ЛіМ, 1957, 13 ліп.). А вершы Нагнібеды, магчыма, не былі перакладзены.

*Шчыра цябе вітаю з акадэмікам...*— У 1957 годзе П. Глебка быў абраны акадэмікам АН БССР.

*Ніна* — Н. І. Глебка.

71. *І. М. Ільюшыну* (с. 66)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі. Месца захавання арыгінала невядома.

72. *С. А. Пілатовічу* (с. 67)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі. Месца захавання арыгінала невядома.

73. *Е. Т. Гуцянковай* (с. 67)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі. Месца захавання арыгінала невядома.

74. *П. С. Кабзарэўскаму* (с. 68)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 31, в. 2, спр. 292, л. 11.

*Посылаю тебе три лирических стиха.*— Вершы П. Броўкі ў перакладзе Я. Хелемскага і Дз. Кавалёва (Звезда, 1958, № 4).

75. *З. П. Матузаву* (с. 68)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 11, в. 1, спр. 289, л. 1.

У лісце размова ідзе пра павелічэнне ганарару за кнігу Ц. Л. Даўгапольскага «На рассвете» (на рускай мове).

На лісце рэзалюцыя З. П. Матузава: «Такой возможности нет. Рукопись очень и очень средняя. Т. Жиженку пришлось над ней очень много поработать, чтобы довести до возможности издания.

З. Матузов
16.X—57 г.»

*Жыжэнка Уладзімір Аляксандравіч* (н. 1931), беларускі савецкі крытык, перакладчык.

76. *П. Ф. Глебку* (с. 68)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа, ф. 24, в. 1, спр. 1125, л. 40.

*Цікавае было ў нас падарожжа на Украіну.*— 17—24 верасня 1957 г. Тыдзень беларускай літаратуры на Украіне.

*Пра «спадарожнікаў» ты сам мне пісаў.*— 4 кастрычніка 1957 г. у Савецкім Саюзе быў запушчаны першы штучны спадарожнік Зямлі.

*Быў я на юбілейнай сесіі.*— Відаць, на юбілейнай сесіі Вярхоўнага Савета СССР, прысвечанай 40-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

*У самы апошні час адсвяткавалі мы 75-годдзе нашага дарагога Якуба.*— У лістападзе 1957 г. было адзначана 75-годдзе з дня нараджэння Якуба Коласа (адбыліся вечар у Палацы прафсаюзаў (г. Мінск) — 16 лістапада; навуковая сесія АН БССР (г. Мінск) — 18 лістапада; вечар у ЦДЛ (г. Масква) — 26 лістапада).

*Залажылі помнік.*— Помнік на магіле Якуба Коласа (Вайсковыя могілкі).

*Спектакль твой прайшоў у Віцебску.*— Спектакль па вершаванай п'есе П. Глебкі «Святло з Усходу» (пастаўлены тэатрам імя Якуба Коласа ў Віцебску).

*Кузьма Венядзіктавіч* — К. В. Кісялёў.

77. *М. П. Геаргадзе* (с. 70)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі. Месца захавання арыгінала невядома.

78. *М. А. Абалкіну* (с. 71)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве А. А. Туманавай — жонкі адрасата (г. Масква), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя П. У. Броўкі да М. А. Абалкіна, уключаныя ў дадзены том.

*Конечно, мне очень хочется увидеть несколько строк в «Правде» о моем романе.*— Рэцэнзія Я. С. Мазалькова «Калі зліваюцца рэкі» на раман П. У. Броўкі «Калі зліваюцца рэкі» (Правда, 1958, 15 чэрвеня).

79. *А. Я. Юшчанку* (с. 71)

Друкуецца па фотакопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Кіеў).

80. *М. А. Абалкіну* (с. 71)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца 1958 годам памылкова (відаць, па мінулагодняй звычцы). Рэдактарская дата даецца па пашт. штэмпелі 20.I.59 і ў адпаведнасці са зместам іншых лістоў аўтара, напісаных у гэты час да адрасата.

*Написал я небольшую статью для «Известий».*— «В краю голубых озер» (Известия, 1959, 27 янв.).

81. *П. С. Кабзарэўскаму* (с. 72)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 31, в. 2, спр. 292, л. 12.

*Верш «Пахне чабор» я перагледзеў і адаслаў у «Звязду».*— Пахне чабор («Звезда», 1958, № 4). У гэтым жа нумары акрамя верша «Пахне чабор» надрукаваны таксама «Светлый час», «Декрет Ленина», «Огонек», «Ходит осень», «Жаворонок», «Капля», «Журавли». («Светлы час», «Дэкрэт Леніна», «Аганёк», «Восень» (першапачатковая назва «Ходзіць восень»), «Жаўрук», «Кропля», «Жуtakravы».)

82. *П. А. Жалязняковічу* (с. 72)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі. Месца захавання арыгінала невядома.

83. *Ульяновічу* (с. 73)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі. Месца захавання арыгінала невядома.

84. *М. А. Абалкіну* (с. 73)

Друкуецца па арыгінале.

*Большое спасибо тебе за книгу.*— Н. А. Абалкин. Кругозор драматурга. Заметки театрального критика (М., 1957).

*И мой критик что-то молчит...*— Размова ідзе пра рэцэнзію на раман «Калі зліваюцца рэкі». Гл. таксама каментарый да ліста М. А. Абалкіну ад 28.XII. 57.

*Роман скоро выходит в «Советском писателе».*— «Калі зліваюцца рэкі» (М., 1958).

85. *І. М. Ільюшыну* (с. 74)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі. Месца захавання арыгінала невядома.

86. *П. С. Кабзарэўскаму* (с. 74)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 31, в. 2, спр. 292, л. 13.

*...поищи мое стихотворение «Земля» в переводе Бруно Ясенского.*— Верш «Зямля» ў кнізе П. Броўкі «Избранные стихи» (М., 1935).

87. *П. С. Кабзарэўскаму* (с. 74)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 31, в. 2, спр. 292, л. 14.

*«Прощанье» шли уже в Минск.*— П. Броўка. «Прощание» («Развітанне», верш) (Сов. Белоруссия, 1958, 13 авг.).

*В Ленинграде напечатан в «Роман-газете» мой роман.*— «Калі зліваюцца рэкі».

88. *П. С. Кабзарэўскаму* (с. 75)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 31, в. 2, спр. 292, л. 16.

*Стихотворение авторизовать не удосужился.*— Верш «Прощание» («Развітанне») (Сов. Белоруссия, 1958, 13 авг.).

*Издательство «Искусство» прислало письмо, в котором сообщает, что оно согласно издать сборник пьес.*— У 1959 г. ленінградскае аддзяленне выдавецтва «Искусство» павінна было выдаць зборнік «Новые пьесы белорусских драматургов». Але зборнік не быў выдадзены. П'есы, уключаныя ў зборнік, выдадзены асобнымі кнігамі.

89. *С. К. Цімашэнку* (с. 75)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі. Месца захавання арыгінала невядома.

90. *М. А. Абалкіну* (с. 76)

Друкуецца па арыгінале.

*...я отдыхаю на Рижском взморье.*— П. Броўка адпачываў у Доме творчасці пісьменнікаў пад Рыгай.

*Недавно вернулся из Стокгольма...*— У ліпені 1958 г. у Стакгольме праходзіў Сусветны кангрэс за раззбраенне і міжнароднае супрацоўніцтва. Сярод членаў савецкай дэлегацыі знаходзіўся і Пятрусь Броўка.

*...возьмусь за доклад...*— справаздачны даклад IV з'езду пісьменнікаў БССР.

*Несколько стихов «Из Стокгольмского дневника» (передал для перевода Хелемскому.*— Вершы «Са Стакгольмскага сшытка» надрукаваны ў газ. «Правда» 29/VIII 1958 г.

91. *М. А. Абалкіну* (с. 76)

Друкуецца па арыгінале.

*...посылаю Вам «Песню о Родине».*— Верш надрукаваны ў «Правде» (1958, 2 лістапада) пад назвай «Земля родная».

*...пишу доклад.*— Гл. каментарый да ліста М. А. Абалкіну ад 18.VIII.58.

92. *М. А. Абалкіну* (с. 77)

Друкуецца па арыгінале.

*Заодно посылаю стихотворение к 40-летию Советской Белоруссии.*— У сям'і адзінай (Правда, 1958, 31 дек.).

93. *Е. Я. Лось* (с. 77)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ, ф. 141, в. 1, спр. 59, л. 1.

*На з'езд мы Вас выклічам абавязкова...*— 12—14 лютага 1959 г. праходзіў IV з'езд пісьменнікаў БССР.

*Вельмі рад, што Вы задаволены жыццём, вучобай, творчай працаю.*— У гэты час Е. Лось вучылася на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве.

94. *М. А. Абалкіну* (с. 78)

Друкуецца па арыгінале.

Ліст надрукаваны на афіцыйным бланку праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.

95. *М. А. Абалкіну* (с. 78)

Друкуецца па арыгінале.

*У меня было стихотворение «В полесской глуши»...*— У палескай глушы (Огонек, 1959, № 17).

*Посылаю Вам, на всякий случай, стихотворение «Семь дубов»* — Сем дубоў (Правда, 1959, 5 апр.).

*Есть у Михася Калачинского стихотворение о Полоцком нефтеперегонном.*— Нефть в Белоруссию идет (Правда, 1959, 19 апр.).

*...ждем съезда...*— 18—23 мая 1959 г.— III з'езд пісьменнікаў СССР.

96. *І. Д. Казеку* (с. 79)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата, як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя П. У. Броўкі да І. Д. Казекі, уключаныя ў дадзены том.

97. *М. А. Абалкіну* (с. 79)

Друкуецца па арыгінале.

98. *М. А. Абалкіну* (с. 80)

Друкуецца па арыгінале.

*Собралось три стихотвореньица.*— З трох вершаў апублікаваны два: «Приближение осени», «Баня» («Вось і лета сышло», спачатку «Надыход восені», «Лазня») (Правда, 1959, 9 авг.).

*Смелякоў Яр. Ал.*— трэба Смелякоў Яр. Вас.

99. *С. І. Ліхадзіеўскаму* (с. 80)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 242, в. 1, спр. 39, л. 3.

*...уключыць твой зборнік у план 1960 года.*— Зб. вершаў і перакладаў «Берасцянка жывых трывог» (Мн., 1962).

*Адносна працы. Думаю, што было б вельмі карысна для нас, калі б ты працаваў у Мінску.*— С. Ліхадзіеўскі быў прафесарам Ташкенцкага педінстытута.

100. *П. Е. Панчанку* (с. 81)

Друкуецца па арыгінале.

*Вось ужо больш за два тыдні, як я жыву тут...*— П. Броўка прымаў удзел у рабоце сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

*Астэр-Бэй* — дача савецкай калоніі пад Нью-Йоркам.

*К. В.* — К. В. Кісялёў.

*Як сустрэліся з латышамі?* — З 10 верасня 1959 г. у Беларусі праходзіў тыдзень латышскай літаратуры. У складзе латышскай дэлегацыі: Я. Судрабкалн, Ю. Ванаг, І. Аўзінь, А. Баладзіс, О. Вацыеціс, Ж. Грыва і інш.

*Зоя Кір.*— З. К. Панчанка.

*Андрэй* — А. П. Панчанка.

*Таня* — Т. П. Панчанка.

*Бабушка* — Д. Ф. Панчанка.

101. *П. Ф. Глебку* (с. 82)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа, ф. 24, в. 1, спр. 1125, л. 50.

*Ніна* — Н. І. Глебка.

*Кандрат* — К. Крапіва.

102. *І. П. Шамякіну* (с. 82)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Мінск), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпісталярыя П. Броўкі да І. П. Шамякіна, уключаныя ў дадзены том.

*Як прайшлі сустрэчы з латышамі?* — Гл. каментарый да ліста П. Е. Панчанку ад 28.IX.59.

*Ці пачалі Вы рамонт дома?* — Відаць, рамонт памяшкання Саюза пісьменнікаў БССР.

*Міхал Іванавіч* — М. Калачынскі.

*Таццяна Кузьмінічна* — Т. К. Іваніцкая.

*Браніслава Аўгусцінаўна* — Б. А. Селязнёва.

*Фаня Яфімаўна* — Ф. Я. Алер.

*Вольга Васільеўна* — В. В. Ляўкова.

*Марыя Канстанцінаўна* — М. К. Хайноўская.

*Алена Пятроўна* — А. П. Платонава.

*Алена Ігнацьеўна* — А. І. Чуковіч.

*Валя* — В. Аліфер.

103. *М. А. Абалкіну* (с. 83)

Друкуецца па арыгінале.

*Написал стихи. ~ Посылаю для уверенности три стиха в трех письмах: «Невысказанное выступление на Генеральной Ассамблее», «Настоящему американцу» и «Военный оркестр на Бродвее».*— З трох вершаў у «Праўдзе» апублікаваны адзін: «Сапраўднаму амерыканцу» (Правда, 1959, 22 нояб.).

*Павел Алексеевич* — П. А. Сацюкоў.

*Надзя* — Н. А. Краўцова.

104. *М. А. Абалкіну* (с. 84)

Друкуецца па арыгінале.

*Был в Москве во время сессии...*— 5—7 мая 1960 г. сесія Вярхоўнага Савета СССР. Павестка дня: «Аб адмене падаткаў з рабочых і служачых і іншых мерапрыемствах, якія накіраваны на павышэнне дабрабыту савецкага народа».

*Я послал Хелемскому стихи.*— Цыкл вершаў «Далёка ад дому». Вершы з цыкла надрукаваны ў газ. «Правда» (Правда, 1960, 24 июля).

105. *М. А. Абалкіну* (с. 85)

Друкуецца па арыгінале.

*...написал я небольшую вещичку (450 строк)...*— паэма «Голас сэрца». П. Броўка прысвяціў гэту паэму сваёй маці, якая загінула ў гады вайны ў канцлагеры Асвенцім. Пераклад паэмы на рускую мову зрабіў Я. Хелемскі.

*Павел Алексеевич* — П. А. Сацюкоў.

106. *М. А. Абалкіну* (с. 86)

Друкуецца па арыгінале.

*...эта вещица очень ко времени...*— паэма «Голас сэрца».

*Асвенцім*, горад у Польшчы. У 1940—1945 гг. каля Асвенціма — нямецка-фашысцкі канцэнтрацыйны лагер. У Асвенціме знішчана звыш 4 млн. чалавек. Восенню 1944 г. задушана паўстанне вязняў. 27.I.1945 вызвалены Савецкай Арміяй. На тэрыторыі былога канцлагера створаны музей.

107. *М. А. Абалкіну* (с. 86)

Друкуецца па арыгінале.

*Мне было очень радостно увидеть свои стихи в «Правде»...*— вершы з цыкла «Далёка ад дому» (Правда, 1960, 24 марта).

*Вчера получил перевод поэмки от Яши Хелемского.*— Пераклад паэмы «Голас сэрца».

*Буду теперь ждать появления ее в «Правде».*— «Голас сэрца» (Правда, 1960, 28 авг.).

*Павел Алексеевич* — П. А. Сацюкоў.

108. *П. Е. Панчанку* (с. 87)

Друкуецца па арыгінале.

*Пасылаю табе 6 вершаў, якія я напісаў за лета. Можа, надрукуеш у «Маладосці»?* — «Вераснёўскія вятры», «Нашто ў мяне такія вочы», «Бусел», «Зімовае», «Эйфелева вежа» (Маладосць, 1960, № 10).

109. *П. Е. Панчанку* (с. 87)

Друкуецца па арыгінале.

*Вельмі добра, што ты напомніў пра А. Пракоф'ева. Зараз жа сяду і буду рабіць.*— Артыкул да 60-годдзя А. Пракоф'ева «Наш дарагі друг» (Маладосць, 1960, № 11).

110. *М. А. Абалкіну* (с. 88)

Друкуецца па арыгінале.

*Посылаю Вам из Барвихи несколько строк о Шевченко.*— Артыкул да 100-годдзя з дня смерці Т. Р. Шаўчэнкі «На всю жизнь» (Правда, 1961, 10 марта).

111. *П. Е. Панчанку* (с. 88)

Друкуецца па арыгінале.

*Зборнік твой аддаў Анатолю Сафронаву.*— Зб. вершаў «Вечны агонь» (М., 1963).

112. *Л. С. Собалеву, Г. М. Маркаву* (с. 89)

Друкуецца па чарнавым аўтографе, які захоўваецца ў архіве І. Р. Новікава (г. Мінск).

Датуецца прыблізна па змесце.

Дэкада рускай літаратуры ў БССР прайшла ў жніўні 1961 г.

113. *М. А. Абалкіну* (с. 90)

Друкуецца па арыгінале.

*Посылаю свою вещицу.*— Відаць, «Величавые слова Программы» («Нашымі вачамі») (Правда, 1961, 17 сент.). Аўтарызаваны пераклад з беларускай мовы К. Цітова.

*Сергей Петрович* — С. П. Кошачкін.

114. *М. А. Абалкіну* (с. 91)

Друкуецца па арыгінале.

*Как я и предвидел — перевод подвел.*— Гл. каментарый да ліста М. А. Абалкіну ад 31.VII.61.

115. *П. С. Кабзарэўскаму* (с. 91)

Друкуецца па арыгінале. які захоўваецца ў ЦДАМЛМ, ф. 31, в. 2, спр. 292, л. 21.

*Много времени ушло на Неделю...*— 12—19 жніўня 1961 г. Дэкада рускай літаратуры ў БССР.

*Ведь только что у меня вышла книга в «Советском писателе».*— Зб. вершаў і паэм «А дни идут...» (М., 1961).

116. *Яну Судрабкалну* (с. 91)

Друкуецца па ксеракопіі, якая захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі.

Усе арыгіналы пісем П. Броўкі да Яна Судрабкална захоўваюцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Фундаментальнай бібліятэкі Латвійскай ССР.

117. *Яну Судрабкалну* (с. 92)

Друкуецца па ксеракопіі, якая захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі.

*Чувствую себя как в праздник. Многие поздравляют меня...*— П. Броўка быў дэлегатам XXII з'езда КПСС. Віншаванні П. Броўка прымаў з гэтай нагоды.

*Рад был вскоре прочитать Ваше прекрасное стихотворение «На съезд».*— Верш «Вершины видят люди» (Правда, 1961, 17 окт.), прысвечаны XXII з'езду КПСС.

118. *І. Д. Казеку* (с. 93)

Друкуецца па арыгінале.

*Нешта скардзіцца Яша Хелемскі, што яго зборнік зноў абрэзалі...*— Зб. «Перевожу стихи товарища. Страницы белорусской поэзии» (Мн., 1962).

*Цхалтуба* — горад у Грузінскай ССР, бальнеалагічны курорт на базе субтэрмальных слабарадыеактывізаваных крыніц.

*Помню і думаю, што там напішу пра Эдуарда.*— Творчы ўзлёт.— У кн.: Слова пра сябра//Успаміны аб Эдуарду Самуйлёнку. (Мн., 1962).

119. *М. А. Абалкіну* (с. 93)

Друкуецца па арыгінале.

*...да объявили сессию...*— 6—8/XII 1961 г. сесія Вярхоўнага Савета СССР з павесткай дня: аб дзяржаўным плане развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1962 г.

*Так и не удалось встретиться во время съезда...*— У час XXII з'езда КПСС (17—31 кастрычніка 1961), дэлегатам якога быў П. Броўка.

120. *М. А. Абалкіну* (с. 94)

Друкуецца па арыгінале.

*Посылаю стихотворение «Коммунары живут» в переводе М. Исаковского* — Коммунары живут («Камунары жывуць», верш) (Правда, 1962, 23 апр.).

*Читал Вашу статью о жизни театральной.*— Встречи с героем. Театральное обозрение. (Правда, 1962, 11 янв.).

*У нас пленум, мне надо делать доклад.*— 30—31 студзеня 1962 г. адбыўся IV пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. З дакладам на пленуме выступіў П. У. Броўка.

121. *У рэдакцыю газ. «Правда»* (с. 94)

Друкуецца па першай публікацыі — Правда, 1962, 19 мая.

Ліст з'яўляецца адказам на віншаванні ў сувязі з прысуджэннем П. У. Броўку Ленінскай прэміі і наданнем яму звання народнага паэта БССР.

122. *Яну Судрабкалну* (с. 94)

Друкуецца па ксеракопіі, якая захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі.

*...своей статьей в «Правде»...*— Рэцэнзія Я. Судрабкална «А дни идут...» (Правда, 1961, 11 окт.) на зб. вершаў П. Броўкі «А дні ідуць...».

*...увенчался столь высокой наградой.*— П. Броўку прысуджана Ленінская прэмія за зб. «А дні ідуць...»

123. *Я. А. Хелемскаму* (с. 95)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Масква).

124. *П. Е. Панчанку* (с. 97)

Друкуецца па арыгінале.

*Зоя* — З. К. Панчанка.

*Таня* — Т. П. Панчанка.

*Андрэй* — А. П. Панчанка.

*Бабушка* — Д. Ф. Панчанка.

125. *І. П. Шамякіну* (с. 97)

Друкуецца па арыгінале.

*Надыходзіць ужо коласаўская гадавіна.*— 80-годдзе з дня нараджэння Якуба Коласа.

*Т. К.*— Іваніцкая Таццяна Кузмінічна.

126. *Яну Судрабкалну* (с. 98)

Друкуецца па ксеракопіі, якая захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі.

127. *М. А. Абалкіну* (с. 99)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па пашт. штэмпелі.

*Большое спасибо тебе за книжку.*— Н. А. Абалкин. Художник и революция. Творчество Вл. И. Немировича-Данченко в советские годы (М., 1962).

128. *М. А. Абалкіну* (с. 99)

Друкуецца па арыгінале.

*...хочу издать книжечкой под названием «Труби, мой бор».*— Зб. вершаў «Труби, мой бор!» (М., 1965).

*Я попросил Яшу Хелемского перевести для «Правды» стихотворение.*— «К будущему» («Двухтысячны год») — Правда, 1963, 30 ліпеня.

129. *М. А. Абалкіну* (с. 100)

Друкуецца па арыгінале.

*Мне кажется, что это стихотворение достойное.*— «К будущему» («Двухтысячны год»).

130. *М. А. Абалкіну* (с. 100)

Друкуецца па арыгінале.

*...назвавшего свое стихотворение «достойным».*— Гл. каментарый да ліста М. А. Абалкіну ад 23.VI. 63 г.

*...у нас с тобой еще в запасе второй круг по Белоруссии...*— Першы круг па Беларусі па маршруту: Мінск — Віцебск — Полацк — Глыбокае — Нарач — Мінск адбыўся ў жніўні 1961 г., калі ў Беларусі праходзіў Тыдзень рускай літаратуры.

131. *Яну Судрабкалну* (с. 100)

Друкуецца па ксеракопіі, якая захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі.

132. *М. Танку, Я. Скрыгану* (с. 102)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 25, в. 2, спр. 54, л. 3.

*Таццяна Кузьмінічна* — Т. К. Іваніцкая.

*Напісаў я цыкл «Верасень».*— Верасень. Цыкл вершаў (Полымя, 1964, № 1).

133. *М. А. Абалкіну* (с. 102)

Друкуецца па арыгінале.

*...пойдет ли наша статья в «Правде»?* — Бровка П., Дементьев А., Мартинкявичюс Ю. Размах созидания (Правда, 1964, 4 февр.). Артыкул напісаны да 16-й гадавіны дагавора аб дружбе і супрацоўніцтве паміж СССР і Румыніяй.

134. *П. Е. Панчанку* (с. 103)

Друкуецца па арыгінале.

*Крыху быў заняты на лермантаўскіх урачыстасцях.*— Урачыстасці, прысвечаныя 150-годдзю з дня нараджэння М. Ю. Лермантава.

*Рыхтуй свае справы да Масквы.*— Размова ідзе аб выданні на рускай мове зб. вершаў П. Панчанкі «Небосклоны» (М., 1966).

135. *І. П. Шамякіну* (с. 104)

Друкуецца па арыгінале.

*Некалькі дзён быў заняты лермантаўскімі ўрачыстасцямі.*— Гл. каментарый да ліста П. Е. Панчанку ад 10.X.64.

*Трэба вырашыць справу з сакратаром да партсходу.*— Павінен адбыцца справаздачна-выбарчы сход партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў БССР.

*Сцяпан* — С. У. Броўка.

136. *І. П. Шамякіну* (с. 104)

Друкуецца па арыгінале.

*Трэба, нарэшце, ажывіць камісію па падрыхтоўцы кнігі да 50-годдзя...*— Камісія па падрыхтоўцы зб. артыкулаў пра 50-гадовы шлях савецкай Беларусі «Родная наша ўлада» (Мн., 1967).

*Асінбуд* (Асінаўская электрастанцыя) — адна з буйнейшых будоўляў Беларусі ў перыяд першай пяцігодкі, тады на тарфяных масівах пад Оршай былі пабудаваны торфазавод і электрастанцыя.

*Наваполацк* — горад абласнога падпарадкавання, размешчаны на левым беразе Заходняй Дзвіны, закладзены ў 1958 г. у сувязі з будаўніцтвам нафтаперапрацоўчага завода.

137. *П. А. Багдановічу* (с. 105)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 153, в. 2, спр. 65, л. 21.

Ліст надрукаваны на афіцыйным бланку праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.

*Относительно вещей и книг Адама и Максима Богдановича...*— П. А. Багдановіч звяртаўся да П. Броўкі за парадай: у які музей перадаць некаторыя асабістыя рэчы бацькі і брата. Фота і асабістыя рэчы А. Я. Багдановіча і М. Багдановіча былі перададзены ў Дзяржаўны музей БССР.

138. *П. Е. Панчанку* (с. 106)

Друкуецца па арыгінале.

*Заходзіў да Лесючэўскага. Ён сказаў мне, што на афіцыяльнай адносіне паклаў рэзалюцыю Рэгістану: «Уключыць у план выпуска 1966 года»...*— зб. вершаў П. Панчанкі «Небосклоны» (М., 1966).

*Я паслаў табе вершы і, здаецца, памыліўся: не ў нумар 5, а ў 6-ты, відаць, трэба.*— Верш «Красаванне струны» (Маладосць, 1965, № 6), надрукаваны да 60-годдзя П. Броўкі.

139. *З. П. Матузаву* (с. 106)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 25, в. 3, спр. 62, л. 18.

Датуецца паводле зместу ліста: «У выдавецкім плане за 1965 год...»

Ліст надрукаваны на машынцы.

На лісце памета З. П. Матузава: Максіму Танку.

140. *П. С. Кабзарэўскаму* (с. 107)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 31, в. 2, спр. 292, л. 25.

*Все эти стихи, за исключением «Осень, бабье лето...» и «Тебя я всегда называл милой...», можно публиковать.*— «Скрыпка» (Звязда, 1966, № 8).

141. *Ю. С. Пшыркову* (с. 107)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа АН БССР, ф. 30, в. 1, спр. 948, л. 1.

*Прадмову да Багдановіча я напісаў.*— Відаць, прадмова П. Броўкі для двухтомніка М. Багдановіча (Мн., 1968). Але прадмова П. Броўкі не была выкарыстана. У двухтомніку М. Багдановіча змешчана прадмова А. Лойкі.

*Тацьцяна Кузьмінічна* — Т. К. Іваніцкая.

142. *А. Я. Макаёнку* (с. 108)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 40, в. 1, спр. 334, л. 5.

143. *Б. А. Ляонаву* (с. 108)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Масква).

У 1966 годзе на падрыхтоўчым аддзяленні МГУ імя М. Ламаносава рыхтавалі падручнік па савецкай літаратуры для замежных студэнтаў. У сувязі з гэтым Б. А. Ляонаў звярнуўся да П. У. Броўкі з просьбай адказаць на наступныя пытанні: «Как вы оцениваете состояние многонациональной советской литературы и перспективу ее развития? Чем Вы объясняете такой быстрый и бурный расцвет литератур малых народов нашей страны? Ваши творческие планы?» У сваім адказе П. У. Броўка выказаў коратка і ёмка сваё разуменне закранутых пытанняў.

*Алексей Максимович* — Максім Горкі.

*Думаю и о книге рассказов.*— Зб. апавяданняў «Разам з камісарам» (Мн. 1974).

144. *В. Ф. Купрэвічу* (с. 109)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве БелСЭ.

145. *М. А. Абалкіну* (с. 110)

Друкуецца па арыгінале.

*Как-то завертелся перед съездом, потом съезд...*— 22—27 мая 1967 г.— IV з'езд пісьменнікаў СССР.

*...потым новые энциклопедические дела...*— У 1967 годзе было пачата выданне Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. П. Броўка стаў галоўным рэдактарам БелСЭ.

146. *Я. А. Хелемскаму* (с. 111)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Масква).

*Спасибо тебе за книжку.*— Хелемский Я. А. Вторая половина дня: Книга лирики (М., 1967).

*Марыя Навумаўна* — М. Н. Хелемская.

*Саша* — А. Я. Хелемскі.

147. *М. В. Ісакоўскаму* (с. 111)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве А. І. Ісакоўскай — жонкі М. В. Ісакоўскага (г. Масква), як і іншыя лісты, паштоўкі П. У. Броўкі да адрасата, уключаныя ў дадзены том.

*Вот и дождался я Ваших стихов в «Новом мире».*— З новых вершаў: «В дни осени», «На заречье прошлым летом...», «Касатка», «Город мой...» (Новый мир, 1968, № 2).

148. *Я. А. Хелемскаму* (с. 112)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Масква).

У лісце размова ідзе аб падрыхтоўцы да выдання на рускай мове выбраных твораў у 2-х тамах П. Броўкі (М., 1969). Прадмову да двухтомніка напісаў М. В. Ісакоўскі.

*За прекрасно переведенные стихи — спасибо.*— Відаць, пераклады вершаў для двухтомніка.

*В воскресенье по одному делу буду утром в Минске.*— У гэты час П. Броўка адпачываў на дачы ў Ждановічах (пад Мінскам).

149. *П. С. Кабзарэўскаму* (с. 113)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 31, в. 2, спр. 292, л. 26.

*«Имя», «Жизнь-корабль», «Зубры» давно уже напечатаны по русски в переводе Я. Хелемского.*— «Ода зубру» (Огонек, 1966, № 50); «Імя» (Лит. газ., 1967, 25 янв.).

*Видел тебя на многочисленных снимках во время белорусских дней в Ленинграде.*— 4—10 чэрвеня 1968 г.— Тыдзень беларускай літаратуры ў Ленінградзе.

150. *М. В. Ісакоўскаму* (с. 113)

Друкуецца па ксеракопіі.

*Долго не решался обратиться к Вам с одной просьбой.*— П. Броўка звярнуўся да М. В. Ісакоўскага [redacted] просьбай напісаць уступны артыкул да двухтомніка (М., 1969). Уступны артыкул змешчаны ў першым томе пад назвай «Слово о поэте».

*...на всякий случай посылаю Вам свою последнюю книжку в переводах Якова Хелемского.*— Зб. вершаў «Всегда с тобой» (М., 1967).

151. *М. В. Ісакоўскаму* (с. 114)

Друкуецца па ксеракопіі.

*...что ты не отверг моей просьбы...*— М. В. Ісакоўскі згадзіўся напісаць уступны артыкул да двухтомніка П. Броўкі.

*Когда-то для сборника «Советские писатели» я писал автобиографию на 6—7 страниц.*— Зб. «Советские писатели. Автобиографии». У 2-х тамах (М., 1959). Аўтабіяграфія П. Броўкі змешчана ў першым томе.

*Спасибо и за доброе слово о статье. О Маяковском рад буду поговорить при встрече.*— Сила поэзии (Правда, 1968, 8 июля).

*А вот действительно рад, что такую высокую оценку получили твои «новомирские» стихи. Выступления Евгения Осетрова* [redacted] *«Литературке» и Сергея Баруздина в № 6 «Дружбы народов».*— Сергей Баруздин. Четыре стихотворения Михаила Исаковского (Дружба народов, 1968, № 6). Адказ Я. Асятрова на анкету ЛГ: «Якія вершы, апублікаваныя ў літаратурных часопісах, здаюцца вам вартымі ўвагі (Лит. газ., 1968, 10 июля).

152. *М. В. Ісакоўскаму* (с. 116)

Друкуецца па ксеракопіі.

153. *М. В. Ісакоўскаму* (с. 117)

Друкуецца па ксеракопіі.

*...надеюсь, что Вы будете у нас под Новый год. Я уверен, что Вы будете приглашены и надеюсь на встречу у нас.*— Маецца на ўвазе запрашэнне на 50-годдзе Беларускай ССР.

*О моих делах не напоминаю.*— Размова ідзе пра ўступны артыкул да двухтомніка П. Броўкі (М. 1969).

154. *М. В. Ісакоўскаму* (с. 118)

Друкуецца па ксеракопіі.

*Юра перешлет мне письмо в Сочи, а я дальше по назначению.*— Письмо М. В. Ісакоўскага з уступным артыкулам да двухтомніка П. У. Броўкі.

155. *М. В. Ісакоўскаму* (с. 118)

Друкуецца па ксеракопіі.

*Только что получил твою статью...*— Уступны артыкул «Слово о поэте» да двухтомніка П. У. Броўкі.

*Согласен я и на шутку Александра Трифоновича...*— Ва ўступным артыкуле да двухтомніка П. Броўкі ёсць наступныя словы А. Т. Твардоўскага: «Хорошие стихи в оригинале можно сравнить с густой, сочной травой, растущей на лугу. А те же стихи в переводе — это уже не живая, сочная и зеленая трава, а трава скошенная и высушенная. Это уже сено, которое может быть и отличным, душистым, но все же...» (т. I, с. 8).

156. *М. В. Ісакоўскаму* (с. 120)

Друкуецца па ксеракопіі.

Датуецца па змесце тэлеграмы і па паштовых паметах на бланку тэлеграмы.

Званне заслужанага дзеяча культуры БССР М. В. Ісакоўскаму прысвоена 21 снежня 1968 года.

157. *М. В. Ісакоўскаму* (с. 120)

Друкуецца па ксеракопіі.

158. *У. М. Дубоўку* (с. 120)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа, ф. 14, в. 1, спр. 549, л. 2.

*Я пачынаю верыць, што і сапраўды нядрэнную кніжку выдаў.*— Зб. вершаў «Між чырвоных рабін» (Мн., 1969).

159. *М. В. Ісакоўскаму* (с. 121)

Друкуецца па ксеракопіі.

*Нет нашего дорогого друга Николая Ивановича.*— 23 чэрвеня 1969 года памёр вядомы рускі савецкі паэт М. І. Рыленкаў.

*Там у меня встречи с избирателями.*— У гэты час П. Броўка дэпутат Вярхоўнага Савета СССР сёмага склікання па Мазырскай выбарчай акрузе.

*Мозыр,* горад, райцэнтр у Гомельскай вобл., рачны порт на р. Прыпяць.

*Петрыкаў,* горад, райцэнтр у Гомельскай вобл., прыстань на левым беразе р. Прыпяць. Паводле падання заснаваны ў 10 ст. яцвяжскім князем Пятром. У пісьмовых крыніцах вядомы з 15 ст.

*Тураў,* гарадскі пасёлак у Жыткавіцкім р-не Гомельскай вобл., прыстань на правым беразе р. Прыпяць, тураўскі краязнаўчы музей. Упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых часоў» пад 980 годам. У Тураве жыў і працаваў славуты дзеяч старажытнарускай культуры Кірыла Тураўскі (каля 1130 — каля 1182).

*С нетерпением жду твоего четвертого тома.*— Размова ідзе пра апошні чацвёрты том Зб. тв. М. В. Ісакоўскага (М.: Худ. лит., 1969).

*Не скрою, что и статья обо мне меня радует.*— Маецца на ўвазе ўступны артыкул М. В. Ісакоўскага да двухтомніка П. У. Броўкі (М.: Худ. лит., 1969).

160. *М. В. Ісакоўскаму* (с. 122)

Друкуецца па ксеракопіі.

*Прочел я в «Новом мире» «Ельнинскую повесть...»* — М. В. Ісакоўскі «На Ельнинской земле (Автобиографические страницы)» (Новый мир, 1969, № 4, 5, 8).

*...автобиографическую повесть ты должен продолжить.*— Прадоўжыць аповесць «На Ельнинской земле».

*Мои два тома набраны.*— Выбраныя творы ў 2-х тамах (М., 1969).

161. *М. В. Ісакоўскаму* (с. 123)

Друкуецца па ксеракопіі.

*Оканчивая читать «Неву» № 7, нашел небольшую рецензийку на твою книжку «О поэтах, о стихах, о песнях».*— Г. Кондрашев. Высокое назначение поэзии (Нева, 1969, № 7).

162. *М. В. Ісакоўскаму* (с. 124)

Друкуецца па ксеракопіі.

*Читал в «Литгазете», а больше всего знаю по повести в «Новом мире», преклоняюсь перед памятью твоего истинного друга и всем сердцем сочувствую.*— М. В. Ісакоўскі. Памяти М. И. Погодина (Лит. газ.. 1969, 27 авг.). Пагодзін Міхаіл Івановіч (1881—1969), педагог, краязнавец, этнограф, музейны работнік, да рэвалюцыі служыў у Ельнінскай уезднай земскай управе; вёў вялікую работу па народнай адукацыі; аб тым, як Пагодзін дапамог «выйти в люди» сялянскаму хлопчыку Мішу Ісакоўскаму, расказана ў кнізе «На Ельнинской земле», апублікавана ў час. «Новый мир», 1969, № 4, 5, 8 і Зб. тв. у 5-ці т. Т. 3.— М.: Худ. лит., 1981). Пагодзін М. І.— унук вядомага гісторыка, пісьменніка і публіцыста М. П. Пагодзіна.

*«Счастливый путь» А. Александровича в твоем переводе выйдет в сентябре.*— А. Александрович. Счастливая дорога (Мн., 1969). Пераклад на рускую мову М. Ісакоўскага.

163. *Я. А. Хелемскаму* (с. 125)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Масква).

*Переводы Вал. Корчагину действительно удались.*— Відаць, вершы П. Броўкі «Я верю», «Я рад сегодня», «Жалко» («*** Я веру», «Я сёння рады», «Крыўдна») (Известия, 1969, 30/VIII).

*А вот Михаил Васильевич Исаковский пишет. Привожу дословно: «С удовольствием прочел твои стихи в Огоньке»...»* — цыкл вершаў П. Броўкі «Лирики тепло живое...» (Огонек, 1969, № 28).

164. *П. Д. Пузікаву, І. Д. Казеку, А. Л. Петрашкевічу* (с. 126)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве І. Д. Казекі (г. Мінск).

*Пасылаю Вам два загады для таго, каб я мог пасля атрымаць па бюлетэні.*— Захаваўся адзін загад наступнага зместу: «З 22 снежня 1969 года прыступаю да выканання абавязкаў Галоўнага рэдактара Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Галоўны рэдактар БелСЭ Пятрусь Броўка».

*Чытаю 5 выпуск.*— Відаць, 5 выпуск III тома БелСЭ.

*Сумую па свайму дарагому другу Пятру Фёдаравічу.*— 18.XII.1969 г. памёр П. Ф. Глебка.

165. *М. В. Ісакоўскаму* (с. 127)

Друкуецца па ксеракопіі.

*Большое спасибо тебе за сердечное письмо.*— Ліст М. В. Ісакоўскага П. У. Броўку ад 23/XII-1969.

*От всей души желаю тебе хорошего сна.*— М. В. Ісакоўскі скардзіўся на дрэнны сон.

*Спасибо за предложение Елене Михайловне...*— У сваім лісце М. В. Ісакоўскі піша: «Если у Елены Михайловны не будет получаться в Москве с жильем, то знай, что она всегда может рассчитывать на комнату у нас» (М. В. Исаковский. Собр. соч. Т. 5, с. 280, М., 1982).

166. *А. М. Кулакоўскаму* (с. 128)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве Кулакоўскай Н. У.— жонкі адрасата (г. Мінск).

*Крамлёўская бальніца завецца цяпер так, як у мяне на канверце.*— На канверце наступны адрас: Москва Г-359. Центр. клинич. больница. Главный корпус 692.

167. *М. А. Абалкіну* (с. 128)

Друкуецца па арыгінале.

*«Оружие гуманизма» умная, содержательная книга.*— Н. А. Абалкин. Оружие гуманизма//Критико-публицистические очерки (М., 1970).

168. *М. В. Ісакоўскаму* (с. 128)

Друкуецца па ксеракопіі.

169. *М. В. Ісакоўскаму* (с. 130)

Друкуецца па ксеракопіі.

*Вот в номере пятом «Дружбы народов» я с большим интересом прочел рассказ Чингиза Гусейнова «Песня», построенном в основном на «Катюше».*— Гусейнов Чингиз «Песня» (Дружба народов, 1970, № 5).

*Близится шестидесятилетие Александра Трифоновича.*— 21.VI.1970 г.— 60 год з дня нараджэння А. Т. Твардоўскага.

*Написал для «Литературки» несколько искренних слов.*— «Вернасць высокім традыцыям» (Літ. газ., 1970, 17 чэрвеня).

170. *Я. А. Хелемскаму* (с. 131)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Масква).

*Спасибо всем Вам, дорогие друзья, за поздравление.*— Віншаванне з 65-годдзем.

*Максим* — М. Танк.

*Пимен* — П. Панчанка.

*Вчера прочел в «Известиях» стихи.*— «Голоса» (Известия, 1970, 27 июня). Назвай «Голоса» аб'яднаны наступныя вершы: «*** Я слушать люблю...» («*** Што багацей за ўладанні мае...»), «*** В тревоге он. Ему семнадцать...» («Аб хуткай дапамозе»).

171. *М. В. Ісакоўскаму* (с. 131)

Друкуецца па ксеракопіі.

172. *С. П. Красікаву* (с. 132)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Масква), як і ўсе іншыя матэрыялы з эпістalярыя П. У. Броўкі да С. Красікава, уключаныя ў дадзены том.

173. *С. П. Красікаву* (с. 133)

Друкуецца па арыгінале.

*Нелла* — Н. І. Шчасная.

174. *С. П. Красікаву* (с. 133)

Друкуецца па арыгінале.

*Нелла* — Н. І. Шчасная.

175. *С. П. Красікаву* (с. 134)

Друкуецца па арыгінале.

*...переводы получились вполне.*— Пераклады вершаў: «Дорога песни» («Шлях песні») (Октябрь, 1971, № 3), «Бярэзінскі запаведнік» (Вожатый, 1972, № 3), «Гора» («Гора — горы»).

*Нелла* — Н. І. Шчасная.

176. *С. П. Красікаву* (с. 134)

Друкуецца па арыгінале.

У лісце размова ідзе пра вершы П. Броўкі «Жаданне» і «А Ленін нам кажа...».

*Нелла* — Н. І. Шчасная.

177. *С. П. Красікаву* (с. 135)

Друкуецца па арыгінале.

*Сообщите мне, что пойдет в «Октябре»?* — «А Ленин велел нам» «Дорога песни» («А Ленін нам кажа...», «Шлях песні») — (Октябрь, 1971, № 3.)

*Нелла* — Н. І. Шчасная.

178. *Супрацоўнікам БелСЭ* (с. 136)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве І. Д. Казекі (г. Мінск).

Датуецца прыблізна па змесце ліста і па году выдання II тома БелСЭ.

179. *Супрацоўнікам БелСЭ* (с. 136)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве І. Д. Казекі (г. Мінск).

180. *І. П. Мележу* (с. 136)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 277, в. 1, спр. 488, л. 5.

Датуецца па пашт. штэмпелі на бланку тэлеграмы.

181. *Я. А. Хелемскаму* (с. 137)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Масква).

*Прочитал я в «Знамени» твою «Звонкую свирель» с удовольствием.*— На темной ели звонкая свирель (Знамя, 1971, № 3, 4, 5, 8). Тут маецца на ўвазе пачатак аповесці (Знамя, 1971, № 3).

*...а сделанное тобой мне очень близко по понятным тебе причинам: и Толстой, и Брянский фронт, и дружеский труд.*— П. Броўка і Я. Хелемскі сустрэліся восенню 1941 г. на Бранскім фронце (працавалі ў франтавых газетах). З гэтага часу іх звязвала асабістая і творчая дружба. Я. Хелемскі пераклаў на рускую мову большасць твораў П. Броўкі.

*Да и стихи в «Юности» отличные.*— Вершы Я. Хелемскага «За лозняками блестит синева...», «Подходит апрель — зимобор», «Жесткий лист глянцевитого лавра» (Юность, 1971, № 2).

182. *К. К. Крапіве* (с. 137)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве БелСЭ.

Датуецца па дадзеных рэгістрацыйнага нумара.

183. *Янку Брылю* (с. 138)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Мінск).

Гэта пісьмо звязана з тым, што ў 1971 г. Янка Брыль складаў і рэдагаваў невялічкую анталогію паэтаў Лодзі «Горад мільённы і мы». Па просьбе Янкі Брыля П. У. Броўка пераклаў з польскай мовы верш Ю. Шчавіньскага «Строфы пра Лодзь» (с. 163).

184. *І. Д. Казеку* (с. 138)

Друкуецца па арыгінале.

*Пятро Дзмітрыевіч* — П. Д. Пузікаў.

*Аляксандр Лявонцевіч* — А. Л. Петрашкевіч.

*Іван Аляксеевіч* — Янка Скрыган.

*...ці перадаў ён мой артыкул пра Купалу Барысенку.*— Вялікі пясняр Беларусі (У кн.: Я. Купала. Зб. тв. у 7-мі т. 1.— Мн., 1972, с. 7—12).

185. *Я. А. Хелемскаму* (с. 138)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Масква).

*Сидел здесь и придумал маленькую повестушку, на 2—3 листа.*— Аповесць «Донька-Даніэль».

186. *Парламенцкаму камітэту Вярхоўнага Савета СССР*

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве БелСЭ.

Датуецца па дадзеных рэгістрацыйнага нумара.

У лісце размова ідзе аб матэрыялах пасяджэнняў Падрыхтоўчага камітэта па правядзенню міжпарламенцкай канферэнцыі па пытаннях супрацоўніцтва і бяспекі ў Еўропе, якія адбыліся 29—30 студзеня 1972 г. у Жэневе.

Матэрыялы высылаліся П. Броўку як члену Камітэта Парламенцкай групы СССР.

187. *І. П. Мележу* (с. 139)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 277, в. 1, спр. 495, л. 5.

Датуецца па пашт. штэмпелі на бланку тэлеграмы.

Званне народнага пісьменніка БССР Івану Мележу (1921—1976) прысвоена 19 ліпеня 1972 г.

188. *М. В. Бірылу* (с. 140)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве БелСЭ.

Датуецца па дадзеных рэгістрацыйнага нумара.

189. *І. Д. Казеку* (с. 140)

Друкуецца па арыгінале.

*Пятро* — П. Д. Пузікаў.

*Іван* — І. Д. Казека

*Аляксандр* — А. Л. Петрашкевіч.

*Іван Аляксеевіч* — Янка Скрыган.

190. *М. В. Ісакоўскаму* (с. 141)

Друкуецца па ксеракопіі.

*Пишу небольшие (на страничек 15—20) воспоминания о Твардовском.*— Бессмертие пахаря (Бессмяротнасць аратага). Упершыню апублікаваны ў газ. «Литературная Россия» (1973, 17 авг.).

*Мария Илларионовна* — М. І. Твардоўская.

**191. *Я. А. Хелемскаму*** (с. 142)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Масква).

*...для «Огонька» две недели ничего не значит.*— Размова ідзе аб надрукаванні ў час. «Огонек» вершаў П. Броўкі. Вершы былі надрукаваны ў № 50 «Огонька» за 1972 г.

*Пишу, правда, небольшие воспоминания о Твардовском.*— «Бессмертие пахаря». Гл. таксама каментарый да ліста М. В. Ісакоўскаму ад 13.IX.72.

*Мария Илларионовна* — М. І. Твардоўская.

*Буду в Москве, почитаю тебе пару рассказиков.*— Апавяданні, якія ўвайшлі ў зб. «Разам з камісарам» (Мн., 1974).

192. *І. Д. Казеку* (с. 142)

Друкуецца па арыгінале.

*Янка* — Янка Скрыган.

*Валянціна Аляксандраўна* — В. А. Міхайлоўская.

*Хай ён уставіць гэтыя апавяданні пасля «Анэткі».*— Апавяд. «Кантрабандысты», «Чырвоны аловак», «Зайздрасць і заспакаенне», «Спакуса», «Быў такі...», «Хрысця», «Паштавічка», «Наш добры сябра» (зб. «Разам з камісарам», Мн., 1974).

*Аляксандр Лявонцевіч* — А. Л. Петрашкевіч.

*Іосіф Пятровіч* — І. П. Хаўратовіч

*Рыгор Васілевіч* — Р. В. Канавалаў.

193. *П. М. Машэраву, Ц. Я. Кісялёву* (с. 143)

Друкуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў архіве БелСЭ.

Датуецца па дадзеных рэгістрацыйнага нумара.

194. *І. Д. Казеку* (с. 145)

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца прыблізна па змесце ліста і па часе напісання вершаў. Вершы «Чатыры штыхі пад Мінскам», «Калі руку на развітанне», «Калі губляла лета сілу» напісаны ў 1973 г.

*Галя* — Г. Л. Анісімава.

*Янка* — Янка Скрыган.

195. *А. І. Ісакоўскай* (с. 145)

Друкуецца па ксеракопіі.

*Посылаю Вам воспоминания о Михаиле Васильевиче.*— «Пабрацімы (гл. успаміны ў кн.: Воспоминания о М. В. Исаковском» — М., 1986).

196. *І. Д. Казеку* (с. 146)

Друкуецца па арыгінале.

197. *В. С. Гарбуку* (с. 146)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў ЦДАМЛМ БССР, ф. 234, в. 1, спр. 152, л. 2.

*Вельмі дзякую за кніжку.*— В. Гарбук. Мышки и Мишки (Стаўрапаль, 1974).

198. *М. Э. Абала* (с. 147)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі.

199. *І. Д. Казеку* (с. 147)

Друкуецца па арыгінале.

*Аляксандр Лявонцевіч* — А. Л. Петрашкевіч.

*Рыгор Васілевіч* — Р. В. Канавалаў.

*Іосіф Пятровіч* — І. П. Хаўратовіч.

*Прачытаў і вёрстку кніжкі ў «М. Г.».*— Пишу о сердце человечьем (М.: Молодая гвардия, 1974).

*Прадмова яшчэ больш спадабалася.*— Прадмова «Песнь души» І. Д. Казекі да вышэйназванай кнігі П. У. Броўкі.

200. *І. Д. Казеку* (с. 148)

Друкуецца па арыгінале.

*Атрымаў «Разам з камісарам»...*— Зб. апавяд. «Разам з камісарам» (Мн., 1974).

201. *А. Л. Петрашкевічу, І. Д. Казеку, Р. В. Канавалаву, І. П. Хаўратовічу* (с. 148)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве І. Д. Казекі (г. Мінск).

*Вось я ўжо, як кажуць, і афарміўся.*— П. Броўка ў гэты час ляжаў у Крамлёўскай бальніцы.

*Аляксандр Трыфанавіч* — А. Т. Кузьмін.

*Перадайце з прывітаннем Янку Скрыгану, што яго прызначэнне я пагадніў.*— Маецца на ўвазе прызначэнне Я. Скрыгана на пасаду адказнага сакратара Камісіі па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры і мастацтва.

*Пятро Міронавіч* — П. М. Машэраў.

202. *Л. А. Антаневіч* (с. 149)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў архіве БелСЭ.

203. *І. Д. Казеку* (с. 150)

Друкуецца па арыгінале.

*...каб у 30-я гады музычныя кадры на правах секцыі ўваходзілі ў Саюз пісьменнікаў БССР?* — Саюз кампазітараў БССР створаны паводле пастановы ЦК ВКП(б) ад 23.IV.1932 «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый». З прычыны нешматлікасці сваіх членаў спачатку ўваходзіў на правах аўтаномнай секцыі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі (Саюз савецкіх кампазітараў БССР з 1938 г., Саюз кампазітараў БССР з 1957 г.).

204. *І. Д. Казеку* (с. 151)

Друкуецца па арыгінале.

*Рыгор Васілевіч* — Р. В. Канавалаў.

*Іосіф Пятровіч* — І. П. Хаўратовіч.

*Пятро Дзмітрыевіч* — П. Д. Пузікаў.

*Кніжку Вам прынясу ўжо дома.*— Кніга «Пишу о сердце человечьем» (М., 1974).

*Пахваліў Вашу прадмову Аляксандр Трыфанавіч.*— Прадмова «Песнь душы» да вышэйназванай кнігі П. Броўкі.

*Аляксандр Трыфанавіч* — А. Т. Кузьмін.

205. *І. Д. Казеку* (с. 152)

Друкуецца па арыгінале.

206. *М. Э. Абала* (с. 152)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі.

*Вялікія Дольцы* — вёска ў Ушацкім раёне Віцебскай вобл.

*Касары* — вёска ў Вялікадолецкім с/с Ушацкага раёна Віцебскай вобл.

207. *У. М. Дубоўку* (с. 154)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа, ф. 14, в. 1, спр. 549, л. 12.

Датуецца па пашт. штэмпелі на бланку тэлеграмы.

Віншавальная тэлеграма ў сувязі з 75-годдзем У. Дубоўкі.

208. *С. П. Красікаву* (с. 154)

Друкуецца па арыгінале.

*Нелла* — Н. І. Шчасная.

209. *У. М. Дубоўку* (с. 154)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа, ф. 14, в. 1, спр. 549, л. 11.

*...вялікае дзякуй табе за кніжку казак.*— У. М. Дубоўка. «Залатыя зярняты» (1975).

*Марыя Пятроўна* — М. П. Дубоўка.

210. *М. Э. Абала* (с. 155)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі.

*Ян Карлавіч* — Ян Судрабкалн.

211. *С. І. Грахоўскаму* (с. 155)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі.

Датуецца па пашт. штэмпелі.

212. *А. Я. Юшчанку* (с. 155)

Друкуецца па фотакопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Кіеў).

Датуецца паводле зместу віншавальнай паштоўкі і па даце апублікавання ў газ. «Правда» вершаў А. Юшчанкі.

*Вельмі мне спадабаліся Вашы вершы ў «Правде».*— «Приглашают друзья — белорусы» і «Где «Калі ласка!» говорят» (Правда, 1978, 26 дек.).

213. *В. П. Рагойшу* (с. 156)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Мінск).

Датуецца па пашт. штэмпелі: 4.01.79.

На паштоўцы, відаць, рукой В. П. Рагойшы зроблена памета: 1.І.1979 г.

Лісты і нататкі П. У. Броўкі, што захоўваюцца ў асабістым архіве адрасата, звязаны з «аграніза цыяй» выступлення пісьменніка на беларускім тэлебачанні ў перадачы «Тэлебібліятэка» (Рагойша В. П. вёў гэту перадачу на працягу 1978—1980 гадоў). Першая прапанова Пятру Усцінавічу выступіць на тэлебачанні ў сувязі з выхадам у свет яго Збору твораў у сямі тамах была выказана ў канцы 1978 года. На гэту прапанову ён адказаў паштоўкай. Затым адбылася тэлефонная размова, у час якой В. П. Рагойша «ўгаварыў» Пятра Усцінавіча, а таксама паведаміў пытанні, на якія хацелася б пачуць адказ. Пётр Усцінавіч «накіраваў» тэзісы адказаў, якія яму спатрэбіліся ў час выступлення («тэзісы» знаходзяцца ў адным канверце з паштоўкай).

Перадача (інтэрв'ю з П. Броўкам) прайшла ў лютым 1979 г. Яна была запісана на магнітафон, запіс пазней быў расшыфраваны. В. П. Рагойша прапанаваў Пятру Усцінавічу зрабіць інтэрв'ю для «ЛіМа». Ён згадзіўся. Пры гэтым даслаў адказы на два пы-

танні (былі дасланы дадаткова). Інтэрв'ю «Плён багатага жніва» было паслана на аўтарызацыю Пятру Усцінавічу (гэты аўтарызаваны экземпляр захоўваецца ў асабістым архіве В. П. Рагойшы). Інтэрв'ю было надрукавана ў «ЛіМе» 6 красавіка 1979 г.

214. *С. І. Грахоўскаму* (с. 156)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі П. Броўкі.

*Віншую з добрай кнігай «Зачараванасць».*— Зб. вершаў С. І. Грахоўскага «Зачараванасць» (Мн., 1978).

Разам з гэтым лістом у канверце знаходзіцца і паштоўка наступнага зместу:

Дарагі дружа Сяргей!

Шчыра жадаю, каб Новы год быў для цябе шчаслівы і радасны! Спадзяюся і сам прыйсці для яго паздаравеўшым.

*Пятрусь Броўка*

Паштоўка надрукавана на машынцы.

215. *В. П. Рагойшу* (с. 157)

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Мінск).

*Пасылаю Вам усё, што я здолеў зрабіць.*— Гл. каментарый да пісьма В. П. Рагойшу ад 4.I.79 с.

216. *Я. А. Хелемскаму* (с. 157)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Масква).

*Саша* — А. Я. Хелемскі.

217. *Я. А. Хелемскаму* (с. 158)

Друкуецца па ксеракопіі. Арыгінал захоўваецца ў асабістым архіве адрасата (г. Масква).

Гэта апошні ліст П. Броўкі, які быў напісаны ў бальніцы ўжо цяжка хворым чалавекам. Разам з лістом у канверце было кароткае «Слово к читателям» для чатырохтомнага збору твораў, які рыхтаваўся да выдання ў Маскве. «Слово к читателям» змешчана ў першым томе Зб. тв. (М. 1981—1982) пасля прадмовы М. В. Ісакоўскага. Аб тым, чаму спатрэбіўся гэты зварот да чытачоў, падрабязна расказана ў мемуарным нарысе аб П. Броўку «Вторая половина жизни» Я. А. Хелемскага (Полымя, 1987, № 2).

У канверце акрамя ліста П. У. Броўкі і звароту да чытачоў было яшчэ і пісьмо Алены Міхайлаўны. Вось некалькі радкоў з гэтага пісьма:

«Дорогой Яков Александрович!

Посылаем Вам написанное П. У. «Слово к читателям». Может быть, получилось очень маленькое, но что поделаешь... Что же касается переводов Наума Кислика, то стихи я внесла в расклейку, указанные Вами, но не нашла нигде текста поэмы «Отчий дом»...

Вчера Юра отослал Вам рукопись ценной посылкой. Конечно, она далеко не в совершенном виде. Но Вам придется извинить нас со всеми нашими бедами и самому потрудиться над приведением рукописи в порядок».

*Запутался я с Наумом Кисликом.*— Пры падрыхтоўцы першага тома былі згублены некаторыя пераклады, зробленыя Н. Кісліканм, але потым усё знайшлося і вызначылася.

Канчатковае складанне першага і наступных тамоў было зроблена Аленай Міхайлаўнай. Многае ў падрыхтоўцы выдання зрабіў і Я. А. Хелемскі.

## АНАТАВАНЫ ПАКАЗАЛЬНІК ІМЁНАЎ

*Абала Мірдза Эдуардаўна* (н. 1923), латышскі савецкі крытык, літаратуразнавец, перакладчык.— *147, 152, 155*

*Абалкін Мікалай Аляксандравіч* (1906—1986), рускі савецкі тэатральны і літаратурны крытык, літаратуразнавец. Аўтар многіх кніг аб тэатры і мастацтве. У час перапіскі з П. У. Броўкам працаваў рэдактарам аддзела літаратуры і мастацтва газ. «Правда».— *71, 73, 76, 77, 78, 79, 80, 83, 84, 85, 86, 87, 88, 90, 91, 93, 94, 99, 100, 102, 110, 128*

*Абрасімаў Пётр Андрэевіч* (н. 1912), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, дыпламат.— *51, 61, 62*

*Агняцвет Эдзі* (сапр. Каган Эдзі Сямёнаўна; н. 1916), беларуская савецкая паэтэса.— *23*

*Ажэшка Эліза* (1841—1910), польская пісьменніца.— *150*

*Азгур Заір Ісакавіч* (н. 1908), беларускі савецкі скульптар. Народны мастак СССР. Народны мастак БССР. Правадзейны член АМ СССР.— *157*

*Александровіч Андрэй Іванавіч* (1906—1963), беларускі савецкі паэт, член-карэспандэнт АН БССР.— *125*

*Александровіч Сцяпан Хусейнавіч* (1921—1986), беларускі савецкі літаратуразнавец, крытык, празаік.— *106, 107*

*Алер Фаня Яфімаўна* (1904—1985), дырэктар беларускага аддзялення Літфонда СП СССР.— *83*

*Аліфер Валя*, у той час супрацоўніца беларускага аддзялення Літфонда СП СССР.— *83*

*Андрыёлі Міхал Эльвіра* (1836—1893), жывапісец і графік.— *150*

*Анісімава Галіна Лявонцеўна*, машыністка БелСЭ.— *145*

*Антаневіч Людміла Архіпаўна*, інспектар па кадрах БелСЭ.— *149*

*Арлоўскі Кірыла Пракопавіч* (1895—1968), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў грамадзянскую і Айчынную войны, у Заходняй Беларусі (1921—1925). З 1944 г.— старшыня калгаса «Рассвет» на Магілёўшчыне.— *79, 105*

*Арсеннева Наталля* (н. 1903), заходняя беларуская паэтэса, у эміграцыі.— *20*

*Аршаруні*, супрацоўнік выдавецтва.— *18, 19*

*Астроўскі Арсен Георгіевіч* (1897—1989), рускі савецкі перакладчык, літаратуразнавец.— *75*

*Асятроў Яўген Іванавіч* (н. 1923), рускі савецкі пісьменнік, літаратурны крытык.— *115*

*Багдановіч Адам Ягоравіч* (1862—1940), беларускі этнограф, фальклярыст, мовазнавец; бацька Максіма Багдановіча.— *105*

*Багдановіч Максім Адамавіч* (1891—1917), беларускі паэт, перакладчык, крытык і гісторык літаратуры.— *105, 107, 119*

*Багдановіч Павел Адамавіч* (1901—1968), брат Максіма Багдановіча.— *105*

*Багушэвіч Юрый* (Георгій Канстанцінавіч; 1917—1983), рускі савецкі пісьменнік.— *83*

*Баранавых* (сапр. Баранаў) *Сымон Якаўлевіч* (1900—1942), беларускі савецкі пісьменнік.— *9.*

*Барашка Іллары* (Іларыён Мацвеевіч; 1905—1968), беларускі савецкі пісьменнік.— *7*

*Баруздзін Сяргей Аляксеевіч* (1926—1991), рускі савецкі пісьменнік.— *115*

*Барысенка Васіль Васілевіч* (1904—1984), беларускі савецкі літаратуразнавец, крытык. Акадэмік АН БССР.— *12, 14, 16, 24, 45, 64, 138*

*Бачыла Алесь* (Аляксандр Мікалаевіч; 1918—1983), беларускі савецкі паэт.— *102*

*Бірыла Мікалай Васілевіч* (н. 1923), беларускі савецкі мовазнавец. Акадэмік АН БССР.— *140*

*Бобрык Янка* (Іван Іванавіч; 1905—1942), беларускі савецкі паэт. Жыў і працаваў у Ленінградзе.— *7*

*Браўн Мікалай Леапольдавіч* (1902—1975), рускі савецкі паэт і перакладчык.— *34*

*Броўка Алена Міхайлаўна* (1911—1982), жонка П. У. Броўкі.— *8, 9, 11, 13, 14, 16, 19, 20, 22, 23, 25, 31, 35, 49, 56, 57, 66, 103, 104, 112, 115, 116, 117, 118, 119, 120, 123, 124, 125, 126, 127, 130, 131, 133, 134, 142, 145, 148, 155, 158*

*Броўка Сцяпан Усцінавіч*, брат П. У. Броўкі.— *104*

*Броўка Юрый Пятровіч* (н. 1936), сын П. У. Броўкі, кандыдат юрыдычных навук, дырэктар Літаратурнага музея Петруся Броўкі.— *10, 13, 14, 16, 20, 22, 23, 25, 27, 30, 31, 53, 65, 112, 118, 126, 129, 131, 158*

*Брыль Янка* (Іван Антонавіч; н. 1917), народны пісьменнік БССР.— *80, 91, 138*

*Бураўкін Генадзь Мікалаевіч* (н. 1936), беларускі савецкі паэт, дзяржаўны дзеяч БССР.— *121*

*Буслаў Казімір Паўлавіч* (1914—1984), беларускі савецкі філосаф, акадэмік АН БССР. У той час загадчык аддзела ЦК КПБ.— *54, 141*

*Бэндэ Лукаш* (Лука Апанасавіч; 1903—1961), беларускі савецкі крытык і літаратуразнавец. Тэарэтык вульгарна-дагматычнай крытыкі ў Беларусі ў 20—30-я гг. Доўгі час працаваў у Ленінградзе, потым — на Украіне.— *29, 65*

*Бядуля Змітрок* (сапр. Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 1886—1941), беларускі савецкі пісьменнік.— *15, 40*

*Бялова Алена Дзмітрыеўна* (н. 1947), беларуская савецкая спартсменка (фехтаванне).— *140*

*Ванаг Юлій Пятровіч* (1903—1987), латышскі савецкі пісьменнік, перакладчык твораў беларускай літаратуры.— *153*

*Васілеўскі Іосіф Іосіфавіч* (н. 1911), рускі савецкі паэт.— *79*

*Вечар Алесь* (Аляксандр Сцяпанавіч; 1905—1985), беларускі савецкі вучоны, паэт. Акадэмік АН БССР.— *149*

*Вінакураў Фёдар Пятровіч* (1900—1990), беларускі савецкі вучоны ў галіне гідрабудаўніцтва і механікі тарфяных грунтоў. Акадэмік АН БССР.— *64*

*Вітка Васіль* (сапр. Крысько Цімох Васілевіч; н. 1911), беларускі савецкі паэт.— *121*

*Віцьбіч Юрка* (сапр. Стукаліч Юрка; 1905—1975), беларускі празаік, пасля вайны ў эміграцыі.— *20*

*Вялюгін Анатоль Сцяпанавіч* (н. 1923), беларускі савецкі паэт.— *102.*

*Гайдук*, сувязная Цэнтральнага штаба партызанскага руху.— *24*

*Гамзатаў Расул Гамзатавіч* (н. 1923), народны паэт Дагестана.— *103*

*Ганчарык Міхаіл Мікалаевіч* (1899—1986), беларускі савецкі вучоны ў галіне фізіялогіі раслін. Член-карэспандэнт АН БССР.— *149*

*Гарадзецкі Сяргей Міграфанавіч* (1884—1967), рускі савецкі паэт, перакладчык.— *22*

*Гарбук Вісарыён Сцяпанавіч* (1913—1986), беларускі савецкі пісьменнік.— *146*

*Гарбуноў Цімафей Сазонавіч* (1904—1969), партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР, беларускі савецкі гісторык. Акадэмік АН БССР. У Айчынную вайну на палітычнай рабоце ў Чырвонай Арміі, адзін з арганізатараў партызанскага руху на Беларусі, рэдактар часопіса «Славяне». У 1941—47, 1950—60 — сакратар ЦК КПБ.— *24, 44, 46*

*Гарун Алесь* (У. Жывіца, А. Сумны, Сальвэсь; сапр. Прушынскі Аляксандр Уладзіміравіч; 1887—1920), беларускі паэт.— *34*

*Гарэцкі Гаўрыла Іванавіч* (1900—1988), беларускі савецкі геолаг, акадэмік АН БССР.— *140*

*Георгадзе Міхаіл Парфіравіч.* (1912—1982), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.— *70*

*Глебка Ніна Іларыёнаўна*, жонка П. Ф. Глебкі.— *7, 8, 10, 14, 56, 64, 65, 66, 82*

*Глебка Пятро* (Пётр Фёдаравіч; 1905—1969), беларускі савецкі паэт, акадэмік АН БССР.— *7, 8, 10, 12, 14, 15, 16, 17, 18, 19, 22, 25, 26, 28, 29, 30, 32, 37, 45, 46, 47, 48, 50, 52, 56, 58, 59, 64, 65, 66, 68, 82, 127*

*Горкі Максім* (сапр. Пешкаў Аляксей Максімавіч; 1868—1936), рускі савецкі пісьменнік. Ганаровы акадэмік АН БССР.— *108*

*Горліна*, урач-оталарынголаг, доктар медыцынскіх навук.— *157*

*Горцаў М.*, галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва». У 1950 г. быў вызвалены з гэтай пасады.— *44*

*Грамовіч Іван Іванавіч* (1918—1986), беларускі савецкі пісьменнік.— *83, 98, 104*

*Грахоўскі Сяргей Іванавіч* (н. 1913), беларускі савецкі пісьменнік.— *121, 149, 155, 156*

*Грашчанкаў Мікалай Іванавіч* (1901—1965), савецкі вучоны ў галіне неўрапаталогіі і нейрафізіялогіі. У БССР заснаваў нейрахірургічны цэнтр. З 1951 г. у Маскве.— *51*

*Грыбачоў Мікалай Мацвеевіч* (н. 1910), рускі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч, перакладчык твораў беларускай літаратуры.— *66, 141, 142*

*Гурскі Ілля Данілавіч* (1899—1972), беларускі савецкі пісьменнік.— *12, 15, 16, 19, 24, 25, 26, 29, 32, 48, 64*

*Гурыновіч Анатоль Амяльянавіч* (н. 1924), дзяржаўны дзеяч БССР. Міністр замежных спраў БССР. Зараз на пенсіі. З 1957 па 1961 у прадстаўніцтвах СССР і БССР пры ААН.— *81*

*Гусейнаў Чынгіз Гасен Оглы* (н. 1929), азербайджанскі савецкі пісьменнік.— *130*

*Гутараў Іван Васілевіч* (1906—1967), беларускі савецкі літаратуразнавец і фальклարыст, член-карэспандэнт АН БССР.— *37*

*Гуцянкова Еўдакія Трафімаўна* (н. 1905), дзяржаўны дзеяч БССР. У 1938—1959 — міністр сацыяльнага забеспячэння БССР.— *67*

*Дабрынін Міхаіл Кузьміч* (1889—1955), рускі літаратуразнавец.— *26*

*Дайгапольскі Цодзік Львовіч* (1879—1959), яўрэйскі савецкі пісьменнік, пісаў на рускай і яўрэйскай мовах.— *68*

*Дзегцяроў Р.*, у гады Вялікай Айчыннай вайны супрацоўнік ЦК КПБ па ідэалогіі, у пасляваенны час намеснік дырэктара Дзяржаўнага выдавецтва БССР.— *52*

*Дорскі Іосіф Львовіч* (1911—1964), беларускі савецкі тэатральны дзеяч і драматург. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.— *17*

*Дубоўка Марыя Пятроўна*, жонка У. М. Дубоўкі.— *121, 154*

*Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч* (1900—1976), беларускі савецкі паэт.— *120, 121, 154*

*Ерафееў Барыс Васілевіч* (н. 1909), беларускі савецкі фізіка-хімік. Акадэмік АН БССР.— *45, 51*

*Есакоў Алесь* (Аляксандр Аляксандравіч; 1911—1985), беларускі савецкі пісьменнік. У той час літкансультант СП БССР.— *75, 83*

*Жалезняковіч П. А.*, сакратар Карэліцкага РК КПБ.— *72*

*Залатароў Васіль Андрэевіч* (1872—1964), рускі і беларускі савецкі кампазітар і педагог. Заслужаны артыст РСФСР, народны артыст БССР.— *24*

*Зарыцкі Аляксей Аляксандравіч* (1911—1987), беларускі савецкі паэт.— *59*

*Звонак Алесь* (Пётр Барысавіч; н. 1907), беларускі савецкі паэт.— *59*

*Золаў Аляксей Ільіч* (1906—1989), партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР.— *138*

*Зямцоў Аляксандр Лаўрэнцьевіч*, намеснік адказнага сакратара газ. «Праўда».— *71, 84*

*Іаўчук Міхаіл Трыфанавіч* (н. 1908), савецкі філосаф і партыйны дзеяч, член-карэспандэнт АН СССР. У 1947—49 — сакратар ЦК КПБ.— *37*

*Іваніцкая Таццяна Кузьмінічна*, у той час тэхнічны сакратар СП БССР.— *83, 98, 102, 107*

*Ільінскі Аляксандр Канстанцінавіч* (1903—1967), беларускі савецкі акцёр. Народны артыст СССР, народны артыст БССР.— *17*

*Ільюшын Іван Макаравіч* (н. 1903), беларускі савецкі філосаф, дзяржаўны і грамадскі дзеяч. Член-карэспандэнт АН БССР. У 1951—62 — міністр асветы БССР.— *51, 66, 73, 74*

*Ірынін* (сапр. Бурштын) *Барыс Сяргеевіч* (1893—1964), рускі савецкі паэт і перакладчык. Пераклаў на рускую мову асобныя творы П. Броўкі (у кн. «Выбранае», 1949).— *40*

*Ісакоўская Антаніна Іванаўна*, жонка М. В. Ісакоўскага.— *112, 113, 114, 115, 116, 117, 118, 119, 120, 122, 124, 125, 127, 129, 130, 132, 141, 145*

*Ісакоўскі Міхаіл Васілевіч* (1900—1973). рускі савецкі паэт.— *94, 111, 112, 113, 114, 115, 116, 117, 118, 119, 120, 121, 122, 123, 124, 125, 127, 128, 129, 130, 131, 132, 141, 145*

*Кабзарэўскі Павел Сямёнавіч* (сапр. Гардон Фавій Залманавіч; 1909—1970), рускі савецкі пісьменнік, перакладчык. Складальнік шэрагу зборнікаў і анталогій беларускай літаратуры.— *31, 33, 34, 40, 46, 68, 72, 74, 75, 91, 107, 113*

*Кавалёў Павел Нічыпаравіч* (н. 1912), беларускі савецкі пісьменнік.— *34, 42, 53, 54*

*Кажэўнікаў Вадзім Міхайлавіч* (1909—1984), рускі савецкі пісьменнік, грамадскі дзеяч. З 1944 па 1949 — рэдактар аддзела літаратуры і мастацтва газ. «Правда».— *33, 139*

*Казека Янка* (Іван Дарафеевіч; н. 1915), беларускі савецкі крытык, літаратуразнавец.— *79, 93, 126, 138, 140, 141, 142, 143, 145, 146, 147, 148, 149, 150, 151, 152*

*Калачынскі Міхась* (Міхаіл Іванавіч; 1917—1990), беларускі савецкі паэт.— *59, 79, 83*

*Калінін Міхаіл Іванавіч*, урач санаторыя імя Горкага ў Кіславодску.— *38, 39*

*Канавалаў Рыгор Васілевіч* (1912—1979), дзяржаўны дзеяч БССР.— *80, 138, 140, 143, 146, 148, 149, 151*

*Карпюк Аляксей Нічыпаравіч* (н. 1920), беларускі савецкі пісьменнік.— *146*

*Карпякоў Іван Ісакавіч*, упраўляючы справамі Савета Міністраў БССР.— *55*

*Карчагін Валянцін Аляксандравіч* (н. 1927), рускі савецкі перакладчык.— *125, 154*

*Касцюк*, рэдактар «Литературной газеты».— *41*

*Кацовіч Лазар Абрамавіч* (1903—1953), беларускі савецкі празаік.— *23*

*Качан*, супрацоўнік газ. «За Савецкую Беларусь».— *24*

*Кедраў-Зіхман Аскар Карлавіч* (1885—1964), беларускі савецкі аграхімік, акадэмік АН БССР.— *45*

*Кіслік Навум Зіноўевіч* (н. 1925), рускі савецкі паэт, перакладчык.— *158*

*Кісялёў Кузьма Венядзіктавіч* (1903—1977), дзяржаўны дзеяч БССР. У той час міністр замежных спраў БССР.— *65, 69, 81*

*Кісялёў Ціхан Якаўлевіч* (1917—1983), савецкі і дзяржаўны дзеяч, старшыня Савета Міністраў БССР.— *143*

*Клімковіч Міхась* (Міхаіл Мікалаевіч; 1899—1954), беларускі савецкі пісьменнік, крытык.— *10*

*Клумаў Аляксей Канстанцінавіч* (1904—1944), беларускі савецкі кампазітар, піяніст і педагог. Заслужаны артыст БССР.— *21, 22*

*Клышка М. К.*, у той час старшы навуковы рэдактар БелСЭ, аўтар кнігі «Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў» (Мн., 1976).— *137*

*Колас Якуб* (Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882—1956), класік беларускай літаратуры. Народны паэт БССР. Акадэмік АН БССР.— *11, 12, 13, 14, 15, 16, 17, 18, 19, 20, 21, 22, 23, 24, 25, 27, 30, 35, 36, 37, 38, 39, 41, 43, 44, 45, 46, 48, 50, 51, 52, 53, 54, 55, 57, 58, 59, 60, 61, 62, 66, 69, 89, 95, 101, 119, 136, 145, 147*

*Корбан Уладзімір Іванавіч* (1910—1971), беларускі савецкі сатырык, байкапісец.— *41, 44, 47*

*Коханаў Піліп Лаўрэнцьевіч* (н. 1911), дзяржаўны дзеяч БССР.— *140*

*Кошачкін Сяргей Пятровіч*, журналіст, супрацоўнік газ. «Правда». Аўтар кніг і артыкулаў пра С. Ясеніна.— *90, 122*

*Крапіва* (сапр. Атраховіч) *Кандрат Кандратавіч* (1896—1991), беларускі савецкі драматург, байкапісец, празаік, вучоны-мовазнавец, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР. Акадэмік АН БССР.— *12, 14, 16, 19, 24, 25, 26, 29, 37, 45, 46, 52, 53, 64, 82, 137*

*Красікаў Сяргей Паўлавіч* (н. 1928), рускі савецкі паэт, перакладчык.— *132, 133, 134, 135, 154*

*Краўцова Надзея Аляксееўна*, сакратар аддзела літаратуры і мастацтва газ. «Правда».— *84*

*Крупеня Іван Ануфрыевіч* (1908—1952), дзяржаўны дзеяч БССР. У гады вайны намеснік Старшыні СНК БССР і намеснік начальніка Беларускага штаба партызанскага руху.— *21*

*Кудрэйка Анатолій* (сапр. Зеленяк Анатолій Аляксеевіч; н. 1907), рускі савецкі паэт, перакладчык.— *80*

*Кузняцоў Анатоль Васілевіч* (н. 1929), рускі пісьменнік, у эміграцыі.— *124*

*Кузьмін Аляксандр Трыфанавіч* (н. 1918), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, сакратар ЦК КПБ. Зараз на пенсіі.— *149, 151*

*Кулакоўскі Аляксей Мікалаевіч* (1913—1986), беларускі савецкі пісьменнік.— *128*

*Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч* (1914—1978), народны паэт БССР.— *26, 28, 30, 32, 36*

*Купала Янка* (Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882—1942), класік беларускай літаратуры. Народны паэт БССР. Акадэмік АН БССР.— *11, 13, 14, 17, 19, 20, 23, 29, 60, 95, 105, 119, 136, 138, 145. 147, 153*

*Куперштох Арон Ільіч* (Клёнаў Андрэй — псеўданім), рускі савецкі перакладчык, паэт, празаік.— *38.*

*Купрэвіч Васіль Феафілавіч* (1897—1969), беларускі савецкі батанік, дзяржаўны дзеяч БССР. Акадэмік АН БССР. 1952—69— прэзідэнт АН БССР.— *105*

*Кучар Алесь* (Айзік Евелевіч; н. 1910), беларускі савецкі крытык, драматург.— *12, 13, 14, 15, 19, 21, 24, 25, 32*

*Латышаў*, супрацоўнік газ. «За Савецкую Беларусь».— *16, 24*

*Леванеўскі Дзмітрый Анатольевіч* (н. 1907), рускі савецкі празаік, перакладчык, нарысіст.— *34*

*Лесючэўскі Мікалай Васільевіч* (1908—1978), старшыня Праўлення выдавецтва «Советский писатель».— *106*

*Ліманоўскі Янка* (н. 1896), беларускі пісьменнік, адзін з кіраўнікоў БелАПП, пасля вайны ў эміграцыі.— *8*

*Лупіновіч Іван Сцяпанавіч* (1900—1968), беларускі савецкі глебазнавец, аграхімік. Акадэмік АН БССР.— *51*

*Ліхадзіеўскі Сцяпан Іванавіч* (1911—1979), беларускі савецкі паэт, літаратуразнавец і перакладчык. Прафесар Ташкенцкага універсітэта.— *63, 80*

*Лось Еўдакія Якаўлеўна* (1929—1977), беларуская савецкая паэтэса.— *77*

*Лужанін Максім* (сапр. Каратай Аляксандр Амвросьевіч; н. 1909), беларускі савецкі паэт.— *42, 43, 44, 47, 48, 49, 52, 59*

*Лукашоў Канстанцін Ігнатавіч* (н. 1907), беларускі савецкі геолаг і геахімік. Акадэмік АН БССР.— *64*

*Лукін Юрый Барысавіч* (н. 1907), рускі савецкі крытык, літа-

ратуразнавец, кінадраматург. Кансультант аддзела літаратуры і мастацтва газ. «Правда».— *33, 84*

*Луцэвіч Уладзіслава Францаўна* (1891—1960), жонка Я. Купалы. Пасля смерці паэта — дырэктар музея Я. Купалы.— *13, 19, 20, 27, 29, 59*

*Лынькова-Куспіц Соф'я Захараўна* (н. 1917), жонка М. Лынькова.— *47*

*Лынькоў Міхась* (Міхаіл Ціханавіч; 1899—1975), народны пісьменнік БССР, акадэмік АН БССР.— *12, 13, 14, 16, 17, 19, 20, 21, 25, 26, 28, 32, 37, 45, 47, 62, 64, 153*

*Лютава Вера Сяргееўна* (1912—1954), руская савецкая пісьменніца.— *141*

*Лявонаў Барыс Андрэевіч* (н. 1935), рускі савецкі літаратуразнавец.— *108*

*Ляўкова Вольга Васільеўна*, бухгалтар беларускага аддзялення Літфонда СССР.— *83, 97*

*Мазалькоў Яўген Сямёнавіч* (1909—1969), рускі савецкі перакладчык, крытык і літаратуразнавец.— *27, 71*

*Мазураў Кірыла Трафімавіч* (1914—1989), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч.— *63*

*Майхровіч Сцяпан Казіміравіч* (1908—1981), беларускі савецкі крытык і літаратуразнавец.— *35*

*Макаёнак Андрэй Ягоравіч* (1920—1982), беларускі савецкі драматург, народны пісьменнік БССР. У 1966-78 — галоўны рэдактар час. «Неман».— *55, 108, 131*

*Макартур Дуглас* (1880—1964), амерыканскі ваенны дзеяч, генерал арміі. У 1945—51 камандуючы акупацыйнымі войскамі ў Японіі. У ліпені 1950 — красавіку 1951 кіраваў аперацыямі ўзброеных сіл інтэрвентаў у агрэсіўнай вайне супраць КНДР. У красавіку 1951 г. у выніку няўдач амерыканскіх войск быў вызвалены з усіх камандных пастоў.— *43*

*Макарэвіч Міхаіл Лявонцьевіч*, шафёр СП БССР.— *53*

*Малкін Барыс Яўсеевіч* (1908—1972), беларускі савецкі мастак, графік.— *26*

*Маргунскі Сцяпан Парфенавіч* (н. 1911), беларускі савецкі юрыст, член-карэспандэнт АН БССР.— *64*

*Маркаў Георгій Макеевіч* (н. 1911), рускі савецкі пісьменнік. У той час 1-шы сакратар Праўлення СП СССР.— *89*

*Марцэлеў Станіслаў Віктаравіч* (н. 1925), беларускі савецкі гісторык культуры. Член-карэспандэнт АН БССР. З 1965 па 1976 гг. загадчык аддзела культуры ЦК КПБ.— *149*

*Мар'янкоў Яфрэм Міхайлавіч*, рускі савецкі празаік, сябра М. В. Ісакоўскага і А. Т. Твардоўскага па сумеснай рабоце ў Смаленску.— *141*

*Матузаў Захар Пятровіч* (1911—1977), у той час дырэктар выдавецтва «Беларусь».— *65, 68, 106*

*Маўр Янка* (сапр. Фёдараў Іван Міхайлавіч; 1883—1971), беларускі савецкі пісьменнік, адзін з пачынальнікаў беларускай савецкай літаратуры для дзяцей.— *21*

*Мацэпура Міхаіл Яфрэмавіч* (1908—1971), беларускі савецкі вучоны ў галіне механізацыі сельскай гаспадаркі. Акадэмік АН БССР.— *45, 51*

*Машэраў Пётр Міронавіч* (1918—1980), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. 1-шы сакратар ЦК КПБ.— *143, 149*

